УДК 27(476)
ББК 86.37
Х 12



**Хрысціянства** ў гістарычным лёсе беларускага народа :
Х 12 зб. навук. арт. : у 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: С.В. Марозава [і інш.]. – Гродна : ГрДУ, 2009. – 385 с.

ISBN 978-985-515-244-7 (ч.1)
ISBN 978-985-515-241-6

У аснову зборніка пакладзены матэрыялы другой і трэцяй міжнародных навуковых канферэнцый «Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа», а таксама круглага стала, прысвечанага 170-годдзю Полацкага царкоўнага сабора 1839 г., якія былі праведзены ў 2008 і 2009 гадах ў межах выканання Дзяржаўнай комплекснай праграмы навуковых даследаванняў на 2006–2010 гг. "Эканоміка і грамадства", раздзел "Філасофія" (галаўная арганізацыя – Дзяржаўная навуковая ўстанова "Інстытут філасофіі НАН Беларусі").

Разглядаецца роля хрысціянскіх культавых інстытутаў у духоўна-культурным, грамадска-палітычным і этнанацыянальным жыцці беларускага народа ў канцы Х – пачатку ХХ ст., а таксама тэарэтыка-метадалагічныя падыходы і гістарыяграфія гэтай праблемы.

Прызначаны для даследчыкаў, выкладчыкаў, аспірантаў, магістрантаў і студэнтаў, настаўнікаў, аматараў гісторыі Беларусі.

**УДК 27(476)**
**ББК 86.37**

ISBN 978-985-515-244-7 (ч.1)
ISBN 978-985-515-241-6




# ПРАДМОВА

Гісторыя рэлігіі і царквы на Беларусі, хрысціянская ў сваёй аснове, здаўна цікавіць даследчыкаў. Пасля яе замоўчвання і дыскрэдытацыі ў савецкі час з 1990-х г. канфесійная гісторыя Беларусі стала адным з прыярытэтных напрамкаў айчыннай і еўрапейскай гістарычнай навукі. Ёй сёння займаюцца ў Беларусі Г.Галенчанка, І.Саверчанка, У.Конан, У.Навіцкі, А.Філатава, В.Яноўская і інш., за мяжой – М.Нікалаеў, М.Дзмітрыеў у Расіі, А.Турый, В.Ульяноўскі, Б.Гудзяк, Л.Цімашэнка на Украіне, М.Радван, Г.Дылянгова, А.Міранові ч у Польшчы, С.Плохій у Канадзе і інш. Аднак пры наяўнасці значнай літаратуры гісторыя хрысціянскіх культавых інстытутаў, міжканфесійных узаемаадносін, канфесійных трансфармацый Беларусі – у многіх сваіх аспектах – застаецца малавядомай, будзіць дыскусіі.

Даследаванне гісторыі хрысціянскіх культавых інстытутаў у Беларусі з'яўляецца традыцыйным навуковым напрамкам гродзенскай школы гісторыкаў, інтэлектуальным ядром якой з'яўляецца факультэт гісторыі і сацыялогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Распачатае яшчэ ў 1950-я гады прафесарам Якавам Марашам вывучэнне гэтай праблематыкі мае ўжо поўвекавую традыцыю. Факультэт стаў адным з цэнтраў гісторыка-канфесійных даследаванняў у Рэспубліцы Беларусь. Значныя навуковыя сілы ў гэтай сферы сканцэнтраваны на кафедры гісторыі Беларусі. Навуковаму гістарычнаму свету вядомы манаграфіі Якава Мараша пра распаўсюджванне каталіцызма ў Беларусі ў XVI – XVIII ст., Тамары Бліновай – пра дзейнасць ордэна езуітаў у Беларусі, Святланы Марозавай – пра этнакультурныя аспекты стварэння, функцыянавання і ліквідацыі уніяцкай царквы,

Святланы Сілавай – пра праваслаўную царкву у гады Вялікай Айчыннай вайны, Эдмунда Ярмусіка – пра лёс каталіцкага касцёла ў савецкі час.

На кафедры гісторыі Беларусі маецца значны досвед правядзення навуковых канферэнцый розных узроўняў. З 2007 г. кафедра разам з аўтарскім калектывам тэмы А 33-06 распачала серыю канферэнцый, круглых сталоў, аб'яднаных тэмай «Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа», і праводзіць іх штогод. Гэтыя навуковыя мерапрыемствы, а таксама матэрыялы канферэнцыі 2007 г., надрукаваныя і размешчаныя ў інтэрнэце, выклікаюць цікавасць навукоўцаў, краяўзнаўцаў, царкоўных колаў нашай краіны і замежжа.

Гэтыя канферэнцыі і круглыя сталы збіраюць ва універсітэцкіх сценах магутныя навуковыя сілы і акумулююць атрыманыя імі новыя навуковыя вынікі ў галіне даследавання канфесійнай гісторыі Беларусі, чым уносяць уклад у высвятленне яе «белых плямаў» і дыскусійных пытанняў. Спадзяёмся, што даследчыкамі і аматарамі гісторыі будзе запатрабаваны і дадзены зборнік артыкулаў, у аснову якога пакладзены матэрыялы другой і трэцяй міжнародных навуковых канферэнцый «Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа», а таксама круглага стала, прысвечанага 170-годдзю Полацкага царкоўнага сабора 1839 г., якія былі праведзены ў 2008 і 2009 гадах ў межах выканання Дзяржаўнай комплекснай праграмы навуковых даследаванняў на 2006 – 2010 гг. «Эканоміка і грамадства», раздзел «Філасофія» (галаўная арганізацыя – Дзяржаўная навуковая ўстанова «Інстытут філасофіі НАН Беларусі»).

***Г.А. Хацкевіч****, прарэктар па навуковай рабоце і інавацыях Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы*



* * *

Отдел по делам религий и национальностей Гродненского областного исполнительного комитета искренне и сердечно приветствует участников II международной научной конференции «Христианство в исторической судьбе белорусского народа».

Без преувеличения можно сказать, что вопрос, который выносится на обсуждение конференции, является актуальным в жизни нашего государства, поэтому его рассмотрение на основе научного подхода – важный фактор развития на нашей земле лучших христианских традиций.

Отмечая значимость сегодняшнего научного форума, который в очередной раз собирает на принеманской земле учёных из научных и учебных заведений Республики Беларусь и других государств, необходимо подчеркнуть, что в рамках научных дискуссий нарабатывается огромный теоретический потенциал, который с успехом может быть применён на практике.

Всё это помогает нам лучше осознавать пройденный путь христианства в историческом становлении и развитии духовных, культурных и государственных традиций белорусского народа.

Выражаем уверенность, что накопленный участниками конференции научный опыт будет и в дальнейшем способствовать воспитанию патриотических чувств у людей, прививать им любовь к Родине, стремление к справедливости и нравственной правде.

Пусть и дальше научные дискуссии приближают нас к истине, содействуют доброму и плодотворному сотрудничеству между её участниками.

Желаем всем творческого вдохновения, успехов в научной деятельности, оптимистического настроения и дальнейших плодотворных контактов.

***И.А.Попов****, начальник отдела по делам религий и национальностей Гродненского облисполкома*

# ТЭАРЭТЫКА-МЕТАДАЛАГІЧНЫЯ ПАДЫХОДЫ. ГІСТАРЫЯГРАФІЯ

УДК 2-633 (476):303.446.4(476)

**У.М. Конан** (Мінск)

## ХРЫСЦІЯНСТВА Ў ГІСТАРЫЧНЫМ ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

*Статья посвящена влиянию христианства на этнонациональные процессы в Беларуси на разных этапах отечественной истории и в современности. Сделан вывод, что отречение от христианской традиции в XXI в. может привести к невозвратным последствиям.*

Ці садзейнічала хрысціянства станаўленню беларускай нацыянальнасці, яе духоўнаму і грамадска-палітычнаму росту, а пазней нацыянальнай кансалідацыі? Ці мелі беларусы на гэтых этапах гісторыі сваю хрысціянскую рэлігію, адаптаваную да іх гістарычнага быцця? Як гэтая рэлігія ўздзейнічала на развіццё роднай мовы беларусаў, этна-нацыянальнай культуры, а ў шырокім аспекце – на беларускую нацыянальную ментальнасць? Ці можна спадзявацца на тое, што хрысціянская царква ў разнастайнасці сваіх канфесіяў дапаможа беларусам выйсці з сённяшняга нацыянальнага крызісу – з ментальнай раздвоенасці – наступства шматвяковай экспансіі – ідэалагічнай, ваенна-палітычнай, культуртрэгерскай з Усходу і з Захаду?

Шукаючы адказы на гэтыя пытанні, патрэбна ўлічваць не толькі беларускую гістарычную драму, але і сусветна-гістарычнае значэнне хрысціянства, ад свайго пачатку звернутае да ўсіх народаў свету. Душа хрысціянства, яго сарцавіна – універсальная эсхаталагічная перспектыва на духоўнае пераўтварэнне Космасу і яго завяршэння – чалавека і чалавецтва.

Паводле хрысціянскай экзегетыкі вобразна-сімвалічнае выслоўе біблейскай кнігі Быццё – «стварыў Бог чалавека паводле вобразу Свайго, паводле вобразу Бога» (Бц 2:27) – неабходна тлумачыць не ў антрапалагічным, а ў духоўна-творчым сэнсе. Гэтую інтэрпрэтацыю энергічна і дасціпна акцэнтаваў сярэдневяковы беларускі асветнік Кірыла Тураўскі ў «Прытчы аб чалавечай душы і целе». Ён перасцерагае ад спакусы літаральнага тлумачэння біблейскай сімволікі. Падабенства чалавека да Бога – «не вобразам, а прытчаю», гэта значыць, сімвалічна і духоўна. Бог надзяліў чалавека здольнасцю пазнання і творчасці. Прыпадобіў да сябе самога [1].



Пазней гэтую думку развіваў беларускі асветнік і біблеіст у «Предсловии доктора Франциска Скорины с Полоцька во всю Библию...»: «Святое писмо все иные науки превышаеть, понеже егда бываеть чтено, под простыми словы замыкаеть тайну. И тако младенцем и людем простым ест наука, учителом же и людем мудрым подивление. Яко река дивная мелка, понеже агнець брести можеть, а глубока, слон убо плавати мусить» [2].

Хрысціянства запраграмавала чалавека і грамадства на бязспыннае ўзвышэнне, на ўзыходжанне ад зямлі да неба. Гісторыя хрысціянскай цывілізацыі засведчыла пра вялікія і лакальныя войны, бясконцыя канфлікты, немагчымасць хрысціянізаваць палітычныя структуры народаў і нацыяў. Адначасова – пра няспынную духоўна-творчую дзейнасць, прагрэс навукі, культуры, тэхнікі. Паводле біблейскай кнігі Ёва: «Так, не з пылу выходзіць гора, і не з зямлі вырастае бяда; а чалавек нараджаецца на пакуту, як іскры, каб уздымацца ў вышыню» (Ёў: 5:7). Пазнанне заўсёды драматычнае і трагічнае. Паводле кнігі Эклезіяста: «Бо пры многай мудрасці множыцца скруха; і хто памнажае пазнанне, той памнажае боль» (Экл. 1:18). Хрысціянства рыхтуе чалавека прыняць для сябе гэтую трагедыю для духоўнага перамянення сябе і грамадства.

Гісторыя навукі, культуры, тэхнікі — гэта феномены пераважна хрысціянскай цывілізацыі, запраграмаванай на прагрэс, сістэмнасць і паўнату. Дахрысціянскія і сучасныя нехрысціянскія цывілізацыі запраграмаваны на паўтарэнне зыходных пазіцыяў, на цыклічнае ўзнаўленне, аналагічнае прыродным цыклам. Яны не ведалі эсхаталагічнай перспектывы як духоўнага перамянення чалавека і космасу. Адсутнічала гістарычнасць, абнаўленне быцця. Паводле таго ж Эклезіста: «Што было, тое і будзе; што рабілася, то і будзе рабіцца, і няма нічога новага пад сонцам». І яшчэ: «Род прыходзіць і род праходзіць, а зямля векавечна стаіць» (Эк. 1:4, 9). Без хрысціянства няма змястоўнай гісторыі як абнаўлення каштоўнасцяў: «Няма памяці пра былое; ды і пра тое, што будзе, не застанецца згадкі і між тымі, што прыйдуць пасля» (Эк 1:11). Сучасны навукова-тэхнічны прагрэс азіяцкіх і афрыканскіх рэгіёнаў, Японіі, Кітая, Індыі — гэта вынік умелага пераймання і дапасавання еўрапейскай культуры і адпаведна — элементаў хрысціянскай ментальнасці.

Першыя сістэмныя даследаванні значэння хрысціянства ў станаўленні і развіцці беларускай нацыі належаць беларускаму асветніку і палітычнаму дзеячу ў Заходняй Беларусі ксяндзу Адаму Станкевічу, аўтару манаграфіяў «Родная мова ў сьвятынях» (1929), «Хрысьціянства і беларускі народ; Спроба сынтэзы» (1940), іншых публікацыяў [3]. Гэты каталіцкі святар, рыцар духоўнага і дзяржаўнага адраджэння нашай

шматпакутнай краіны кансалідаваў заходнебеларускія палітычныя сілы для нацыянальна-вызвольнага руху пад знамем хрысціянскага гуманізму і духоўна-творчага супраціву каланіяльна-імперскім рэваншам з Усходу і Захаду. У аспекце гістарычнай навукі ён разам з Вінцэнтам Гадлеўскім, іншымі дзеячамі беларускага каталіцкага адраджэння абгрунтаваў духоўнае значэнне хрысціянства ва ўзгадванні беларускай народнасці, а ў канцы XVIII – пачатку XX ст. – беларускай нацыі.

Пачынальнікі і класікі новай беларускай літаратуры ад В. Дуніна-Марцінкевіча да Янкі Купалы, В. Ластоўскага і ўсёй нашаніўскай традыцыі (1906–1917) заставаліся свецкімі творцамі, але прызнавалі вялікую ролю хрысціянскай рэлігіі ў гісторыі народа, моцна паспрыялі пачатковай беларусізацыі хрысціянскіх канфесіяў у Беларусі.

Афіцыяльная савецкая гістарыяграфія і атэістычная «марксісцка-ленінская» філасофія адмаўлялі творчую ролю хрысціянства ў гісторыі беларускага народу – за выключэннем нацыянальна арыентаваных навукоўцаў, якія з 1980-х гадоў пачалі даследаванні ў гэтым кірунку. У беларускім друку і ў анталогіі «Беларуская думка XX стагоддзя: філасофія, рэлігія, культура» апублікаваны шэраг канцэптуальных даследаванняў у гэтым кірунку [4]. На сёння грунтоўна даследавана значэнне уніяцкай царквы ў этнакультурным развіцці Беларусі ў шэрагу публікацый Святланы Марозавай і ў яе доктарскай дысертацыі на гэтую тэму [5].

Праблематыка царкоўна-хрысціянскай місіі ў гістарычным лёсе беларусаў актуалізавана двума выданнямі энцыклапедычнага жанру: спачатку пад грыфам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны ў Беларусі апублікаваны даведнік вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук Юрася Гарбінскага «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя» (1999) [6], а праз чатыры гады — біяграфічна-бібліяграфічны слоўнік «Białoruski ruch chrześcijański XX wieku» Ю. Гарбінскага і Ежы Туронка пад грыфам Польскай акадэміі навук [7]. Канцэптуальна-фактaлагічная інфармацыя па гісторыі хрысціянства ў Беларусі змяшчаецца ў энцыклапедычных выданнях Беларусі [8]. Выдатнай падзеяй у беларускай біблеістыцы і хрысціянскім асветніцтве стала факсімільнае ўзнаўленне спадчыны Ф. Скарыны. Спачатку былі рэстаўраваны і перавыдадзены біблейскія кнігі першадрукара і асветніка эпохі Рэнесанса [9]. Праз 10 гадоў нямецкія славісты Ганс Ротэ і Фрыдрых Шольц здзейснілі факсімільнае ўзнаўленне віленскага выдання Ф. Скарыны «Апостал» з грунтоўнымі каментарамі беларускіх і нямецкіх аўтараў [10].

Праведзеныя даследаванні пацвердзілі гісторыка-філасофскую канцэпцыю Адама Станкевіча: хрысціянская рэлігія чатырох канфесіяў — праваслаўнай, каталіцкай, уніяцкай і рэфармісцкай — кожная па-своему і неаднолькава на розных гістарычных этапах была і засталася духоўнай апорай беларускага народа на ўсіх этапах свайго этнакультурнага, нацыянальнага і дзяржаўнага развіцця. У эпоху Сярэдневякоўя (X–XV стст.) на яе першым этапе (канец X–XII стст.) адбылося хрышчэнне протабеларускіх плямёнаў, заснавальнікаў княстваў – Полацкага, Турава-Пінскага, Смаленскага яшчэ да падзелу хрысціянства на праваслаўную і каталіцкую канфесіі. Прыняўшы хрысціянскую рэлігію ад Візантыі – спадкаемкі антычнай, элліністычнай і біблейскай культуры, нашы продкі атрымалі гэтую вялікую культуру – сацыяльную, этычную, навуковую і мастацкую, асімілявалі яе ў кантэксце сваёй традыцыйнай народнай культуры. Гэты сінтэз рэгіянальнай і сусветнай традыцыі характэрны для нашай культуры на этапах развіцця беларускай нацыі (XIX–XX стст.).

У эпоху станаўлення Вялікага Княства літоўскага (другая палова XIII – XV стст.) адбывалася дальнейшае ўзгадаванне беларускага этнасу. У гэтым працэсе ўдзельнічалі славянскія (крывічы, дрыгавічы, радзімічы) і балта-літоўскія плямёны, якія ў ранняе Сярэдневякоўе засялялі цэнтральна-заходнія рэгіёны сучаснай Беларусі, таксама рэгіёны Віленшчыны. Пасля Крэўскай дынастычнай уніі (1385) адбылося хрышчэнне балта-славянскіх народнасцяў па рымска-каталіцкаму абраду. Пачалася гісторыя каталіцтва ў Беларусі, далучэнне народа да заходне-еўрапейскай навукі, асветы і культурнай традыцыі. Гэтая афіцыйная двуканфесіянальнасць паспрыяла сінтэзу дасягненняў усходніх і заходніх варыянтаў хрысціянскай цывілізацыі, а на першым этапе гуманістычнага Рэнесансу (эпоха Ф. Скарыны ў першай палове XVI ст.) – захаванню аднoснага адзінства гэтых канфесіяў.

Гістарычнае значэнне ранняга далучэння протабеларускіх плямёнаў да хрысціянскай традыцыі ў тым, што яно забяспечыла беларусам у шматэтнічным ВКЛ моўна-культурнае дамінаванне ў XIV–XVI стст. захаванне дзяржаўнага статусу беларускай мовы. Толькі ў другой палове XVII–XVIII ст. адбылася паланізацыя каталіцтва і русіфікацыя праваслаўя. Беларуская культурная традыцыя захавалася на масавым узроўні ў полі духоўнага ўздзеяння *уніяцкай царквы*, якая ўзнікла ў выніку Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года. Аўтар манаграфіі «Хрысціянства і беларускі народ» А. Станкевіч крытыкаваў феадальную практыку яе распаўсюджання ў Беларусі. Але разам з тым адзначыў: за 243 гады царкоўнай уніі – унікальнага духоўна-рэлігійнага вопыту беларускага народа – гэтая унія «настолькі зраслася з беларускай душой, што, ужо смела можна сказаць, сталася сапраўды народнай беларускаю вераю. <…> Надта магчыма, што калі б ня гэтая унія, дык сяньня ўжо ня было б беларускай нацыі, яна ці такім, ці іншым чынам патанула б у

маскоўскім нацыяналізме й імпэрыялізме, куды гразьнейшым для нас, як такі ж нацыяналізм і імпэрыялізм польскі» [11].

У канцы XVIII ст., асабліва пасля трох падзелаў федэратыўнай Рэчы Паспалітай, закончылася ў Еўропе эпоха шматэтнічных феадальных дзяржаў, адбывалася, з аднаго боку, станаўленне нацыянальных дзяржаваў, а з іншага боку, — еўрапейскіх імперыяў, у тым ліку Расійскай, Аўстрыйскай і Германскай, што падзялілі паміж сабою Рэч Паспалітую. У гэтых умовах даўні этнонім *рускі* цалкам манапалізаваны Расіяй, а разам з ім — «руская», або праваслаўная вера. З іншага, заходняга боку, каталіцтва набыло значэнне «польскай» веры – духоўнага апірышча падзеленага былога Каралеўства Польскага. Беларускі народ – некалі суб'ект дзяржаватворчай місіі – аказаўся адкінуты на маргінальную абочыну, а яго культура пазначалася як выключна этнічная, або нават «сялянская».

У гэтай драматычнай сітуацыі выцяснення Беларусі з гістарычнай рэтраспекцыі і актуальнай геапалітыкі уніяцкая царква аказалася адной са сведкаў яго гістарычнага быцця і надзеяй на перспектыву. Уніяцтва прапанавала трэці ментальны праект, сістэму каштоўнасцяў, не адэкватную каталіцкай «польскасці» і праваслаўнай «рускасці». Ва уніяцкіх епархіях захавалася беларуская мова ў афіцыйнай перапісцы і дакументацыі. Там ужо ў першай палове XVII ст. адбывалася абнаўленне лексікі дзелавой мовы, пранікненне ў яе народных говараў. Захаваўся цікавы дакумент – «Інвентар нерухомай маёмасці Полацкай архіяпіскапіі, складзены каралеўскімі камісарамі для Полацкага архіяпіскапа Іасафата Кунцэвіча» 10 студзеня 1618 г., падпісаны уніяцкім мітрапалітам Язэпам Руцкім і каралеўскім пісарам Янушам Тышкевічам. Дакумент напоўнены беларускай бытавой лексікай і адпаведнымі словаспалучэннямі, напрыклад: *а мяновіце, свяцёлка сталовая поземая, старая, печ старая пабеленая, свяцелка упакаёвая, абалоны шкляныя, на тых агародах два домікі стаяць, аборы, хлявы, пякарня, напраціўку істопка для малотві, стайня, ручай, у жывую ваду, карчма да таго двара, альбо стадола, глыбокі Пералаз* [12]. Не выпадкова пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі татальнае выцясненне беларускай ментальнасці з афіцыйных структур пачалося з русіфікацыі уніяцкай царквы і яе ліквідацыі ў 1839 годзе.

Значная частка былых уніятаў, асабліва фальваркавай шляхты і сялянскай эліты, далучалася да рымска-каталіцкага касцёла. Асабліва пасля Маніфеста 17 кастрычніка 1905 г. «Аб удасканаленні дзяржаўнага парадку», паводле якога даравана народу «непахісная аснова грамадзянскай свабоды на пачатках сапраўднай недатыкальнасці асобы, свабоды сумлення, слова, сходаў і саюзаў». Былыя уніяты ўзмацнілі шэрагі беларускіх католікаў, якія ўзгадавалі ў сваім духоўным і



сацыяльным асяроддзі першых беларускіх адраджэнцаў – палітычных барацьбітоў, дзеячоў рэвалюцыйных рухаў 1831–1832 гг. і 1862–1863 гг. З гэтага ж асяроддзя выйшлі пачынальнікі новай беларускай літаратуры – ад сялянскага сына Паўлюка Багрыма і літаратараў рамантычнай школы Адама Міцкевіча (Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч і інш.) да пракрокаў нацыянальнага беларускага адраджэння Францішка Багушэвіча, Алаізы Пашкевіч (Цёткі), Янкі Купалы, заснавальнікаў «Нашай Нівы» і нашаніўскага этапу практычнай рэалізацыі беларускай нацыянальнай ідэі 1917–1920 гг. Пасля рэвалюцыі 1905–1907 гг. да гэтага руху далучыліся выхадцы з эліты праваслаўнага сялянства (Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі), урэшце, уся нашаніўская школа літаратараў і грамадскіх дзеячоў.

Пасля Першай сусветнай вайны, бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 года, падзелу Беларусі паміж савецкай Расіяй і адроджанай Польшчай паводле Рыжскай дамовы (18.03.1921) хрысціянства заставалася духоўнай апорай для народа ў змаганні за нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне. Хрысціянская ментальнасць беларусаў дапамагла ім не паддацца імперскай спакусе – бязбожнай бальшавіцкай дыктатуры ў БССР і паланізатарскай у Заходняй Беларусі. На захадзе праваслаўныя і каталіцкія беларусы захавалі сваю нацыянальную ідэнтычнасць у рэвалюцыйным, а найболей негвалтоўным змаганні за ідэалы адзінай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Беларуская інтэлігенцыя ў БССР перажыла спакусу бальшавіцкага ваяўнічага атэізму з трагічнымі наступствамі – падаўленнем і масавым знішчэннем эліты народа прарасійскай уладай бальшавікоў. Асабліва пасля кароткага перыяду нацыянальнага рэваншу беларусаў ва ўмовах вымушанай афіцыйнай палітыкі «беларусізацыі», па сутнасці дэкаланізацыі Беларусі ў 1922–1929 гг.

Бальшавіцкая ўлада ў рэгіёнах былой Расійскай імперыі, а пасля Другой сусветнай вайны таксама ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе ў кантэксце хрысціянскай эсхаталогіі была акцыяй антыхрысціянскай. Бальшавікі «шчыра» прызнавалі сваю антыхрысціянскую сутнасць, падаўлялі хрысціянства і яго носьбітаў, сцягам пралетарскага Інтэрнацыяналу прыкрывалі стратэгію на стварэнне сусветнай антыхрысціянскай, прарасійскай імперскай дзяржавы.

Хрысціянства перамагае сусветнае зло яго раздваеннем на непрымірымыя часткі – ўнутраныя і міжнародныя. Бо імперскі нацыянал-сацыялізм, або фашызм у эсхаталагічным аспекце і сусветны камунізм былі д'ябальскай карыкатурай на хрысціянскае Царства Божае. Расійскія бальшавікі аднавілі імперскае язычніцтва – сакралізацыю сваіх ідэолагаў, правадыроў і сваёй дыктатарскай улады. А нямецкі фашызм –

гэта старазаветная спакуса сусветнага панавання «выбранага» нямецкага народа. Не выпадкова ваякі Гітлера насілі на спронжках (пражках) рамянёў выгравіраваны дэвіз – апошнія словы са звароту да народаў прарока Ісаі: «З намі Бог!»

Дарэчы, тое прароцтва пачынаецца з папярэджання: «Варагуйце, народы, але дрыжыце; і слухайце, усе далёкія землі! Узбройвайцеся, але дрыжыце; узбройвайцеся, але дрыжыце...» (Іс. 8:9). Як далёка зайшлі сёння «народы і землі» ад эпохі Ісайі ў справе ўзбраення! І не толькі не дрыжаць, наадварот, штодзённа гэтым хваляцца. Сёння забытыя ўсе колішнія запаветы і рухі за мір на зямлі. Забылі дзяржавы хрысціянскую малітву пра мір ва ўсім свеце. Дзяржавы – вялікія і малыя – ўзбройваюцца і штодзённа хваляцца сваёй фенаменальнай зброяй. Адбываецца адцясненне хрысціянскай рэлігіі на ўзровень асабістага выбару. Даўно замоўклі прарокі ўсеагульнага міру і скарачэння ўзбраенняў. Так зразуметае «аддзяленне царквы ад дзяржавы» ва ўмовах сакралізацыі дзяржаўнай улады, пранікнення «цывілізаванага» язычніцтва ў штодзённы побыт, масавую культуру, культ сілы, непавага да культурнай і нацыянальнай традыцыі – зусім верагодна, ёсць эпілог катастрофы.

Сёння, як ніколі раней, патрэбна прарочае Слова хрысціянства.

### *Спіс крыніц і літаратуры*


1. Кірилла мниха притча о человечстей души и о телесе... // Труды Отдела дневнерусской литературы. – Т. XII. – Москва-Ленинград, 1956. – С. 440 – 447.
2. Біблія: Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Скарынаю ў 1517 – 1519 гг. У 2 т. Т. 1. – Мінск: БелСЭ, 1990. – С. 8.
3. Ks. Stankiewicz, Ad. Rodnaja mowa ŭ światyniach. Adbitak z « Chryścijanskaj Dumki» / Ad. Stankiewicz. – Wilnia, 1929; Stankiewicz, Ad. Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення / Ad. Stankiewicz. – Вільня: Шляху Моладзі, 1934; Stankiewicz, Ad. Хрысціянства і беларускі народ (Спроба сынтэзы) / Ad. Stankiewicz. – Вільня: Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, 1940.
4. Конон, В. Вера и нация: Христианство в исторической судьбе белорусов / В Конон // Нёман. – 1994. – № 5. – С. 156 – 164; Конон, В. Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларусаў / В. Конон // Беларуская думка XX стагоддзя: Філасофія, рэлігія, культура: анталогія / ўкладанне, прадмова і апрацаванне Юры Гарбінскі. – Варшава, 1998. – С. 565 – 588; Конан, В. Драматычны шлях хрысціянства / В.Конан // Голас Радзімы. – 2000. – 5, 15 студзеня, 23 лютага, 12 красавіка, 21 чэрвеня, 19 ліпеня, 10 жніўня.
5. Марозава, С. Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596 – 1839 гг.): Навучальны дапаможнік / С Марозава. – Гродна, ГДУ імя Я. Купалы, 1996. – 110 с.; Марозава, С. В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596 – 1839): манаграфія / С.В. Марозава. – Гродна: ГрДУ, 2001.
6. Гарбінскі, Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя / Ю Гарбінскі. – Мінск-Мюнхен: Беларускі кнігазбор, 1999. – 752 с.: іл.
7. Garbiński, J. Białoruski chrześcijański ruch XX wieku: Słownik bioraficzno-bibliograficzny / J. Garbiński, J.Turonak. – Warszawa: Polska Akademia Nawuk, Instytut Sławistyki, 2004. – 519 s.





8. Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік. – Мінск: БелСЭ, 1988. – 608 с.: іл.; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 1 – 6. – Мінск: БелЭН, 1993 – 2003.
9. Біблія: Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенае Францыскам Скарынаю ў 1517 – 1519 гг. У 3 т. Т. 1 – 3. – Мінск: БелСЭ, 1990 – 1991.
10. Biblija ruska, vyložena doktorom Franciskom Skorinoju: Apostol. Wilna, 1525. – Pederborn. München. Wien. Zürich, 2002. – 1048 s.
11. Станкевіч, Ад. Хрысціянства і беларускі народ (Спроба сінтэзы) / Ад. Станкевіч. – Вільня: Беларускае Каталіцкае Выдавецтва, 1940. – С. 97.
12. Акты, изданные Виленскою Археографическою Комиссиею. – Т. IX: Акты Виленского замкового суда. – Вильня, 1878. – С. 3 – 15.


**Конан Уладзімір Міхайлавіч** – філосаф, гісторык, літаратурны крытык, доктар філасофскіх навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

УДК 2-9(476):303.446.4(476)

**С.В. Марозава** (Гродна)

## БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ КАНФЕСІЙНАГА РАЗВІЦЦЯ: НЕАБХОДНАСЦЬ ТЭАРЭТЫЧНАГА АСЭНСАВАННЯ

*В статье ставится вопрос о необходимости концептуального, философско-теоретического осмысления специфики конфессиональной истории Беларуси в европейском и восточнославянском контексте на основе богатой историографической традиции и далеко неисчерпанной базы источников.*

На мяжы XX – XXI ст. гісторыка-канфесійная праблематыка стала адным з прыярытэтных кірункаў еўрапейскай гістарыяграфіі, у разнастайнасці тэматыкі якой устойлівае месца займае цікавасць да беларускай мадэлі царкоўна-рэлігійнага развіцця. Гэта цікавасць абумоўлена унікальнасцю канфесійнай гісторыі Беларусі і ўключанасцю беларускага грамадства ў мінулым у рэлігійна-палітычныя, духоўна-культурныя, этнанацыянальныя працэсы шэрагу краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

За апошняе тысячагоддзе сваёй гісторыі Беларусь зведала значныя канфесійныя трансфармацыі. Яны вызначаліся як унутранымі, так і знешнімі фактарамі. Канфесійная спецыфіка Беларусі ў значнай ступені абумоўлена яе геапалітычным становішчам. Канфесійная гісторыя Беларусі XVI – XIX ст. уяўляла сабой змену суадносін розных хрысціянскіх плыняў. Хрысціянства тут у розныя гістарычныя эпохі набывала адпаведныя царкоўныя і культурныя формы. Ішлі пошукі нашымі продкамі ўласнага месца ў еўрапейскіх рэлігійна-палітычных

працэсах, на перакрыжаванні Усходу і Захаду. Канфесійны фактар аказваў моцны ўплыў на этнакультурныя працэсы, садзейнічаў этнічнаму самавызначэнню беларусаў і іх дыферэнцыяцыі ад іншых народаў. XX ст. зведала масавую атэізацыю, а потым – рэлігійны «рэнесанс». Сучасная канфесійная сітуацыя ў Беларусі і нацыянальная ідэнтычнасць насельніцтва – вынік канфесійных працэсаў апошніх стагоддзяў.

Пачынаючы з Мікалая Бантыш-Каменскага [1] і Міхаіла Каяловіча [2] у Расійскай імперыі, Гвэпіна і Марціна ў Францыі [3; 4], Эдуарда Лікоўскага ў Польшчы [5] і інш., еўрапейская гістарыяграфія паступова нарошчвала агульны аб'ём інфармацыі па гісторыі рэлігіі і цэрквы на беларускіх землях. Гэту гісторыю даследавалі ў розных аспектах: тэалагічным, палітычным, ідэалагічным, культуралагічным, этнічным, сацыяльна-эканамічным і ўласна гістарычным. Для замежнай гістарыяграфіі (найперш, расійскай і польскай) уласціва імкненне прывязаць гісторыю Беларусі да гісторыі сваіх краін, за чым не відаць яе канфесійнай спецыфікі. Дзяржаўная, нацыянальная, рэлігійная заангажаванасць гісторыкаў Расіі і Польшчы не дазваляла ім убачыць таго факту, што, прымаючы ўплывы з Захаду і з Усходу, продкі беларусаў імкнуліся да правядзення ўласнай лініі ў царкоўна-рэлігійнай сферы, да пошуку свайго месца ў хрысціянскім свеце.

Сярод айчынных і замежных даследчыкаў адсутнічаюць адзінства і нават узгодненыя падыходы да ацэнкі ролі і месца розных культавых інстытутаў у гістарычным лёсе Беларусі, іх уплыву на беларускую культуру і працэсы нацыятварэння. Да пачатку XX ст. у гістарыяграфіі панаваў пастулат аб вызначальнай ролі праваслаўнай царквы на дзяржаўнае і культурнае развіццё беларускіх земляў. Савецкая навука з яе класавым падыходам разглядала ўсе культавыя інстытуты як пасобніка эксплуататарскіх класаў, свядома змяншаючы значнасць першых у фарміраванні культурнай спадчыны беларускага народа. У наш час адыйшоў у нябыт паказ царквы як аплота коснасці і рэакцыі. Усё глыбей усведамляецца яе роля ў дзяржаўным і этнакультурным жыцці народа. Гісторыя хрысціянства, жыццё і дзейнасць яго падзвіжнікаў паступова займаюць бачнае месца ў навуковай, вучэбнай і папулярнай літаратуры. Сучасная гістарыяграфія ў вывучэнні гісторыі праваслаўя, каталіцызма, пратэстантызма і уніяцтва ў Беларусі робіць акцэнт на іх узаемапранікненне і ўзаемаўзбагачэнне.

Пытанне аб беларускай мадэлі канфесійнага развіцця ў яго філасофска-тэарэтычным аспекце было пастаўлена нядаўна, хоць вывучэнне гісторыі рэлігіі і царквы Беларусі мае ўжо больш за двухсотгадовую традыцыю. Пошукамі адказаў на яе шматлікія пытанні займаліся таксама філосафы, рэлігійныя дзеячы, мастацтвазнаўцы,



філолагі і інш. Багатая гістарыяграфія прадмета адкрывае магчымасць яго асэнсавання на новым узроўні, з улікам сучаснага стану ведаў і больш высокай ступені абагульнення. Відавочна, што ад фактаапісальніцтва і царкоўнага краязнаўства варта пераходзіць да тэарэтычнага асэнсавання праблемы, улічваючы сучасныя метадалагічныя падыходы. Паколькі ў плоскасці гістарычнага даследавання не заўсёды ўдаецца дасягнуць навуковага кансэнсуса, то можа справа за вышэйшым, філасофскім асэнсаваннем перыпетый беларускай царкоўнай гісторыі? Яе філасофскаму асэнсаванню дапамагаюць працы І.Абдзіраловіча [6], С.А.Падокшына [7 – 9], У.М.Конана [10; 11], Н. Кутузавай [12; 13] і інш.

Даследаванне працэсу канфесійнай трансфармацыі беларускага грамадства ў X – пачатку XXI ст., спецыфікі гэтага працэсу ў еўрапейскім, усходнеславянскім кантэксце, яго адметнасці на кожным з этапаў гістарычнага развіцця мае пад сабой багатую крыніцавую базу. Яна ўяўляе сабой комплекс разнастайных па відавой прыналежнасці, па ступені інфармацыйнай насычанасці, рэпрэзентатыўнасці і навуковай значнасці дакументаў, якія, узятыя ў сукупнасці, дазваляюць усебакова і дакладна рэканструяваць падзеі, працэсы і тэндэнцыі ў дзейнасці розных культавых інстытутаў на тэрыторыі Беларусі, у міжканфесійных адносінах. Крыніцы даюць магчымасць прасачыць працэс змены суадносін розных адгалінаванняў хрысціянства на беларускіх землях, у тым ліку яго міжнародны аспект, зігзагі дзяржаўнай канфесійнай палітыкі.

У распараджэнні даследчыка – дакументы беларускага і замежнага паходжання, створаныя на розных мовах прадстаўнікамі розных сацыяльна-прафесійных груп і канфесійнай прыналежнасці, крыніцы дакументальныя і наратыўныя, масавыя і унікальныя, публічныя і канфідэнцыйныя.

Новыя тэндэнцыі ў царкоўна-культурнай сферы Беларусі ў Сярэднявеччы і пачатку Новага часу адлюстроўваюць летапісы, жыцці святых, палемічная літаратура, навуковыя і гісторыка-літаратурныя працы царкоўных дзеячаў таго часу і інш. Важнай крыніцай для вывучэння канфесійнай гісторыі XV – XX ст. з'яўляюцца помнікі свецкага і кананічнага права, пастановы вышэйшых органаў кіравання царквой, матэрыялы царкоўных сабораў і да т.п. Працэс «інтэрнацыяналізацыі» міжканфесійных адносін і канфліктаў у Беларусі адлюстроўвае знешнепалітычная дакументацыя. Сярод крыніц абсалютна дамінуюць матэрыялы царкоўнага і свецкага справаводства. Прасачыць трансфармацыю канфесійнай структуры насельніцтва ў канцы XVIII – пачатку XX ст. дазваляюць статыстычныя крыніцы. Карціну царкоўна-рэлігійных падзей дапаўняюць мемуары і асабістая

перапіска. Вельмі цікавыя з пункту погляду царкоўнага краязнаўства летапісы цэркваў, прыходаў, манастыроў, якія вяліся іх настаяцелямі. Падзеі XIX – пачатку XXI ст. знайшлі адлюстраванне ў перыядычным друку. Каштоўнай крыніцай для вывучэння стану культавых інстытутаў у савецкую эпоху з'яўляюцца фонды дакументаў Савета па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў СССР, а таксама рэспубліканскага і абласных апаратаў упаўнаважанага гэтага Савета.

На жаль, толькі нязначная частка крыніц, якія дазваляюць рэканструяваць падзеі і працэсы ў канфесійнай сферы, захоўваецца ў Беларусі. Такія дакументальныя комплексы адкладаліся ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна, у Нацыянальным архіве Беларусі, у абласных і занальных архівах.

Шматлікія дакументы знішчаны самім часам, страчаны ў выніку войнаў, загінулі ў віхуры паўстанняў, пажараў, вывезены за межы Беларусі або першапачаткова фарміраваліся ў тых палітычных цэнтрах, з якіх ажыццяўлялася адміністрацыйнае кіраўніцтва ёю: Вільнюсе, Варшаве, Санкт-Пецярбургу, Маскве. Даследчык беларускай гісторыка-канфесійнай праблематыкі «асуджаны» на архіўныя пошукі ў дакументасховішчах усходне- і цэнтральнаеўрапейскіх сталіц: Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве (Санкт-Пецярбург), Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў (Масква), Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі (Масква), Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы (Вільнюс), Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны (Львоў), Галоўным архіве старажытных актаў і Галоўным архіве новых актаў (Варшава) і інш.

Частка дакументальнай спадчыны з канфесійных архіваў была надрукавана ў XIX – пачатку XXI ст. у тэматычных і абагульняючых зборніках: ад выданняў археаграфічных камісій да дакументальных публікацый «Уния в документах» [14] і «Полацкія пакутнікі» [15].

Матэрыял крыніц служыць важкім аргументам у навуковых дыскусіях па спрэчных пытаннях няпростай і шмат у чым унікальнай гісторыі поліканфесійнай Беларусі. Разам з тым, варта ўлічваць, што дакументы, як тыя, што захоўваюцца ў архівах, так і апублікаваныя, не толькі нясуць на сабе абітак свайго часу, панаваўшай ідэалогіі, але і даюць суб'ектыўнае ўспрыманне падзей іх аўтарамі, не заўсёды адрозніваюцца паўнатой і дакладнасцю іх асвятлення. Беларускія і замежныя архівы яшчэ далёка не вычарпаны папярэднімі пакаленнямі даследчыкаў канфесійнай гісторыі Беларусі. Вывучэнне масіву вартых даверу архіўных і апублікаваных крыніц, пры адмове ад іх падзелу на зручныя і нязручныя, дасць штуршок для новых навуковых распрацовак.



Відавочна, што канфесійная складаемая гісторыі Беларусі надала адметнасць і унікальнасць ўсяму гістарычнаму шляху, пройдзенаму нашым народам і дзяржавай. Даследаванне беларускай мадэлі канфесійнага развіцця, улік царкоўна-палітычных зломаў можа даць блізкі да рэалій адказ на пытанне аб цывілізацыйнай спецыфіцы беларускай гісторыі, аб прычынах замаруджанасці нацыянальнага развіцця беларусаў, даць лепшае разуменне сучаснай нацыянальна-культурнай і канфесійнай сітуацыі ў рэспубліцы і вызначыць арыенціры дзяржаўнай рэлігійнай палітыкі на будучыню. Настаў час адпаведнага сучаснаму стану ведаў і крыніцавай базы канцэптуальнага, філасофска-тэарэтычнага асэнсавання гістарычнай канфесійнай адметнасці Беларусі і грунтоўных абагульняючых даследаванняў па гісторыі яе хрысціянскіх цэркваў .

### *Спіс крыніц і літаратуры*


1. Бантыш-Каменский, Н.Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии, с показанием начала и важнейших, в продолжение оной чрез два века, приключений, паче же о бывшем от римлян и униятов на благочестивых тамошних жителей гонении / Н.Н.Бантыш-Каменский. – М.: Синодальная тип., 1805. – 454 с.
2. Коялович, М.О. Литовская церковная уния: Исследования / М.О. Коялович. – СПб.: Тип. Тихменева, 1859 – 1861. – Т. 1. – 316 с.; Т. 2. – 442 с.
3. Guepin, A. Saint Josaphat archeveque de Polock, martyr de l'Unite Catholique et l'Eglise Grecque Unie en Pologne / A. Guepin. – Poitiers: H.Oudin, 1874. – Vol. 1. – 351 p.; Vol. 2. – 1878. – 544 p.
4. Martinov, S. Saint Josaphat et ses detracteurs / S. Martinov. – Lion, 1875.
5. Likowski, E. Historia unii kościoła ruskiego z kościołem rzymskim / E. Likowski. – Poznań: M.Leitgeber, 1875. – 287 s.
6. Абдзіраловіч, І. Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветапогляду / І. Абдзіраловіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 44 с.
7. Подокшин, С.А. Проблема «Восток – Запад» в общественно-философской мысли Белоруссии и России XVI – XVII вв. / С.А. Подокшин // Кніжная культура Беларусі: зборнік навуковых прац. – Мінск: ЦНБ Акадэміі навук БССР, 1991. – С. 40 – 44.
8. Падокшын, С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска–гістарычны аналіз) / С.А. Падокшын. – 2-е выд. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 111 с.
9. Падокшын, С.А. Іпацій Пацей: Царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік на пераломе культурна-гістарычных эпох / С.А. Падокшын. – Мінск: Беларуская навука, 2001. – 118 с.
10. Конон, В. Вера и нация: христианство в судьбе белорусов / В. Конон // Неман. – 1994. – № 5. – С. 156 – 164.
11. Конан, У.М. Хрысціянства ў гістарычным лёсе Беларусі / У.М Конан // Беларуская думка XX ст.: Філасофія, рэлігія, культура: анталогія. – Варшава, 1998
12. Кутузова, Н.А. Социально–философская и этическая мысль Беларуси первой половины XVII в.: Автореф. дис. … канд. филос. наук: 09.00.03 / Бел. гос. ун–т. / Н.А.Кутузова. – Минск: 1996. – 19 с.
13. Кутузова, Н.А. Нация, религия и государственность в полемической литературе Беларуси конца XVI – первой половины XVII вв.: учебное пособие / Н.А.Кутузова; науч. ред. Е.С.Прокошина. – Минск: Фонд поддержки независимых науки и высшей школы: Бел. негосуд. Ин–т управл., финансов и экономики, 1998. – 111 с.

14. Уния в документах: сб. / сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. – Минск: Лучи Софии, 1997. – 520 с.
15. Полацкія пакутнікі: зборнік дакументаў / уклад. і апрац. М.Баўтовіча. – Полацк: Сафія, 2000. – 85 с.

**Марозава Святлана Валянцінаўна** – доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Сфера навуковых інтарэсаў: канфесійная гісторыя Беларусі канца XVI – першай паловы XIX ст., гісторыя уніяцкай царквы.

УДК 930.1:303.446.4 (476)

**Т.Т. Кручковский** (Гродно)

## Н.М. КАРАМЗИН О РЕЛИГИОЗНОМ ФАКТОРЕ В ОТНОШЕНИЯХ МОСКВЫ И ВКЛ В XIV – НАЧАЛЕ XVI ВЕКА

*Статья посвящена анализу трактовки русским историком Н.М.Карамзиным истории соперничества между Великим княжеством Литовским и Великим княжеством Московским в XIV – начале XVI вв. и места религиозного фактора в международных отношениях.*

История отношений Москвы с ВКЛ, а потом с Речью Посполитой рассматривалась Н.М. Карамзиным как первостепенная, наряду с отношениями с Ордой, а затем с ее наследниками и Турцией. Одной из фундаментальных позиций исторической концепции Н.М. Карамзина было положение о Московской Руси как наследнице Киевской Руси. Согласно его мнению, территориально Россия периода Киевской Руси и Руси Московской не отличались, занимая пространство от берегов Оки до Сана [1, с. 9].

Первоначальную историю ВКЛ до ее соединения с Польшей, в ее связи с русскими землями Н.И. Карамзин оценивал как историю преимущественно российскую и православную. Данный подход Карамзина к начальной истории ВКЛ, во многом как российского государства, и его возможности на этом основании этого слиться с Москвой был принят в русской историографии исследуемого периода. Особое развитие данная точка зрения получила в русской консервативной историографии в трудах, посвященных истории России, ВКЛ, Западной России (Д.И. Иловайский, П.Д. Брянцев, М.О. Коялович) [2]. Данное положение в настоящее время высказывается и в современной российской науке: отмечается возможность объединения



двух частей, на которые оказались разделены русские земли, когда литовский князь Ягелло мог в 1380 году, приняв православие, жениться на дочери Дмитрия Донского, и эта возможность считается вполне реальной [3].

Первый значительный князь Литвы XIV века – Гедимин оценивается историком как князь литовско-русский, уважающий русские традиции и православие: «Властвуя над Литвою и завоеванною частию России, он именовал себя великим князем Литовским и Российским; жил в Вильне, им основанной; правил новыми подданными благоразумно, уважая их древние гражданские обыкновения, покровительствуя веру греческую и не мешая народу зависеть в церковных делах от митрополита московского» [171, с. 107]. Отдавая должное Гедимину, как государственному деятелю историк подчеркивал, что: «хитрый Гедимин умел снискать дружбу монголов; по крайней мере, никогда не воевал с ними и не платил им дани» [4, с. 138].

В этих условиях, по Карамзину, русские в ВКЛ, а также православная церковь Литвы вместе с Москвою поддержали литовских князей: «Граждане стенали: утратив государственную независимость, они еще умели крепко стоять за веру отцов и, гнушаясь насилием папистов, славили терпимость литовского правления; а глас народа единокровного громко отзывался в Москве. Нет сомнения, что и митрополит ревностно ходатайствовал за князей литовских – которые не мешали ему повелевать духовенством в Польше – особенно же за Любарта, усердного сына нашей церкви» [4, с. 138].

Данная концепция Карамзина была продолжением не только исторической схемы предшествующей историографии, но и московской политической литературы XVI века [11]. ВКЛ, согласно такой интерпретации, до унии с Польшей рассматривалось историком как преимущественно русское государство, а, например, Гедимин – как незаконный правитель, захвативший русские земли. Пользуясь невзгодою России, писал историк, Литва завладела их странами [4, с. 107–108]. По существу, этот взгляд ничем не отличается от точки зрения Татищева, по которому литовские князья некогда повиновались русским, и независимость Литвы явилась следствием отпадения ее от власти России во время княжеских междоусобиц [5, с. 176].

Положение кардинально изменилось в представлении Карамзина после принятия Ягелло польской короны и католичества. ВКЛ после унии с Польшей Карамзин рассматривал как враждебное России государство, «имея в виду Литву, нашего врага естественного» [1, с. 479]. Принятие католичества Литвой и политическое соединение унией с Польшей оценивается Карамзиным исключительно с точки зрения интересов Москвы, как претендента на объединение русских земель:

«Ягайло (в 1386 году) с согласия вельмож польских женился на Ядвиге, дочери и единственной наследнице их умершего короля Людовика, принял веру латинскую в Кракове вместе с достоинством государя польского и крестил свой народ волею и неволею. Происшествие, столь благословенное для Рима, продолжал он, имело весьма огорчительные следствия для россиян: Ягайло, дотоле покровитель греческой веры, сделался ее гонителем; стеснял их права гражданские, запретил брачные союзы между ними и католиками и даже мучительски казнил двух вельмож своих, не хотевших изменить православию в угодность королю» [4, с. 203].

Важным моментом в рассуждениях Карамзина о русско-польско-литовских отношениях данного периода становится конфессионный вопрос. При этом весьма знаменательно, что историк, признавая в этой борьбе важность религиозного фактора и часто отмечая его как причину войн, особенно в борьбе за земли Литовской Руси, не всегда ставил его на первый план, как это будет впоследствии в русской консервативной историографии XIX – начала XX веков. Однако по мере усиления противоборства Москвы и ВКЛ значение конфессионального фактора в описании Карамзина все более усиливается.

Рассматривая историю взаимоотношений Москвы и польско-литовского государства в конце XV – первой половине XVI веков, до начала царствования Ивана IV Грозного, Карамзин выделяет ряд русско-польско-литовских войн этого периода, дипломатические отношения между ними, наиболее яркие, по его мнению, эпизоды этих отношений. Данное повествование ведется на фоне основного рассказа об истории России и прежде всего западной политики Москвы, направленной на присоединение всеми возможными способами западнорусских земель: прежде всего военными, но и дипломатическими, (используя против Польши и ВКЛ как германские христианские государства, так и «бусурманские» Турцию и Крым), конфессионально-этническими, брачно-династическими и т.д. При этом историк признает, что Москва сама, используя в Литве в своей политике конфессиональный фактор, активно использовала против Польши и ВКЛ также и «врагов веры Христовой».

Описывая войны Ивана III, историк даже утверждал, рисуя величайшее миролюбие московского князя в отношении Александра, что именно религиозный вопрос и вызвал войну между Москвою и ВКЛ: «война едва ли могла бы открыться между ними, если бы в распрю их не замешалась вера… Иоанн долго сносил грубости зятя; но терпение его исчезло, когда надлежало защитить православие от латинских фанатиков» [4, с. 510]. Описывая существующие, по его мнению, преследования православия, историк употребляет весьма



эмоциональные и красочные определения, действующие на сознание и воображение читателя: «в Литве открылось гонение на восточную церковь», «между тем гонение на греческую веру в Литве продолжалось» [4, с. 510–511].

Интересно отметить, что историограф, говоря об этих гонениях православия в Литве, не приводит конкретных примеров, а пишет только о католической и униатской пропаганде решений Флорентийского собора среди православных. Ответом на такие «гонения», по Карамзину, стала негативная реакция православного населения ВКЛ: «ревностные в православии христиане гнушались латинским соблазном и многие выехали в Россию» [4, с. 511]. Далее историк признает, что «принимая к себе литовских князей с их поместьями, Иоанн нарушал мирный договор; но оправдывался необходимостию быть покровителем единоверцев, у коих отнимают мир совести и душевное спасение» [4, с. 511]. Следует также отметить, что историк не называет источников информации Ивана III, которым он поверил: «уведомили великого князя, что в Литве открылось гонение на восточную церковь» [4, с. 510]. В то время, как дочь Ивана III, великая княгиня литовская Елена, которая «сохранила чистоту веры своей… уверяла родителя, что она любима мужем, свободна в исполнении обрядов греческой веры и всем довольна» [4, с. 510].

Весьма показательно, что Карамзин, говоря о религиозной политике Александра и показывая преследования православия, в принципе считал ее соответствующей государственным интереса ВКЛ: «Может быть, он хотел и государственного блага, думая, что единоверие подданных утверждает основание державы: сие неоспоримо» [4, с. 510]. Однако он подчеркивал, что такова политика весьма опасна и должна проводится умело и осторожно «но предприятие опасно: должно знать свойство народа, приготовить умы, избрать время и действовать более хитростию, нежели явною силою, или вместо желаемого добра произведешь бедствия: для того язычник Гедимин, католик Витовт и отец Александров, впрочем, суеверный, никогда не касались совести людей в делах Закона» [4, с. 510].

Интересным моментом, описываемым ученым русско-польского соперничества и попытки Ивана III подчинить ВКЛ как свое законное наследственное владение были конфессионально-политические обстоятельства женитьбы короля Александра на Елене, дочери Ивана III. При этом историк открыто признает, что литовский князь и литовская магнатерия этим способом надеялись обеспечить мир с Москвою, а Иван III хотел использовать этот династический союз для усиления своего влияния на ВКЛ [4, с. 488–490]. В качестве инструмента давления на Литву использовался конфессиональный

прац, якія знаёмілі ўкраінскага чытача з найноўшымі дасягненямі навукі. Вядома, у першую чаргу, іх цікавілі звесткі, якія прама альбо ўскосна датычылі да ўкраінскіх спраў. І такіх з'яў ў беларускайісторыі наогул і канфесійнай, у прыватнасці, было шмат. Часцей за ўсё беларускія працы ўзгадваліся ў разделах «Наукова хроніка» і «Бібліографія». Стала і рэгулярна адсочваўся змест «Епархиальных ведомостей», што выходзілі ў беларускіх губернях. Гэта былі «Гродненские епархиальные ведомости», «Литовские епархиальные ведомости» (ахоплівалі Віленскую губерню, дзе з сямі паветаў пяць былі беларускімі), «Минские епархиальные ведомости», «Могилевские епархиальные ведомости», «Полоцкие епархиальные ведомости».

На старонках «Литовских епархиальных ведомостей» увагу «Записак НТШ» прыцягнулі публікацыі пра уніяцкага архіепіскапа полацкага і луцкага Іаана Красоўскага, мітрапаліта Іосіфа Солтана і яго адносінах з манастыром у Супраслі, падзел рускай мітраполіі пры мітрапаліце Фоціі, ліставанне мітрапаліта Іосіфа Сямашкі і епіскапа Міхаіла Галубовіча, гісторыя Жыровіцкага манастыра, справаздача напярэдадні абароны дысертацыі К.Харламповіча «Западно-русские церковные братства и их просветительская деятельность в конце XVI и начале XVII в.» [2, 4, 8, 9, 10, 11]. У «Минских епархиальных ведомостях» былі асабіста адзначаны матэрыялы пра тураўскага свяціцеля канца XII стагоддзя епіскапа Лаўрэнція, аб Брэсцкай уніі і Іясафаце Кунцевічы, таксама казанні Св. Кірылы Тураўскага, апісанне Мінскага Спаса-Прэабражэнскага жаночага манастыра, артыкулы А.Мілавідава пра Пінскі Богаяўленскі манастыр і царкоўна-археалагічныя помнікі Пінска, лісты мінскага архіепіскапа Віктара Садоўскага да магілёўскага архіепіскапа Георгія Каніскага [4, 8, 9, 10, 12]. Матэрыялы пра дзейнасць Каніскага з нагоды 100-годдзя яго смерці з'явіліся і на старонках «Могилевских епархиальных ведомостей». Водгук аб іх «Записак НТШ» ахарактарызаваў Каніскага як «важного в історії білоруської церкви діяча, а разам українського письменника» [2, с. 19].

У «Полоцких епархиальных ведомостях» аглядальнікі «Записак НТШ» звярнулі ўвагу на апісанне скарбаў віцебскага царкоўнага старажытнасховішча і звесткі пра уніяцкую бібліятэку Віцебскай духоўнай семінарыі, якая ў 1900 годзе распараджэннем Сінода была перададзена ў Кіеўскую духоўную акадэмію [8, 11]. У «Гродненских епархиальных ведомостях» былі заўважаны артыкулы Яўстафія Арлоўскага «Судьбы православия в связи с историей латинства и унии в Гродненской губернии в XX столетии (1794 – 1900 гг.)», «Гродненские православные церкви в XVI веке», а таксама протаіерэя Н.Дзікоўскага – «Коронование Жировицкой чудотворной иконы Богоматери (1730 г.)», «Базилианский орден и его значение в западно-русской униатской церкви с XVII и начала XVIII века до Замойского провинциального собора 1720 г. « [11, 14, 15].

Нязменнай тэмай «Записак НТШ» быў агляд публікацый гістарычных крыніц і прац пра фонды архівасховішч. Звяртае ўвагу падрыхтаваны Іванам Франко грунтоўны нарыс пра працу «Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов. 1470 – 1700» (Т. 1. СПб., 1897) [6, с. 11–19], тэматыка якога закранае агульныя справы беларуска-ўкраінскай канфесійнай гісторыі.

Трэба дадаць, што да беларускай тэмы І.Франко звяртаецца і ў аглядзе працы В.Н. Перацца «Повесть о трех королях-волхвах в западно-русском списке XV века» (СПб., 1903). Ён піша пра беларускую мову апавядання і дадае, што гэта верагодна беларускі пераклад з польскай, які, у сваю чаргу, ёсць перакладам з нямецкай альбо лацінскай [12, с. 9–10].

Аналізаваліся «Записками НТШ» і тыя публікацыі крыніц, якія «отже безпосередно не належать до нашої історії, але цікаві ріжнімі анальогіями» [8, с. 25], як, напрыклад, дакументы віленскага Свята-Духава манастыра і віленскага праваслаўнага брацтва, падрыхтаваныя С. Голубевым [1].

Па-за ўвагай «Записак НТШ» не засталіся і апісанні сховішчаў рукапісаў і старадрукаў. Іван Крывецкі ў артыкуле «Нові видання по бібліографії українсько-білоруських стародруків» [16, с. 181–197] разглядае працы А.І. Мілавідава – «Описание славянорусских старопечатных книг Виленской Публичной Библиотеки (1491–1800 гг.)» (Вильна, 1908) і «Старопечатные славяно-русские издания из западно-русских типографий XVI–XVIII вв. « (Чтения в Императорском Обществе истории и древностей российских при Московском университете. 1908. Кн. I). Натуральна, што ў гэтых працах ішла гаворка пераважна пра кнігі рэлігійнага зместу з манастырскіх і брацкіх друкарняў Вільні, Супрасля, Заблудава, Магілёва, Куцейна, Полацка, Еў'я, Гародні, Нясвіжа, Кіева, Чарнігава, Астрога, Пачаева, Львова. Аўтар рэцэнзіі «з найбільшою симпатією й признаннєм» падтрымлівае задумку Мілавідава, аднак адзначае таксама і шматлікія хібы і недарэчнасці ў яго каталогах. На думку Крывецкага «виробити собі плястичний образ українського чи білоруського духовного жиця, української чи білоруської духовної культури можна тільки при помочи студій над зібраним до купи й систематично угрупованим матеріялом, яким в данім выпадку являють ся між иншим власне українські і білоруські друки» [16, с. 184].

Іларыён Свянціцкі ў рэцэнзіі на «Описание рукописнага отдела и старопечатных книг библиотеки Минского церковного историко-

археологического комитета» (Вып. I. Минск, 1909), падрыхтаванае А.Снітко, адзначыў «інтересні елєменти народної білоруської мови», якія сустракаюцца ў кніжных маргіналіях [18, с. 222].

На працу прафесара Яўхіма Карскага – знанага «бацькі беларусазнаўства» – «Западнорусские переводы псалтыри в XV – XVII веках» (Варшава, 1896) звярнуў увагу Іван Копач [7, с. 9–10].

Навуковыя працы па канфесійнай гісторыі Беларусі часцей за ўсё рэцэнзаваў сам нязменны рэдактар «Записак НТШ» Міхайла Грушэўскі. Яго ўвагу, напрыклад, прыцягнуў нарыс А. Яцымірскага пра лёс Рыгора Цамблака, абранага ў 1415 годзе ў Наваградку мітрапалітам Кіеўскім [22]. Грушэўскі адзначае, што аўтар выкарыстаў значную масу новага матэрыялу, але не здолеў навукова абрабіць яго [14, с. 14–15]. Кампілятыўны характар, на думку Грушэўскага, меў артыкул Н.С. Кедрава «Древне-русские братства» (Русский архив. 1901. Т. II) [13, с. 23 – 24]. Больш высока, як «користну», ён ацаніў кнігу А.А. Папкова «Братства. Очерк истории западно-русских православных братств» (Сергиева лавра, 1900) [13, с. 20 – 23].

Пры падрабязным аглядзе М. Грушэўскага трывала высокую адзнаку звычайна атрымлівалі публікацыі ураджэнца Беларусі, прафесара Пецярбургскай духоўнай акадэміі Платона Жуковіча, буйнейшага дарэвалюцыйнага даследчыка канфесійнай гісторыі Беларусі. У розныя гады Грушэўскі прааналізаваў дзесяць яго прац. Вядома, што ён быў вельмі патрабавальным рэцэнзентам. Тым больш варта адзначыць яго словы ў сваім апошнім аглядзе пра навуковую годнасць Жуковіча: «зробленим шановний петербурський професор заслужив собі вдячність и признаннє всїх, хто буде займати ся чи історією Польщи, чи українсько-польскими відносинами кінця XVI і першої половини XVII вв. «, «в сумлїнній і запопадливій фактичності – найсільнійша сторона праці», Жуковіч даў «працу цїнну, навукову, трівалу», якая «дуже значно посунула нашу знайомість з сею добою» [19, с. 161, 167].

На старонках «Записак НТШ» П. Жуковіч сустрэў, напэўна, сваіх самых удумлівых і ўважлівых чытачоў. Акрамя водгукаў М. Грушэўскага часопіс адгукнуўся яшчэ на трынадцаць яго прац, пераважна прысвечаных пытанням канфесійнай гісторыі – такіх як «Жизнеописание митрополита Иосифа Вельямина-Рутскага, составленное митрополитом Рафаилом Курским, и сочинение Рутскаго об улучшении внутреннего строя униатской церкви», «Архиепископ Мелетий Смотрицкий в Вильне в первые месяцы после своей хиротонии», «Запорожские гетманы Бородавка и Сагайдачный в своих последних церковных и политических делах», «Брестский собор 1591 года», «Последняя борьба духовенства митрополичьей епархии с Потеем и унией (1609–1611 гг.)», «Сеймовая борьба православного



западнорусского дворянства с церковной унией», «Кобринский собор и Торуньский сейм 1626 г.», «Варшавский сейм 1627 года и его значение в истории борьбы православных с унией», «Варшавский сейм 1628 года и крушение униональных планов Мелетия Смотрицкого», «Вопросы о примирении православных с униатами на Варшавском сейме 1629 года».

Працы П. Жуковіча сталі падмуркам надрукаванага ў «Записках НТШ» даследвання Івана Крып'якевіча «Нові матеріяли до історії соборів 1629 р.», у якой аўтар удакладняе некаторыя высновы П. Жуковіча з дапамогай новых матэрыялаў, знойдзеных у рукапісным аддзеле Нацыянальнага музея імя А.Шаптыцкага ў Львове [20, с. 5–39].

Як вядома, беларускія і ўкраінскія землі сталі адным з прытулкаў старавераў і рэлігійных цэнтраў расколу. Таму не выпадкова «Записки НТШ» высока ацанілі фундаментальную манаграфію М.І.Ліляева «Из истории раскола на Ветке и в Стародубе XVII – XVIII вв.» (Вып. I. Кіев, 1895) [3, с. 19–20].

Асобна трэба сказаць пра працы польскіх гісторыкаў, якія даследвалі тыя падзеі канфесійнай гісторыі на беларускіх землях, што датычылі агульнага мінулага народаў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Яны таксама не заставаліся па-за ўвагай супрацоўнікаў «Записак НТШ». Напрыклад, праца доктора Фіялека «Średniowieczne biskupstwa kościoła wschodnego na Rusi i Litwie», прысвечаная 300-годдзю Берасцейскай уніі [5, с. 22–26]. Альбо артыкул з «Przegląnda Historycznego» пра лёс Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, прадстаўніка беларускай магнатэрыі, спачатку пратэстанта, які з 1574 г. стаў адным з натхняльнікаў контррэфармацыйнага руху. Аўтар змястоўнай рэцэнзіі Олекса Назаріів зазначае, што артыкул «представляє значний історичний інтерес, ілюструючи національно-культурні (і навіть політичні) відносини в Литовсько-Руській державі і Польщі кінца XVI і початку XVII в. При тім дає вона цікаву характеристику морального єства тих осіб, на яких опирався католицько-польонізаційний рух в своїм завойовничім поході на Схід, та тих способів, які уважали можливим уживати діячі сього руху підчас виконування своєї «культурной міссії на Сході» [17, с. 184].

Падсумуем некаторыя высновы. Беларуская тэма даволі часта закранался на старонках «Записак НТШ». Прычым сярод гістарычных сюжэтаў значнае месца займаюць падзеі беларускай канфесійнай гісторыі. Гэта датычыць становішча праваслаўнай царквы у перыяд Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, праблем звязаных з гісторыяй уніяцтва, жыццём царкоўных дзеячоў, гісторыяй храмаў і манастыроў. Нязменную ўвагу «Записак НТШ» прыцягвалі публікацыі гістарычных крыніц, якія мелі значэнне не толькі для беларускай, але і для ўкраінскай канфесійнай гісторыі. Сярод аглядальнікаў і рэцэнзентаў беларускіх прац былі такія зоркі першай

велічыні ўкраінскай гуманістыкі як Міхайла Грушэўскі і Іван Франко. Улічваючы, што якраз у гэты час, на мяжы XIX – XX стагоддзяў, праходзіла станаўленне беларускай і ўкраінскай нацыянальных гістарыяграфій, увага і адлюстраванне канфесійнай гісторыі Беларусі на старонках «Записак НТШ» трэба вызначыць як адзін з першых крокаў на шляху іх супрацоўніцтва.

На заканчэнне адзначым цікавую дробязь бібліяграфічнага характэра: шмат якія гадавыя камплекты «Записак НТШ», што захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, сярод іншых маюць прамавугольны штамп: BIBLIOTHEQUE UKRAINIENNE SIMON PETLURA A PARIS.

*Спіс крыніц і літаратуры*

1. Голубев, С. Материалы для истории западно-русской церкви (XVIII стол.) / С. Голубев // Чтения в историческом обществе Нестора летописца. – Киев, 1896. – Кн. IX, X.
2. Записки НТШ. – 1895. – Кн. 3.
3. Записки НТШ. – 1896. – Кн. 5.
4. Записки НТШ. – 1897. – Кн. 6.
5. Записки НТШ. – 1898. – Кн. 2.
6. Записки НТШ. – 1899. – Кн. 1.
7. Записки НТШ. – 1899. – Кн. 3.
8. Записки НТШ. – 1900. – Кн. 1.
9. Записки НТШ. – 1901. – Кн. 1.
10. Записки НТШ. – 1901. – Кн. 5.
11. Записки НТШ. – 1902. – Кн. 4.
12. Записки НТШ. – 1903. – Кн. 6.
13. Записки НТШ. – 1905. – Кн. 5.
14. Записки НТШ. – 1905. – Кн. 6.
15. Записки НТШ. – 1907. – Кн. 6.
16. Записки НТШ. – 1909. – Кн. 2.
17. Записки НТШ. – 1912. – Кн. 5.
18. Записки НТШ. – 1912. – Кн. 6.
19. Записки НТШ. – 1913. – Кн. 1.
20. Записки НТШ. – 1913. – Кн. 4.
21. Киштымов, А.Л. Пересечение параллельных: М.В.Довнар-Запольский, М.С.Грушевский и «Записки НТШ» / А.Л. Киштымов // Пятыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні (Рэчыца, 22 – 23 верасня 2005 г.). – Гомель, Гомельск. дзярж. ун-т імя Ф.Скарыны, 2005. – С. 62 – 78.
22. Яцимирский, А.И. Григорий Цамблак, очерк его жизни, административной и книжной деятельности / А.И. Яцимирский. – СПб., 1904.

**Кіштымаў Андрэй Леанідавіч** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры паліталогіі і гуманітарных дісцыплін Інстытута прадпрымальніцтва і парламентарызма.



УДК 2-67:303.446.4(476)

**В.Н. Линкевич** (Гродно)

# КОНФЕССИОНАЛЬНАЯ ПРОБЛЕМАТИКА В РАБОТАХ Е.Ф. ОРЛОВСКОГО

*Статья посвящена церковному историку и краеведу Е.Ф. Орловскому. В его трудах получили должное освещение история православия на Гродненщине, взаимоотношения православной и католической конфессий, отдельные аспекты конфессиональной политики. Представленный в них фактический материал, а также отдельные суждения и выводы автора представляют интерес и значимость для современной исторической науки.*

Конфессиональная история Беларуси привлекала к себе внимание многих исследователей. На протяжении XIX – начала XX века вышли в свет многочисленные труды отечественных историков и краеведов, в которых получили освещение различные её аспекты: конфессиональная политика властей, положение вероисповеданий, храмостроительная, миссионерская, благотворительная и культурно-просветительская деятельность церквей, развитие духовного образования, деятельность церковных братств, межконфессиональные отношения и т.д. В основном их авторами являлись выходцы из среды православного духовенства, для которых изучение истории Белоруссии органически сочеталось с борьбой за утверждение православия. К таковым принадлежал и Е.Ф. Орловский.

Евстафий Филаретович Орловский (1863 – 1913) родился в селе Словенск Ошмянского уезда Виленской губернии (ныне Минская область) в семье священника. Как и многие его коллеги, начальное образование он получил в духовном училище в Вильно, затем прошёл курс обучения в Литовской духовной семинарии. Высшее образование получил в Петербургском историко-филологическом институте. По его окончании в 1885 г. был назначен учителем греческого языка и истории в Гродненскую гимназию, которой и посвятил всю свою педагогическую деятельность. Одновременно он активно занимался общественной и краеведческой работой, являясь членом Гродненского Софийского православного братства и сотрудником Северо-Западного отдела Русского географического общества и Гродненского церковно-археологического комитета.

Вопросы истории конфессий в крае нашли широкое отражение в фундаментальной работе Е. Орловского «Гродненская старина» (Гродно, 1910), а также в специальном труде «Судьбы православия в связи с историей латинства и унии в Гродненской губернии в XIX столетии (1794 – 1900)» (Гродно, 1903), других работах [3; 4]. В них

учёный осветил отдельные аспекты истории православия на Гродненщине, а также показал непростые отношения между православной церковью и католическим костёлом. При этом Орловский, как и другие церковные историки и краеведы (М. Коялович, П. Жукович, С. Рункевич, Л. Паевский и др.), являлся активным сторонником укрепления в Белоруссии русского влияния и православия и противником полонизации края и католицизма. Исходя из таких позиций, он давал характеристику конфессиональной ситуации на Гродненщине.

В своих трудах Орловский положительно оценивал включение Белоруссии в состав Российской империи. Это, по его мнению, обеспечило экономическое и культурное развитие региона, содействовало возвращению его жителей к традиционной религии – православию. В этом отношении наиболее значимым событием стало воссоединение униатов с православной церковью, что привело к заметному укреплению православного влияния в тогдашнем Северо-Западном крае, о чём свидетельствовал рост численности православных верующих, духовенства, церквей и монастырей.

Орловский не обошел вниманием и те проблемы, которые вставали на пути возрождения православия. Прежде всего, это тяжёлое материальное положение церквей и православного населения. На это неоднократно указывал в своих обращениях к светским и вышестоящим духовным властям литовский митрополит Иосиф (Семашко). Так, в сообщении в Синод от 10 февраля 1857 г. отмечалось, что «…православное население края состоит исключительно из крестьян, не могущих поддерживать свои церкви, – отчасти по бедности, а от части – по крепостной зависимости от помещиков, принадлежащих к другому, римско-католическому исповеданию, к которому принадлежат также управители имений» [5, с. 199]. Такая ситуация способствовала тому, что некоторая часть православных крестьян под влиянием пропаганды католического духовенства перешла в католицизм. Ярким примером того было так называемое «Порозовское дело» [5, с. 207 – 208].

Значительное место в работе Орловского «Судьбы православия…» отедено характеристике конфессиональной ситуации на Гродненщине накануне и в период польского восстания 1863 года. Здесь он обратил внимание на различное отношение к событию православного и католического клира. Католическое духовенство, по его мнению, выступило одной из главных движущих сил восстания. «Польско-католическая партия, – отмечает Орловский, – окрыляемая молчаливым потворством генерал-губернатора Назимова, подняла голову и подготовляла, почти открыто, мятеж 1863 г. Римско-католические костёлы во время этого движения играли далеко не пассивную роль…



Повсюду устраивались торжественные богослужения, крестные ходы, пение в костёлах польских патриотических гимнов и собирание «офяр» (пожертвований деньгами и вещами) на дело мятежа (в Гродно демонстрациями выделился Фарный костёл)» [5, с. 240].

Что касается православного клира, то он следовал в духе особого секретного «предписания» литовского митрополита Иосифа, которое он направил своему духовенству ещё в декабре 1861 г. В нём осуждались «смуты», возбуждаемые «польской партией» и содержался призыв сохранять лояльность к властям.

Действовать в таком духе православным пастырям было крайне сложно, так как на них оказывалось давление со стороны польских помещиков и повстанцев. «Положение православного духовенства было весьма тяжёлое. «Поляки-помещики, от которых духовенство зависело в материальном отношении, – отмечает Орловский, – оказывали нравственное давление на православных священников, заставляя оказывать содействие польской революционной пропаганде. Крестьяне, равно их руководители – православные священники, подвергались подговорам, обольщениям, угрозам, даже физическому насилию со стороны польских агитаторов» [5, с. 254].

Свои утверждения он подкрепляет и фактическим материалом, взятым из православной периодики и труда церковного историка Г. Киприановича [1]. В своё время сведения о насилиях в отношении священников в период восстания были опубликованы в «Литовских епархиальных ведомостях» за 1863 год в специальном разделе «Страдания православного духовенства Литовской епархии от польских мятежников». Нанесение оскорблений, проведение грабежей, избиений и даже убийств настоятелей церквей Гродненской губернии, имевшие место в это время, описывает в своей работе Орловский. Он показывает то, как жертвой «мятежников» стал священник Суражской церкви Белостокского уезда Константин Прокопович, который был жестоко избит, а затем повешен. «Подвергся издевательствам и глумлениям» и был убит священник с. Котра Пружанского уезда Роман Рапацкий [5, с. 262].

После подавления восстания 1863 г. в тогдашнем Северо-Западном крае происходило укрепление позиций православия. Это было связано, в первую очередь, с проведением политики деполонизации, а также с деятельностью виленского генерал-губернатора М.Муравьева, который предложил и начал проводить в жизнь целую программу мер по поддержке «господствующего» вероисповедания. Этно-конфессиональная политика властей и лично Муравьева достаточно высоко оценивалась и Е. Орловским, который посвятил начальнику Северо-Западного края отдельный труд [2].

В своём основном труде «Судьбы православия…» при рассмотрении конфессиональной ситуации на Гродненщине после восстания 1863 г. Орловский основное внимание уделяет вопросам храмостроительной и просветительской деятельности православной церкви, материальному обеспечению духовенства. В частности, он касается истории Александро-Невской церкви г. Гродно, решение о строительстве которой было принято в 1866 году. Православный храм строился на средства прихожан. Однако пожертвования на это благое дело, отмечает Орловский, внесли также служащие государственных учреждений, помещики, православное и католическое духовенство, городские и сельские общества. Свои подарки также прислали императрица и члены царской семьи, офицеры Ямбургского уланского полка, один московский купец, а евреи м. Лунно пожертвовали образ Господний [6, с. 4 – 5].

Значительное внимание Орловский уделил характеристике межконфессиональных отношений в регионе. Борьба католического и православного духовенства за паству приводила к переходам из одного христианского вероисповедания в другое и сопровождалась зачастую спорами, раздорами, конфликтами, которые иногда затягивались на десятилетия. В качестве такого яркого примера он приводит «Порозовское дело», когда перешедшие в православие затем вернулись в католичество. Это дело не было до конца разрешено вплоть до начала XX века. «Порозовская смута и в настоящее время не прекратилась, – указывает Орловский. – Ещё в 1900 г. уклонились от исповеди и св. причастия в православной церкви 167 человек» [3, с. 48]. При этом главным виновником сложившейся ситуации он считал католическое духовенство, которое стремилось «совратить» верующих из православия, не замечая, что многие конфликты были обусловлены противоречивостью и непоследовательностью политики властей в религиозной сфере, в том числе отсутствием свободы вероисповедания.

Таким образом, следует отметить, что конфессиональная проблематика заняла в трудах Е. Орловского значительное место. Работы ученого носят преимущественно описательный характер и в методологическом отношении с позиций сегодняшнего дня они могут быть подвергнуты критике. Однако, в них содержится богатый фактический материал, использование которого позволяет составить более целостное представление об истории конфессий на Гродненщине, в Белоруссии. И это придает работам Орловского важность и значимость для современной исторической науки.



*Список источников и литературы*

1. Киприанович, Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до нашего времени / Г.Я. Киприанович. – Вильно, 1895.
2. Орловский, Е.Ф. Граф М.Н. Муравьев как деятель над укреплением прав русской народности / Е.Ф. Орловский. – Гродно, 1898.
3. Орловский, Е.Ф. Красностокский монастырь (Исторический очерк) / Е.Ф. Орловский. – Вильно, 1905.
4. Орловский, Е.Ф. Симеоновская церковь города Гродно / Е.Ф. Орловский // Гродненские губернские ведомости. – 1901. – № 1.
5. Орловский, Е. Ф. Судьбы православия в связи с историей латинства и унии в Гродненской губернии в XIX столетии (1794 – 1900 гг.) / Е.Ф. Орловский // Гродненские епархиальные ведомости за 1901 год. – Гродно, 1901.
6. Орловский, Е. Ф. Судьбы православия в связи с историей латинства и унии в Гродненской губернии в XIX столетии (1794 – 1900 гг.) / Е.Ф. Орловский // Гродненские епархиальные ведомости за 1902 год. – Гродно, 1902.

**Линкевич Виктор Николаевич** – кандидат исторических наук, преподаватель кафедры истории славянских государств Гродненского государственного университета имени Янки Купалы».

УДК 2-67(476):303.446.4(476)

**Т.И. Козлова** (Гродно)

# ЕПИСКОП АФАНАСИЙ (МАРТОС) О КОНФЕССИОНАЛЬНОЙ ТРАНСФОРМАЦИИ НАСЕЛЕНИЯ БЕЛАРУСИ В 1772 – 1917 гг.

*Статья проливает свет на исторические взгляды епископа Афанасия на конфессиональные процессы, присходившие в Беларуси в 1772 – 1917 гг. Отмечается, что период нахождения Беларуси в рамках Российской империи, Афанасий Мартос рассматривал как существенно изменивший в «благую» сторону для православия конфессиональную ситуацию белорусского края, а уничтожение Брестской церковной унии как положительное явление.*

Имя епископа Афанасия (Мартоса) уже достаточно часто используется в отечественной историографии, но еще не стало достоянием широкой общественности. Магистр богословия Варшавского университета, епископ Витебский и Полоцкий, владыка, он создал синтетический труд «Беларусь в исторической государственной и церковной жизни», где раскрыл этнокультурный и политический фон событий прошлого Беларуси, предопределивший

судьбу православия на особо значимых для автора страницах истории Отечества.

Деятельность и исторические взгляды епископа Афанасия вызывают противоречивую оценку: в период фашисткой оккупации Беларуси он участвовал в создании «Белорусской Автокефальной Православной Национальной Церкви» под очевидным патронажем германского агрессора [1, с. 6] Отрицая христианское мировоззрение и традиции, нацисты преследовали цель создания политизированного марионеточного варианта церкви [2, с. 20]. Коллаборационизм стал причиной вынужденной эмиграции еп. Афанасия в 1945 г. в Германию, где работа над «Беларусью…» завершилась в 1957 г. изданием для белорусской диаспоры. Повторно книга вышла в 1966 г. в Буэнос-Айресе. В 1990 г. и 2000 гг. она была переиздана усилиями Белорусского Экзархата.

Православное мировоззрение понятным образом расставляло акценты в данном исследовании конфессиональной истории Беларуси. Историографическую базу работы составили труды историков с четко выраженной концепцией: М. Кояловича, И. Чистовича, М. Довнар-Запольского, В. Ластовского и др. Разные эпохи, школы и направления, тем не менее, составили фундамент исторической концепции автора, в определенной степени субъективной.

Включение Беларуси в состав Российской империи, по мнению епископа Афанасия, привело к белорусскому национальному возрождению, однако, было связано с реакцией ополяченной белорусской шляхты на российское начало, возобладавшее в белорусской действительности. Фактор воздействия Российского государства на конфессиональную ситуацию владыка понимал очень ясно, однако униатов он искренне считал духовно родственными православию. По его мнению, униаты стали массами присоединяться к православию без всяких усилий со стороны российского правительства и без всякой заботы о сохранении унии со стороны ее последователей. Особенно поразительным, по мнению автора, было быстрое исчезновение унии после второго и третьего раздела Польши: с августа 1784 г. по март 1785 г. присоединились к православию 1483111 прихожан, 2603 церкви и 1552 священника [3, с. 248]. Негативную оценку епископ дает деятельности базилианского униатского ордена, который через просветительскую и образовательную миссию воспитывал молодежь в симпатии католичеству.

Уничтожение Брестской унии владыка оценивал как явление положительное и добровольное и как результат «осмысленной и осторожной миссионерской работы» [3, с. 258]. Случаи добровольного присоединения владыка приписывал не только желанию народа, но и



активной работе православных иерархов. Он отмечает с удовлетворением тот факт, что епископ полоцкий Смарагд в течение июля 1833 г. принял в лоно православия 4000 униатов, а к концу 1835 г. присоединил еще 124 130 человек, 91 церковь с прихожанами и 9 приписных церквей. Впрочем, насильственные методы обращения, как, например, приказ минского вице-губернатора согнать в Вилейку всех униатов из окрестных деревень и насильственно «воссоединиться с Православной Церковью», владыка осуждал, а случаи антиправославных выступлений священников Витебской, Минской и Могилевской губерний трактовал как влияние «латинской пропаганды».

Положение Римско-католической церкви под властью России епископ Афанасий оценивал, с одной стороны, как довольно затруднительное в условиях активного вмешательства светской власти, а, с другой, обвинял костел в религиозной экспансии и полонизации Беларуси, отмечая активную миссионерскую деятельность местных помещиков, которые «совращали в латинский обряд» своих крестьян. Религиозный фанатизм и польский патриотизм владыка неизменно считал присущими католическим священникам и монахам, которые легко увлекали в свою веру народ, не знавший вероисповедных расхождений между католичеством и православием. Нажим и успех католического миссионерства особенно процветал в среде униатов, наиболее подверженных проповеди костела: после третьего раздела Речи Посполитой под влиянием пресловутой «польско-латинской пропаганды» около 200 000 белорусских униатов перешли в католичество. Такое положение продолжалось в течение XIX и начала XX века. «Указ о веротерпимости» 1905 г. владыка характеризовал как уступку «польско-латинской пропаганде», которая позволила перейти в римо-католичество более 40 000 белорусов.

Переплетая этнический и конфессиональный компонент, епископ Афанасий в жизни белорусского народа в целом видел «многовековую борьбу двух народных стихий – польско-латинской и белорусско-православной [3, с. 285].

Успех прозелитизма православия автор «Беларуси…» честно объяснял «переходом в православную веру» униатов, отмечая и содействие государственной власти, которое в данном ключе оценивал как безусловно положительное. Если до первого раздела Речи Посполитой в Беларуси в 1772 г. существовала только одна православная епархия с кафедрой в Могилеве, то к началу Первой мировой войны в Беларуси действовало уже пять епархий: Виленско-Литовская, Гродненско-Брестская, Минско-Туровская, Могилевско-Мстиславская и Полоцко-Витебская. Однако то обстоятельство, что в синодальный период РПЦ находилась в зависимости от государства,

оценивалось владыкой, как и упразднение патриаршества, «противным священным канонам». Бюрократизация церковной жизни воспринималась епископом Афанасием как чуждая религиозному духу.

Таким образом, труд епископа Афанасия (Мартоса) «Беларусь исторической государственной и церковной жизни» под определенным углом зрения характеризует политический и конфессиональный процессы, имевшие место в истории Беларуси X – XX вв., выделяя период нахождения нашего Отечества в рамках Российской империи как существенно изменивший в «благую» сторону для православия конфессиональную ситуацию белорусского края.

*Список источников и литературы*


1. Силова, С.В. Крестный путь / С.В.Силова. – Минск: Белорусский Экзархат, 2004. – 78 с.
2. Бастун, Д.Ю. Канфесійныя пытанні ў палітыцы нямецкіх акупацыйных улад на тэрыторыі Беларусі (1941 – 1944) / Д. Бастун // Веснік БДУ. – Сер. 3. – 2005. – № 2. – С. 17 – 21.
3. Афанасий (Мартос). Беларусь в исторической государственной и церковной жизни / А. Мартос. – Минск: Белорусский Экзархат, 2000. – 379 с.



**Козлова Татьяна Игоревна** – магистр исторических наук, аспирант, Гродненский государственный университет имени Янки Купалы.



УДК 930.1:2-63(476)



**М.В. Стрелец, М.А. Коршак** (Брест)


# ИССЛЕДОВАНИЕ ИСТОРИИ ХРИСТИАНСТВА В ГРОДНЕНСКОМ ГОСУДАРСТВЕННОМ УНИВЕРСИТЕТЕ ИМЕНИ ЯНКИ КУПАЛЫ


*В статье анализируется деятельность представителей гродненской исторической школы по изучению конфессиональной истории. Отмечается вклад в науку таких гродненских историков, как Я.Н. Мараш, Т.Б. Блинова, С.В. Морозова, Г.В. Васюк, Э.С. Ярмусик, А.Н. Загидулин.*


Гродненская историческая школа широко известна в научном сообществе. В соответствии с тематикой настоящего круглого стола авторы доклада останавливаются на её вкладе в разработку проблем истории христианства. В связи с тем, что из всех гродненских вузов соответствующий исследовательский процесс касался только



Гродненского государственного университета имени Я. Купалы (ГрГУ), речь, разумеется, будет идти исключительно об учёных данного университета. Этот процесс полностью совпадает во временном отношении с историей ГрГУ, которая включает советский и постсоветский периоды.

В советский период учёные ГрГУ действовали в жёстких рамках, заданных идеологами КПСС. Они строго придерживались марксистско-ленинской методологии, выполняли социальный заказ атеистического по своей сущности политического режима. В то же время они ввели в научный оборот большое количество новых документов и материалов, сформулировали ряд оригинальных концепций, поставили вызвавшие широкий резонанс в исследовательском корпусе научные проблемы. Именно в данный период сформировалась школа Якова Наумовича Мараша.

Доктор исторических наук, профессор Я.Н. Мараш, во-первых, задавал планку в исследовательском процессе и, во-вторых, в интенсивном режиме занимался подготовкой научной смены. «Основные темы научных исследований… (профессора были таковы.– **М.С., М.К.**): история католической церкви на территории Беларуси и Литвы (преимущественно 16–18 в.); земельная собственность епархий и монашеских орденов; положение крестьянства в церковных владениях; роль Ватикана и иезуитов в подготовке Брестской унии 1596 г.; борьба католического духовенства против идей вольнодумства и атеизма» [3]. В 1979 г. его ученица Тамара Борисовна Блинова защитила кандидатскую диссертацию «Орден иезуитов в Беларуси – крупный собственник и эксплуататор народных масс (конец XVI в. – 1774 г.)» [2, с. 36]. Через четыре года в этом качестве выступает Светлана Валентиновна Морозова, которая под руководством Якова Наумовича подготовила диссертацию «Брестская церковная уния 1596 г. и борьба народных масс Белоруссии против национально-религиозного гнёта (1596 – 1667 гг.)» [2, с. 262]. Профессор руководил и начальным этапом работы Геннадия Владимировича Васюка над кандидатской диссертацией «Православная церковь в Речи Посполитой в 80-е – 90-е годы XVI – первой половины XVII века» [2, с. 59]. После смерти Я.Н. Мараша соответствующий процесс был доведён до логического завершения известным минским специалистом, доктором исторических наук Георгием Яковлевичем Голенченко.

В постсоветский период учёные ГрГУ работают в принципиально новых условиях. Государство перестало быть атеистическим, в стране установилась подлинная демократия, стали реальностью плюрализм

мнений, творческая свобода представителей исследовательского корпуса, рухнул железный занавес, были рассекречены многие архивные фонды. Разумеется, всё это предопределило резкое повышение качества научных работ профессорско-преподавательского состава, аспирантов, магистрантов, студентов.

Специфика данного периода состояла также в том, что корпус исследователей истории христианства пополнили преподаватели ГрГУ, на формирование исторического мировоззрения которых большое влияние оказал Я.Н. Мараш и которые при его жизни не были вовлечены в соответствующую сферу научных поисков, обращаясь к совершенно иным сюжетам (Эдмунд Станиславович Ярмусик, Валерий Николаевич Черепица) [2, с. 421, 456]. В рамках анализируемого периода вышеупомянутые ученики Якова Наумовича продолжили заниматься теми же проблемами, что и в советское время. В указанный период велась и работа над кандидатскими диссертациями по истории христианства.

Кандидаты исторических наук, доценты Т.Б. Блинова, Г.В. Васюк отметились рядом публикаций в солидных изданиях. Доктор исторических наук, профессор С.В. Морозова стала широко известна фундаментальными исследованиями этнокультурного и историографического аспектов деятельности униатской церкви на белорусских землях в 1596 – 1839 гг. Не будет преувеличением утверждать, что она своими глубокими работами открыла новый этап в изучении этой церкви в постсоветской Беларуси.

Декан факультета истории и социологии Гродненского государственного университета имени Янки Купалы, кандидат исторических наук, доцент Э.С. Ярмусик впервые в белорусской науке провёл комплексное исследование истории католического Костёла в Беларуси в 1939 – 1991 гг. В рамках данного исследования был предложен авторский вариант периодизации этой истории, преодолена её обезличенность, восстановлена правда о политических репрессиях по отношению к католическому духовенству, осуществлена системная реконструкция советско-ватиканских отношений.

Кандидат исторических наук, профессор В.Н. Черепица на солидном уровне исследовал историю Православной Церкви на Гродненщине. Его соответствующие заслуги были отмечены Памятным знаком Белорусского Национального оргкомитета «2000 год хрысціянству» [2, с. 421].

В 2005 году Алексей Николаевич Загидулин защитил кандидатскую диссертацию «Национальная и конфессиональная политика польских



властей в отношении к белорусскому населению Западной Беларуси (1921 – 1939 гг.)». Научным руководителем настоящей работы являлся Почётный профессор ГрГУ, Заслуженный работник образования Республики Беларусь, профессор Иван Платонович Крень.

Таким образом, учёные Гродненского государственного университета имени Я. Купалы внесли серьёзный вклад в исследование истории христианства.

*Список источников и литературы*

1. Марозава Святлана Валянцінаўна // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. / Беларус. Энцыкл.; рэдкал.: Г. П. Пашкоў (галоўны рэд.) [і інш.]; маст. Э.Э Жакевіч. – Мінск: БелЭн, 2003. – Т. 5.– С. 79.
2. Корзенко, Г.В. Историки Беларуси в начале XXI столетия: библиогр. справ. / Г.В.Корзенко. – Минск: Белорусская наука, 2007. – 470 с.
3. Фёдараў, І. Мараш Якаў Навумавіч / І. Фёдараў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. / Беларус. Энцыкл.; рэдкал.: Г. П. Пашкоў (галоўны рэд.) [і інш.]; маст. Э.Э Жакевіч. – Мінск: БелЭн, 2003. – Т. 5. – С.73.

**Стрелец Михаил Васильевич** – доктор исторических наук, профессор, Брестский государственный технический университет.

**Коршак Михаил Антонович** – кандидат исторических наук, доцент, Брестский государственный университет имени А.С. Пушкина.

# ХРЫСЦІЯНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ

УДК 930.272(476):2-634(476)

**У.І. Каяла** (Гродна)

## ПРАБЛЕМА ХРЫСЦІЯНІЗАЦЫІ БЕЛАЙ РУСІ ПАВОДЛЕ СТАРАЖЫТНЫХ ЛЕТАПІСАЎ

*Статья посвящена процессу христианизации белорусских земель и его освещению на страницах летописей.*

Хрысціянства ўзнікла ў I ст. н.э. па ўсёй тэрыторыі Рымскай імперыі. Аднак яе распад у 395 г. прывёў да распаду і хрысціянскай царквы на рымска-каталіцкую і грэка-праваслаўную. У 1054 г. адбыўся канчатковы разрыў паміж усходняй і заходняй царквой. Пануючымі сталі два веравызнанні – праваслаўе і каталіцызм.

У 988 г. кіеўскі князь Уладзімір, пасля шматлікіх ваганняў, усё ж прыняў хрысціянства. Неадкладна былі накіраваны ягоныя пасаднікі ва ўсе княствы, падуладныя Кіеву. Услед за імі ў Тураўскія, Полацкія, Наўгародскія землі з мэтай прапаганды хрысціянства выехалі місіянеры, у тым ліку грэчаскія і балгарскія. На тэрыторыі многіх княстваў пачалі ствараццa царкоўныя акругі – епархіі на чале з епіскапам. Паводле «Аповесці мінулых гадоў» у Полацку яна ўзнікла ў 992 г., Тураве – 1005, Смаленску – 1137 г. Людзі пад уздзеяннем мяча і агня або княскай міласці прымалі святое хрышчэнне. У Тураве, напрыклад, да нашага часу захаваліся каменныя крыжы, якія быццам бы прыплылі па вадзе, спыніліся насупраць горада і вада ў рацэ стала чырвонай ад крыві. Гэта, відаць, намёк на гвалтоўнае ўвядзенне хрысціянства ў асобных месцах. Працэс хрысціянізацыі быў вельмі няпросты, ён расцягнуўся на стагоддзі, бо зламаць спрадвечную веру паганцаў у сваіх багоў было вельмі складана. Пад 1105 годам «Аповесць мінулых гадоў» паведамляе, што мітрапаліт паставіў епіскапам у Полацку Міну 13 снежня. З гэтага часу, па меркаванні царкоўных гісторыкаў, і пачаўся працэс хрысціянізацыі беларускіх зямель, якому давялося прайсці супярэчлівы і крывавы, доўгі і суровы шлях станаўлення. Першай хрысціянкай у Полацкай Русі стала, хутчэй за ўсё, Рагнеда, жонка Уладзіміра, пасля высылкі ў Ізяслаўль, дзе пабудавала першы манастыр, храм, і прапаведавала там хрысціянскае вучэнне.

У палітычнай і духоўнай галінах палітыкі дзяржавы прыняцце хрысціянства было справай прагрэсіўнай: наладжваліся сувязі з еўрапейскімі хрысціянскімі краінамі, развівалася пісьменства, з'явіліся першыя пераклады царкоўных кніг з грэчаскай і балгарскай моў. На Русі пачаў развівацца адзін з самых старажытных літаратурных жанраў – летапісанне.



Такой значнай палітычнай і духоўнай падзеі, як прыняцце хрысціянства на Белай Русі, надаюць шмат увагі беларуска-літоўскія летапісы. Падмурак для будучага Вялікага княства Літоўскага заклаў каля 1238 г. князь Міндоўг, у выніку аб'яднання ім у XIII ст. вакол стольнага горада Навагародка суседніх земляў. Маладой Літоўскай дзяржаве прыйшлося супрацьстаяць магутнаму Лівонскаму і Тэўтонскаму ордэну. Папа рымскі благаславіў гэтыя ордэны на аб'яднанне, каб з іх дапамогай ахрысціць паганскую Літву. Гэта была сур'ёзная небяспека, таму разумны і хітры Міндоўг, каб адвесці яе ад Літвы, прыняў у 1252 г. у Навагародку святое хрышчэнне. Сам папа прыслаў яму каралеўскую карону як хрысціянскаму гаспадару. Але на самой справе Міндоўг захаваў сваю паганскую веру: «Ён заўсёды ахвяры складаў патаемна багам сваім… і целы мёртвых спальваў, і паганства сваё яўна вызнаваў» [1, с. 81]. Сваёй жорсткай палітыкай нямецкія рыцары ў 1260 г. прывялі Літву да паўстання, якое ўзначаліў Міндоўг. Ён нанёс сакрушальнае паражэнне рыцарскаму ордэну і тут жа адкрыта адрокся ад хрысціянства. У рускіх летапісах князі-паганцы заканамерна гінулі, а князі-хрысціяне паміралі сваёй смерцю. Такой пазіцыі, відаць, прытрымліваўся і аўтар «Хронікі Быхаўца». Міндоўг і два яго сыны былі забітыя князем Даўмонтам. Нешта падобнае на дахрысціянскае і пасляхрысціянскае жыццё Уладзіміра Хрысціцеля назіралася і за сынам Міндоўга Войшалкам. Летапісец так характарызаваў гэтага князя: «Войшалк кожны дзень забіваў па тры і па чатыры чалавекі, у які дзень не забіваў нікога, дык бываў маркотны і неспакойны, а калі заб'е каго, дык развесяліцца» [3, с. 109], «І ў Ляхах шмат кравапраліцця чыніў, і зямлю Ляшскую спустошыў, і гарады ляшскія» [1, с. 84]. Усвядоміўшы і, відаць, асэнсаваўшы свае грахі, ахрысціўся ў рускую веру, прыняў пострыг у манастыры пры царкве святога Данііла. Але пасля забойства бацькі скінуў рызы і па паганскаму звычаю адпомсціў усім ворагам Міндоўга. Праз тры гады ён вяртаецца ў манастыр, замольвае грахі і займаецца распаўсюджваннем хрысцінства. Па сутнасці гэта адзін з першых манахаў-падзвіжнікаў на Белай Русі. Але былыя праграшэнні недаравальныя. Таму і быў забіты князем Львом Уладзімірскім.

Новым гаспадаром ВКЛ становіцца ягоны сын Швінтарог. Гэта закаранелы паганскі князь. Менавіта ён загадаў сыну Скірмунту спаліць яго пасля смерці, а на тым месцы каб «было жэглішча ўчынена» і на ім спальвалі ўсіх князёў літоўскіх і баяраў, калі памруць. Каля кожнага

цела клаліся рысіныя або мядзвежыя кіпці, бо хоць і былі паганцамі, але верылі, што на судным дні Бог сядзе на высокай гары і будзе судзіць жывых і мёрвых. А на тую гару «цяжка будзе ўзыйсці без тых кіпцяў». Скірмунт выканаў волю бацькі, і там, дзе «рака Вільня ў Вяллю ўпадае, ён учыніў жэглішча і там цела бацькі свайго спаліў, і каня ягонага, на якім той ездзіў, і шаты ягоныя, што насіў, і мілосніка ягонага, да якога той меў ласку, і сокала, і харта ягонага спаліў» [1, с. 85]. І празвалі тое месца Швінтарог, паводле імя вялікага князя.

Перад чытачом праходзіць цэлы шэраг літоўскіх князёў-паганцаў, якія заканчваюць род Кітаўрасаў: Трабус, Гілігін, Раман, Нарымонт, Тройдзен, Рымант. І толькі Рыманту спадабалася хрысціянская вера і «ахрысціўшыся, ён зразумеў, што гэты свет нічога не значыць, і, пакінуўшы свет, пастрыгся ў чарняцы, і далі яму імя Лаўраш» [1, с. 87]. У Навагародскім павеце каля ракі Нёман Рымант збудаваў манастыр, які атрымаў назву Лаўрашаў. Але дух паганства не пакідаў яго. Пасля забойства бацькі (Тройдзена) ён, як і ў свой час Войшалк, здымае рызы і помсціць забойцам. Перад тым, як вярнуцца ў манастыр, Рымант раіць абраць на гаспадарства Літоўскае Віценя, маршалка Тройдзена, што і было ўчынена.

Пачаўся новы радавод літоўскіх князёў з пакалення Калюмнаў. Пра адносіны Віценя да хрысціянства аўтары беларускіх летапісаў не ўпамінаюць. Аднак у іншых крыніцах гаворыцца пра тое, што Віцень і ягоны сын Гедымін былі паганцамі. Калі Гедымін, будучы вялікім князем, аднойчы на паляванні забіўшы тура, заначаваў не дзе-небудзь, а на жэглішчы швінтарога, дзе спальвалі літоўскіх князёў. Сон пра жалезнага воўка яму растлумачвае варажбіт – паганскі поп Ладзейка.

Але, да гонару Гедыміна, ён з павагай адносіўся да праваслаўя. Дзве апошнія яго жонкі былі праваслаўнымі, з сямі сыноў чацвёра таксама прынялі праваслаўную веру.

Сын Гедыміна Кейстут, прыхільнік паганскага веравызнання, заваяваў Вільню і ўсю ўладу аддаў свайму брату Альгерду. Альгерд, заўзяты паганец, быў князем разумным, храбрым, але вельмі хітрым і скрытным. У маладосці ён шмат часу правёў у Віцебску і Полацку; сярод беларускага асяроддзя быў выхаваны ў нацыянальным духу, гаварыў па-беларуску і стаў прыхільнікам праваслаўя. Перад жаніцьбай на княжне Марыі Віцебскай ён прымае хрост і праваслаўнае імя Аляксандр. Будучы Вялікім князем Літоўскім, Альгерд дазваляе святару Нестару, якога Марыя прывязла ў Вільню з Віцебска, прапаведаваць хрысціянства, будаваць цэрквы. Дзеці яго таксама былі праваслаўнымі. Пры Альгердзе беларуская мова стала дзяржаўнай; на ёй пісаліся законы і нават заключаліся дагаворы з іншымі краінамі, як, напрыклад, з Польшчаю. Але нягледзячы на сваю прыхільнасць да праваслаўя, ён



трымаў у тайне сваё хрышчэнне, выконваў усе паганскія абрады і звычаі, патрабаваў таго ж ад сваіх прыдворных. Альгерд абапіраецца на моцную ў той час партыю літоўцаў-паганцаў, прыслухоўваецца да парадаў іх лідэра – галоўнага літоўскага жраца Крыве-Крывейты, які меў вялікі ўплыў на народ і мог настроіць яго супраць князя. Менавіта пры Альгердзе прынялі пакутніцкую смерць тры яго знатныя прыдворныя Нежыла, Кумец і Круглец, ахрышчаных Нестарам пад імем Антоній, Іаан і Еўстафій. Альгерд даў згоду на іх пакаранне праз павешанне, пасля доўгіх катаванняў. На крыві гэтых святых пакутнікаў і ўсталёўвалася праваслаўная царква ў Літве, дзе яшчэ не было веры рымскай, а толькі грэчаская. Першым, у сувязі з жаніцьбай на хрысціянцы, прыняў рымскую веру віленскі ваявода Пётр Гаштольд. Ён «прывез з Ляхаў 14 мніхаў-францішканцаў і з дазволу Вялікага князя Альгерда залажыў кляштар Маткі Божае ў Вільні, на сваім дварышчы, дзе цяпер двор віленскага біскупа» [1, с. 96]. Але віленскія хрысціяне паўсталі супраць распаўсюджання рымскай веры манахамі-францішканцамі, забілі іх і спалілі кляштар Пятра. Раззлаваны Альгерд загадаў пакараць смерцю 500 віленцаў. Як бачым, увядзенне абодвух рэлігійных накірункаў засноўвалася на шматлікіх ахвярах, крывавай разні і страшных пакутах насельніцтва. У многім тут віна вялікага князя. Тым не менш, на прыканцы жыцця Альгерд, пасля другой жаніцьбы на Ульляне Цвярской, стаў сапраўдным хрысціянінам, пабудаваў у Вільні царкву Прасвятой Багародзіцы, падараваў хрысціянам зямлю, дзе былі пакараны віленскія пакутнікі, пабудаваў на тым месцы Св. Троіцкі віленскі манастыр, а сам прыняў пострыг і ўзяў праваслаўнае імя Аляксей. Каталіцкая вера на той час не змагла выцесніць праваслаўную, бо «яна, да таго ж, мела дрэнных прадстаўнікоў у асобе рыцараў тэўтонскага і лівонскага ордэнаў, якія былі ненавісныя ў Літве за іх жорсткасць. Палова жыхароў Вільні да часу ўступлення на прастол Ягайлы была праваслаўная» [3, с. 112].

Сын Альгерда Ягайла, у хрышчэнні Якаў, быў хітрым і каварным, славалюбівым і беспрынцыповым. Калі паўстала пытанне аб ягоным шлюбе з польскай каралеўнай Ядзвігай, ён лёгка пагадзіўся прамяняць праваслаўе на каталіцтва, узяць імя Уладзіслаў і даць абяцанне акаталічыць усю Літву. У лютым 1387 г. Ягайла склікаў сойм, які прыняў пастанову, дзе гаварылася аб далучэнні ўсіх ліцвінаў да святой рымскай царквы, а калі спатрэбіцца, дык прымусова. Але хітры Ягайла, як высветлілася, і не думаў прымушаць праваслаўных мяняць сваю веру. Гэта датычылася толькі паганцаў. І калі тыя заявілі, што не здрадзяць сваім продкам, Ягайла загадаў заліць вадой свяшчэнны агонь Зніч, які знаходзіўся ў паганскім храме ў даліне Швінтарога. І калі паганцы ўбачылі бяссілле сваіх багоў супрацьстаяць насіллю, далі згоду на

хрышчэнне. Кожны, хто прымаў хрост, атрымліваў суконную кашулю і нагавіцы. Такі падарунак вельмі заахвоціў паганцаў, і 30000 чалавек, як піша ў сваёй хроніцы М.Стрыйкоўскі, было ахрышчана літаральна за некалькі месяцаў. Цікава, што браты Ягайлы і ягоныя родзічы ад праваслаўя не адракліся [3, с. 113], хоць гэта і спрэчнае пытанне. Іншыя крыніцы сведчаць аб тым, што Ягайла перайшоў у лацінства разам са сваім братам і дваюрадным братам Вітаўтам [2, с. 321]. Магчыма, Вітаўт заставаўся каталіком, спадзеючыся на каралеўскую карону ад папы рымскага або германскага імператара. Апошні і выслаў карону, але польская шляхта не прапусціла яе, баючыся незалежнасці Літвы.

Пасля шлюбу з Ядзвігай, Ягайла стаў каралём польскім. Ва ўпартай барацьбе за віленскі пасад з братам Ягайлы Скіргайлай перамогу атрымаў Вітаўт і сеў на Вялікім княжанні Літоўскім. Хоць ён і быў каталіком, але верацярпіма адносіўся да праваслаўных. Жамойць, будучы ў закладзе ў немцаў, не вытрымала іх здзекаў і запрасіла на гаспадарства Вітаўта і той прыняў іх да сябе. Ён загадаў ахрысціць усю Жамойць з паганскай веры ў хрысціянскую: «І ахрысціў ён усю зямлю Завельскую і касцёлаў шмат паставіў; таму і назвалі Вітаўта другім апосталам Божым, што ён з такога акрутнага (зацятага. – **У.К.**) паганства навярнуў тыя землі на веру хрысціянскую» [1, с. 121].

Пасля смерці Вітаўта Ягайла папрасіў князёў і паноў літоўскіх узяць за гаспадара ягонага брата Свідрыгайлу, але той нядоўга трымаўся на княжацкім стале. Увесь гэты час ён мужна адстойваў праваслаўе і нават выгнаў самых зацятых каталіцкіх духоўных асобаў з Княства. Але ў палітычных адносінах князь быў недальнабачным. Выступіў супраць роднага брата, распачаў вайну за ўладу з Жыгімонтам, для чаго пайшоў на змову з ордэнам крыжакоў, спаліў у Віцебску мітрапаліта Герасіма, які падтрымліваў Жыгімонта, здрадзіў праваслаўю і перайшоў у каталіцтва.

Падманным шляхам (быццам бы Свідрыгайла памёр) да ўлады прыходзіць Жыгімонт і распачынае жорсткія расправы са сваімі палітычным праціўнікамі і здраджвае інтарэсам Вялікага княства. Прапольская пазіцыя Жыгімонта адштрухнула ад яго народ. Ён адмяняе ўказ Ягайлы аб недатыкальнасці праваслаўных цэркваў і свабоды веравызнання. Мала таго, ён афіцыйна стварае інквізіцыю з правам караць ерэтыкоў (праваслаўных вернікаў. – **У.К.**) пад кіраўніцтвам паляка Мікалая Ленчынцкага. У Вялікім княстве «ён страшныя зверствы ўчыняў над падданымі сваімі, а асабліва над родам шляхецкім, бязлітасна хапаў іх і страшныя здзекі над імі чыніў, іх, бязвінных, караў і расправы ўчыняў такія, якія толькі вымысліць мог, над усімі княжатамі ды панятамі і над родам шляхецкім усіх земляў Літоўскіх, Рускіх і Жамойцкіх» [1, с. 129]. Праз гэтыя зверствы Жыгімонт і быў забіты феадаламі-змоўшчыкамі.



Новы кароль Польшчы і Вялікі князь Літоўскі Казімір, каталік па веравызнанню, не меў такой рашучасці, як Жыгімонт і, хоць любіў і ўпадабаў Літву, але вельмі хутка трапіў у поўную залежнасць ад польскай шляхты. Палякі патрабавалі прывесці да уніі Вялікае княства з разлікам у будучым пазбавіць яго незалежнасці. Ліцвіны аднадушна выступілі супраць уніі з Польшчай і зямельных уступак палякам, аб чым апавядае «Хроніка Быхаўца». Пад іх націскам Казімір аддае загад прапаведаваць ідэю уніі ў Літве, спецыяльным указам забараняе будаваць новыя цэрквы. Але праваслаўны люд Княства не прыняў і адхіліў ініцыятыву Казіміра, і яго разлікі падарваць пазіцыі праваслаўя ў Літве з трэскам праваліліся: «Канешне, будзь ён толькі вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім, дык не давялося б яму разрывацца на дзве часткі, часта супярэчыць самому сабе і вынікі ягоных спраў былі б больш важкія і значныя. Ды і занадта позна зразумеў ён тую небяспеку, што пагражала Вялікаму княству з боку Масковіі і Крыма. Час, калі можна было яе адвесці, Казімір упусціў» [4, с. 494].

Аляксандр Казіміравіч, які ўзначаліў Вялікае княства Літоўскае пасля смерці бацькі, быў чалавекам добрым і міласцівым, таму з самага пачатку княжання трапіў у залежнасць ад літоўскіх феадалаў і не мог вызваліцца ад гэтага цяжару да канца жыцця. У адрозненні ад свайго бацькі, які забараніў будаваць цэрквы, ён, атрымаўшы і Польскую карону, не прытрымліваўся гэтага загаду, глядзеў скрозь пальцы на будаўніцтва праваслаўных храмаў і манастыроў, каб супакоіць веруючых і падрыхтаваць падмурак да царкоўнай уніі. Тут быў і свой разлік: маскоўскі цар Іван ІІІ ужо даўно рыхтаваўся да вайны з Аляксандрам пад ідэйным прыкрыццём – абароны праваслаўя ў Літве, нягледзячы на тое, што ягоная дачка, Алена Іванаўна, была замужам за Вялікім князем. Але да сур'ёзнай вайны не дайшло, Іван ІІІ памёр, а на межах Літвы сканцэнтравалася 30-тысячнае татарскае войска. Аляксандр, разбіты паралюшам, ужо не мог кіраваць ваеннымі дзеяннямі і даверыў гэтую справу свайму прыбліжанаму – гетману Міхаілу Глінскаму. 10-тысячнае войска хрысціян-літоўцаў разбіла пераважаючае колькасцю войска татар-паганцаў, на што асабліва звяртае ўвагу аўтар «Хронікі Быхаўца». Гэтая перамога сімвалічная: яна падкрэсліла вынікі шматвяковай барацьбы хрысціянства з паганствам і поўную перамогу хрысціянства. Аляксандр – адзіны польскі кароль, які пахаваны ў Вільні.

Калі пачаўся вялікі паход супраць паганства, Літва, як бачым, была паўпаганскай, паўправаслаўнай дзяржавай. І гэтую раўнавагу трэба было зрушыць у нейкі бок. Арыентацыя ж саміх князёў залежала як ад унутранай палітычнай сітуацыі, так і знешняй. У ніводнага з іх не было мэтанакіраванай канцэпцыі ў пытаннях рэлігіі. Калі ў Вялікім княстве Літоўскім ад Міндоўга да Альгерда захоўвалася верацярпімасць, дык

астатнія стагоддзі адзначыліся крывавымі сутычкамі паміж веруючымі розных канфесій, таксама як і паміж князямі за ўладу, дзе выкарыстоўваліся ўсе вядомыя сродкі для ліквідацыі сапернікаў: атрута, наёмнікі, змовы. Ні пры адным літоўскім гападары не было спакою і міру; княжанне кожнага з іх – непрымірымая барацьба або за ўладу, або за новыя тэрыторыі. Рэлігійная падаплёка ў гэтым працэсе адыгрывала важнейшую функцыю. Васіль III, напрыклад, распачаў вайну з Літвою пад лозунгам абароны праваслаўя ў гэтай дзяржаве. Па загадзе Ягайлы за хрышчэнне кожнаму паганцу выдавалася адзёжа з белага польскага сукна, што заахвоціла многіх.

Такім чынам, хрысціянства паспяхова распаўсюдзілася па ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і канчаткова замацавалася ў перыяд уваходу Белай Русі ў склад Расійскай імперыі. Аднак рэшткі паганскай веры захоўваліся яшчэ вельмі доўга, прыкладна да XIX стагоддзя.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Беларускія летапісы і хронікі. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997.
2. Воейков, Н.Н. Церковь, Русь и Рим / Н.Н.Воейков. – Минск: Лучи Софии, 2000.
3. Тальберг, Н. История русской церкви / Н.Тальберг. – Москва: Изд. Сретенского монастыря, 2004.
4. Чаропка, В. Імя ў летапісе / В.Чаропка. – Мінск: Полымя, 1994.



**Каяла Уладзімір Іванавіч** – кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.



УДК 2-67(476)



**Г.И. Близнец** (Гомель)


## ХРИСТИАНИЗАЦИЯ РУСИ: ПОЛИТИКО-ПРАВОВОЙ АСПЕКТ


*Статья посвящена событиям христианизации Руси. Анализируется значение принятия христианства для восточнославянского мира, акцентировано внимание на политико-правовом аспекте этого процесса.*


Важнейшим событием, четко разделившим нашу древнюю историю на два этапа, явилось принятие князем Владимиром в конце X в. христианства в его византийском, будущем православном варианте. В результате образовался своеобразный историко-культурный феномен, не имеющий аналогов в славянском мире. Страна, в то время близкая по



социально-экономическому и политическому укладу Чехии и Польше, принявшим католичество и вошедшим в круг цивилизации и культуры латинской Европы, в культурном отношении сблизилась с южнославянскими народами Балканского полуострова, находившимися в сфере влияния Византии и развивавшимися по византийской модели. Это обстоятельство – «выбор веры» – во многом определило особенности развития страны и её политико-правовой культуры на долгие времена.

Христианизация Руси способствовала интеграции древнерусского общества на принципиально новой основе. Известно, что христианство распространилось в Киеве задолго до Владимира. Бесспорно, что отношение к христианству князей и дружины менялось. Из договоров с греками видно, что при Игоре оно было сочувственным, при Святославе равнодушным, но всегда терпимым [1, с. 141, 151]. Положение резко меняется при Владимире. За одно десятилетие он провел две конфессиональные реформы – сначала языческую, а в 988 г. христианскую. Побуждения, надо полагать, оба раза были схожими: Владимир считал, что единению Руси может и должна соответствовать и способствовать единообразная культура, в тех условиях – единая вера. Рассказ летописи о долгих сомнениях князя в выборе новой религии, о послах в разные страны, о конечном выборе греческого христианства свидетельствует о том, что крещение Руси в сознании самого князя было, прежде всего, государственным делом [1, с. 170–173]. Для Древней Руси наступило историческое «совершеннолетие», требовавшее ее включения в христианскую традицию культурного мира.

Переход от язычества к христианству ввел восточных славян в европейскую цивилизацию, открыл для них источники мировой культуры. Древнерусское государство, находившееся под сильным культурным влиянием Византии и обладавшее одновременно удивительно многообразными политическими, экономическими и культурными связями с Западом, стало частью средневекового «orbis cristianus». Через христианство восточные славяне вступили в творческое и живое взаимодействие со всем окружающим миром [2, с. 8].

Реформа Владимира Святого – не просто приращение знания, это принципиальная переоценка человека. Раньше он ощущал себя игрушкой судьбы, каких-то неведомых сил, – теперь он овладел историей. Митрополит Иларион в «Слове о законе и благодати», не сомневаясь в божественном промысле, рассматривал реформу и как цивилизационную веху. Она свершилась «во времена своя», то есть на определенном этапе исторического пути [3, с. 63].

На наш взгляд, невозможно отрицать несомненный «успех» христианства уже в киевский период, каковы бы ни были неизбежные границы этого успеха. Он проявлялся в святых этого периода, свидетельствующих, как глубоко и чисто был воспринят на Руси евангельский идеал и усвоен опыт православной святости. Вместе с Христовым учением о любви и милости церковь принесла на Русь и начала византийской культуры. Обучая язычников вере, она стремилась улучшить их житейские порядки.

В языческом обществе господствовала грубая сила и человеческая личность не имела никакого значения. С принятием христианства языческие порядки у восточных славян начали заметно смягчаться, отдельные люди изменяли свои взгляды и нравы. Предание о самом князе Владимире говорит, что он изменился под влиянием новой веры, стал милостив и ласков [1, с. 192]. Среди дружины из земских людей появилось много благочестивых христиан, почитавших церковь, любивших книги и иногда уходивших от мирских соблазнов в монастыри и в пустынное житьё. Церковь через свою иерархию и примером ревнителей новой веры воздействовала на нравы и учреждения Руси. Проповедью и церковной практикой она показывала, как надо жить и действовать в делах личных и общественных.

Вместе с христианством стали проникать на Русь новые политические понятия и отношения. На киевского князя пришлое духовенство переносило византийское понятие о государе, поставленном от бога не для внешней только защиты страны, но и для установления и поддержания внутреннего общественного порядка. Тот же митрополит Иларион пишет, что князь Владимир «часто с великим смирением советовался с отцами своими епископами о том, как уставить закон среди людей, недавно познавших господа» [4, с. 174].

Сама идея законодательной обязанности, свыше возложенной на государя, мысль о возможности и необходимости регулировать общественные отношения волею власти была принесена на Русь вместе с христианством, внушалась с церковной стороны.

Следы этой законодательной работы духовенства можно заметить уже в летописном рассказе о князе Владимире. Летопись повествует о том, что в его княжение умножились разбои, и епископы сказали великому князю: «Разбойники размножились, зачем не казнишь их?». Владимир отвечал: «Боюсь греха». Епископы возразили на это: «Ты поставлен от бога на казнь злым, а добрым на милование; тебе должно казнить разбойника, только разобрав дело» [1, с. 179]. Они предложили Владимиру заменить денежную пеню за разбой на правительственную кару: в «Русской Правде» находим постановление, в силу которого разбойник наказывается конфискацией всего имущества и продажей его



самого в рабство за границу со всем семейством [4, с. 229]. Этот источник служил одним из путей, которым проникало в русское общество влияние церковно-византийского, а через него и римского права. Это влияние важно не только новыми юридическими нормами, но и общими юридическими понятиями и определениями, которые составляют основу правового сознания.

Принятие Русью христианства из рук Византии повлекло за собой усвоение молодым народом, молодой культурой её политических традиций, прежде всего модели отношений между церковью и государством. Эти отношения в Византии принципиально определялись по типу взаимного согласия при независимости каждой из областей. Государство признавало для себя внутренним руководством церковный закон, церковь брала на себя обязанность повиноваться государству. Такие «симфонические» отношения между церковью и государством способствовали тому, что император, управляя всеми отраслями жизни, правил и жизнью церковной в пределах своего государственного управления. Церковь же чрезвычайно дорожила своим союзом с государством, поскольку оно служило церкви. На наш взгляд, подобного рода отношения между государством и церковью можно обнаружить именно в эпоху Киевской Руси.

С конца X в. новый строй правовых отношений созидался на нравственной основе. Эти отношения в жизнь проводила церковь. Церковный устав князя Владимира определял положение церкви в новом для нее государстве. На нее возлагалось тогда много чисто земных забот, она являлась сотрудницей, а нередко руководительницей мирской государственной власти в устроении общества и поддержании государственного порядка. Так, духовенству даны были значительные полномочия, как судебные, так и законодательные в области семейных отношений, которые следовало перестраивать заново. Оно довольно независимо нормировало семейную жизнь, применяя к местным условиям свои канонические установления [4, с. 230].

Церковь давала светскому обществу пример нового, более совершенного и гуманного устройства, в котором признавалась безусловная ценность всякой человеческой личности, как образца и подобия Божьего, недопустимость обращения с человеческой личностью, как со средством и орудием. «Христианство учит, что человеческая душа стоит дороже всех царств мира, христианство бесконечно внимательно ко всякому индивидуальному человеку и к его индивидуальной судьбе. Человек, всегда индивидуальный и неповторяемый, для христианства более первичная и глубокая реальность, чем общество» [5, с. 145].

Однако ни в коей мере не следует увлекаться и преувеличивать скромные успехи киевского христианства, глубины христианизации древнерусской государственности и политической культуры. Подчеркнем, что православие оставалось уделом элиты, тонкого слоя нарождающейся церковной и государственной «интеллигенции». К тому же Русь приняла православие в эпоху, когда в самой Византии все сильнее сказывались настроения охранительные, стремление все свести к прошлому.

Митрополит Илларион, первый «русич» на киевской митрополичьей кафедре, называл своих пребывавших в язычестве земляков «безнадежниками». Христианство принесло с собой надежду, «упование», которые стали мощным цивилизационным импульсом.

*Список источников и литературы*


1. Соловьев, С. М. Сочинения: в 18 кн. Кн. 1. Т. 1 – 2 / С. М. Соловьев. – М., 1988. – 797 с.
2. Политическая культура Руси: От Владимира Святого до Петра Великого / ред.кол.: Г.А.Антонос [и др.] // Политическая культура России: реф. сб. – М., 1990. – Вып. 4. – С. 7–55.
3. Гумилев, Л. Чтобы свеча не погасла: диалог / Л. Гумилев, А. Панченко. – Л., 1990. – 128 с.
4. Ключевский, В.О. Сочинения: в 9 т. Т. 1: Курс русской истории / В. О. Ключевский. – М., 1987. – 430 с.
5. Бердяев, Н. А. Истоки и смысл русского коммунизма / Н. А. Бердяев. – М., 1990. – 224 с.


**Близнец Галина Ивановна** – кандидат исторических наук, доцент, Белорусский государственный университет транспорта.

УДК 27-76-051(476)

**А.С. Кібінь** (Санкт-Пецярбург)

## ЛЁС І РОЛЯ ЛАЦІНСКІХ МІСІЙ У ХРЫСЦІЯНІЗАЦЫІ ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У XI ст.

*В статье освещается история миссий архиепископа Бруно Кверфуртского и Рейнберга, бывшего епископа Колобжегского. Проанализирована историография предмета, обращено внимание на дискуссионные проблемы, связанные с этими событиями. Предложено ученым выходить за рамки национальных дискурсов и отдавать предпочтение не разным историографическим традициям, а, в первую очередь, изучению источников.*

За апошняе дзесяцігоддзе ў расійскай гістарыяграфіі [12; 15] былі перагледжаны некаторыя пытанні аб хрысціянізацыі Русі і міжнародных царкоўных адносінах. Найноўшыя даследаванні паказалі, што



хрысціянскі свет да XIII ст. заставаўся ў большай ступені адзіным, чым уяўлялі гісторыкі раней, а на Русі, асабліва на пачатковым этапе хрысціянізацыі, сышліся ўплывы розных царкоўных традыцый і культур. Мэта майго выступу – у гэтым гістарыяграфічным кантэксце спыніцца на дыскусійных момантах гісторыі дзейнасці ў пачатку XI ст. двух клірыкаў на землях сучаснай Заходняй Беларусі – місійнага архіепіскапа Бруна Кверфурцкага, які загінуў 9 сакавіка 1009 г., і яго земляка Райнберна, былога епіскапа Калабжэгскага, які памёр ў зняволенні ў князя Уладзіміра ў 1013–1015 гг.

Найбольш дыскусійнымі з'яўляюцца два галоўных моманты ў місіі Бруна – аб месцы забойства архіепіскапа і аб палітычным кантэксце выправы. Трэба крыху закрануць стан гістарыяграфіі пытання. Гэты сюжэт не быў абыйдзены ўвагай: яму прысвечаны дзясяткі прац нямецкіх, польскіх, літоўскіх, і расійскіх даследчыкаў. У апошні час ён стаў яшчэ больш актуальным у сувязі са святкаваннем тысячагоддзя Літвы. Але нельга не заўважыць, што ў асвятленні гэтай місіі вельмі яскрава праявіўся канфлікт нацыянальных дыскурсаў. Сутнасць яго ў тым, што свядома ці не, прадстаўнікі нямецкай, польскай і літоўскай навукі (за некаторымі выключэннямі) у сваіх працах быццам бы перацягвалі на свой бок тое месца, дзе загінуў місіянер, і, такім чынам, залічвалі дзейнасць св. Бруна да сваёй нацыянальнай гісторыі.

Нямецкія гісторыкі XIX ст. лічылі, што ён загінуў на тэрыторыі Усходняй Прусіі сярод прусаў. Польскія даследчыкі, а за імі і савецкія, на працягу XX ст. называлі месцам апошняй місіі архіепіскапа тэрыторыю паўночна-ўсходняй Польшчы [4, с.247; 6; 9, с. 215–216; 14, с. 108]. У літоўскай гістарыяграфіі ў апошнія тры дзесяцігоддзі ў працах Э. Гудавічюса і А. Бумблаускаса [2, с. 12–21; 3, с. 9–65] папулярызуецца версія, што Бруна падчас апошняй місіі ахрысціў літоўскага князя Нецімера, а потым загінуў у Літве альбо на памежжы Літвы з Руссю. Але не ўсе літоўскія даследчыкі згаджаюцца з такой трактоўкай (сярод іх Т. Баранаўскас, які лічыць, што Бруна загінуў на тэрыторыі сучаснага Навагрудскага раёна, і галава яго была кінута ў невялічкі прыток Моўчадзі р. Ятру [1, с. 138]).

У беларускай гістарыяграфіі філолагі Мікола Ермаловіч і Алесь Жлутка [7, с. 86; 8] пісалі аб тым, што Бруна загінуў недзе ў Заходняй Беларусі. Але гэтыя даследчыкі фактычна не абгрунтоўвалі свае вывады.

Навукоўцам трэба выходзіць за рамкі нацыянальных дыскурсаў і аддаваць увагу не розным гістарыяграфічным традыцыям, а ў першую чаргу – вывучэнню крыніц. Недахоп практычна ўсіх даследчыкаў – невыразнае адмежаванне агіяграфічных твораў ад хронік і аналаў.

Па сутнасці, сярод значнай колькасці крыніц даследчыкамі могуць выкарыстоўвацца для рэканструкцыі падзеі толькі два помнікі, якія

складаюць аснову так званай «саксонскай» групы паведамленняў – «Кведлінбургскія аналы» і «Хроніка» Цітмара, біскупа Мерзебургскага. Агіяграфічныя крыніцы («Запіска Віберта», «Жывот св. Рамуальда», «Хроніка» Адэмара Шабанскага) прыводзяць толькі легенды.

Дзе ж прыняў пакутніцтва св. Бруна? Запіс Кведлінбургскіх аналаў паведамляе, што 9 сакавіка ён быў абезгалоўлены на парубежжы Русі і Літвы разам са сваімі 18 спадарожнікамі. Па словах «Хронікі» Цітмара, Бруна загінуў на памежжы Прусіі і Русі [5, с. 80; 13, кн. 6, гл. 94 (58)].

Калі падрабязна не разглядаць пытанне аб этнапалітычнай карціне Верхняга Панямоння ў XI ст., на сучасным навуковым узроўні можна лічыць, што назва «Літва» ў тэрытарыяльным сэнсе ўжывалася да тэрыторыі, мяжа якой на поўдні супадала з мяжой распаўсюджання культуры ўсходнелітоўскіх курганаў, што на тэрыторыі Беларусі не даходзіла да Нёмана. Руссю называлася, хутчэй за ўсё, тэрыторыя, падуладная Кіеву, – паўднёвая частка Панямоння. Прусамі ў лацінскіх крыніцах называлі балцкіх жыхароў ад Віслы на захадзе і далей на ўсход за Нёман. Такім чынам, памежжа Русі і Літвы знаходзілася ў той час у Верхнім Панямонні, таму няма сумневу, што Бруна загінуў недзе тут.

Другое складанае пытанне – куды і навошта рухаўся святы пакутнік? Большасць гісторыкаў (у першую чаргу, польскіх), лічылі, што місія была арганізавана Баляславам Храбрым з мэтай паставіць яцвягаў, жыхароў Паўночна-Усходняй Польшчы, у залежнасць [2, с. 245–247; 12, с.153; 14, с.32–34]. Сапраўды, да «яцвягаў» Бруна выехаў з тэрыторыі ўладанняў Баляслава, і менавіта Баляслаў затым выкупіў рэшткі пакутніка. Вядома таксама, што пасля 1013 г. на ўсходнім і паўночна-ўсходнім напрамку Баляслаў развіў ваенную актыўнасць. Але толькі на падставе гэтага немагчыма меркаваць, што Бруна дзейнічаў для таго, каб падпарадкаваць яцвягаў польскаму князю. Мы ведаем, што ў канцы X – першай палове XI ст. ішло актыўнае пранікненне Русі ў яцвяжскія землі (пад імі ў той час трэба разумець перадрэчча Верхняга Нёмана, ў якім склалася шматкультурная этнапалітычная скандынаўска-балцкая група). Нам вядома аб выправах на яцвягаў рускіх князёў Уладзіміра (983 г.) і Яраслава (1038 г.). Да таго ж, тэрыторыя апошняй казані місіянера прылягала да зямлі, залежнай ад Русі. Спроба Бруна падпарадкаваць гэтую тэрыторыю польскаму князю непазбежна прывяла бы да пагаршэння адносін з Руссю, што на фоне папярэдняй місіі да печанегаў выглядае непаслядоўна: ўсяго толькі год таму архіепіскап, рызыкуючы жыццём у печанежскім стэпе, заключаў мір з качэўнікамі для Уладзіміра. Тым больш, як раз у гэты час мог адбыцца шлюб Святаполка і Баляслаўны, у такім выпадку любыя варожыя ўчынкі супраць рускіх князёў былі выключаны.



Бруна праследваў уласную мэту – пашырэнне хрысціянскага свету. Але калі ў місіі былі нейкія палітычныя матывы, то ў хрысціянізацыі памежных яцвягаў былі зацікаўлены рускія князі, і, у першую чаргу, Святаполк Тураўскі, які спрабаваў праводзіць самастойную палітыку (ёсць падставы меркаваць, што да 1010 г. адносіцца яго спроба распаўсюдзіць свой ўплыў на Валынь).

Адказваць на пытанне аб палітычным кантэксце місіі можна, толькі ўлічваючы ролю Бруна ў польска-рускіх дыпламатычных узаемаадносінах. У 1008 г. ён быў пры двары кіеўскага князя Уладзіміра, затым вярнуўся ў Польшчу. Гісторыкі дакладна не ведаюць, калі адбылося вяселле сына Уладзіміра Святаполка і дачкі Баляслава, але найбольш верагодна, што ў 1009–1010 гг. [6, с. 250; 9, с.217]. Калі так, дык у дасягненні саюза славянскіх гаспадароў Бруна павінен быў адыграць першую ролю.

Менавіта ў выніку гэтага шлюбу ў сталіцы Святаслава Тураве з’явіўся лацінскі біскуп Райнберн, аб лёсе якога нам вядома толькі невялікая інфармацыя з 6-й і 7-й кніг «Хронікі» Цітмара. Наконт таго, кім быў Райнберн, няма адзінай думкі.

Некаторыя даследчыкі лічылі яго духоўнікам жонкі Святаполка [11, с.28]. Але не варта змяншаць ролю Райнберна пры двары Святаполка. Прысутнасць у Тураве былога Калабжэгскага біскупа, фігуры высокага стану, сведчыць хутчэй аб свядомым выбары мясцовым князем сувязяў з лацінскім клірам. Верагодна, што пачатак гэтых сувязяў быў закладзены св. Бруна з Квэрфурту. Заслугоўвае падтрымкі гіпотэза, што і ў Тураве Райнберн пад час свайго побыту насіў епіскапскі сан [8]. Менавіта Бруна, як місійны архіепіскап, меў права вызначаць епіскапаў на новастворапыя епархіі. Вельмі складанай з’яўляецца праблема існавання Тураўскай епархіі па візантыйскаму абраду: частка гісторыкаў лічыць, што яна ўжо існавала з часу хрышчэння Русі, частка – што была створана пазней [гл.: 11, с. 29–31]. Таму застаецца неясным, ці Райнберн быў заменены іншым епіскапам, ці традыцыя назначэння епіскапаў у Тураў была перарвана. Неўзабаве Святаполк за актыўныя самастойныя дзеянні супраць ўлады бацькі былі пакараны Уладзімірам. Ён, яго жонка і Райнберн былі пасажаны ў затачэнне, ў якім Райнберн памёр.

Такім чынам, дзейнасць Райнберна была не больш паспяховай, чым Бруна. Арышт Райнберна з’явіўся канцом лацінскай місіі ў Палессі, забойства Бруна азначала няўдачу хрысціянскага казання сярод балтаў. У пэўным сэнсе гэта забойства правяло мяжу паміж хрысціянскай цывілізацыяй і паганствам.

Аб абставінах гібелі першага хрысціянскага пакутніка, які загінуў у Панямонні, вядома толькі са слоў Цітмара: пасля сваіх упартых спробаў схіліць паганцаў да хросту ён быў абезгалоўлены. Нельга выключаць,

што галава пакутніка была прынесена ў ахвяру, бо шмат якія сярэднявечныя аўтары адзначалі, што менавіта галава была прадметам ахвяры ў чалавечых ахвяраприынашэннях, якія здараліся ў паганцаў [10, с. 149–130].

Ад тых падзей нас аддзяляе амаль тысяча гадоў, і недастатковая колькасць інфармацыі не дазваляе нам шырока, падрабязна і дакладна ўявіць падзеі таго часу. Але крыніцы, якія засталіся, пакінулі нам вялікі падарунак – бо, па сутнасці, забойства св. Бруна – гэта адна з першых дакладна вядомых нам падзей, якая праходзіла на зямлі Панямоння.

Падсумоўваючы, трэба адзначыць, што гэтыя місіі не мелі далёкасяжных вынікаў. У больш шырокай гістарычнай перспектыве яны сведчаць, што ўжо з самага пачатку зямлі, сёння называемыя Заходняй Беларуссю, знаходзіліся на перасячэнні ўплываў розных царкоўных традыцый, адлюстраваннем чаго служаць розныя фактаў культурнага і палітычнага жыцця Панямоння і Папрыпяцця.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Baranauskas, T. Lietuvos valstybės ištakos / T. Baranauskas. – Vilnius, 2000.
2. Bumblauskas, A. Senosios Lietuvos istorija, 1009 – 1795 / A Bumblauskas. – Vilnius, 2005.
3. Gudavičius, E. Brunonas Kverfurtietis ir Lietuva / E. Gudavičius // 1009 metai: Šv. Brunono Kverfurtiečio misija. – Vilnius, 2006. – P. 9 – 65.
4. Łowmiański, H. Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego / H.Łowmiański. – T. II. – Wilno, 1932.
5. Monumenta Germaniae Historica. Scriptores. – T. III. – Lipsiae, 1925.
6. Zakrzewski, S. Bolesław Chrobry Wielki / S Zakrzewski. – Lwów, 1925.
7. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь / М. Ермаловіч. – Мінск, 2001.
8. Жлутка, А. Пункціры вялікага шляху. Спроба кароткага падсумавання гісторыі каталіцкага Касцёла на Беларусі / А. Жлутка // Наша вера. – 2001. – № 1.
9. Королюк, В. Д. Западные славяне и Киевская Русь /В. Д. Королюк. – М., 1964.
10. Ловмянский, Г. Религия славян и ее упадок (VI – XII вв.) / Г. Ловмянский. – СПб., 2003.
11. Лысенко, П.Ф. К вопросу об учреждении Туровской епархии / П.Ф. Лысенко // Восточная Европа в средневековье. – М., 2004. – С. 27 – 32.
12. Назаренко, А. В. Древняя Русь на международных путях / А. В. Назаренко. – М., 2001.
13. Титмар Мерзебургский. Хроника. В 8 кн. / пер. с лат. И. В. Дьяконова. – М., 2005.
14. Пашуто, В. Т. Внешняя политика Древней Руси / В. Т. Пашуто. – М.,1968.
15. Флоря, Н.Б. У истоков религиозного раскола славянского мира (XIII в.) / Н.Б. Флоря. – СПб., 2004.



**Кібінь Аляксей Сяргеевіч** – кандыдат гістарычных навук, выкладчык, Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны універсітэт.




УДК 27 – 9 = 16

**Г.В. Васюк** (Гродно)

# ЦЕРКОВНЫЙ РАСКОЛ 1054 г. И ВОСТОЧНОСЛАВЯНСКИЙ МИР


*Статья посвящена истории церковного раскола 1054 года и его отзвукам и проявлениям в восточнославянском мире в XI – XIII вв.*


Большинство научных исследований по проблеме, вынесенной в название статьи, выходило до 1917 года. Среди них следует выделить работу А.П. Лебедева «История разделения церквей в IX, X и XI веках» [2]. До настоящего времени научный интерес вызывает исследование Н.А. Скабалановича «Византийское государство и церковь в XI веке». Отдельные главы, посвящённые церковному, расколу имеются в трудах крупнейших российских византиноведов Ф.И. Успенского, А.А. Васильева и др. В настоящее время в Российской Федерации над темой церковного раскола работает А.В. Бармин.

Однако данные исследователи не ставили своей целью показать, как повлиял церковный раскол на восточнославянский мир. Работ данного плана очень мало и они труднодоступны для белорусского читателя.

Основными источниками для настоящего исследования послужили летописи, полемические сочинения, связанные с восточнославянским регионом или там распространявшиеся.

Ещё в исследованиях XIX – начала XX века было отмечено, что церковный раскол 1054 года – явление сложного порядка. Его истоки восходят к IV веку. Причины соперничества двух важнейших епископских кафедр христианского мира связаны с переносом столицы Римской империи в Константинополь, разделением империи на Западную и Восточную. То есть важную роль в церковном расколе сыграл политический фактор. Богословские отличия между Западом и Востоком христианского мира, вплоть до патриаршества в Константинополе Фотия, не имели большого значения. Хотя православные богословы подчёркивали, например, что важнейшее догматическое отличие между западным и восточным христианством – филиокве – обосновано уже в трудах Святого Августина [4, с. 255].

Первые серьёзные проблемы между Римом и Константинополем начались со времени II Вселенского собора 381/382 гг. Именно тогда был поставлен вопрос о роли Константинопольской епархии в иерархии

важнейших церковных центров (третье правило собора даёт епископу Константинополя «преимущество чести», потому что этот город есть «новый Рим»). Как справедливо отмечал по этому поводу В. Соловьёв, «Византия, сделавшись новым Римом для государства, скоро захотела быть новым или вторым Римом и для Церкви» [9, с. 51].

Римский папа выступил против возвышения молодой Константинопольской епархии по политическим мотивам (поскольку Константинополь есть второй Рим, место пребывания императора и сената). К 80-м годам IV века уже было ясно, что политическое значение старого Рима как центра империи падает, и возникали опасения снижения авторитета римского папы в церковных кругах. Папа заявил, что Римская церковь есть глава всех церквей по божественному установлению, на основании слов Христа, обращённых к Петру. Вопрос о первенстве Рима не может решаться соборами. Эта идея стала «лейтмотивом римского понимания структуры вселенской церкви» [5, с. 56].

С середины IX века начинается новый этап церковно-религиозных споров между Западом и Востоком христианского мира. Он принципиально отличался от предыдущих. В. Соловьёв так охарактеризовал данный этап: «Когда еретическое движение завершило свой круг, когда основной догмат православного христианства совокупными силами Востока и Запада, богословской мысли и авторитета, соборов и пап, был точно определён и утверждён, и Византия, бывшая по очереди игралищем всех ересей, отпраздновала, наконец, торжество православия, – духовная связь её с Западной Церковью теряет свою главную основу и порывается» [9, с. 52].

Окончание борьбы с ересями, утверждение основных догматов христианской веры заставило по-новому взглянуть друг на друга Запад и Восток христианского мира. Оказалось, что между ними имеются отличия в догматической и обрядовой сторонах.

Впервые наиболее глубоко обратил внимание на подобные отличия константинопольский патриарх Фотий. В 867 году он издал «Окружное послание к патриаршим престолам Востока». Фотий выделил целый ряд отличий между Западом и Востоком христианского мира, которые касались, согласно мнению Н.А. Скабалановича, трёх областей: догматов (учение о Св. Духе), обрядов и дисциплины (о посте в субботу и св. Четырёхдесятницу, о таинстве миропомазания, о безбрачии духовенства, о поставлены диаконов прямо в епископы, о бритье бороды и стрижении волос, об опресноках, об употреблении в пищу крови и



удавленины, о четвёртом браке), церковного управления и устройства [8, с. 263].

Наиболее важным представляется догмат об исхождении Св. Духа. Патриарх Фотий называет латинское учение об исхождении Св. Духа, кроме Бога-Отца, и от Сына, прибавку к Никейскому символу веры слова «и от Сына» «венцом бед» в ряду латинских заблуждений. В окружном послании он приводит 40 аргументов против филиокве [3, с. 231].

«Окружное послание» патриарха Фотия стало основой для многих последующих византийских полемических сочинений против римской церкви, оказало значительное влияние на богословские споры в X и XI веках.

В XI веке основное внимание греческих полемистов сосредотачивается на западных соседях империи и некоторых их религиозных обычаях. Связано это было с предпосылками военно-политического союза между Римом и Константинополем для борьбы с норманнами. Данная проблема должна была рассматриваться посольством римского престола во главе с кардиналом Гумбертом к византийскому императору в 1054 году.

Однако внешнеполитические вопросы, бывшие важной причиной для отправки западного посольства, не получили тогда своего разрешения в Константинополе. Первоочередное внимание было уделено религиозным проблемам, что привело к взаимным отлучениям между папскими легатами и константинопольским патриархом Михаилом Кируларием. Обострение отношений между Римом и Константинополем произошло как раз в тот момент, когда появилась насущная необходимость возобновить отношения между ними [1, с. 149].

16 июля 1054 года в Константинополе в Софийском соборе кардиналом Гумбертом была вручена грамота об отлучении от церкви патриарха Кирулария. Она содержала обвинения в адрес восточной церкви. Однако данная грамота вряд ли могла иметь каноническую силу, так как не была подписана папой, а кардиналом Гумбертом и другими легатами (Пётр, архиепископ Амальфийский, Фридрих, диакон и канцлер). Кроме того, ещё в самом начале переговоров умер папа Лев IX, а новый папа был избран лишь через год. Поэтому его легаты во время оглашения грамоты утратили легитимность.

Патриарх отлучил от церкви только папских легатов за дисциплинарные нарушения, а не за церковные догматы. В Константинополе среди широких слоев населения и духовенства (кроме

высшего) об анафемах ничего не знали. Непосредственно его ощутили только официальные круги церкви и правительства. Лишь через несколько десятков лет, когда папой стал Григорий VII Гильдебрандт, а кардинал Гумберт стал его советником, на Западе стали обращать внимание на это событие.

Таким образом, если разделение церквей не имело широкого резонанса в Византии, долгое время не замечалось в византийской полемической литературе и, более того, вскоре после него были восстановлены связи между церквами, то можно предположить о незначительном влиянии этого события на восточнославянский мир.

Под восточнославянским миром в тогдашнее время мы имеем в виду народы, входившие в различные государственные образования (Киевское княжество, Полоцкое княжество, Галицко-Волынское княжество и т.д.), до 30 – 40-х годов XIII века. С образованием Великого княжества Литовского, возвышением Московского государства складывается иная геополитическая и конфессиональная ситуация, требующая отдельного самостоятельного изучения.

Официально христианская религия утверждается в восточнославянском регионе со времени крещения киевского князя Владимира в 988 году. Христианизация восточнославянских земель проходила по византийскому обряду. Однако в это время нет свидетельств о неприязни восточнославянских князей к римской церкви. Наоборот, имеются свидетельства о связях киевских и других князей восточнославянских земель с западным христианством. Вставка в «Повесть временных лет» под 988 годом под названием «исповедание веры» является более поздней. Она принадлежит основателю Киево-Печерского монастыря Феодосию и датируется 1069 годом. Киево-Печерский архимандрит критикует «латинян» следующим образом: «Не принимаю же оучения от латын ихже оученье развращено. Влезеше бо в церковь не поклоняются иконам но стоя поклонится и поклонився и напишет крест на земле и целует просте нет на нем ногами да лег целует а встав попирает сего» [6, с. 114 – 116].

Известный русский исследователь полемических сочинений против римской церкви А. Попов считает, что на антилатинскую вставку в «Повесть временных лет» повлияли не сочинения патриарха Фотия, поскольку патриарх Фотий главное внимание уделял филиокве, но Феодосия Печерского, который много внимания уделял второстепенным, порой совершенно надуманным отличиям между церквами [7, с. 16]. Кроме того, в «Повести временных лет» отступления римской церкви от истинной веры связаны с мифической личностью



Петра Гугнивого, который «…с иными шед в Рим и престол восхватив, razврати веру. Отверся от престола Иерусалимска и Олександрского и Царьграда и Онтиахийского возмутиша Италию всю…» [6, с. 115 – 116]. А. Попов считает, что под Петром Гугнивым следует понимать Александрийского патриарха или папу V века Петра Монгуса или Блазуса, что значит гугнивый. Но в русских летописях бесполезно доискиваться, какая историческая личность скрывается за Петром Гугнивым. Это отвлечённое противопоставление Св. Апостолу Петру [7, с. 19].

В XI – XII веках в восточнославянских землях, помимо уже названного труда Феодосия Печерского «Послание к князю о вере латинской», вошедшего в «Повесть временных лет», вышли следующие труды: митрополита Киевского Георгия «Стязание с Латиною», митрополита Иоанна II «Послание к папе Клименту», «Послание Никифора, митрополита Киевского». Для данных полемических сочинений главным источником было «Послание патриарха Константинопольского Михаила Кирулария к патриарху Антиохийскому Петру» [7, с. 46].

С XIII века в восточнославянской полемической литературе против латинян наступает перерыв, Полемические сочинения в основном идут через сербов.

Таким образом, восточнославянские полемические сочинения против римской церкви до начала XIII века достаточно редки. В основном их пишут митрополиты греки. Трудно сказать, насколько они были востребованы на восточнославянских землях.

Помимо этого имеется целый ряд фактов связей как светской, так и духовной элиты восточнославянских земель с христианским Западом. В период княжения в Киеве Ярослава Владимировича (1019 – 1054) происходит дальнейшее сближение с западноевропейской светской и церковной элитой. Благодаря брачной дипломатии Ярослав установил близкие отношения с королевскими династиями Швеции, Норвегии, Польши, Венгрии, Франции.

В период церковного раскола из-за того, что князь Ярослав в 1051 году назначил без согласия константинопольского патриарха киевским митрополитом священника княжеского села Берестова Иллариона, произошёл разрыв связей между церковными центрами. Он продолжался до 1055 года. Таким образом, с точки зрения церковного права действия кардинала Гумберта и патриарха Кирулария не могли распространяться на Киевскую митрополию.

Активные связи с Западной Европой поддерживало Полоцкое княжество – колыбель белорусской государственности. Так, почти через 130 лет после церковного раскола полоцкий князь разрешил монахам-августинцам из немецкого Бремена проводить миссию среди зависимых от Полоцка язычников – латгалов и ливов.

Настоящий церковный раскол между Западом и Востоком христианского мира произошёл в результате четвёртого крестового похода 1202 – 1204 гг. Захват крестоносцами Константинополя, его разграбление, назначение патриарха, зависимого от папы, породило глубокую неприязнь между церквами, которая транслировалась на восточнославянские земли.

Таким образом, церковный раскол 1054 года коснулся на восточнославянских землях небольшой части высшего духовенства, прежде всего, греческого происхождения. Светская знать, значительная часть духовенства лояльно относилась к римско-католической церкви, не замечая раскола.

*Список источников и литературы*


1. Бармин, А. В. Столкновение 1053 – 1054 гг. // Византия между Западом и Востоком. Опыт исторической характеристики / А.В. Бармин. – СПб.: Алетейя, 1999. – С.140 – 159.
2. Лебедев, А.П. История разделения церквей в IX, X и XI веках / А.П. Лебедев. – СПб.: Алетейя, 2001. – 320с.
3. Лебедев, А.П. Очерки внутренней истории Византийской восточной церкви / А.П. Лебедев. – СПб.: Алетейя, 1998. – 306с.
4. Мейендорф, И. Введение в святоотеческое богословие / И. Мейендорф. – Минск: Лучи Софии, 2001. – 384 с.
5. Мейендорф, И. История церкви и восточнославянская мистика / И. Мейендорф. – М.: Институт ДИ-ДИК, 2000. – 576 с.
6. Полное собрание русских летописей. Том 1: Лаврентьевская летопись и Суздальская летопись по академическому списку. – М.: Издательство Восточной литературы, 1962 – 577 с.
7. Попов, А. Историко-литературный обзор древнерусских полемических сочинений против латинян (XI – XV в.) // А Попов. – London: Variorum Reprints. – 1972. – 417 с.
8. Скабаланович, Н.А. Византийское государство и церковь в XI в.: От смерти Василия II Болгаробойцы до воцарения Алексея I Комнина: В 2 кн. Кн. 2 / Н.А. Скабаланович. – СПб.: « Издательство Олега Абышко» , 2004. – 416с.
9. Соловьёв, В. О христианском единстве // В. Соловьёв. – М.: Рудомино, 1994. – 334 с.



**Васюк Геннадий Владимирович** – кандидит исторческих наук, доцент кафедры всеобщей истории Гродненского государственного университета имени Янки Купалы.




УДК 2-64(476)

**С.У. Сілава** (Гродна)

# ВІЗАНТЫЙСКІ ЎПЛЫЎ НА ПРАЦЭС ХРЫСЦІЯНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСІ (X – XV ст.)

*На основе широкого круга фактов прослеживается византийское влияние на процесс христианизации белорусских земель и на духовную жизнь белорусского общества в последующие столетия.*

Дух дышит, где хочет...
Ин. 3, 8

Хрысціянства – гэта веравучэнне, «цэнтраванае фігурай Ісуса Хрыста і аб'ядноўваючае ў адзіны семантычны комплекс змест як Старога, так і Новага Запавету, забяпечваючы адзінства Бібліі як агульнай для ўсіх хрысціян крыніцы» [14, с. 796].

Хрысціянская этыка цесна звязана з хрысціянскім веравучэннем, для яе характэрны універсалізм. Асноўная хрысціянская максіма – гэта добразычлівые адносіны да людзей, любоў (агапэ) да ўсіх людзей, незалежна ад іх сацыяльнага, нацыянальнага і рэлігійнага статуса. Гэта дакладна ўпісваецца і ў вядомае з антычнасці «залатое правіла». На думку прат. Новіка, «В смысле этических предписаний Иисус Христос не сообщает на вербальном уровне почти ничего нового. Но Он Сам – главная новость и данность, Он предлагает людям Себя и ниспосылает людям новую силу – благодать. Апостол Павел продолжает утверждать христианский этический универсализм: во Христе нет ни иудея, ни язычника; нет раба, ни свободного (Гал. 3, 28). Апостол Петр открывает двери Церкви для язычников (Дн. 10)» [9].

Гісторыя хрысціянства на беларускіх землях налічвае больш за дзесяць стагоддзяў. Тым не менш, увага да працэсу хрысціянізацыі ўсходніх славян, да якіх адносяцца і беларусы, актуальная і на сённяшні час. Дыскусійнасць звязана з вызначэннем, на мой погляд, працэсу цывілізацыі на землях Беларусі. Што рабіць з папярэдняй язычніцкай спадчынай? Адмаўляць яе, як паганства, ідучы за Фляроўскім, які пачынаў «гісторыю рускай культуры з Хрышчэння Русі, а язычніцтва застаецца за парогам гісторыі» [21, с. 2], ці пагадзіцца з поглядам прат. Ігара Эканомцава, які сцвярджае, што дахрысціянская Русь у галіне матэрыяльнай культуры і язычніцкіх уяўленняў, якія базаваліся на антычнасці, дасягнула «даволі высокай ступені развіцця, што дазволіла

ей так лёгка і хутка ўспрыняць вельмі складаныя канцэпцыі хрысціянскага веравучэння і светабудаўніцтва і здейсніць грандыёзны прарыў ў галіне самасвядомасці» [22, с. 27]? Некалькі дзесяцігоддзяў не сціхаюць навуковыя дыскусіі – ці звязана існаванне традыцыйных грамадстваў з прагрэсам на аснове традыцыйных веравызнанняў, ці цывілізацыя пачынаецца з хрысціянства. Канешне, цікава прааналізаваць падмурак традыцыйных культур, аднак, гэта звязана з тяжкасцямі іх вывучэння. На жаль, традыцыйнае, язычніцкае грамадства не пакінула пасля сябе пісьмовых крыніц на беларускіх землях. Вераванні старажытных продкаў беларусаў засталіся люстэркам, у якім адлюстравалася ўспрыманне навакольнага свету і месца чалавека ў гэтай сістэме светабудаўніцтва.

Тым не менш, гістарычнае значэнне прыняцця хрысціянства для Беларусі мае велізарнае значэнне. Гэты пастулат лёг у аснову разгляду праблемы ўплыву Візантыі на хрысціянізацыю беларускіх зямель. Не трэба пры гэтым забываць, што ўсходнія славяне не прымалі самі рашэння аб прыняцці хрысціянства. Гэта быў палітычны крок кіеўскага князя Уладзіміра. Аднак менавіта гэты крок быў вызначальным для гісторыі беларускіх зямель.

Калі прыгадаць палітычную гісторыю Беларусі X ст., нельга абысці ўвагай гісторыю Уладзіміра і Рагнеды, якая ўжо даўно стала хрэстаматыйнай. Паміж тым, менавіта Рагнеда, а больш правільна Анастасія і яе сын Ізяслаў, сталі першымі хрысціянамі ў Полацкай зямлі. А можа ў дараванні жыцця Анастасіі і алюстравалася змяненне ментальнасці кіеўскага князя, які вырашыў захаваць жыццё сваей непакорнай жонцы, можа гэта быў крок хрысціянскай міласэрнасці?

Не трэба забываць і аб тым, што на беларускіх землях доўгі час хрысціянства суіснавала з паганствам. Так, на тэрыторыі Верхняга Панямоння язычніцкія культы захоўваліся амаль да XIV ст. Як расцэньваць гэта – як праяву моцнага ўпыву язычніцтва ці праяву зноў жа талерантнасці хрысціянства? Гэта яшчэ адно з дыскусійных пытанняў візантыйскага, хрысціянскага ўплыву на гістарычны лёс беларускіх зямель.

Да моманту прыняцця хрысціянства ўсходнімі еўрапейскімі народамі Візантыя не была краінай, якая стаяла на шляху сваёй ліквідацыі, якой яна стала ў XIII–XV ст., а была моцнай, самай багатай на той час у свеце і квітнеючай дзяржавай, хаця яе межы і скарачаліся. Акрамя таго, у IX–X ст. Усходняя і Заходняя Царква не знаходзіліся ў стане раздзелу, а толькі былі ў стане канфлікту, які паглыбляўся.

Адным з першых філосафаў, які ўсебакова стаў разглядаць уплыў Візантыі на гісторыю, перш за ўсе, культуру, стаў амаль забыты ў першай палове XX ст. К.Н. Лявонц'еў. Сапраўдная цікавасць да яго ідэй



і працы «Византизм и славянство» з'явілася толькі ў канцы XX ст., калі былі перавыдадзеныя яго працы. Ён пісаў, што цывілізацыя Заходняй Еўропы і Руская цывілізацыя склалася пад вызначальным ўплывам візантынізма. Аднак Заходняя Еўропа ў IX ст, з моманту абвяшчэння імператарам Карла Вялікага, «якое было справай папства», рэзка адмежавалася ад Візантыі, якая да гэтага духоўна звязвала ўсе заходнія краіны. Візантыйская імперыя страчвае ўплыў на Заходнюю Еўропу, аднак «приобретает своему гению на Северо-Востоке югославян, а потом и Россию» [12, с. 174 – 175].

«Какой теперь язык повернется описать или рассказать о случившемся в городе несчастье, о страшном пленении, о жестоком переселении, которое происходило не из Иерусалима в Вавилон или Ассирию, а из Константинополя в Сирию, Египет, Армению, Персию, Аравию, Африку, Италию, а то и в Малую Азию и в остальные епархии. И как!?

Трепещи, солнце, и ты, земля! Плачь о всеобщей гибели, случившейся с нашим народом по справедливому решению Бога за прегрешения наши! Недостойны мы поднять глаза к небу и лишь, склонив и опустив лицо вниз к земле, мы можем взывать: «Праведен Ты, Господи, праведен суд Твой. Мы согрешили, мы преступили Закон, и мы наказаны за это больше всех народов. Все, что Ты послал на нас, Ты послал воистину по справедливому решению. Однако мы молим: пощади нас, Господи!»

Так заканчвае свой «Плач о падении Константинополя» візантыйскі гісторык Дука. Такімі горкімі словамі заканчваецца гісторыя найвялікшай праваслаўнай імперыі, якая аб'яднала антычную цывілізацыю з хрысціянскім абнаўленнем свету і перадала Новаму часу каштоўную спадчыну мінулых часоў і народаў для памяці і назідання [3].

У сярэдзіне XIX ст. у навуковых колах Расіі пачалася спрэчка аб візантыйскай спадчыне. Пётр Чаадаеў ў «Философических письмах» пісаў: «По воле роковой судьбы мы обратились за нравственным учением, которое должно было нас воспитать, к растленной Византии, к предмету глубокого презрения этих (западных) народов». Такіх жа поглядаў прытрымліваўся і другі заquerнік – Аляксандр Герцэн. А славянафіл Аляксандр Хамякоў пісаў: «Говорить о Византии с пренебрежением – значит расписываться в невежестве». А вось думка гісторыка Льва Гумілёва: «Россия в XV в. унаследовала высокую культуру Византии и татарскую доблесть, что поставило ее в ранг великих держав». Канешне, адмаўленне ад візантыйскай спадчыны, яе адмоўныя адзнакі несправядлівыя: не можа быць спадчына імперыі, гісторыя якой налічвае не адно стагоддзе толькі адмоўнай. Візантыя

У барацьбе з Ордэнам Гедымін актыўна выкарыстоўваў дыпламатычныя сродкі, менавіта праводзіў дэманстрацыю гатоўнасці ўвайсці ў ідэалагічна-палітычную сістэму Захаду: дэклараваў жаданне прыняць каталіцтва (як калісьці Міндаўг, каб пазбавіць крыжакоў ідэалагічнай падставы для працягу агрэсіі; наладжваў кантакты з Заходняй Еўропай (вядомыя «лісты Гедыміна»); уступіў у саюзныя адносіны з Польшчай (шлюб сына Уладзіслава Лакетка Казіміра з дачкой Гедыміна Альдонай). Урэшце, адносная стабілізацыя становішча на заходняй мяжы дала магчымасць гаспадару заняцца ўнутранымі справамі і скіраваць свае погляды на ўсход. Гэтым разам, як і ў выпадку з Міндаўгам, не дайшло да трывалага палітычнага далучэння да заходнееўрапейскай сістэмы і па той жа прычыне – ініцыятары справы не бачылі ў ім хуткага эфекту – выгодаў для сябе і сваёй краіны. Як засведчана ў адным з дакументаў, ягоны дарадца (дарэчы, каталіцкі манах) пераканаў вялікага князя, што папа рымскі не зможа абараніць Літву перад крыжацкай экспансіяй, і той адмовіўся ад хрышчэння [15, с. 116 – 145].

Гедымін перанёс сваю сталіцу ў Вільню (горад, заснаваны полацкімі крывічамі ў XI – XII ст. на месцы былога балцкага паселішча [16, с. 114 – 125]). Пры Гедыміне адбылося аб'яднанне асноўных беларускіх земляў, найперш далучэнне да дзяржавы Полацка і Віцебска, што дало падставу для ўключэння ў афіцыйны тытул гаспадара слова «Русь»[1]. Гэтыя старажытныя цэнтры беларускай дзяржаўнасці ўвайшлі ў ВКЛ на правах шырокай аўтаноміі з захаваннем сваіх даўніх культурных і дзяржаўных традыцый. Ад таго часу кожны наступны вялікі князь пацвярджаў асаблівыя прывілеі для гэтых земляў. Персаналіі вялікакняскіх намеснікаў і ваяводаў абавязкова ўзгадняліся з палачанамі і віцеблянамі. Захоўваўся старажытны інстытут веча як важнага органа мясцовага самакіравання з кампетэнцыяй выбрання мясцовых уладаў, арганізацыі нясення воінскай службы, вырашэння гаспадарчых спраў. Мясцовыя баяры мелі манапольнае права на займанне земскіх пасадаў.

У пачатках XIV ст. у ВКЛ увайшлі Турава-Пінская і Берасцейская землі. Для некаторых гісторыкаў такое ранняе іх далучэнне дало падставы для распаўсюджванне на іх назвы цэнтральнай вобласці дзяржавы «Літва».

Справу Гедыміна працягнуў яго сын – вялікі князь Альгерд (1345 – 1377 г.). Пад час гаспадарання Альгерда Гедымінавіча канчаткова акрэслілася двухвектарнасць знешняй палітыкі ВКЛ, менавіта, абарона ад крыжакоў на захадзе і актыўныя тэрытарыяльныя набыткі на ўсходзе

[1] У наступныя стагоддзі менавіта Полаччына, Віцебшчына і Смаленшчына будуць называцца ў ВКЛ «Руссю» у адрозненне ад цэнтральнай вобласці дзяржавы «Літвы», а таксама «Масквы», «Ноўгарада» і інш.



і поўдні. Гэтая двухкірунковасць знайшла адлюстраванне ў арганізацыі ўнутранага жыцця краіны і яе адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле. Альгерд утварыў дуумвірат з братам Кейстутам. Аб'яднаўшы свае сілы, яны ажыццявілі дзяржаўны пераварот (1345 г.), звёўшы з вялікакняскага стала малодшага брата Яўнута, якога Гедымін пакінуў сваім пераемнікам. Дуумвірат мацнейшых у краіне князёў Гедымінавічаў забяспечыў захаванне моцнай цэнтральнай улады ў дзяржаве, падзеленай Гедымінам на буйныя удзелы, якімі кіравалі яго сыны.

Альгерд і Кейстут падзялілі дзяржаву на дзве часткі: Віленскую (Альгерда) і Троцкую (Кейстута) без уліку існуючых у краіне этнічных розніцаў і межаў. Усе новыя тэрытарыяльныя набыткі пароўну дзяліліся паміж братамі. Кейстут адказваў за заходні кірунак, найперш за арганізацыю абароны ад Ордэна, Альгерд трымаў тытул вялікага князя і ажыццяўляў усходнюю палітыку.

Пры Альгердзе да ВКЛ была далучана Валынь (1352 г.), Бранск і Смаленск (1357 г.), Кіеў (1362 г.), частка Падолля (1363 – 1364 г.) – пасля перамогі над татарамі на Сініх Водах у 1362 г., Чарнігава-Северская зямля (канец 60-х – першая палова 70-х гадоў XIV ст.). Украінскія землі былі здабытыя не толькі ў супрацьстаянні з татарамі, але і ў барацьбе з Польскім каралеўствам за спадчыну Галіцка-Валынскай дзяржавы (працягвалася ад 40-х да 60-х гадоў XIV ст.), якая закончылася падзелам апошняй. Галіцкую Русь заняла Польшча, да ВКЛ адышла большая частка Валыні, частка гэтай зямлі (Белз, Холм, Уладзімір) засталася пад уладай князёў з роду Гедыміна, якія прызналі сябе леннікамі караля Польшчы. Альгерд распаўсюдзіў ўплывы ВКЛ на Наўгародскую і Пскоўскую рэспублікі і праводзіў актыўную антымаскоўскую палітыку. У гістарыяграфіі усходняя палітыка Альгерда часта ацэньваецца як рэалізацыя буйной палітычнай праграмы, меўшай на мэце аб'яднанне ўсіх земляў Русі.

На заходняй мяжы Кейстут (часам з дапамогай вялікага князя) даволі паспяхова арганізоўваў абарону ад Ордэна. Ваеннае супрацьстаянне з крыжакамі заставалася галоўнай дзяржаўнай задачай на працягу амаль паўтара стагоддзя і аказала значны ўплыў на развіццё і фармаванне ўнутранага ладу беларуска-літоўскага гаспадарства. Неабходнасць канцэнтрацыі сіл і намаганняў у гэтай зацятай барацьбе абумовіла фармаванне на працягу канца XIII і XIV ст. моцнай цэнтральнай улады на чале з дынастыяй, якая стала галоўным арганізатарам абароны краіны. Здольнасць да актыўнага супраціву такому грознаму ворагу як Ордэн значна павышала аўтарытэт ВКЛ у вачах насельнікаў суседніх рускіх земляў, якія бачылі ў гэтым роднасным і моцным дзяржаўным арганізме надзейнага абаронцу ад

татарскага ярма. Напэўна, гэтым можна вытлумачыць хуткі тэрытарыяльны рост дзяржавы праз далучэнне рускіх земляў нават у самы напружаны час супрацьстаяння крыжацкай агрэсіі.

Важныя для далейшага лёсу краіны палітычныя падзеі і рашэнні адбыліся ў часы гаспадарання Ягайлы і Вітаўта. Найважнейшая з іх – свядомы выбар культурна-палітычнай арыентацыі на заходнееўрапейскую цывілізацыю праз упрывілеяванне каталіцкага веравызнання ў дзяржаве (пачата Ягайлам і працягнута Вітаўтам).

Для далейшага развіцця краіны важнейшае значэнне мела таксама цэнтралізацыя дзяржавы шляхам ліквідацыі ўдзельнай сістэмы, праведзеная вялікім князем Вітаўтам.

Вялікі князь Альгерд пакінуў сваім пераемнікам Ягайлу, з чым пагадзіўся Кейстут. Аднак працягнуць сістэму дуумвірата не ўдалося. У хуткім часе Ягайла ўступіў у канфлікт з Кейстутам і яго сынам – гарадзенскім князем Вітаўтам. Пад час канфлікту, які пераўтварыўся ў вайну, загінуў Кейстут. Абодва бакі па чарзе карысталіся падтрымкай Ордэна, і ўрэшце Вітаўт і Ягайла прыйшлі да паразумення (Астроўскае пагадненне 1392 г.), якое перадала ўладу ў ВКЛ Вітаўту Кейстутавічу.

Важныя гістарычныя наступствы мела унія ВКЛ і Польшчы, заключаная Ягайлам у 1385 г. у Крэве. Ягайла меў перад сабой альтэрнатыву – выбар паміж Усходам і Захадам. З аднаго боку, шлюб з дачкой маскоўскага князя і, адпаведна, арыентацыя на Усход. З другога, – жаніцьба з польскай каралевай і акрэсленне арыентацыі на Захад. У ягайлавай дзяржаве колькасна дамінавалі праваслаўныя, таму ўсходні праект, несумненна, ацэньваўся дастаткова сур'ёзна. Аднак сувязі з Захадам і ўплывы апошняга ўжо былі настолькі моцнымі, каб пераважыць пры прыняцці рашэння. Уплыў на выбар мелі таксама асабістыя інтарэсы і амбіцыі Ягайлы. Каралеўскі тытул і адпаведнае яму месца ў заходнееўрапейскай іерархіі аказаліся для Ягайлы Альгердавіча больш прывабнымі (чаго нельга сказаць, пра яго дзеда Гедыміна або заснавальніка дзяржавы Міндаўга), чым пасада вялікага князя. Рашучасць і пэўнасць Ягайлы пры прыняцці канчатковага рашэння пацвярджаецца той акалічнасцю, што атрыманне каралеўскага вянца было абумоўлена няпростымі палітычнымі і матэрыяльнымі ўмовамі. Акрамя няпростых палітычных абавязкаў (вярнуць Польскаму каралеўству усе страчаныя землі), Ягайла мусіў прайсці выпрабаванне сваёй мужчынскай годнасці – выплаціць адступное аўстрыйскаму канкурэнту – даўняму жаніху Ядвігі, які ўжо нібыта меў нават інтымнае спатканне з польскай каралевай.

Сярод іншага, Ягайла абяцаў узамен за польскую карону далучыць да Польскага каралеўства ВКЛ і неўзабаве пачаў сваю абяцанку выконваць (уводзіў польскія гарнізоны, прызначаў палякаў на



дзяржаўныя пасады), чым выклікаў незадаволенасць сярод баярства. Палітычны сапернік Ягайлы Вітаўт узначаліў барацьбу за незалежнасць дзяржавы, якая закончылася перамогай, замацаванай Астроўскім пагадненнем. Вялікім князем стаў Вітаўт (1392 – 1430 г.), захаваўшы фармальную васальную залежнасць ад Ягайлы.

Дзейнасць новага гаспадара паказала, што ён не ставіў пад сумнеў стратэгічны выбар Ягайлы, а наадварот, працягваў трымаць курс на Захад.

З княжаннем Вітаўта звязана з'яўленне на землях Беларусі яўрэйскай і татарскай дыяспары ў апошніх дзесяцігоддзях XIV ст. У гарадах і мястэчках заходняй Беларусі ўзніклі яўрэйскія і татарскія раёны, распачалася паступовая інтэграцыя новых этнічных меншасцяў у беларускую культуру.

**Тварам да Захаду – цывілізацыйная пераарыентацыя**

Выбар Ягайлы на карысць Захаду быў абумоўлены не яго асабістымі прымхамі, а рэальнымі ўплывамі ў краіне заходнееўрапейскай цывілізацыі, усведамленнем палітычнай і культурнай моцы (і вынікаўшай адсюль прывабнасці) Захаду. Заходнеўрапейскія ўплывы паступова ўзмацняліся ў краіне ад сярэдзіны XIII ст., але пры Міндаўгу і нават у часы Гедыміна яны яшчэ не былі дастаткова моцнымі, каб выбар на карысць Захаду акрэсліўся трывала і канчаткова.

Да цывілізацыйнай тэорыі Арнольда Тойнбі арганічна дапасоўваецца паняцце свет-гаспадарка[1], распрацаванае французскім гісторыкам Фернанам Брадэлем у кантэксце сусветнай эканамічнай гісторыі. Абстрактныя тэарэтычныя канструкцыі Тойнбі добра ілюструюцца Брадэлем на прыкладзе развіцця матэрыяльнай культуры і функцыянавання «эканомікі абмену».

Уключэнне беларускіх земляў у еўрапейскую цывілізацыю (або свет-гаспадарку) адбывалася ў часы сярэднявечча, у яго позняй фазе, г.зн. у другой палове XIII – XIV ст. Аднак яно праходзіла не праз пашырэнне сферы ўплываў заходнееўрапейскай цывілізацыі на дзікунскую перыферыю Еўропы, як, напрыклад, у Прусіі, а праз перамену цывілізацыйнай арыентацыі. Узмацненне прысутнасці Захаду на Беларусі распачалося ў другой палове XIII – пачатку XIV ст. Пераарыентацыя адбывалася паралельна ў сферы матэрыяльнай

[1] Свет-гаспадарка – паняцце, выдзеленае Фернанам Брадэлем. Гэты даследчык адрознівае паняцце « гаспадарка-свет» ад « святовай гаспадаркі». Апошняя распаўсюджваецца на ўвесь свет, «гаспадарка-свет» «*закранае толькі частку Сусвету, эканамічна самастойны кавалак планеты, здольны быць самадастатковым, такім, якому яго ўнутраныя сувязі і абмены надаюць пэўнае арганічнае адзінства*» (Бродель, Ф. Время мира. Материальная цивилизация, экономика и капитализм. XV – XVIII вв. / Ф. Бродель. – Москва, 1992. – С. 14).

(прынясце заходнееўрапейскіх узораў матэрыяльнай культуры) і духоўнай (каталіцкае місіянерства, спробы хрышчэння ўладароў) як эвалюцыйны працэс праз накапленне і пераход у новую якасць. Новыя парасткі прарасталі не на пустцы – беларускія землі мелі ўжо даўнія традыцыі кантакту з Заходняй Еўропай (ад ранняга сярэднявечча).

Якраз на пагранічны цывілізацый, якім з'яўлялася (і з'яўляецца сёння) Беларусь, такія з'явы, як іх аслабленне ці ўзмацненне, праяўляюцца найвідочней у звужэнні арэалу слабейшай і пашырэнне межаў мацнейшай цывілізацыі. У XIII ст. Усходнерымская (Візантыйская) імперыя ўжо страціла даўнейшую сілы. Мангольскі пагром паўднёвай і ўсходняй Русі ў 1238 – 1240 г. і ўладкаванне ў прычарнаморскім стэпе Залатой Арды перарвалі даўнія культурныя сувязі з візантыйскімі землямі. Захоп крыжаносцамі Канстанцінопаля ў 1204 г. прывёў да распаду імперыі на некалькі частак.

У той самы час заходнееўрапейская цывілізацыя ўзмацнялася і пашырала межы сваіх уплываў. Значны дэмаграфічны ўздым у Заходняй Еўропе выклікаў міграцыйны рух заходнееўрапейцаў, у першую чаргу, з нямецкіх земляў, у слаба заселеныя краіны Сярэдняй і Усходняй Еўропы. Адным з наступстваў гэтай міграцыі стала ўзнікненне нямецкіх калоній у Прыбалтыцы (Інфлянты і Прусія). Гэтыя нямецкія энклавы, якія здолелі стварыць у XIII ст. уласныя і даволі моцныя дзяржаўныя арганізацыі (Ордэнская дзяржава ў Прусах), сталі актыўным праваднікам заходнееўрапейскіх уплываў на суседнія тэрыторыі Літвы і Беларусі. У той жа час на землях паўночна-усходняй Русі (Маскоўская дзяржава) выразна праяўляліся ўплывы Залатой Арды, як у галіне дзяржаўна-палітычнага жыцця, так і ў матэрыяльнай культуры.

Прыкметы ўплываў заходнееўрапейскай цывілізацыі на землях Беларусі з'явіліся з сярэдзіны XIII ст., у XIV ст. яны сталі выразна відочнымі, а адносна XV ст. ужо можна казаць пра пераарыентацыю земляў Беларусі з усходневізантыйскай на заходнееўрапейскую цывілізацыю. Прычынаў такой культурна-эканамічнай і палітычнай пераарыентацыі можна выдзеліць некалькі. Галоўныя з іх – аслабленне Усходу-Візантыі і ўзмацненне Захаду.

Паўсталае ў сярэдзіне XIII ст. Вялікае Княства Літоўскае аб'яднала ў сваіх межах зону цывілізацыйнага пагранічча і разам з ёй пераняло яе важнейшую дылему – выбар між Усходам і Захадам.

Арыентацыя на заходнееўрапейскую цывілізацыю праявілася ад самых пачаткаў Вялікага Княства Літоўскага. Рашаючым чыннікам было суседства з Ордэнскай дзяржавай і Польшчай. Цывілізацыйныя змены адбываліся адначасова як у культурнай, так і палітычнай сферах. У сярэдзіне XIII ст. адбылася адна важная падзея – сведчанне узмацнення заходнееўрапейскага ўплыву на беларускіх землях. У 1251 і 1253 г. у



Наваградку прайшло хрышчэнне ў каталіцтва, а потым каранацыя з санкцыі папы рымскага, першага гаспадара новай беларуска-літоўскай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, Міндаўга. І хоць пазней вялікі князь адышоў ад каталіцтва і не ўжываў каралеўскага тытула, традыцыя была закладзеная. Амаль кожны чарговы вялікі князь літоўскі (Віцень, Гедымін, Альгерд, Ягайла [17]) дэклараваў сваю волю да прыняцця хрысціянства паводле заходняга абраду. Свядомы палітычны выбар далучэння краіны да заходнееўрапейскай цывілізацыі даканаў вялікі князь Ягайла ў 1385 г. праз Крэўскую унію. У 1386 – 1387 г. вялікі князь сам перахрысціўся ў каталіцтва, ахрысціў у каталіцтва сваіх падданых-паганцаў і многіх праваслаўных і ўвёў дзяржаўную пратэкцыю новай веры. Гэтакім чынам быў рэалізаваны свядомы палітычны выбар заходнееўрапейскай арыентацыі. У сярэднявеччы, як вядома, «рэлігія была тагачасным крытэрыям грамадзянства як у Еўропе, так і паўсюдна» [2, с. 59].

1. Пра тое, што гэты выбар быў праявай рэальных тэндэнцый, якія мелі месца на беларуска-літоўскіх землях, сведчыць актыўнае распаўсюджванне заходнееўрапейскіх уплываў на мясцовую матэрыяльную культуру. Важным паказчыкам значнасці гэтай з'явы было тое, што яна закранула не толькі элітарную (мураваная архітэктура, зброя, каштоўныя пабытовыя рэчы, прадметы раскошы), але і масавую матэрыяльную культуру (кераміка, вырабы са шкла і жалеза) [18, с. 108 – 148, 152].

Беларускія і ўкраінскія землі мелі даўнія сувязі з суседнімі Польшчай і Венгрыяй – краінамі, якія раней былі далучаныя да заходнееўрапейскай цывілізацыі. Менавіта адтуль паходзяць першыя заўважальныя сведчанні заходнееўрапейскага ўплыву на Беларусі. Гэта архітэктурныя помнікі гатычнага стылю – г.зв. вежы валынскага тыпу, якія былі ўзведзены ў другой палове XIII ст. у Берасці, Гародні, Камянцы, Наваградку і Тураве. У пачатку XIV ст. аналагічная пабудова з'явілася і ў Полацку. Да нашых дзён ацалелі толькі слынная Белая вежа ў Камянцы (ад яе паходзіць назва Белавежскай пушчы) і руіны вежы «Шчытоўка» на Наваградскім замку. Пабудова гэтых аб'ектаў, выкарыстанне ў ёй будаўнічых тэхнікаў і матэрыялаў заходнееўрапейскага ўзору дала падставу спецыялістам для высновы пра «стылёвую пераарыентацыю архітэктуры Беларусі, якая пачалася ў другой палове XIII ст.» [19, с. 23].

Ад XIV ст. усе культавыя будынкі розных хрысціянскіх і не хрысціянскіх канфесій будаваліся паводле еўрапейскіх архітэктурных стыляў – готыкі, рэнесансу, барока.

Беларускія землі здаўна кантактавалі з Заходняй Еўропай праз старажытныя міжнародныя гандлёвыя шляхі па рэках Бугу і Нараву, а

таксама па Заходняй Дзвіне. Апошняя дарога была адным з адгалінаванняў важнейшага агульнаеўрапейскага гандлёвага шляху, які пралягаў уздоўж пабярэжжа Паўночнага і Балтыйскага мораў. Ад XIII ст. вырасла значэнне гандлёвай дарогі па Нёмане, менавіта ад Навагрудка і Гародні да Караляўца. Галоўнымі прадуктамі экспарту былі лясныя тавары, імпарту – рамесныя, у першую чаргу, жалезныя вырабы. У XV – XVI ст. па Заходняй Дзвіне і Нёмане пачынаецца таксама вываз у Заходнюю Еўропу збожжа.

Нямецкія энклавы ў Прусах і Інфлянтах сталі актыўным правадніком заходнееўрапейскіх уплываў на беларускія землі. Ордэнская дзяржава сваёй актыўнай і паспяховай тэрытарыяльнай экспансіяй змусіла мясцовыя ўсходнеславянскія княствы, а таксама Вялікае Княства Літоўскае да арганізацыі вайсковага супраціву і пераймання заходніх сродкаў вядзення вайны і ўзораў зброі. Сведчанні гэтых перайманняў да сённяшняга дня відочныя на заходнебеларусіх і летувіскіх землях у постаці руінаў гатычных замкаў-кастэляў ордэнскага ўзору ў Крэве, Лідзе, Медніках, Троках, Вільні, Коўне. Яны былі збудаваныя ў XIV ст. спецыяльна для абароны ад прускіх крыжакоў [20].

2. Акрамя таго, у культурных наслаеннях гэтых замкаў, а таксама ўмацаваных гарадоў выяўлена вялікая колькасць прадметаў зброі і рыштунку, якія трапілі сюды падчас крыжацкіх нападаў або былі выробленыя паводле нямецкіх узораў. Гэта наканечнікі арбалетных стрэлаў, шпоры, фрагменты даспехаў і інш. Ад немцаў былі перанятыя многія прадметы вайсковага рыштунку і зброі ў Вялікім Княстве Літоўскім, пра што сведчыць, у прыватнасці, іх назвы ў беларускай мове. Спецыяльныя даследаванні паказваюць, што ад XIV ст. выяўляецца выразная заходняя арыентацыя ў эвалюцыі ўзбраення ў Вялікім Княстве Літоўскім [21, с. 267 – 270]. У беларускую мову трывала ўвайшлі назвы рамесных вырабаў і інструментаў, меры вагі і даўжыні, такія як кафля (die Kachel), гэблік (der Hobel), цясляр (der Tischler), шнур (die Schnur), лашт (die Last), штаба (der Stab) і інш.

Археалагічныя даследаванні выявілі агромністую колькасць артэфактаў, дазволілі вывучыць храналогію з'яўлення на Беларусі катэгорый матэрыяльнай культуры, перанятых ад заходнееўрапейскага гісторыка-культурнага арэалу. У якасці прыкладу можна прывесці распаўсюджванне на Беларусі такой катэгорыі матэрыяльнай культуры як кафля. Пасля яе вынаходніцтва ў Еўропе ўжо праз пару дзесяцігоддзяў, у пачатку XIV ст., яна з'явілася на Беларусі. Варта ўвагі, што самыя старажытныя кафляныя вырабы пачатку XIV ст. археолагі знайшлі ў месцах, якія найшчыльней былі звязаныя з Еўропай, менавіта ў Полацку (шлях па Заходняй Дзвіне), таксама на захадзе краіны – ў Лідскім замку, Навагрудку і Гародні [22, с. 4]. Для параўнання – у Маскоўскай дзяржаве (з яшчэ халаднейшымі зімамі) выраб кафлі распачаўся толькі ў XVII ст. і быў прынесены сюды беларускімі майстрамі [22, с. 16 – 17].



У XIV ст. Беларусь, як і ўся Еўропа, перажывала гаспадарчы і дэмаграфічны крызіс. Няма выразных сведчанняў пра тое, каб звязаць яго з т.зв. «Чорнай смерцю», наведаўшай Еўропу ў сярэдзіне стагоддзя, тым не менш, археалагічныя даследаванні паказваюць зніжэнне інтэнсіўнасці гарадскога жыцця, змяншэнне гарадской тэрыторыі, найперш коштам неўмацаваных пасадаў. Найбольш актыўнае жыццё канцэнтравалася ў замках, асабліва ў размешчаных блізка да мяжы з Прусамі і Інфлянтамі. Археалагічныя раскопкі паказалі, што ў гарадах на пасадах над культурным слоем XIII ст. амаль адсутнічаюць напластаванні XIV – першай паловы XV ст., а залягаюць адразу слаі другой паловы XV ст. – пачатку новага еўрапейскага дэмаграфічнага ўздыму.

Адначасова з агульным збядненнем масавай матэрыяльнай культуры ўжо ад пачатку XIV ст. у ёй усё выразней праяўляліся заходнееўрапейскія ўплывы. У гарадах і замках з'яўляліся новыя катэгорыі рэчаў, запазычаныя з захаду (вялікапамерная цэгла, кафля, дахоўка, узоры ўзбраення). Арганізаванае Гедымінам будаўніцтва новых мураваных замкаў (у Лідзе, Крэве, Медніках і інш.) адбывалася ўжо поўнасцю паводле гатычных традыцый і па ўзору ордэнскіх замкаў у Прусіі.

Ад канца XIV ст. пачаўся працэс атрымання беларускімі гарадамі магдэбургскага права, што распачало новы этап іх гаспадарчага развіцця і выклікала фармаванне новай (еўрапейскай) планіровачнай структуры.

Выразным матэрыяльным сведчаннем еўрапейскай арыентацыі з'яўляецца манетная сістэма Вялікага Княства Літоўскага. У XIV ст. асновай грашовай гаспадаркі дзяржавы стала чэшская манета – пражскі грош (GROSSI PRAGENSES – па абазначэнню на рэверсе). Распаўсюджанне гэтай манеты на беларускіх землях выклікала ўсталяванне лічыльна-грашовых паняццяў капа (60 грошаў), паўкапа, рубель і палціна. Два стагоддзі – XIV і XV – у беларускай нумізматыцы акрэсліваецца як «перыяд пражскага гроша» [23, с. 149]. Красамоўны факт – у сучаснай беларускай мове назва сродку таварнага абмену – «грошы» – паходзіць менавіта ад назвы гэтай манеты.

Такім чынам, пачынаючы ад другой паловы XIII ст., на беларускіх землях, гэтаксама як і ў іншых частках Вялікага Княства Літоўскага, адбывалася змена цывілізацыйнай арыентацыі, пераход ад візантыйскай да заходнееўрапейскай традыцыі. На працягу наступных XIV і XV ст. мясцовая матэрыяльная культура набыла выразны еўрапейскі характар.

Беларускія землі ўсё больш ўцягваліся ў гандлёвы абмен з Заходняй Еўропай і паступова станавіліся перыферыйнай часткай еўрапейскага свету-гаспадаркі.

Акрэсленая палітычнымі рашэннямі арыентацыя на Захад стварыла падставу для цывілізацыйнага канфлікту паміж прыхільнікамі старой і новай традыцыяў. Гэты канфлікт меў наступствы як пазітыўныя (сутыкненне – сінтэз культурных традыцый), так і негатыўныя (рэлігійная барацьба, палітычныя інтарэсы).

### *Спіс крыніц і літаратуры*


1. Тойнби, А. Дж. Постижение истории / А. Дж. Тойнби. – Москва: Прогресс, 1991.
2. Mundy, J.H. Europa średniowieczna. 1150 – 1309 / J.H. Mundy. – Warszawa, 2001.
3. Ле Гофф, Ж. Цивилизация средневекового Запада / Ж. Ле Гофф. – Москва, 1992.
4. Manteuffel, G. Zarysy z dziejów krain dawnych inflanckich / G. Manteuffel. – Kraków, 2007.
5. Штыхаў, Г. Полацкае княства / Г. Штыхаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т.5. – Мінск, 1999.
6. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 1: Старажытная Беларусь. – Мінск, 2000.
7. Археалогія Беларусі. – Мінск, 1999.
8. Краўцэвіч, А. Працэс балта-славянскіх кантактаў на Панямонні і ўтварэнне Вялікага Княства Літоўскага / А. Краўцэвіч // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Białystok. – 1998. – № 9. – С. 5 - 25.
9. Шакун, Л. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы / Л. Шакун. – Мінск, 1963.
10. Полоцкие грамоты. – Москва, 1977. – Вып. 1.
11. Historia Europy Środkowo-Wschodniej /red. J. Kłoczowski. – Lublin, 2000. – T. 1.
12. Ochmański, J. Historia Litwy / J. Ochmański. – Wrocław – Warszawa – Kraków, 1990.
13. Ермаловіч, М. Па слядах аднаго міфа / М. Ермаловіч. – Мінск, 1991.
14. Краўцэвіч, А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага / А. Краўцэвіч. – Rzeszów, 2000.
15. Gedimino laiškai. - P. 116 – 145.
16. Голубовичи, В. и Е. Кривой город Вильно / В. и Е. Голубовичи // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР. – Москва, 1945. – Вып. 11.
17. Chodynicki, K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 / K.Chodynicki // Przegląd Historyczny. – 1914. – T. 18. – S. 215 – 319.
18. Краўцэвіч, А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV – XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой / А. Краўцэвіч. – Мінск, 1991. С. 108 – 148, 152.
19. Кушнярэвіч, А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII – XVI стст.: Гіст. і архіт.-археал. дослед. / А.М Кушнярэвіч. – Мінск, 1993.
20. Krawcewicz, A. Zamki Giedymina przy zachodniej granice Litwy / A. Krawcewicz // Zamki i przestrzeń społeczna w Europie Środkowej i Wschodniej. – Warszawa, 2002. – S. 269 – 274.
21. Бохан, Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст. / Ю.М. Бохан. – Мінск, 2002.
22. Трусаў, А.А. Беларускае кафлярства / А.А. Трусаў. – Мінск, 1993.
23. Рябцевич, В.Н. Нумизматика Беларуси / В.Н. Рябцевич. – Минск, 1995. – С. 149.



**Краўцэвіч Аляксандр Канстанцінавіч** – археолаг, гісторык-медыевіст, доктар гістарычных навук. Даследуе сярэднявечную і новачасную гісторыю Беларусі.





УДК 94(476)



**О.Е. Голубев** (Минск)


# ПЛАНЫ ВОССТАНОВЛЕНИЯ ЛИТОВСКОЙ МИТРОПОЛИИ В ЦЕРКОВНОЙ ПОЛИТИКЕ ВЕЛИКОГО КНЯЗЯ ОЛЬГЕРДА


*Статья посвящена планам и деятельности Ольгерда по восстановлению митрополии в Великом княжестве Литовском. Анализируется деятельность трех ставленников Ольгерда – Феодорита, Романа и Киприана.*


Литовская православная митрополия, учрежденная при великом князе Гедимине (в период с 1315 по 1319 г., когда на византийском престоле находился император Иоанн Гликис), впоследствии стала одной из трех митрополий на восточнославянских землях наряду с Киевской и Галицкой. Как раз в это время киевский митрополит Петр перенес кафедру из Киева в Москву, что, очевидно, расходилось с интересами правителей ВКЛ. В этой ситуации Гедимин и решил добиваться образования отдельной литовской митрополичьей кафедры для своих земель.

До нас не дошло достоверных исторических сведений об именах первых литовских митрополитов. Но в константинопольских актах сохранилось свидетельство, что в столице империи на одном из соборов присутствовал некий Феофил, названный «митрополитом литовским» (1329 г.) [1, с. 89], возможно, именно он занимал кафедру первым. После смерти Феофила в Константинополе не торопились назначать ему преемника. Историк церкви А.В. Карташев приводит интересную выдержку из патриаршего списка архиерейских кафедр времен Андроника Старшего (1282–1328 г.): «Эта митрополия, раз учрежденная при императоре Андронике Старшем, охотно возводившем епископии на степень митрополий, потом совершенно упразднилась частию по тому, что в Литве христиан слишком мало, частию по тому, что этот народ по соседству с Русью может быть управляем русским митрополитом» [2, с. 314].

Несколько позже, в 1337 г., вероятно, при содействии великого князя Гедимина в Константинополе получил посвящение некий «преосвященный галицкий архиерей». Можно предположить, что великий князь, опровергая приведенные тезисы о малочисленности литовских христиан, попытался объединить земли Галицкой и Литовской митрополий под властью одного митрополита.

В 1345 г. митрополит киевский и всея Руси Феогност, резиденция которого находилась в Москве, воспользовавшись тем, что в

константинопольской Софии обрушилась апсида, отправился в патриаршую столицу и, задобрив патриарха пожертвованиями, добился от него постановления об упразднении Галицкой митрополии. В этом постановлении, в частности, говорилось следующее: «Посему имеют опять подчиняться митрополии святейшие епископии, находящиеся в стране малой России, именуемой Волынью, как то: Галичская, Владимирская, Холмская, Перемышльская, Луцкая и Туровская, и это постановление, как древнее и справедливое, и совершенно основательное, и направленное к пользе многочисленного народа, и поистине необходимое для его мира и единомыслия, будет принято без перемены и святейшими патриархами после нас» [3, с. 122 – 123].

Великий князь Ольгерд стал продолжателем политики своего отца Гедимина по укреплению позиций государства в соперничестве с Московским княжеством за лидерство на русских землях: ему удалось предпринять три военных похода ( 1368, 1370 и 1372 гг.) и три «духовных» похода на Москву, т.е осуществить три попытки получить отдельного митрополита для подвластных ему земель. В ходе исторических событий на литовскую кафедру последовательно выдвигались три человека: Феодорит, Роман и Киприан, ставший впоследствии митрополитом киевским и всея Руси.

К 1350 г. в состав ВКЛ входили обширные восточнославянские земли, населенные православными. В 1352 г. мы впервые встречаемся с личностью Феодорита, которого Ольгерд посылает в Константинополь для посвящения в сан литовского митрополита. О происхождении Феодорита практически ничего не известно. Ольгерд пытался добиться его поставления при живом митрополите киевском Феогносте, что, естественно, не могло найти положительной реакции в столице империи. Тогда Феодорит, воспользовавшись каноническим раздором между Константинополем и Тырново, получил посвящение от болгарского патриарха. Прот. И. Мейндорф на этот счет заметил: «Последствия этого акта, подразумевающего договоренность Литвы, Болгарии и, возможно, Сербии, могли быть очень серьезными, вплоть до отделения русской митрополии от Константинопольского патриархата. Можно предположить, что Ольгерд намеревался установить автокефальную церковь, потому что вряд ли русские или болгары считали возможной постоянную каноническую зависимость русской церкви от Тырновского патриархата. В любом случае, такой удар был бы весьма болезненным для обедневшей и разделенной Византии, как в экономическом, так и в политическом отношении» [4, с. 78].

Феодорит пребывал на кафедре около двух лет. Согласно свидетельствам источников, он притязал на стратегически важную киевскую епархию («разбойнически и вместе тирански присвоил себе



Киев и находился в нем») [5, с. 352], кроме того, на его сторону даже хотел склониться новгородский епископ Моисей. В ответ на такие дерзкие антитканоничные действия константинопольский патриарх низложил и отлучил Феодорита [5, с. 350].

Вскоре в Византии произошла смена власти: на императорский престол при поддержке генуэзцев взошел Иоанн V Палеолог, а на патриарший – Филофей Коккин. После этого в Константинополе пытались проводить политику по сохранению баланса политических сил княжеств русских земель, что благоприятствовало Ольгерду. Он оставил Феодорита и выдвинул нового кандидата в митрополиты – Романа, родственника своей второй жены Иулиании (родом из Твери). В результате – Роман был посвящен патриархом в сан «митрополита литовского» («μητροπολίτης Λιτβών») (это произошло около 1354 г.), в то время как Алексий стал митрополитом киевским и всея Руси. Далее история складывалась из цепи последовательных конфликтов между двумя «русскими» митрополитами, апеллировавшими к Константинополю как к третейскому судье. Не трудно догадаться, кто выступал инициатором всех этих раздоров. Роман, подобно своему предшественнику по кафедре, предпринял попытку захватить Киев, где совершал хиротонии и литургии. Для расследования споров между митрополитами из Константинополя были отправлены послы, но им так и не удалось выполнить свою миссию, так как Роман неожиданно скончался в 1362 г.

«Митрополичья тяжба» оставила после себя неприятное впечатление в столице Византийской империи. Для сглаживания ее последствий патриарх Филофей призывал Ольгерда примириться с митрополитом Алексием. Но Ольгерд был готов пойти на примирение только в том случае, если святитель будет жить в Киеве. Однако такой ультиматум был неприемлем для патриарха, и в 1364 г. он принял синодальное определение «о единстве русской митрополии»: «И так настоящая наша сигиллиодская грамота повелевает, чтобы Литовская страна и все то, что есть в ней самой и находится под ее властью, поступило под власть Киевской митрополии, и, сделавшись с этого и на все последующее время ее епископией, должны признавать своею митрополиею Киев, в котором должен рукополагаться епископ для нее и должны по-прежнему входить в пределы Киевской митрополии» [5, 525–527]. Но эта грамота так и не была опубликована, по свидетельству исследователей она вошла в реестр патриарших актов в перечеркнутом виде.

Такое решение патриарха не устраивало Ольгерда, который отправил в столицу грамоту с требованием особого митрополита для подвластных земель. После этого на русские земли с «миротворческой»

миссией был отправлен апокрисиарий Иоанн, но его деятельность, несмотря на привезенные послания, фактически не дала положительного результата. Спустя девять лет патриарх повторно отправил своего посла иеромонаха Киприана для разрешения указанной тяжбы. Болгарину Киприану также не удалось добиться успеха, но он пришел к парадоксальному выводу о том, что земли ВКЛ и Галича не могут подчиняться единому московскому церковному центру. Сложно сказать, что побудило его сделать такое умозаключение: деятельность Ольгерда или же сам патриарх допускал такое решение проблемы, как исключительную меру, и дал соответствующие инструкции Киприану. Историк Т.В. Барсов писал, что Ольгерд составил специальную грамоту патриарху, в которой требовал посвящения Киприана, а иначе грозился обратиться к Римской церкви за митрополитом [6, с. 403]. Этот сильный аргумент подействовал, и в результате Киприан был посвящен в сан литовского митрополита с тем условием, что по смерти Алексия он займет киевскую кафедру, объединим тем самым всю русскую церковь под своим началом. Великий князь Ольгерд умер в 1377 г., и Киприану так и не удалось стать полноправным митрополитом литовским. Эта был третья попытка Ольгерда получить митрополита для подвластных ему земель.

Все вышеизложенное позволяет сделать следующие выводы:

1. Великий князь литовский Ольгерд в борьбе за первенство на русских землях претворял в жизнь хорошо продуманный план действий, одним из пунктов которого было образование отдельной кафедры со своим митрополитом. Великий князь предпринял три попытки получить собственного митрополита. Первым был Феодорит, о личности которого имеются довольно скудные сведения, но, насколько можно судить, он был человеком с некоторым духом авантюризма. Его дерзкое посвящение в Тырново (вопреки церковным канонам) и захват киевской кафедры характеризуют его как довольно смелую и решительную личность. По-видимому, его честолюбивые планы по получению духовной власти только отчасти совпадали с планами Ольгерда по получению власти политической. Феодорит сделал довольно смелые, если не сказать отчаянные, шаги и, потерпев неудачу, вынужден был уйти с политической арены. Вторым ставленником Ольгерда был родственник его жены Роман, по-видимому, более зависевший от политических амбиций князя. Он также покусился на древнюю киевскую кафедру и был замешан в скандальной истории о гонениях на христиан в городе Алексине. Но он пробыл у власти совсем недолго. И, наконец, последний литовский митрополит Киприан, окончательно «исправил ошибки» своих предшественников, став, уже после смерти Ольгерда, митрополитом киевским и всея Руси. Из всех кандидатов, как



представляется, лишь Киприан был умелым дипломатом, сумевшим привести к согласию разрозненные политические силы. Появление фигуры Киприана не случайно: для этой сложной миссии его выбрал сам патриарх Филофей, хорошо изучивший тонкости московско-литовских отношений.

2. Церковным и политическим планам Ольгерда не суждено было осуществиться в полной мере. Как известно, историческое первенство на русских землях перешло к Московскому княжеству, а киевский митрополит с резиденцией в Москве стал предстоятелем русской церкви. Однако особенно интересно изучение, незаслуженно забытых, церковных и политических акций великого князя Ольгерда, поскольку оно может пролить свет на многие темные страницы истории.

3. Феномену образования и существования Литовской митрополии уделяется мало внимания в историографии. Слабо изучена и политика великого князя Ольгерда в отношении Православной церкви, широко использовавшего рычаги церковной дипломатии. Кроме того, дополнительной проработки требуют вопросы взаимоотношений Константинополя и Вильно, так как исследователи традиционно уделяли больше внимание проблемам отношений Москвы и Константинополя, Москвы и Вильно, а литовско-византийский вектор зачастую ускользал из их поля зрения.

### *Список источников и литературы*


1. Афанасий (Мартос), архиеп. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни / архиеп. Афанасий (Мартос). – Минск: Белорусский Экзархат Русской Православной Церкви, 1990. – 300с.
2. Карташев, А.В. Очерки по истории Русской Церкви / А.В. Карташев – М.: Терра, 1997. – Т.1. – 570 с.
3. Тальберг, Н.Д. История Русской Церкви / Н.Д. Тальберг – М.: Изд. Сретенского монастыря, 1995. – 925 с.
4. Мейендорф, И., прот. Византия и Московская Русь. Очерк по истории церковных и культурных связей в XIV веке / прот. И. Мейендорф. – Париж : YMCA-Press, 1990. – 371 с.
5. Acta patriarchatus Constantinopolitani MCCCXV–MCCCCII e codicibus manu scriptis bibliothecae Palatinae vindobonensis: 2 vol. / F. Miklosich, I. Müller. – Wien, 1975. – Vol. 1 / F. Miklosich, I. Müller. – 1975. – 607 p.
6. Барсов, Т.В. Константинопольский патриарх и его власть над Русской церковью / Т.В. Барсов. — СПб., 1996. – 540с.


**Голубев Олег Евгеньевич** – аспирант кафедры историко-культурного наследия Беларуси Республиканского института высшей школы, Минск. Сфера интересов – история, богословие, классическая и древняя лингвистика (древнегреческий, латынь и санскрит). Занимается проблемами этно-конфессиональной истории Беларуси XIV века, в частности, изучением деятельности великого князя литовского Ольгерда.

УДК 271.2(476) (XV-XVI)

**Г.У. Васюк** (Гродна)

# ЗМЕНЫ Ў СТАНОВІШЧЫ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА (КАНЕЦ XV – ПАЧАТАК XVI ст.)

*Статья посвящена трансформации положения православной церкви ВКЛ на рубеже XV – XVI вв. Прослежены попытки православной иерархии реализовать ряд постановлений, направленных на улучшение внутрицерковной жизни и отношений церкви со светскими властями. Но эти намерения были реализованы только частично.*

Гісторыя праваслаўнай царквы ВКЛ у канцы XV – пачатку XVI ст. прыцягвае даследчыкаў тым, што ў гэты перыяд адбываюцца важныя змены ў яе ўнутраным жыцці, адносінах з уладамі. Праваслаў'е Вялікага княства Літоўскага таксама сутыкаецца з праблемай выбара у час шматлікіх войнаў ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай. У дачыненнях праваслаўнай царквы з каталіцкай мы не назіраем спробаў апошняй весці экспансію. Наступае перыяд адноснай раўнавагі ў міжканфесійных адносінах у ВКЛ.

Новая сітуацыя, якая склалася ў ВКЛ у канцы XV ст., патрабавала ўнутраных зменаў у праваслаўнай царкве. Жыць тымі правіламі і нормамі, якія скла́ліся яшчэ да стварэння Вялікага княства, было ўжо немагчыма. Канстанцінопальскі патрыярхат пасля падзення Візантыйскай імперыі быў не ў стане адыгрываць кіруючую ролю ў праваслаўным свеце Усходняй Еўропы. Праваслаўная царква атрымала ў гэтым рэгіёне большую самастойнасць. У другой палове XV стагоддзя на ўсходзе Еўропы канчаткова адасабляюцца два буйныя цэнтры праваслаў'я: Вільня і Масква. Паміж імі ўсё болей вызначаюцца адрозненні. Узмацненне Маскоўскай дзяржавы вядзе да паступовай ліквідацыі там самастойнасці царквы, яе поўнаму падпарадкаванню ўладзе. Маскоўскае праваслаў'е становіцца ізаляваным ад розных знешніх уплываў, не можа і не жадае адказваць на глыбокія культурна-гістарычныя змены, якія адбываюцца ў Еўропе.

У той жа час, калі Маскоўская дзяржава эвалюцыянуе ў бок дэспатычных формаў кіравання, Вялікае княства Літоўскае, наадварот, пераходзіць да рэжыму шляхецкай дэмакратыі, што адлюстроўваецца ў прывілеі Аляксандра Ягелончыка ад 1492 г. і канстытуцыі 1505 года пад назвай «Нічога новага». У 1529 годзе выдаецца Першы Статут ВКЛ, які значна ўмацоўвае прававыя адносіны ў дзяржаве. У ім не было спецыяльных артыкулаў, датычных праваслаў'я, але мелася шмат



палажэнняў аб абароне земскай уласнасці, у тым ліку і ўласнасці праваслаўнай царквы. У канцы XV – пачатку XVI ст. у Вялікае княства Літоўскае пранікаюць ідэі Рэнесанса. Пад іх уплыў падпадае і праваслаўнае насельніцтва.

Вельмі важным культурным пачынаннем была арганізацыя Швайпольтам Фіёлем кірылічнай друкарні ў Кракаве. Друкарня была створана па ініцыятыве праваслаўнай магнатэрыі, перш за ўсё Гаштольдаў, Солтанаў, Сапегаў, з мэтаю забяспячэння праваслаўнага насельніцтва літургічнымі кнігамі. Невыпадковы быў выбар кніг для друкавання. З друкарні Фіёля выйшлі чатыры літургічныя кнігі на царкоўнаславянскай мове: Часасловец, Актоіх, Трыод постная і Трыод цвятная [10, с. 199].

У канцы XV – пачатку XVI ст. на тэрыторыі Польшчы і ВКЛ існавала Кіеўска-Галіцкая праваслаўная мітраполія, якая падпарадкоўвалася канстанцінопальскаму патрыярху. У склад мітраполіі ўваходзіла 10 епархій. Сем з іх знаходзіліся на тэрыторыі ВКЛ: Кіеўская, Полацка-Віцебская, Смаленска-Северская, Чарнігава-Бранская, Турава-Пінская, Луцка-Астрожская, Уладзімірска-Берасцейская. У пачатку XVI ст. епархіі Смаленская і Чарнігаўская ў выніку войнаў адышлі ў склад Маскоўскай дзяржавы. Праваслаўныя епархіі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага былі падзелены на пратапопіі. Пратапопіі, у сваю чаргу, падзяляліся на шэраг прыходаў. Згодна з дадзенымі А. Мірановіча, у першай палове XVI ст. у Полацку было 22 прыходы, Пінску – 16, Вільні – 12, Берасці – 8, Гродне – 6 [10, с. 205].

У канцы XV – пачатку XVI ст. важнай справай для праваслаўнай царквы ў ВКЛ было умацаванне арганізацыйных структур і ўрэгуляванне адносін паміж свецкай і духоўнай уладамі. Эвалюцыя палітычнага строя ВКЛ, войны з Маскоўскай дзяржавай таксама патрабавалі выпрацоўкі новых прынцыпаў адносін паміж праваслаўнай царквой і дзяржавай.

Канец XV – пачатак XVI ст. былі спрыяльнымі для умацавання і развіцця арганізацыйных стуктур праваслаўнай царквы. Звязана гэта было з тым, што ўладары Вялікага княства Літоўскага Аляксандр Ягелончык (1492 – 1506) і Жыгімонт І (1506 – 1548) праводзілі спрыяльную палітыку ў адносінах да праваслаў'я. У гэты ж час мітрапалітамі ў праваслаўнай царкве былі выдатныя асобы, добра падрыхтаваныя да выканання сваіх абавязкаў: Макарый (1495 – 1497), Іосіф І (1499 – 1501), Іона ІІІ (1502 – 1507), Іосіф ІІ (1509 –1521).

Асабліва шмат для ўмацавання праваслаў'я ў Вялікім княстве Літоўскім зрабіў мітрапаліт Іосіф ІІ. Доўгі час лічылася, што ён паходзіў са знатнай сям'і Солтанаў. Аб гэтым піша ў сваёй працы па гісторыі

царквы мітрапаліт Макарый, але затым дадае, што дадзенае сцвярджэнне не можа быць поўнасцю доказным [4, с. 105]. Вядомы расійскі гісторык Б.М. Флора ў каментарыях да працы Макарыя абвяргае паходжанне Іосіфа Солтана са знатнай сям'і Солтанаў [Макарый, каментарыі, с. 440]. У «Энцыклапедыі Вялікага княства Літоўскага» гаворыцца, што ў ВКЛ існаваў яшчэ адзін род Солтанаў, «родапачынальнік якога Солтан выслужыў у князя А.В. Чартарыйскага зямлю ў Ганявічах у Лагойскім маёнтку. У 1496 годзе сыны Солтана Ілья і Грынька сталі служыць вялікаму князю Аляксандру. Ілья прыняў манаства з імем Іосіф [1, с. 620].

Будучы смаленскім епіскапам, Іосіф даказаў сваю вернасць вялікаму князю Аляксандру ў час аблогі маскоўскім войскам Смаленска ў 1502 годзе. За гэта ён атрымаў ад гаспадара ВКЛ тры маёнткі, якія потым ахвяраваў Супрасльскаму манастыру. 18 ліпеня 1507 года, за страты, якія панесла смаленская епіскапская кафедра ад маскоўскіх войск, вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары пажалаваў епіскапу Іосіфу сяло Капусцінскае [4, с. 106].

Важным момантам ва ўмацаванні праваслаўнай царкоўнай арганізацыі ў ВКЛ былі праведзеныя пад кіраўніцтвам мітрапаліта Іосіфа II у Вільні ў 1509 і 1514 гадах саборы царквы. Сабор 1509 года адбыўся на свята Божага Нараджэння 25 снежня. Мітрапаліт Іосіф растлумачыў неабходнасць яго правядзення тым, што свой абавязак і абавязак іншых духоўных асоб бачыць у тым, каб адсекчы «ўсялякія злачынствы супраць закона нашай праваслаўнай веры і зацвердзіць па старадаўняму звычаю царкоўныя ўставы». Сабор павінен ліквідаваць шмат «бязладдзя і бязчынння» сярод духавенства [2, с. 5]. Разам з мітрапалітам на саборы прысутнічала восем епіскапаў, сем архімандрытаў, шэсць ігуменаў, сем пратапопаў і шэраг святароў. 10 студзеня 1510 года Сабор прыняў 15 правілаў адносна парадку назначэння на царкоўныя пасады, царкоўнай дысцыпліны, адносін паміж царквой і свецкімі асобамі.

Па пытанню назначэння на вышэйшыя царкоўныя пасады сабор выступіў супраць распаўсюджанага звычаю куплі царкоўных пасад (епіскапа, настаяцеля манастыра, прыходскага святара) яшчэ пры жыцці папярэдніка і кіраванне імі без згоды мітрапаліта. Тых, кто не выконваў дадзенага правіла, належала адлучаць ад царквы. На ўсе царкоўныя пасады патрэбна ставіць людзей годных.

Пытанне ўмацавання царкоўнай дысцыпліны вырашалася праз узмацненне адказнасці епіскапаў, настаяцеляў манастыроў за сваіх падначаленых. Усе епіскапы павінны былі з'ўляцца на саборы, не займацца мірскімі справамі, святары – ўтрымліваць у парадку храмы і старанна выконваць абавязкі. Манахі не павінны без дазволу ігумена



пакідаць манастыр. Праваслаўным святарам і дыяканам, якія не мелі жонак, забаранялася выконваць святарскія абавязкі.

Сабор таксама выступіў супраць злоўжыванняў свецкіх асоб, якія ў сваіх маёнтках без ведама вышэйшых царкоўных уладаў назначалі і здымалі святароў, адбіралі ў царквы яе землі. Толькі мітрапаліт і епіскапы атрымалі права вырашаць, ці можа тая або іншая духоўная асоба знаходзіцца на пасадзе ці быць звольненай з яе [2, с. 5 – 18].

Выконваючы пастановы Віленскага сабора, што адьбыўся ў снежні 1511 года, мітрапаліт Іосіф II абмежаваў права віленскіх мяшчан у назначэнні святароў. Яны маглі прадставіць кандыдата на царкоўную пасаду, але канчатковае рашэнне было за вышэйшай царкоўнай ўладай [4, с. 114].

Такім чынам, сабор 1509 года правільна вызначыў асноўныя недахопы ў царкоўным жыцці, якія праявіліся на мяжы XV – XVI ст. Яго ўдзельнікі выказаліся за ўмацаванне царкоўнай іерархіі, дысцыпліны, супраць умяшальніцтва ў царкоўныя справы свецкіх асоб. Вядомы польскі гісторык К. Хадыніцкі слушна сцвярджаў, што на саборы 1509 года была прадпрынята спроба ўмацаваць юрысдыкцыю мітрапаліта і епіскапаў над нізавым духавенствам, зрабіць яе незалежнай ад свецкай знаці [8, с. 162].

У больш шырокім сэнсе размова ішла аб тым, как зменшыць залежнасць царквы як рэлігійнай інстытуцыі і праваслаўнага духавенства як сацыяльнай групы ад дзяржавы і ад прыватных асоб, таму што ў пачатку XVI ст. праваслаўнае духавенства ВКЛ не было саслоў'ем у еўрапейскім сэнсе гэтага слова, а царква – самастойнай, самакіруемай арганізацыяй [3, с. 37].

Пастановы сабора станоўча паўплывалі на стан праваслаўнай царквы ў ВКЛ, аднак не змаглі поўнасцю ліквідаваць усе злоўжыванні. Асабліва цяжка было змагацца супраць умяшальніцтва ў царкоўныя справы свецкай знаці. Аслабленне вялікакняжацкай улады на карысць шляхецкага саслоў'я, якое абазначылася ў канцы XV – пачатку XVI ст., вяло да таго, што пастановы сабора не выконваліся ў шматлікіх маёнтках магнатэрыі і іншых слаёў шляхты.

Аб саборы 1514 года звестак вельмі мала. Вядома, што ён хутчэй за ўсё адбыўся ў Вільні і займаўся вырашэннем пытання аб устанаўленні свята ў гонар архімандрыта Елісея Лаўрышаўскага.

Вялікае значэнне для праваслаўнай царквы ВКЛ у канцы XV – пачатку XVI ст. мелі яе адносіны з дзяржавай. У гэты перыяд абодва бакі былі зацікаўлены ў супрацоўніцтве. Царкоўныя іерархі для надання большай вагі сваім пастановам звярталіся за дапамогай да вышэйшых ўладаў. У сваю чаргу, вялікакняжацкая ўлада была зацікаўлена ў падтрымцы з боку праваслаўнай царквы ў процівагу ўмацаванню

ўплыву ў краіне буйных магнатаў. Акрамя таго, тыя дакументы, якімі кіраваліся царква і дзяржава з часоў князёў кіеўскіх Уладзіміра і Яраслава, безнадзейна састарэлі.

Важным крокам вялікіх князёў літоўскіх на шляху пераменаў ва ўзаемаадносінах улады і праваслаўнай царквы было выданне па просьбе мітрапаліта Іосіфа І вялікім князем літоўскім Аляксандрам 20 сакавіка 1499 года прывілея. У аснове гэтага дакумента ляжаў так званы «Світак Яраслава» – зборнік правіл царквы, распрацаваны на аснове Номаканона Візантыйскай царквы вялікім князем кіеўскім Яраславам Уладзіміравічам. Захавалася адна рэдакцыя гэтага дакумента, вядомая са спіска пачатку XVI ст., разам з прывілеем вялікага князя Аляксандра Казіміравіча епіскапу полацкаму Луку ад 1502 года. Тэкст вялікакняжацкага прывілея не поўнасцю ўтрымлівае палажэнні «Світка Яраслава», але ўводзіць таксама і новыя правілы. Так, паны і князі «рымскага закона» не павінны назначаць і здымаць праваслаўных святараў у сваіх уладаннях [9, с. 249].

Як даказана ў даследаванні Я. Шчапава, вышэй адзначаны дакумент не мае тэксталагічнай блізасці да іншых рэдакцый царкоўнага ўстава князя Яраслава, у ім «не ўдаецца заўважыць ні адной фразы, ні адной формулы, якія б супадалі з другімі, у тым лікуўузнікшымі таксама на тэрыторыі ВКЛ яго апрацоўкамі» [6, с. 228].

Згодна з Я. Шчапавым, «Світак Яраслава» спрабуе ўмацаваць пахіснутую царкоўную арганізацыю ў ВКЛ і зрабіць яе адным са звенняў дзяржавы. Гэты дакумент рэальна ацэньвае магчымасці праваслаўнай царквы ў ВКЛ. Ён зафіксаваў у асноўных рысах месца і ўстрой праваслаўнай царкоўнай арганізацыі ў Вялікім княстве Літоўскім. «Світак Яраслава» спрабуе палажыць канец шматлікім парушэнням у жыцці царквы, умацаваць уладу мітрапаліта і епіскапаў, абмежаваць уладу свецкіх уласнікаў праваслаўных цэркваў, кцітараў, якія ўтрымлівалі храмы за ўласныя сродкі і не лічыліся з існаваўшай царкоўнай арганізацыяй, ажыццяўлялі суд над святарамі, самі ставілі іх на прыходы [6, с. 228]. За царкоўным судом замацоўваліся толькі тры парушэнні з многіх, якія існавалі ў Кіеўскай дзяржаве, а менавіта: разводы, блуд, ератыкі.

У старажытныя часы справы аб разводах, як і іншыя сферы царкоўнага суда, знаходзіліся ў руках епіскапаў. Аднак у Вялікім княстве Літоўскім яны перайшлі да свецкіх феадалаў – князёў, баяр і іх чыноўнікаў. Даследаванні гісторыі сямейных адносін паказалі, што на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага сярод розных слаёў насельніцтва шлюбы заключаліся па нормах звычаёвага права, без царкоўнага вянчання. Адпаведна і разводы афармляліся часта не духоўным, а свецкім судом [7, с. 297 – 312].



Афармленне разводаў было крыніцай прыбыткаў адміністрацыі. Таму спробы мітрапаліта Іосіфа ІІ змагацца з падобнай практыкай мелі, нягледзячы на падтрымку вялікакняжацкай улады, толькі частковы поспех [4, с. 440].

Такім чынам, на мяжы XV – XVI ст. праваслаўная іерархія паспрабавала правесці ў жыццё шэраг пастаноў, накіраваных на паляпшэнне ўнутрыцаркоўнага жыцця і адносін царквы са свецкімі ўладамі. Ёй удалося дамагчыся падтрымкі ў сваіх пачынаннях вялікакняжацкай улады. Змены ў праваслаўнай царкве павінны былі мадэрнізаваць яе адносіны з дзяржавай, прыстасаваць царкву да новых умоў, што склаліся ў Вялікім княстве Літоўскім, ліквідаваць шэраг абазначыўшыхся недахопаў у царкоўным жыцці, павысіць узровень улады мітрапаліта і епіскапаў, узмацніць незалежнасць царквы ад свецкіх уладаў. Аднак у тых умовах, што склаліся у ВКЛ, гэтыя планы маглі быць рэалізаваны толькі часткова.

*Спіс крыніц і літаратуры*

1. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2: Кадэцкі корпус – Яцкевіч / рэдкал.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]; Маст. З.Э. Герасімовіч. – 2-е выд. – Мінск: БелЭн, 2007. – 792 с.
2. Деяния Виленского собора 1509 г. // Русская историческая библиотека. – СПБ, 1878. – Т. 4. Кн. 1. – Ст. 5 – 18.
3. Дмитриев, М.В. Между Римом и Царьградом: Генезис Брестской церковной унии 1595 – 1596 гг. / М.В. Дмитриев. – М.: Издательство МГУ, 2003. – 320 с.
4. Макарий (Булгаков), митрополит Московский и Коломенский. История Русской Церкви. Книга пятая: Период разделения Русской церкви на две митрополии. История Западнорусской, или Литовской митрополии (1458 – 1596) / Макарий (Булгаков). – М.: Издательство Спасо-Преображенского Валаамского монастыря, 1996. – 559 с.
5. Флоря, Б.Н. Комментарии /Б.Н. Флоря // Макарий (Булгаков), митрополит Московский и Коломенский. История Русской Церкви. Книга пятая: Период разделения Русской церкви на две митрополии. История Западнорусской, или Литовской митрополии (1458 – 1596) / Макарий (Булгаков). – М.: Издательство Спасо-Преображенского Валаамского монастыря, 1996. – С. 421 – 493.
6. Щапов, Я.Н. Княжеские уставы и церковь в Древней Руси / Я.Н. Щапов. – М.: Наука, 1972. – 337 с.
7. Bardach, Juliusz. Studia z Ustroju i Prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV – XVII w. / Juliusz Bardach. – Warszawa: Państwowe Wydawnictwo naukowe, 1970. – S. 297 – 313.
8. Chodynicki, K. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska (zarys historyczny 1370 – 1632) / K. Chodynicki. – Warszawa, 1934. – 630 s.
9. Daniłowicz, J. Skarbiec diplomatów / J. Daniłowicz. – Wilno, 1862. – T. 2. – 369 s.
10. Mironowicz, Antoni. Kościół prawosławny w Polsce / Antoni Mironowicz. – Białystok, 2006. – 917 s.

**Васюк Геннадий Владимирович** – кандидит исторческих наук, доцент кафедры всеобщей истории Гродненского государственного университета имени Янки Купалы.

УДК 2-9(476)

**А.А. Семянчук** (Гродна)

# РАСПАЎСЮДЖАННЕ ІДЭЙ ФЛАРЭНЦКАЙ УНІІ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ Ў КАНЦЫ XV – ПАЧАТКУ XVI ст.

*Статья посвящена проявлению интереса знати ВКЛ к постановлению Ферарро-Флорентийского собора об унии православной и католической церквей. Сделан вывод, что угасание интереса к идее Флорентийской унии было обусловлено не победой традиционного православия, но появлением нового религиозно-политического реформационного течения.*

Адным з самых цмяных і заблытаных перыядаў айчыннай гісторыі застаецца другая палова XV – пачатак XVI ст. Ранейшыя стэрэатыпы і замоўчванні не дазваляюць разабрацца ў логіцы падзей і культурных з'яў на беларускіх землях у той час. Аднак, калі адкрыта прызнаць і паказаць, што ідэі Фларэнцкай царкоўнай уніі ў Вялікім Княстве Літоўскім адыгрывалі значную ролю ў культурна-рэлігійным і палітычным жыцці, то можна вырашыць адразу некалькі загадкавых пытанняў нашай гісторыі. Тым больш, што гістарыяграфія дадзенай тэматыкі мае даўнюю традыцыю. Аб рэлігійных праблемах у XV – XVI ст., у тым ліку аб Фларэнцкай уніі і яе наступствах пісалі Я.Фіялак [11], А.Лявіцкі [20], К.Хадыніцкі [8], О.Галецкі [12], А.Прахаска [25], Ю.Пелеш [26] і інш.[1]. Аналіз крыніц і літаратуры дазваляе зразумець, адкуль узяліся, з аднаго боку, цудоўныя гатычныя храмы ў Супраслі, Мураванцы, Сынкавічах, а, з другога, – капліцы з праваслаўнымі роспісамі ў Кракаве, Любліне, Сандаміры. Пастановы Фларэнцкага сабору адбіліся таксама на жыцці і творчасці нашага вялікага асветніка Францішка Скарыны, як і на ўсіх культурна-рэлігійных і грамадскіх працэсах пачатку XVI ст. Нарэшце, праз даследаванні ўплываў ідэй Фларэнцкай уніі можна наблізіцца да разумення, чаму і як адбывалася лацінізацыя і паланізацыя нашай культуры ў XVI ст.

Ад моманту падзелу хрысціянства на заходняе і ўсходняе ў 1054 г. пачынаецца рух насустрач абедзвюх новастворааных канфесій. На чарговых саборах зноў вярталіся да ідэі адзінства. Праблема суіснавання хрысціянскіх веравызнанняў абвастрылася ў Вялікім Княстве Літоўскім у канцы XIV – пачатку XV ст., што знайшло адлюстраванне ў пастановах Канстанцкага сабору (1414 – 1418 гг.). Кароль Польшчы

[1] Больш падрабязную бібліяграфію праблемы чытач знойдзе ў Інтэрнэце: http://www.uni-duesseldorf.de/ulbd/burgtorf/basel.htm



Ягайла 2 жніўня 1416 г. пісаў у сваім лісце да сабору ў Канстанцы: «Калі б не перашкоды з-за доўгіх войнаў, абодва тыя народы (ліцвіны і русіны – А.С.), а таксама іншыя, ужо паспяшаліся б у вялікай колькасці з грэчаскага абраду ў святы рымскі касцёл» [10, s.171]. Але найбольш актуальна яна загучала напярэдадні турэцкай агрэсіі на Канстанцінопаль у XV ст. Сабор у Базэлі-Фэрары-Фларэнцыі-Рыме (1431 – 1445 гг.) ставіў перад сабой шмат пытанняў: склікання і аўтарытэту сбораў; выбару і абавязкаў папаў; кваліфікацыі, колькасці і прызначэння кардыналаў; зацвярджэння біскупаў; правінцыяльных і дыяцэзіяльных сінодаў; жыдоў і неафітаў; анатаў (штогадовыя даходы); адпраўлення набажэнства і захавання людзей пад час яго; асуджэння недакладных хрысталагічных паняццяў арцыбіскупа Аўгустына Фавароні; уніі з грэкамі [10, s.273].

Адной з найважнейшых мэтаў сабору было аднаўленне адзінства хрысціянскай царквы. Дзеля дасягнення яе запрасілі дэлегатаў усходніх цэркваў. Пасяджэнні праводзіліся спачатку ў Базэлі (25 сесій), потым у Ферары, куды прыбылі праваслаўныя біскупы і тэолагі, імператар Іаан VIII Палеалог, патрыярх Канстанцінопаля, прадстаўнікі патрыярхаў Александрыі, Антыохіі і Ерусаліма і некалькі мітрапалітаў. Пасяджэнні ў Ферары адбываліся ў 1438 – 1439 гг., потым іх перанеслі ў Фларэнцыю (1439 – 1442 гг.), дзе і абвясцілі, між іншым, унію з грэкамі (Фларэнцыя, сесія 6), армянамі (сесія 8), коптамі (сесія 11). Пасяджэнні сабора працягваліся ў Рыме ў 1443 – 1445 гг. [10, s. 274].

Для нашай тэмы важным з'яўляецца той факт, што ад пачатку дзейнасці сабору яго ўдзельнікі падзяліліся на прыхільнікаў і праціўнікаў рэформаў і ідэй канцыльярызму (перавага ўлады сабора над уладай папы). Калі папа Яўген IV перанёс пасяджэнні ў Ферару (у 1437 г.), частка ўдзельнікаў (у тым ліку дэлегацыя з Польшчы) засталася ў Базэлі (да 1443 г., сесіі 26 – 45). Гэта быў так званы «анты-сабор». Яго ўдзельнікі знялі з пасады Яўгена IV і выбралі антыпапу Фелікса V, з рук якога Збігнеў Аляснiцкі (самы ўплывовы палітык сярэдзіны XV ст. у Польшчы) атрымаў кардынальскі капялюш у 1440 г. [10, s. 274]. Вядома, усё, што адбывалася ў Фларэнцыі, імі ўспрымалася негатыўна. У далейшых пастановах Фларэнцкай уніі з грэкамі былі закранутыя і ўзгодненыя найважнейшыя спрэчныя справы: паходжанне Духа Святога і слыннага Filioque (прызнана раўнавага фармулёўкі «праз Сына», таксама як «і Сына»); першынства папы (яго прызналі побач з непарушнасцю прывілеяў астатніх чатырох патрыярхатаў); чысцец і кансэкрацыя квашанага і неквашанага хлеба [10, s.274, 333 – 344].

На жаль, унійныя дакументы ніколі не былі прынятыя ўсходнімі цэрквамі і застаюцца толькі сведчаннем імкнення каталіцкага касцёла да адзінства ўсіх хрысціян. Большасць праваслаўных вернікаў не

пагадзіліся з пастановамі сабору, палова праваслаўных біскупаў, якія іх падпісалі таксама выракліся яе. Кіеўскі мітрапаліт Ісідар (? – 1462 гг.), гарачы прыхільнік уніі, вымушаны быў пакінуць сваю мітраполію. У 1443 г. супраць Фларэнцкай уніі выказаўся сінод у Ерусаліме, дзе бралі ўдзел таксама патрыярхі Александрыі і Антыохіі [13, s. 54]. У 1450 г. сінод, які быў скліканы ў храме Агія Сафія ў Канстанцінопалі, выракся уніі і скінуў патрыярха Грыгора III. У 1452 г. папа Мікалай V паслаў мітрапаліта Ісідара ў Канстанцінопаль. Напярэдадні турэцкай інвазіі, 12 снежня 1452 г., унія была ўрачыста падпісана ў прысутнасці імператара. Так спрабавалі атрымаць вайсковую дапамогу з Захаду, але ніякіх канкрэтных вынікаў гэта не мела. Праціўнікі ўніі заявілі, што лепей стануць туркамі, чым лаціннікамі.

Аднак Ферарска-Фларэнцкі сабор не застаўся безвыніковым. Ён паклаў пачатак рэгіянальнаму ўнійнаму руху, які меў працяг у наступныя стагоддзі [13, s. 54]. Ісідар, які падпісаў акт Фларэнцкай уніі і атрымаў ад папы Яўгена IV званне кардынала і быў прызначаны апостальскім легатам у «паўночных краінах», у час наведвання Кіева атрымаў ліст ад кіеўскага князя Аляксандра Уладзіміравіча (Алелькі) з прызнаннем недатыкальнасці мітрапаліцкіх уладанняў і судовых прэрагатыў, што сведчыла аб яго афіцыйным прызнанні як мітрапаліта [2, с. 679]. Пераемнік Ісідара на кіеўскай мітраполіі Грыгорый II (Балгарын) быў лаяльна настроены адносна ўніі. У 1460 г. сейм у Берасці афіцыйна прызнаў яго законным мітрапалітам. У сваёй дзейнасці ён падтрымліваў кантакты як з Рымам, так і з Канстанцінопалем. Пасля яго смерці кіеўскім мітрапалітам стаў смаленскі біскуп Місаіл (Пструцкі, Пструх). З імем Місаіла звязаны два пасланні да папы рымскага Сікста IV. Як лічаць даследчыкі, абодва яны не дайшлі да пантыфіка, але ўяўляюць сабой значныя рэлігійна-палітычныя творы. Першы ліст, магчыма, быў перададзены папскаму легату Антонію Бонумбра, калі ён вяртаўся з Масквы вясной 1473 г. [9, s. 66], другі з'явіўся ў 1476 г. У дадзеным артыкуле не закранаецца пытанне аб аўтэнтычнасці апошняга паслання. Большасць даследчыкаў (Георгі Галенчанка [1, с. 79 – 107], Генрых Люлевіч [21, s. 97 – 115], Барыс Гудзяк [3, с. 58 – 103] і інш.) прызнаюць яго праўдзівасць, таму не спыняю сваёй увагі на доказе яго аўтэнтычнасці.

Пад лістом да папы Сікста IV ад 14 сакавіка 1476 г. паставілі свае подпісы 16 вядомых асобаў, належачых да палітычнай эліты Вялікага Княства Літоўскага. Іх ідэнтыфікацыяй заняўся Генрык Люлевіч. Гэта былі: 1) сам біскуп смаленскі Місаіл, выбраны элект на кіеўскую мітраполію; 2) архімандрыт кіева-пячэрскага манастыра Іаан; 3) Макарый, архімандрыт віленскага Троіцкага манастыра; 4) князь Міхаіл Алелькавіч (Аляксандравіч), род якога паходзіў ад кіеўскага князя



Уладзіміра Альгердавіча, роднага брата Ягайлы; 5) князь Фёдар Іванавіч Бельскі (з Белай пад Смаленскам); 6) князь Дзмітрый Канстанцінавіч Вяземскі; 7) Ян (Івашка) Хадкевіч, намеснік віцебскі, маршалак гаспадарскі; 8) яго брат Павел (Пацка Хадкевіч), намеснік Камянца Літоўскага; 9) Яўстах Васілевіч з Полацка, пачынальнік роду Корсакаў; 10) пан Раман з Кіева (прадстаўнік роду Ваўчковічаў), староста пуціўльскі; 11) яго брат пан Ян з Кіева (Івашка Ваўчковіч); 12) вучоны ў законе божым пан Якуб, пісар Казіміра Ягелончыка, віленскі ключнік; 13) пан Міхал Александравіч з Загорава, шляхціч валынскай зямлі; 14) Ян (Іван) Аляксандравіч з Пачапова каля Наваградка, падскарбі гаспадарскі; 15) яго брат Андрэй з Папорці (Троцкае ваяводства); 16) пан Солтан (Аляксандр) Аляксандравіч, слаўны рыцар божагробскі і гішпанскага Залатога руна, падскарбі вялікі надворны караля Казіміра [21, s. 103 – 113].

Як бачым, названыя асобы прадстаўлялі розныя рэгіёны ВКЛ. Генрык Люлевіч ідэнтыфікаваў кожнага з іх, а таксама іх сямейныя сувязі, указаў месца ў тагачаснай эліце ВКЛ. Сярод названых – 3 духоўныя асобы, 3 князі і 10 розных паноў рускіх земляў (Полацка, Віцебска, Смаленска, Кіева, Валыні) і ўласна Літвы (Віленскага і Троцкага ваяводстваў) [21, s. 102 – 103]. Усе яны прадстаўлялі даволі рэпрэзэнтатыўнае і ўплывовае кола праваслаўнай эліты ВКЛ. За кожным стаяў даволі значны натоўп прыхільнікаў, сваякоў і г.д., якія падзялялі іх погляды. Напрыклад, за самім Місаілам, які валодаў вотчынай у Чарэі, відавочна, стаялі Сапегі [21, s. 103].

Іван Сапега (каля 1450 – 1517 гг.), гаспадарскі сакратар і канцлер князёўны Алены (жонкі Аляксандра Ягелончыка), ваявода віцебскі і падляшскі, двух сваіх сыноў, Пятра і Паўла, аддаў вучыцца ў Кракаўскую Акадэмію [24, s. 75 – 76], якая абслугоўвала ў асноўным інтарэсы каталіцкай шляхты і кліру. Разам з Эразмам Цёлакам ён ездзіў у Рым у справе ўніі і прызнання мітрапаліта Іосіфа Солтана (? – 1521 гг.) рымскай курыяй. Папа Аляксандр VI (Борджыя) ў красавіку і маі 1501 г. пісаў да віленскага біскупа Войцаха Табара і вялікага князя літоўскага ў справе мітрапаліта Іосіфа, аб грэчаскім абрадзе і пытаўся парады наконт аб'яднання каталіцкага касцёла і праваслаўнай царквы [27, s. 484, 486; 8, s. 71]. Тады ж папа рымскі сваёй булай ад 23 жніўня 1501 г. выказаўся ў духу Фларэнцкага сабору супраць рэбаптызацыі (перахрышчвання праваслаўных), як яму рэкамендавалі Іван Сапега, Эразм Цёлак і бернардыны з Літоўскай правінцыі [9, s. 82 – 83]. Гісторык ордэна бернардынаў Ян з Камарова пісаў: «Паміж прэлатамі і дактарамі, з аднаго боку, і нашымі братамі, з другога, дайшло да разважанняў аб рэбаптызацыі грэкаў, абрад якіх захоўваюць русіны, і аб дапушчэнні іх да святых абрадаў у нашых лацінскіх касцёлах. Свецкія прэлаты і

дактары сцвярджалі, што грэкі пры пераходзе на наш абрад павінны быць нанова хрышчаныя (rebaptisari) і толькі тады могуць прыступаць да сакрамэнтаў у нашых касцёлах, у тай час калі нашыя браты, а перад усім міністр правінцыі айцец Ян (Vitreatoris) прытрымліваліся супрацьлеглай думкі, што менавіта рэбаптызацыя тут непатрэбная, але дастаткова прызнаць адзіную галаву касцёла, г.зн. папу рымскага і абяцаць быць яму паслухмяным; хто гэтак зрабіў, таму можна без усялякай рэбаптызацыі, да якой не ёсць абавязаны, прыступаць да сакрамэнтаў у нашых касцёлах і такі за сапраўднага каталіка павінен уважацца» [24, s. 71 – 72]. Ідэі, выказаныя Янам з Камарова (каля 1470 – 1536 гг.), правінцыялам польскіх бернардынаў і гвардыянам віленскага кляштару [25, s. 457], безумоўна, адбіліся на лёсе Францішка Скарыны, які, як лічыцца, мог наведваць бернардынскую школу ў Полацку, а потым у Вільні, і быў непасрэдна знаёмы з тагачаснымі экуменічнымі поглядамі. Скарына, у жыцці і творчасці якога даследчыкі знаходзяць і каталіцкія, і пратэстанцкія матывы, не мусіў змяняць веры сваіх бацькоў, каб вучыцца ў каталіцкай Кракаўскай акадэміі, або сустракацца з дзеячамі Рэфармацыі.

Івану Сапегу папа рымскі дазволіў збудаваць храм, у якім адбываліся б службы паводле грэчаскага і рымскага абраду [24, s. 77; 18, s. 341; 14, s. 101 – 103]. Сапегам у гэты перыяд належалі шматлікія латыфундыі ў розных канцах ВКЛ. Такі храм мог быць пабудаваны як у Іказні, так і ў Кодэні (на той час галоўнай рэзідэнцыі Сапегаў чарэйскай лініі), Сапежышках, ці іншай мясцовасці. Гатычныя храмы ў Кодэні і Сапежышках вельмі падобныя адзін да аднаго [4, с. 125 – 126; 5, с. 550 – 551], а таксама да інкастэляванай святыні ў Сынкавічах, пра пачатак існавання якой, на жаль, няма дакладных звестак. Больш таго, абарончыя цэрквы ў Мураванцы і Супраслі тыпалагічна падобныя да іх. Усе гэтыя храмы, узведзеныя прыблізна ў адзін перыяд, з'яўляюцца, на наш погляд, вынікам распаўсюджання ідэй Фларэнцкай уніі сярод уплывовай праваслаўнай эліты Вялікага княства Літоўскага. Так, прынамсі, можна сцвярджаць пра манастыр у Супраслі, заснаваны маршалкам ВКЛ Аляксандрам Хадкевічам (разам з Іосіфам Булгарыновічам) [22, s. 8 – 13; 23, s. 110 – 111]. Сярод падпісантаў эпістолы да Сікста IV узгадваюцца прадстаўнікі роду Хадкевічаў (Івашка і Пацка Хадкевічы), вельмі шматлікага і разгалінаванага ў ВКЛ [17, s. 34 – 56]. Таму, відаць, Аляксандр Хадкевіч і заснаваў у сваіх уладаннях у Супраслі ўнійны манастыр [18, s. 212].

Дарэчы, усе вышэйназваныя падпісанты ліста да Сікста IV былі цесна звязаны паміж сабой: Бельскія – блізкія сваякі Алелькавічаў (Міхаіл Алелькавіч і Фёдар Бельскі былі дваюроднымі братамі, іх бацькі – Алелька Уладзіміравіч і Іван Уладзіміравіч Бельскі былі роднымі



братамі) [18, s. 47]. Другі сыгнітар – пячэрскі архімандрыт Ян – меў добрыя адносіны з кіеўскім князем Сямёнам Аляксандравічам (Алелькавічам) [18, s. 105]. Зрэшты, сам прадстаўнік роду Міхаіл Алелькавіч, які выводзіў свой род ад князя кіеўскага Уладзіміра Альгердавіча, быў рэпрэзентантам значнага кола сваіх прыхільнікаў, якія выступілі супраць вялікага князя Казіміра, за што быў пакараны смерцю летам 1481 г. [18, s. 106]. Князь Фёдар Іванавіч Бельскі па маці Васілісе (старэйшай сястры каралевы Зоф'і) быў звязаны з князямі Гальшанскімі. Так пашыраецца кола прыхільнікаў царкоўнай уніі на чарговыя літоўскія роды.

Апошнія чатыры подпісы належаць сынам Аляксандра Юр'евіча, падскарбія Казіміра Ягелончыка – Міхаілу, Івану, Андрэю і Аляксандру. Быў, дарэчы, і пяты сын – Юры Аляксандравіч, заснавальнік роду Багушэвічаў. Аляксандр (Солтан) быў надзвычай яскравай постаццю нашай гісторыі. Падобна Аляксандру Хадкевічу, ён заснаваў адзін з найбольш вядомых праваслаўных манастыроў у Вялікім Княстве Літоўскім – Жыровіцкі. Яго жыццё магло б стаць сюжэтам не аднаго прыгодніцкага рамана. Ён наведаў рэкордную колькасць краін, здабываючы славу на еўрапейскіх дварах. 20 красавіка 1467 г. у Гродне ён атрымаў ад Казіміра Ягелончыка рэкамендацыйны ліст (нешта накшталт пашпарту) да еўрапейскіх манархаў, з якім і вырушыў у доўгатэрміновае падарожжа, якое працягвалася некалькі год [7, s. 98 – 99]. У снежні гэтага году ён быў пры двары імператара Фрыдэрыка III. Засведчыў там, што едзе наведаць іншыя краіны і вучыцца рыцарскаму рамяству. Ад папы Паўла II атрымаў спецыяльны ліст з блаславеннем. Крыху раней, 5 сакавіка таго ж году, Солтан атрымаў рэкамендацыю ад караля Сіцыліі Фердынанда Арагонскага, які таксама насіў тытул ерусалімскага караля. Да снежня 1468 г. яго сляды губляюцца, бо, напэўна, знаходзіўся ў Палестыне. У снежні быў на двары князя Мілана Галеацца Марыі Сфорцы, які ў спецыяльным дакуменце рэкамендаваў яго іншым пануючым асобам. У сакавіку наступнага году, пасля наведвання Кастыліі, Солтан выехаў да Партугаліі, аб чым сведчыў ліст караля Альфонса ад 17 сакавіка 1469 г. Пад канец мая Аляксандр Солтан спаткаўся з герцагам Бургундыі Карлам Смелым ў Картрэй (Courtrai), дзе быў добра прыняты і прызначаны шамбэлянам, а таксама атрымаў Ордэн Залатога Руна (што хутчэй за ўсё, як лічыць Г.Люлевіч, з'яўляецца сямейнай легендай [21, s. 113]). Ад герцага Карла, у сваю чаргу, атрымаў рэкамендацыйны ліст да караля Эдварда IV, які адарыў Солтана залатым ланцугом і нейкім ордэнам. Так багата адораны, наш суайчыннік вярнуўся дадому кавалерам Божага Гробу, шамбэлянам герцага Бургундыі, магчыма, кавалерам Залатога Руна, з залатым ланцугом ад караля Англіі Эдварда IV. Пазней ён стаў надворным

падскарбіем літоўскім і адбыў у праславутае пасольства праваслаўнага духавенства да папы рымскага Сікста IV [28, s. 65 – 80; 6, s. 17 – 18; 7, s. 98 – 99].

Як можна меркаваць, распаўсюджванне каталіцкіх ідэй на праваслаўных землях было важна для цэнтралізацыі дзяржавы і фармавання адзінага палітычнага народу. Але ўсё было далёка не так проста. Ідэя царкоўнай уніі сустрэла супраціў не толькі з боку праваслаўных ерархаў, але і каталіцкіх [29, s. 225]. Як было сказана вышэй, галоўнай прычынай непрыхільнага стаўлення да уніі ў каталіцкім лагеры быў разлад паміж прыхільнікамі «анты-сабору» ў Базэлі і сабору ў Фларэнцыі [9, s. 52]. Напрыклад, віленскі біскуп Мацей, прыхільнік Базэльскага сабору, адзначыў, што не прызнае Фларэнцкага сабору, папу Яўгена V і яго легата Ісідара. Значна пазней, у 1501 г., віленскі біскуп Войцах Табар таксама выказваўся супраць пастаноў Фларэнцкай уніі і спрыяў выданню антыўнійнага твору Яна з Асвенцыма (Сакрануса) Elucidarius errorum ritus Ruthenici [24, s. 75 – 76].

Цікавасць да ідэй уніі адзначаецца падчас Фларэнцкага сабору і адразу пасля яго, чаму садзейнічалі мітрапаліты Ісідар, Грыгор Балгарын (? – 1472 гг.), Місаіл. Да ідэі царкоўнай уніі эліты зноў звярнуліся пасля 1495 г., што было звязана з ўнутры- і знешнепалітычнымі падзеямі, у першую чаргу, адносінамі з Вялікім княствам Маскоўскім. Аб яе распаўсюджванні даведваемся з ліста Фёдара Шастака да Івана III (1499 г.) [30, с. 370]. Шастак абвінавачваў мітрапаліта Іосіфа Балгарыновіча (? – 1501 гг.) і Івана Сапегу ў праследах праваслаўных у ВКЛ. Рэлігійны момант паслужыў таксама прычынай вайны 1500 – 1503 гг. паміж Масковіяй і Літвой [31, с. 251 – 2 52]. Праваслаўным па-ранейшаму было цяжка дасягнуць вышэйшых пасадаў у дзяржаве. У 1522 г. не без скандалу праваслаўны князь Канстанцін Астрожскі стаў троцкім кашталянам. Жыгімонт Стары абяцаў, што не будзе даваць праваслаўным вышэйшых пасадаў [15, s. 8]. Аднак, вядома, што гэта правіла парушалася на кожным кроку. І нават такі гарлівы праваслаўны, як К.Астрожскі па просьбе смяротна хворага мітрапаліта Іосіфа Солтана (прыхільніка Фларэнцкай уніі) стаў апекуном царкоўнай маёмасці, якая належала Кіеўскай мітраполіі [16, s. 46 – 47]. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што сярод мітрапалітаў кіеўскіх другой паловы XV – пачатку XVI ст. большасць прыхільна ставілася да ідэй уніі і гарліва бараніла яе.

Аднак да сярэдзіны XVI ст. мы назіраем згасанне цікавасці да ідэй Фларэнцкай уніі. Але гэта не было, як часам прадстаўляюць, перамогай традыцыйнага праваслаўя. Справа была ў з’яўленні новай рэлігійна-палітычнай опцыі – рэфармацыйнай. Праз яе прайшлі амаль усе самыя



значныя прадстаўнікі праваслаўнай эліты, каб потым ужо не вярнуцца ў праваслаўе, а перайсці ў каталіцкі лагер.

### *Спіс крыніц і літаратуры*


1. Галенчанка, Г.Я. Пасланне да папы рымскага Сікста IV 1476г. Паходжанне помніка / Г.Я.Галенчанка // Наш радавод. – Кн.8. – Гродна-Беласток, 1999 (2000).
2. Галенчанка, Г. Ісідор // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.1: Абаленскі-Кадэнцыя. – Выд. 2-е. – Мінск: БелЭн, 2007.
3. Гудзяк, Б. Криза і реформа. Киівська митрополія, Царгородський патріархат і генеза Берестейськоі унії / Б.Гудзяк. – Львів, 2000.
4. Кушнярэвіч, А. Коданская Святадухаўская царква / А.Кушнярэвіч // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.2: Кадэцкі корпус-Яцкевіч. – Мінск: БелЭн, 2006.
5. Кушнярэвіч, А. Сапежышкаўскі касцёл / А.Кушнярэвіч // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.2: Кадэцкі корпус-Яцкевіч. – Мінск: БелЭн, 2006.
6. Byliński, J. Fakty i mity w dziejach unii kościelnej XV – XVII w. / J.Byliński // Kultura polityczna w Polsce – mity i fakty. – Poznań, 1999.
7. Byliński, J. Zagraniczne studia Polaków w epoce staropolskiej / J.Byliński // Jezuicka Ars historica. Prace ofiarowane Księdzu Profesorowi Ludwikowi Grzebieniowi SJ. – Kraków, 2001.
8. Chodynicki, K. Przyczynek do dziejów unji kościelnej na Litwie w w.XV / K.Chodynicki // Sprawozdania Poznańskiego Towarzystwa Przyjaciół Nauk. – R.1932. – Nr. 1 – 2.
9. Chodynicki, K. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny 1370 – 1632 / K.Chodynicki – Warszawa, 1934.
10. Dokumenty Soborów Powszechnych. Tekst łaciński, grecki, arabski, ormiański, polski. T.III (1414 – 1445). Konstancja. Bazylea-Ferrara-Florencja-Rzym. Układ i opracowanie ks.A.Baron, ks.H.Pietras SJ. – Kraków: Wydawnictwo WAM, 2003.
11. Fijałek, J. Los unji florenckiej w Wielkim Księstwie Litewskim za Kazimierza Jagiellończyka / J.Fijałek // Sprawozdania z czynności i posiedzeń Polskiej Akademii Umiętności. – T. XXXIX. – Kraków, 1934.
12. Halecki, O. Dzieje unji jagiellońskiej / O.Halecki. – T. I. – Kraków, 1918;
13. Hryniewicz, W. Prekursor unijnych dażeń Rusinów. Memoriał unijny metropolity Mizaela (1476) / W.Hrynieiwcz // Unia brzeska geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich. Praca zbiorowa pod red.R.Łużnego, F.Ziejki i A.Kępińskiego. – Kraków, 1994.
14. Jarmolik, W. Dyplomatyczne misje do Moskwy Iwana Sapiehy / W.Jarmolik // Białostocczyzna. – Nr 4/93.
15. Kempa, T. Działalnośc hetmana Konstantego Iwanowicza Ostrogskiego na polu prawosławia / T.Kempa // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – T. 12. – Białystok, 1999.
16. Kempa, T. Dzieje rodu Ostrogskich / T.Kempa – Toruń, 2002. – S. 46 – 47.
17. Kirkiene, G. Korzenie rodu Chodkiewiczów / G.Kirkiene // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – T. 17. – Białystok, 2002.
18. Kirkiene, G. LDK politicos elito galingieji: Chodkeviciai XV – XVI amziuje / G.Kirkiene – Vilnius, 2008.
19. Krahel, T. Dokumenty Lwa Sapiehy dla kościołów w Ikazni i Nowym Pohoście / T.Krahel // Studia Teologiczne. – Białystok-Drohiczyn-Łomża. – 1993. – Nr 11.
20. Lewicki, A. Unja florencka w Polsce / A.Lewicki // Rozprawy Akademii Umiejętności. – T. 38. – Kraków, 1899.
21. Lulewicz, H. Problem identyfikacji postaci na Rusi litewskiej w drugiej połowie XV wieku / H.Luliewicz // Swiat pogranicza. – Warszawa, 2003.
22. Maroszek, J. Dziedzictwo unii kościelnej w krajobrazie kulturowym Podlasia / J.Maroszek. – Białystok, 1996.
23. Maroszek, J. Pogranicze Litwy i Korony w planach króla Zygmunta Augusta. Z historii dziejów realizacji myśli monarszej między Niemnem a Narwia /J.Maroszek. – Białystok, 2000.

24. Morawski, K. Historya Uniwersytetu Jagiellońskiego. – T. 2: Srednie wieki i Odrodzenie / K.Morawski. – Kraków, 1900.
25. Polski słownik biograficzny. – T. X/1. – Z. 44. – 1962.
26. Prochaska, A. Nieznane dokumenty do unji Florenckiej w Polsce / A.Prochaska // Ateneum Wileńskie. – Nr.1. – Z.1. – 1923.
27. Pelesz, J. Geschichte der union der ruthenischen Kirche mit Rom / J.Pelesz. – Wurzburg-Wien,1878 – 1881. – T.1 – 2.
28. Przegląd Poznański. – Poznań, 1862. – № 33.
29. Trimoniene, R. Polityka jagiellońska a kształtowanie się litewskiego narodu politycznego w końcu XV – I połowie XVI wieku / R.Trimoniene // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – T. 19. – Białystok, 2003.
30. Сагановіч, Г. Вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500 – 1503 // Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т.1: Абаленскі-Кадэнцыя. – Выд. 2-е. – Мінск: БелЭн, 2007.
31. Летописный сборник, именуемый Патриаршей или Никоновской летописью / С прил. Извлечений из монографии Б.М.Клосса «Никоновский свод и русские летописи XVI – XVII веков» (Полное собрание русских летописей. Том XII). – М.: Языки русской культуры, 2000. – 272 с.

**Семянчук Альбіна Аляксандраўна** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры беларускай культуры і рэгіянальнага турызму Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Навуковыя інтарэсы: гісторыя і крыніцазнаўства ВКЛ, польскія хронікі і беларуска-літоўскія летапісы XV – XVI ст., гісторыя ідэй, беларуская культура.

УДК 271.2(476):27-788(476) (XIII-XVI)

**А.Р. Дзянісава** (Мінск)

# ПАТРАНАЦКАЕ ПРАВА Ў ПРАВАВЫМ СТАНОВІШЧЫ ПРАВАСЛАЎНЫХ МАНАСТЫРОЎ ТУРАВА-ПІНСКАЙ ЕПАРХІІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIII – XVI ст.

*Статья посвящена правовому положению православных монастырей Турово-Пинской епархии во второй половине XIII – XVI вв. Отмечается, что существование права патроната приводило к многочисленным фактам злоупотреблений при назначении на церковные должности, что дискредитировало духовенство в глазах общества.*

Патранацкае права – права удзелу свецкіх асоб у царкоўным будаўніцтве і забеспячэнні [8, с. 566]. Юрыдычнай асновай патранацкага права было агульнае феадальнае права ўладальнікаў распараджацца сваімі маёнткамі з усімі ўстановамі і маёмасцю, якія на іх знаходзіліся.



І. Чыстовіч выдзяляе наступныя формы патранацкага права: ***права апекі*** (jus patronatus) пэўных устаноў ці забеспячэння іх усім неабходным і аховы іх ва ўсялякіх выпадках; ***права падавання*** (jus donandi) ці перадачы манастыроў і цэркваў вызначаным асобам; ***права прэзенты*** (jus praebendi, jus praesentationis) ці рэкамендацыі пэўных асоб на пасады святароў і настаяцеляў манастыроў; ***права кіравання і ўдзелу*** ў царкоўным судзе [14, с. 196–197].

Найбольш прывілася і шырока выкарыстоўвалася ў межах ВКЛ права падавання. Згаданае права было зацверджана даравальнымі граматамі вялікіх князёў Аляксандра і Жыгімонта І у 1499 г. і 1511 г.: «…если бы ж которая церковь была в подании здавна державцы того именья, ино и теперь нехай тот державца подает з благословеньем митрополитом» [1, с. 190; 2, с. 82].

Аб'ектамі падавання былі, у першую чаргу, цэрквы з іх маёмасцю і манастыры. Крыніцы дадзенага права вельмі часта называліся «хлебам духоўным». На думку І. Чыстовіча, манастыры і цэрквы падзяляліся на тры разрады – на тыя, што належалі: 1) мітрапаліту і епіскапам; 2) панам; 3) каралю [14, с. 197]. Згаданыя меркаванні сапраўды падмацоўваюцца фактамі з жыццядзейнасці праваслаўных манастыроў Турава-Пінскай епархіі.

Пінскія епіскапы мелі непасрэднае дачыненне да спраў Лешчанскага манастыра. Яны час ад часу пражывалі пры абіцелі, а некаторыя з`яўляліся яе настаяцелямі. Дзейсны ўдзел у яго жыцці прымалі свецкія асобы, пры чым вельмі ўплывовыя. Сярод яго апекуноў – князь Фёдар Іванавіч Яраславіч і яго жонка Алена Алелька, каралева Бона [9, с. 6].

У апецы тых жа Яраславічаў знаходзіўся і пінскі Варварынскі манастыр. Яны выдзялялі сродкі на яго ўтрыманне і будаўніцтва [10, с. 71]. Абіцель у 20-я г. XVI ст. перайшла пад патранат каралевы Боны, а потым і яе нашчадкаў. Неаднаразова ў XVI ст. ігуменні ў манастыр прызначаліся каралеўскімі граматамі. У 1580 г. такі дакумент атрымала «панна» Раіна Вайнянка [3, с. 252–253]. Пасля яе смерці ў манастыр была прызначана Людміла Сноўская [4, с. 93–94].

Слуцкі Троіцкі манастыр да канца XVIII ст. быў уласнасцю слуцкіх князёў. Яны – князі Алелькі, а пазней іх спадкаемцы князі Радзівілы – былі апекунамі абіцелі. Настаяцелі заўсёды мелі адказнасць перад імі за захаванне і памнажэнне манастырскай маёмасці. Так, у вопісе маёмасці абіцелі за 1494 г. архімандрыт Іосіф піша: «Я архимандрит Иосиф, наречённый епископ Смоленский, здаю твоей милости государыни моей кнегине манастыр святое Троици, со всим с тым, с чим ми твоя милость подала, а над то прибавил за мое держанье» [1, с. 136]. Архімандрыт Іосіф кіраваў манастыром з дазволу княгіні і рабіў справаздачу менавіта ёй.

У завяшчанні слуцкага князя Юрыя Юр`евіча Алелькі, паводле якога горад і княства дзяліліся паміж яко трыма сынамі, гаварылася, што Троіцкі манастыр «должен был оставаться в общем подаваньи всех трех братьев…» [12, с. 4]. Пасля смерці настаяцеля «наследники втроем подадут монастырь новому архимандриту закону греческого, и так должно продолжаться вечно». У далейшым так і адбывалася: настаяцель абіцелі зацвярджаўся кіеўскім мітрапалітам толькі пасля згоды слуцкіх князёў [13, с. 28].

Слуцкі Ільінскі, Грозаўскі Мікалаеўскі і Морацкі Мікалаеўскі манастыры таксама знаходзіліся пад апекай князёў Алелькаў і былі падпарадкаваны Трайчанскай абіцелі ў Слуцку [13, с. 26–27; 15, с. 186]. Так, па «разделу» паміж Юрыем, Янам-Сымонам і Аляксандрам Алелькамі, які адбыўся 6 ліпеня 1582 г. , «право подаванья монастыря святаго Илии и соборной замковой церкви принадлежит Юрию…» [12, с. 4]. Да ліку дабрачынцаў Мікалаеўскай абіцелі ў Грозаве «принадлежат князья Слуцкие Олельковичи, от которых он имел свои угодья…» [11, с. 121].

Прыведзеныя факты паказваюць характар адносін патронаў да духоўных установаў, якія знаходзіліся ў іх апецы. Зразумела, падобныя адносіны маглі мець дабрачынны характар. Але незаўсёды апекаванне вычэрпвалася адной дабрачыннасцю. Патроны з`яўляліся фактычнымі кіраўнікамі і распарадчыкамі манастыроў, іх меркаванне было вырашальным пры прызначэннях на іерархічныя пасады. Менавіта такія адносіны сталі глебай для злоўжыванняў, якія прывялі да крызісных з`яў у праваслаўнай царкве ў XVI ст.

Найбольш ранняе сведчанне аб гэтых з`явах можна знайсці ў актах вядомага Віленскага сабора 1509 г. Удзельнікі сабора скардзіліся: «…Якоже нецыи и въ нашомъ законе, славы ради мирскыя и властельства, еще живу сущу епископу и здраву, прежде преставлениа его, на тое епископьство подъкупаютъся и беруть, безь съвета и воли митрополии и епископовъ и безъ осмотрениа и събраниа князей и пановъ нашого закону Греческого» [7, с. 8].

З тэксту дакумента бачна, якім шляхам здабываліся іерархічныя пасады. Па сведчанні саборнага акта, часам такім жа чынам набываліся і настаяцельскія месцы ў манастырах, і святарскія ў прыходах. Цяжка было змагацца супраць такіх з`яў, таму што падаўцом царкоўных пасад з'яўляўся сам кароль.

Карыстаючыся неабмежаваным правам раздачы духоўных пасад і бенефіцыяў служыцелям каталіцкай царквы, Жыгімонт I выкарыстоўваў сваё права падавання і ў адносінах да праваслаўнай царквы. Выпадкі «подкупательства под живыми епископами, архимандритами и священниками», супраць чаго выступалі



праваслаўныя іерархі, не толькі не зніклі, але сталі хутка павялічвацца. Замест ранейшага звычаю выбару кандыдатаў на вакантныя царкоўныя пасады ўводзілася непасрэднае прызначэнне іх самім каралём па рэкамендацыі ўплывовых асоб [6, с. 79].

Так, у 1552 г. каралева Бона выдае грамату пінскаму лешчанскаму архімандрыту Макарыю на Тураўскую і Пінскую епіскопію [5, с. 134–135]. Пасля яго смерці ў 1558 г. Жыгімонт Аўгуст перадае кафедру новаму епіскапу Макарыю [3, с. 95–96]. А ў 1576 г. Стэфан Баторый прызначае на тую ж кафедру Кірыла Цярлецкага. Пры гэтым ён піша мітрапаліту Іоне ліст, дзе загадвае, каб ён назваў кандыдата на епіскопію «водлуг обряду закону Греческого постановил и совершил» [3, с. 188–189]. Такая ж грамата была выдадзена ў 1585 г. епіскапу Лявонцію Пялчыцкаму [3, с. 299–301]. Граматы 1588 і 1595 г.г. дазвалялі названаму епіскапу Лявонцію і зямяніну Аляксандру Плецянецкаму адпаведна стаць архімандрытамі Лешчанскага манастыра [4, с. 10–11, 114–115].

Іерархічныя пасады раздаваліся каралямі як духоўным, так і свецкім асобам. Некаторыя асобы імкнуліся атрымаць як мага больш «хлябоў духоўных». Яны глядзелі на манастыр ці царкву, атрыманыя бенефіцыяльным парадкам, як на крыніцу даходаў. Так, на Віленскім сойме 1551 г. паны-рады Вялікага княства Літоўскага прасілі, «абы каждая персона стану духовнаго как римскаго, яко и греческаго закону двух альбо трех костелов не держали». Гасудар адказваў, што «тая речь принадлежит до ведома епископов, от которых и зависит установление добраго в этом порядка» [3, с. 29].

Аднак духоўныя ўлады так і не здолелі ўсталяваць «добрый порядок». Вышэйназваныя факты злоўжыванняў пры прызначэнні на царкоўныя пасады дыскрэдытавалі духавенства ў вачах грамадства, наносілі значную шкоду прававому становішчу не толькі манастыроў Турава-Пінскай епархіі, але і праваслаўнай царквы.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Акты, относящиеся к истории Западной России: в 5 т. – СПб.: Тип. II отд. Собственной Е.И.В. Канцелярии, 1846 – 1853. – Т. 1. – 1846. – 419 с.
2. Акты, относящиеся к истории Западной России: в 5 т. – СПб.: Тип. II отд. Собственной Е.И.В. Канцелярии, 1846 – 1853. – Т. 2. – 1848. – 437 с.
3. Акты, относящиеся к истории Западной России: в 5 т. – СПб.: Тип. II отд. Собственной Е.И.В. Канцелярии, 1846 – 1853. – Т. 3. – 1848. – 356 с.
4. Акты, относящиеся к истории Западной России: в 5 т. – СПб.: Тип. II отд. Собственной Е.И.В. Канцелярии, 1846 – 1853. – Т. 4. – 1851. – 582 с.
5. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России: в 15 т. – СПб.: Тип. Э. Праца, 1863–1892. – Т.1. – 1863. – 318 с.

6. Беднов, В.А. Православная церковь в Польше и Литве (по Volumina Legum) / В.А.Беднов. – Минск: Лучи Софии, 2002. – 432 с.
7. Виленский собор 1509 года // Русская историческая библиотека, издаваемая Археографическою Комиссиею. – Т. 4. – СПб.: Тип. А. Траншеля, 1878. – С. 5–18
8. Карташёв, А.В. Очерки по истории русской церкви: в 2 т. / А.В. Карташёв. – Т.1. – СПб.: Изд-во О. Абышко, 2004. – 718 с.
9. Миловидов, А.И. Архив упраздненного Пинского Лещинского монастыря / А.И.Миловидов. – М.: Изд-е императорского общества истории и древностей Российских при Москов. университете, 1900. – 33 с.
10. Наши духовные ценности: в 12 вып. / редкол.: Л.Ф. Анцух (гл. ред.) [и др.] – Минск: Четыре четверти, 1995–2003. – Вып. 5: Православные монастыри Беларуси / сост.: С.Э.Сомов [и др.]. – 2003. – 200 с.
11. Николай, архимандрит. Историко-статистическое описание Минской Епархии / Николай. – СПб.: Журн. « Странник» , 1864. – 315 с.
12. Тройчанский архив // Минская старина. – Мн.: Губернская типография, 1913. – Вып. 4. – IV, 200, 39 с.
13. Ціткоўскі, І. Слуцкі Свята-Троіцкі манастыр / І. Ціткоўскі // Праваслаўе. – 1999. – № 8. – С. 26-37.
14. Чистович, И. Очерк истории западно-русской церкви: в 2 ч. / И. Чистович. – СПб.: Тип. Департамента Уделов, 1882–1884. – Ч.1. – 1882. – 221 с.
15. Чистович, И. Очерк истории западно-русской церкви: в 2 ч. / И. Чистович. – СПб.: Тип. Департамента Уделов, 1882–1884. – Ч. 2. – 1884. – 423 с.

**Дзянісава Алена Рыгораўна** – выкладчык, Беларускі дзяржаўны універсітэт.

УДК 2-9(476)(XVI-XVII)

**М.А. Пятраўскас** (Гродна)

# КАНФЕСІЙНАЯ ТРАНСФАРМАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСТВА Ў КАНЦЫ XVI – ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII ст.

*Статья посвящена конфессиональным изменениям, которые происходили в белорусском обществе в конце XVI – первой половине XVII в. Прослежен процесс отхода от идеи религиозной толерантости, которая со времен Сигизмунда II определяла конфессиональную жизнь Речи Посполитой.*

З часоў свайго заснавання Вялікае княства Літоўскае існавала ва ўмовах выбару паміж некалькімі культурна-рэлігійнымі мадэлямі развіцця грамадства. У XIII ст. маладая балта-славянская дзяржава развіваецца ў культурным і гістарычным арэале хрысціянства. Сама дзяржаўнасць ВКЛ, нягледзячы на моцны ўплыў дахрысціянскіх



традыцый, не мела паганскага характару. Гэта стварала далейшыя ўмовы складвання агульнай духоўнай асновы развіцця як мінімум двух этнасаў у адзіным грамадстве. Царкоўна-рэлігійны фактар у складванні беларускай-літоўскай дзяржаўнасці варта разглядаць у цывілізацыйным, культуралагічным, псіхалагічным аспектах, неабмежаваным уласна канфесійнай гісторыяй.

У канцы XIV ст., з пачаткам хрышчэння паганскай часткі Літвы па заходняму абраду, канфесійны дуалізм, у якім складнікі «паганства-хрысціянства» замяняюцца на «заходняя традыцыя – усходняя традыцыя», становіцца галоўнай умовай развіцця грамадства, так як перапыняецца працэс культурна-гістарычнага паяднання балцкага і славянскага насельніцтва ВКЛ. З часоў Ягайлы духоўны і цывілізацыйны падзел грамадства атрымаў своеасаблівы ststus quo, альбо, як сцвярджае С.Марозава, мадэль адзінавернай (з дзяржаўнай праваслаўнай царквой) славянскай дзяржавы ВКЛ страціла магчымасці рэалізацыі яшчэ ў XIV ст. [1, с. 333].

У сярэдзіне XVI ст. пачынаецца трансфармацыя дуалістычнай мадэлі суіснавання дзвюх хрысціянскіх канфесій у духоўным арэале адзінай краіны. Пачынаецца яна ў віхуры агульнаеўрапейскіх культурных працэсаў, звязанных з пашырэннем гуманістычных ідэй і рэфармацыйнага руху ў хрысціянскай царкве. Адносная бесканфліктнасць свецкага і рэлігійнага пачаткаў трансфармацыйных працэсаў у светапоглядзе жыхароў ВКЛ уплывае на структуры менталітэту грамадства, дынаміку мадэрнізацыйных працэсаў. На сувязь і ўзаемапранікненне царкоўна-рэлігійных з'яў і культурна-гістарычнай эпохі звярнуў увагу С. Падокшын, які падкрэсліў сувязь працэса дзяржаваўтварэння і трансфармацыі духоўнага светапогляду, сцвярджаючы, што «Рэч Паспалітая» – агульная справа – не палітычнае, а этыка-палітычнае паняцце» [2, с. 51].

Вынікі этнаканфесійных працэсаў падсумавала з'яўленне уніяцкага варыянта хрысціянскай супольнасці і яе афармлення ў канцы XVI ст. Да гэтага праваслаўная канфесія як дамінуючая на землях ВКЛ з'яўлялася галоўным носьбітам духоўных традыцый грамадства, а, значыць, адыгрывала выключную ролю ў дзяржаватворчых працэсах.

Пасля падпісання Брэсцкай царкоўнай уніі – варыянта лакальнага аб'яднання дзвюх галін хрысціянства – на ролю галоўнага складніка этнанацыянальнай ідэнтыфікацыі грамадства ВКЛ прэтэндуе уніяцкая царква. Гэтак жа адбываецца перайманне функцыі «носьбіта» далюблінскіх дзяржаўных, духоўных, культурных традыцый народаў княства. І. Вішнеўская разглядала Берасцейскую унію як «адно з мерапрыемстваў працэса вялікакняжацкага адраджэння, накіраванае на замацаванне аўтаномнага статуса ВКЛ» [3, с. 59]. У накірунку

вылучэння ролі духоўнай традыцыі ў трансфармацыйных працэсах на беларуска-літоўскіх землях С. Падокшын адрозніваў этыка-рэлігійны светапогляд ад уласна працэсаў рэлігійнай трансфармацыі і не ўключаў у апошнюю карпаратыўную этыку беларускіх гараджан, звязваючы гэту з'яву з даўнімі вечавымі традыцыямі. Вучоны адзначаў, з аднаго боку, абумоўленасць рэлігійнай хрысціянскай дактрынай эклектычнага (г.зн. духоўна разнароднага, змешанага) характару айчыннай этычнай думкі, а, з іншага боку, уплыў рэнесансавага плюралізму на светапогляд пратэстантаў, праваслаўных і католікаў [2, с. 144].

Конттрэфармацыя як частка еўрапейскага працэсу на тэрыторыі ВКЛ амаль супала з росквітам пратэстанцкіх ідэй, аднак асаблівая канфесійная напружанасць не набыла жудасных форм, падобных рэлігійным войнам у Заходняй Еўропе, дзякуючы выпрацаваным у ВКЛ нормам талерантнасці [1, с. 339].

Перыяд з канца XVI да сярэдзіны XVII стст. складаюць тры адрозныя этапы дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да канфесійнага пытання. Жыгімонт III Ваза робіць бескампрамісную стаўку на гвалтоўнае і тэрміновае вырашэнне пытання канфесійнага адзінства Рэчы Паспалітай. Маючы на ўвазе традыцыі народаў ВКЛ і аддаючы пашану адноснай бяскроўнасці перыяду Контррэфармацыі на беларускіх землях, Жыгімонт III Ваза між тым ў гісторыі ВКЛ можа разглядацца ў такой жа ролі, у якой разглядаецца Марыя Медычы ў гісторыі Францыі, г.зн. як правадыр жорсткай монаканфесійнай палітыкі. Пратэстанцкая царква, знаходзячыся пад пагрозай ідэйнага вынішчэння на землях ВКЛ ў лоне контррэфармацыі, застаецца веравызнаннем эліт. Калі раней гэтыя эліты былі элітамі палітычнымі, і рэфармацыйныя цэрквы ўсё больш інтэграваліся ў сферу палітычнага і духоўнага жыцця дзяржавы і грамадства, то ў пачатку XVII ст. пратэстанцкае веравызнанне захоўваецца ў маргінальных колах. У гэты перыяд каталіцкая царква далей праводзіць ідэю ўжо рэалізаванага варыянта рэгіянальнага паяднання з праваслаўем. На восі барацьбы з «пазаўнійнымі» рэлігійнымі рухамі уніяцтва падзяляе бок каталіцтва. У той жа час, уніяцтва фарміруецца як новая культурна-гістарычная форма развіцця беларускага і ўкраінскага народаў, што ўсё больш выразна вызначае пэўную адасобленнасць ад рыма-каталіцкай цывілізацыйнай прасторы. Больш таго, уніяцкая царква ў якасці паўнапраўнага суб'екта міжканфесійнага дыялогу адыгрывае вызначальную ролю ў працэсе духоўнай кансалідацыі грамадства ВКЛ. У Рэчы Паспалітай з канца XVI ст. існуе афармленая пазаунійная апазіцыя (праваслаўных і пратэстантаў) дзяржаўнай каталіцкай царкве.

На думку А.Мартаса, паварот улады да метадаў прыцяснення і адкрытага гвалту, на думку вучонага, не ў апошнюю чаргу тлумачыцца



яднаннем на пэўным этапе дзяржаўнай стратэгіі варожай Маскоўскай дзяржавы і ідэйнай платформы праваслаўя. Узнікненне ў 1589 годзе патрыярхату ў Маскоўскім княстве – знешнепалітычным суперніку ВКЛ – азначала стварэнне моцнага духоўнага цэнтра, прэтэндуючага на ўладу над усім праваслаўным насельніцтвам ўсходнеславянскіх зямель [5, с. 84].

Праўленне караля Уладзіслава Вазы можна ахарактарызаваць як перыяд кампрамісу паміж «апазіцыйнай» царквой і ўладамі, што вынікала з узаемавыгадных інтэрэсаў: для ўлады гэты інтэрэс заключаўся ў прадухіленні непажаданых раскольніцкіх тэндэнцый у грамадстве, выкліканых палітыкай папярэдніка, для канфесій – як уніяцтва і каталіцтва, так і «апазіцыйных» – было непрыймальна вырашэнне царкоўных спраў гвалтоўным шляхам (па прыкладу віцебскіх падзей 1623 г. ці рокашаў 1606 – 1607 гг., антыпратэстанцкіх пагромаў 1611 г.). У дарэвалюцыйнай расійскай гістарыяграфіі асобе Уладзіслава Вазы часта выпадала стаць ледзь не адзіным, хто актыўна імкнуўся захаваць канфесійны мір у дзяржаве [4, с. 231]. Ян Казімір Ваза праводзіў канфесійную палітыку ўжо ў новых геапалітычных умовах, што вызначала асобную тактыку ўплыву на рэлігійнае жыццё ў краіне.

У расійскай дарэвалюцыйнай і савецкай гістарыяграфіі трансфармацыя рэлігійнага жыцця і з'явы ў саслоўным грамадстве звязваліся і нават атаясамліваліся. У працах «патрыярха» ўкраінскай гістарычнай навукі М.Грушэўскага выводзіцца паняцце праваслаўнага «духоўнага грунта», адарвацца ад якога – значыць адарвацца ад народа [6, с. 220]. Падобная тэндэнцыя падзелу на «свой народ» і «польскія эліты» паступова замяняецца навукова выверанымі падыходамі да вывучэння Новага часу на беларускіх землях. На думку Л.Івановай, працэс кансалідацыі шляхты ў пачатку XVII ст. насіў пераважна саслоўны, а не веравызнаўчы характар [7, с. 42]. Контррэфармацыя на беларускіх землях здолела «вярнуць» у лона каталіцызму пратэстанцкія эліты, далучыць большасць праваслаўнай знаці, што, аднак, не дазволіла стварыць нацыянальную царкву ў ВКЛ па прыкладу нацыянальных цэркваў Чэхіі, Германіі, Англіі і іншых [1, с. 339]. Да сярэдзіны XVII ст. этапнымі датамі ў рэлігійнай гісторыі ВКЛ можна лічыць 1547 і 1548 г. У першай палове XVII ст. Літоўская мітраполія праваслаўнай царквы перажывае апошні этап самабытнага развіцця і інтэлектуальнага ўзвышэння. Са смерцю «апошняга экзарха Канстанцінопальскага трона» Пятра Магілы заканчваецца традыцыя «літоўскага» праваслаўя. «И обоснованно его именем обозначают целую эпоху в истории Западнорусской церкви и культуры. Это был убежденный западник, западник по вкусам и привычкам» – пісаў пра Пятра Магілу Г.Фляроўскі [8]. Нягледзячы на тое, што Кіева-Магілянская школа, цэнтр беларуска-

ўкраінскага («заходняга») праваслаўя ў разглядаемы перыяд знаходзіцца па-за межамі княства, дзейнасць знакамітага мітрапаліта ў справе захавання праваслаўнай традыцыі ВКЛ, стварэння асобнага патрыярхата і інш. у многім датычыць беларуска-літоўскіх зямель. Вызначальным у гісторыі беларуска-ўкраінскага праваслаўя з'яўляецца 1654 год, калі беларускія епархіі на акупаваных расійскімі войскамі тэрыторыях перайшлі пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату, а патрыярх Нікан стан стаў першасвятаром «усяе Вялікія і Малыя і Белыя Русі» [7, с.163].

У кантэксце развіцця дзяржавы і права лёсавызначальным з'яўляецца рашэнне Сейма 1658 года аб выгнанні арыян з Рэчы Паспалітай. Да гэтага моманту пратэстанцкая царква, знаходзячыся пад пагрозай ідэйнага вынішчэння ў лоне контррэфармацыі, застаецца веравызнаннем эліт. Антыпратэстанцкія пагромы становяцца распаўсюджанай з'явай. Аднак да сярэдзіны XVII ст. пратэстанты вызначаюцца актыўнай выдавецкай, асветніцкай дзейнасцю.

1658 год юрыдычна замацаваў канчатковы адыход ад ідэй рэлігійнай талерантасці, якая з часоў Жыгімонта II вызначала канфесійнае жыццё Рэчы Паспалітай.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Марозава, С. В. Трансфармацыя канфесійнай структуры Вялікага княства Літоўскага ў паслялюблінскае стагоддзе 1569 – 1667 гг. / С. В. Марозава // Polsko-Białoruskie związki językowe, literackie, historyczne i kulturowe. – VII. – Białystok. – 2006. – S. 333 – 343.
2. Падокшын, С. А. Этычная думка ў культуры Беларусі XVI – XVII стст. / С. Падокшын. – Мінск: Беларуская навука, 2004. – 151 с.
3. Вішнеўская, І.У. Канцэпцыі міжканфесійнай уніі ў палітыка-прававой думцы Беларусі XVI ст. / І.У. Вішнеўская // Проблемы правового регулирования общественных отношений в условиях глобализации: материалы международной научно-практической конференции, Минск, 26 октября 2007 г. / редколлегия: Г. А. Короленок (отв. ред.) [и др.]. - Минск : БГЭУ, 2007. – С. 57–59.
4. Батюшков, П. Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо - Западного края / П. Н. Батюшков. – СПб.: «Общественная польза», 1890. – 376 с.
5. Салей, С. М. Канфесійнае пытанне ў Вялікім Княстве Літоўскім у кантэксце міжнародных адносін у XVI ст. / С. М. Салей // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. нав. арт. / рэдкал.: С. В. Марозава [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2008. – С. 77 – 88.
6. Грушевський, М. Ілюстрована Історія України / М. Грушевський. – Кіів: Петро Барській, 1918. – 576 с.
7. Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 3: Беларусь у часы Рэчы Паспалітай / Ю. Бохан [і інш.]; рэд.кал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.] – Мінск: Экаперспектыва, 2004. – 344 с.
8. Флоровский, Г. Пути русского богословия [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://krotov.info/library/f/florov/page03.htm#5 –Дата доступа: 02.05.2009.



**Петраускас Міхаілас Альгімантавіч** – магістр гістарычных навук, аспірант кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.




УДК 947.6

**А.С. Юнгіна** (Мінск)

# УДЗЕЛ СВЯТА-ТРОІЦКАГА ВІЛЕНСКАГА БРАЦТВА Ў ЖЫЦЦІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ КІЕЎСКАЙ МІТРАПОЛІІ ДА 1596 г.


*В XVI в. на территории Великого княжества Литовского широко распространился протестантизм и посттридентское католичество. Перед православной церковью остро встала проблема религиозного просветительства. Она стала главной для нового типа православных братств – религиозно-просветительского, к которому относилось Виленское Свято-Троицкое братство, созданное в 1584 г. В статье рассматривается период деятельности братства со времени его основания до 1596 г. За это короткое время братством было сделано много полезных дел: создана школа, приглашены квалифицированные преподаватели, установлены контакты с другими братствами, развернуто книгопечатное дело, устроен госпиталь и братские постройки. Братство принимало активное участие в Берестейских церковных соборах 1590 – 1594 гг., но его главной заслугой явилось укрепление православного населения Великого княжества Литовского в своей вере.*


Свята-Троіцкае Віленскае Праваслаўнае брацтва з'явілася ў 1584 г. пры Свята-Троіцкім манастыры [14, с. 548]. Падчас яго ўтварэння ў Вільні існавала пяць праваслаўных брацтваў, але ўсе яны адносіліся да так званых «мядовых», ці «філантрапічных» [4, с. 62]. У сувязі з гэтым у гістарычных даследваннях часам блытаюць Троіцкае брацтва з адным з гэтых пяці папярэдніх, але яно было зусім новым стварэннем [3, с. 8; 9, с. 8–9]. У XVI ст. на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага шырока распаўсюдзіўся пратэстантызм і посттрыденскае каталіцтва. Перад Праваслаўнай царквой паўстала вострая праблема рэлігійнага асветніцтва. Гэтае пытанне стала галоўным для новага тыпу праваслаўных брацтваў – рэлігійна-асветніцкіх, да якіх і адносілася Віленскае Свята-Троіцкае брацтва.

Супрацьдзеянне, сустрэтае з боку некаторых віленскіх гараджан, прымусіла брацтва прасіць мітрапаліта Анісафора аб дазваленні надрукаваць статут і аб дараванні новай благаслаўленнай граматы. У 1587 г. мітрапаліт пацвердзіў законнасць стварэння брацтва, і ў 1588 г. яно надрукавала свой статут [7, с. 54]. У ім звяртае на сябе ўвагу ўступ, заснаваны на евангельскіх словах, якія заклікаюць злучыцца ў брацкі саюз для выканання запавету Хрыста аб любові да Бога і бліжняга [8, с. 235–237].

У брацтва мог уступіць любы, але калі пасвячалі ў братчыкі, ён павінен быў пацвердзіць сваю згоду з абавязацельствам ні ў чым не пярэчыць брацтву. Брацтва было ўсесаслоўным і прымала асоб мужчынскага і жаночага полу [8, с. 240]. Братчыкі штомесяц павінны былі наведваць сход, дзе абмяркоўваліся і вырашаліся бягучыя справы, збіраліся ахвяраванні. Брацкія справы павінны былі зберагацца ў строгім сакрэце, і ўсяму брацтву было дадзена права суда над вінаватымі [8, с. 246]. У статуце сцвярджалася аб недапушчэнні галечы свайго брата, клопаце аб хворых, адзінокіх і бедных. Асаблівая ўвага ўдзялялася пахаванню, выдаткі і арганізацыю якога брацтва брала на сябе [8, с. 250–252].

Найважнейшай дзейнасцю брацтва была арганізацыя школы ў Вільні, якая, магчыма, з'явілася некалькі раней за Львоўскую. Львоўскае брацтва ўтворана ў 1585 г., а брацкая школа ў Львове з'явілася ў 1586 г. па благаслаўленню Антыахійскага патрыярха Іакіма, які тады наведаў Львоў [5, с. 603]. Школа з самага пачатку была галоўным клопатам Віленскага брацтва. Віленская школа раней за Львоўскую пачала карыстацца друкаванымі падручнікамі. Маецца на ўвазе выдадзенная ў 1586 г. славянская граматыка Іаана Дамаскіна ў перакладзе Іаана, экзарха Балгарскага. Пасляслоўе гэтай граматыкі, датаванае 8 кастрычнікам 1586 г., сведчыць аб тым, што яна ўзята з «газафілакіі» (скарбніцы, казнасховішчы) князя К.К. Астрожскага [11, с. 316].

Разам з К.В. Харламповічам можна дапусціць, што каб звязацца з князем Астрожскім і атрымаць граматыку, яе адрэдагаваць і надрукаваць, павінна было спатрэбіцца шмат часу, тым больш, што гэта была яшчэ зусім незнаёмая справа. Такім чынам, рашэнне надрукаваць граматыку ўзнікла ў пачатку 1586 г., а з'яўленне школы можна аднесці да 1585 г.

5 чэрвеня 1588 г. Віленскае брацтва атрымала благаславенне самога Канстанцінопальскага патрыярха Ієрэміі, які, едучы ў Маскву, спыніўся ў Вільні. Патрыярх ухваліў статут, убачыўшы, што ўсе напісанае накіравана «к соединению любви духовное и к совершенному христианскому благочестию» [11, с. 319]. Таксама ён благаславіў «школу братскую в дому братском, языка греческаго, латинскаго и рускаго имети. Також и друкарню вся книги ветхаго и новаго завета по святых отец преданию печатати» [11, с. 319]. Як і Львоўскаму брацтву, патрыярх даў права адлучаць усенародна ў царкве праз мясцовых святароў тых братчыкаў, якія не жадалі падпарадкоўвацца ці паводзілі сабе непрыстойна. Усіх духоўных асоб патрыярх папярэдзіў, каб не перашкаджалі брацтву [6, с. 21–22].

21 чэрвеня 1589 г. Жыгімонт III пацвердзіў законнасць брацтва і брацкай школы. Каралю былі прапанаваны чын брацтва і грамата патрыярха Ієрэміі. Знашоўшы дзейнасць брацтва законнай і карыснай, Жыгімонт зацвердзіў усе артыкулы брацкага статута, даў брацтву пячатку, вызваліў яго ад усялякіх грашовых і натуральных падаткаў і падпарадкавання гарадскім уладам [1, № 52].



На сходзе ў Вільні ў 1591 г. групоўка сенатараў і шляхты Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам навагародскага ваяводы Фёдара Скуміна-Тышкевіча ўвайшла ў склад Віленскага брацтва [2, № XLII]. Такім чынам, брацтва з аб'яднання віленскіх гараджан пераўтваралася ў аб'яднанне, якое магло ўплываць на царкоўныя справы [10, с. 68–69]. Братчыкі прымалі ўдзел у Берасцейскім царкоўным саборы 1591 г., на якім была прынята вялікая праграма па рэфармаванню існуючага ладу ў Царкве. Таксама дэлегаты Віленскага брацтва заявілі аб аб'яднанні намаганняў з Львоўскім брацтвам. Гэта прапанова была пацверджана віленскімі дэлегатамі ў Львове: «единость …утверждаючи, дабы посполу промышляти о всем в общую ползу и заступати от напасти» [13, № CCXVI, с. 341].

У 1591 г. Багдан Сапега, мінскі ваявода, адзін з адметных прадстаўнікоў Віленскага брацтва, дзякаваў у лісце Львоўскае брацтва за дасланую граматыку і прасіў даслаць «до тоеж науки граматычное писма кгрецкого и словацкого делателя искусна то ест дидяскала чоловека доброго в том умеетного» [13, CCI, с. 310]. Віленскай школе былі вельмі патрэбны адукаваныя дыдаскалы (настаўнікі). Святара Ігнацья і Кірыла Транквіліёна-Стаўравецкага, прысланых Львоўскім брацтвам, прынялі толькі пасля сур'ёзных іспытаў.

У 1594 г. Віленскае Свята-Троіцкае брацтва прыняло актыўны ўдзел у наступным Берасцейскім царкоўным саборы. Дэлегаты брацтва прыехалі на сабор з «інструкцыяй», якая была падпісана групоўкай сенатараў і шляхты Вялікага княства Літоўскага на чале з Ф. Скумінам [2, № CCII]. Інструкцыя ўяўляла сабой праграму далейшых рэформ у Праваслаўнай Царкве і датычыла пераважна месца і ролі ў ёй брацтваў. У ёй патрабавалася пацвердзіць права і статус брацтваў, заснаваных па благаславенню патрыярха, мітрапаліта і епіскапаў і «не только не препятствовать, но и всячески содействовать их процветанию, а все иные церковные братства, противные этим, хотя бы получили начало от какого-либо епископа, знать не хочем и возбраняем» [2, № CCII, с. 497]. У кожнага брацтва павінна быць свая царква і школа, а іншыя трэба забараніць. Інструкцыя абвінавачвала епіскапаў у тым, што яны выкарыстоўвалі царкоўныя сродкі дзеля свайго ўзбагачэння. Гэтыя грошы прапанавалася накіроўваць на стварэнне «школ и наук», на ўтрыманне свядомых святароў, на будаўніцтва шпіталяў і храмаў [2, № CCII, с. 498].

Брацтвы і школы з «учеными попами» належала стварыць у кожным павятовым горадзе [2, № CCII, с. 498]. Права друкаваць царкоўныя кнігі давалася толькі Віленскаму і Львоўскаму брацтвам [2, № CCII, с. 498].

Віленскай школе разам з Львоўскай надаваўся статус галоўных адносна ўсіх іншых царкоўных школ [13, СССХІІ].

У 1593 – 1594 гг. у Віленскай школе выкладалі не толькі чатыры мовы, але і «вшелякия науки» [11, с. 322]. Рэктарам школы быў Стэфан Зізаній, запрошаны сюды з Львова ў 1593 г. Яго «Катехизис» быў надрукаваны ў 1595 г. у Вільні на польскай і рускай мовах [6, с. 43]. На працягу 1595–1596 гг. у Віленскай друкарні былі надрукаваны «Молитвы повседневные», «Псалтырь», «Казанье святого Кирилла, патриарха Иерусалимского, о антихристе и знакох его, з росширением науки против ересей розных» С. Зізанія, «Грамматика словенска съвершеннаго искусства осмии частей слова и иных нуждных» Л. Зізанія, складзеная Зізаніем «Наука ку читаню и розуменю письма словенского, тутыж о Святой троици и о Вочеловечении Господни», «Книга о вере», «Часовник» [12, с. 481].

Такім чынам, з моманту свайго заснавання за вельмі кароткі адрэзак часу (1584–1596 гг.) Віленскае Свята-Троіцкае брацтва зрабіла шмат карысных спраў: заснавала школу, запрасіла аўтарытэтных выкладчыкаў, устанавіла кантакты з іншымі брацтвамі, разгарнула друкарскую справу, уладкавала шпіталь і брацкія пабудовы. Брацтва прымала актыўны удзел у Берасцейскіх царкоўных саборах, адстойваючы свой погляд на царкоўныя рэформы. Зрабіла значны ўклад у дагматычнае багаслоўе. Але галоўнай справай брацтва з'явілася ўмацаванне праваслаўнага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага ў сваёй веры.

Спіс крыніц і літаратуры

1. Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею. – Т. IX: Акты Виленского земского суда. – Вильна: Тип. А.Г. Сыркина, 1878. – XXII с., 592 с., 58 с.
2. Архив Юго-Западной России, издаваемый комиссиею для разбора древних актов, состоящей при Киевском, Подольском и Волынском Генерал-Губернаторе. – Ч. I. Т. X: Акты, относящиеся к истории Галицко-русской Православной Церкви (1423 – 1714 гг.). – Киев: Тип. Императорского Университета, 1904. – 966 с.
3. Виленское Свято Троицкое впоследствии Свято-Духовское братство. – СПб.: Издание Редакции народного журнала «Мирской Вестник», 1876. – 60 с., 2 с.
4. Зилитинкевич, И.П. Виленские филантропические или медовые братства / И.П. Зилитинкевич. – Вильна: Виленская Губернская Типография, 1887. – 85 с.
5. Карташев, А.В. Очерки по истории Русской Церкви / А.В. Карташев. – Т. I. – Репринт: Париж, 1959. – Москва: «Наука», 1991. – 704 с.
6. Папков, А.А. Братства: Очерк истории западно-русских православных братств. – Свято-Троицкая Сергиева Лавра: Тип. Св.-Троицкой Сергиевой Лавры, 1900. – LXIV с., 291 с., 22 с., 5 с., XXIV с., XXXIX с.
7. Рункевич, С.Г. Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов / С.Г. Рункевич. – Т. 1: 1470 – 1700. – СПб., 1897. – 502 с.
8. Устав виленского братства, утвержденный иерусалимским Патриархом Феофаном во время пребывания его в Киеве // Голубев, С.Т. Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники. Опыт исторического исследования. Т. 1. – Приложение / С.Т. Голубев. – Киев: Тип. Г.Т. Корчак-Новицкого, 1883. – С. 235 – 256.



9. Флеров, И., свящ. О православных церковных братствах, противоборствовавших унии в Юго-Западной России в XVI, XVII и XVIII столетиях/ свящ. И. Флеров. – Репринт: СПб., 1857. – 1996. – III с., 200 с.
10. Флоря, Б.Н. Брестские синоды и Брестская уния / Б.Н. Флоря // Славяне и их соседи. – Вып. 3: Католицизм и православие в средние века. – М., 1991. – С. 59 – 75.
11. Харлампович, К. Западнорусские Православные школы XVI и нач. XVII века, отношение их к инославным, религиозное обучение в низ и заслуги их в деле защиты православной веры и церкви/ К. Харлампович. – Казань: Типо-Литография Импер. Университета, 1898. – 524, LXII с.
12. Харлампович, К.В. Западнорусские церковные братства и их просветительная деятельность в конце XVI и начале XVII в. / К.В. Харлампович. – Б.м.: б.изд., б. г. – 19 с.
13. Шлевис, Г.П. Виленское Православное Свято-Духовское братство / Г.П. Шлевис // Православная энциклопедия. – Том VIII: Вероучение – Владимиро-Волынская епархия. – М.: Церковно-научный центр «Православная энциклопедия», 2004. – С. 480 – 484.
14. Milkowicz, W. Monumenta confraternitatis stauropigianae Leopoliensis sumptibus Instituti Stauropigiani/ W. Milkowicz. – T. I. – Leopolis, 1895. – XVI p., 960 p.
15. ΣΥΝΟΨΙΣ, – сочинение въ защиту правъ православной западно-русской церкви, изданное Виленскимъ братствомъ ко времени конвокаціоннаго сейма после смерти короля Сигизмунда III 1632 года // Архив Юго-Западной России, издаваемый коммиссiею для разбора древних актовъ, состоящей при Киевском, Подольском и Виленском Генералъ Губернаторе. – Ч. I, т. VII. – Киев: Тип. Г.Т. Корчакъ-Новицкаго, 1887. – С. 533 – 576.

**Юнгіна Анастасія Сяргееўна** – аспірантка кафедры гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы (г. Мінск). Скончыла Інстытут тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірыла Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Магістр філасофскіх навук. Кола навуковых інтарэсаў: канфесійная гісторыя Беларусі ў XVI ст.

УДК 2-9(476)(XVI – XVII)

**В. Галубовіч** (Гродна)

# КАНФЕСІЙНАЯ ПРАБЛЕМАТЫКА НА СОЙМІКАХ ПОЛАЦКАГА ВАЯВОДСТВА Ў КАНЦЫ XVI – СЯРЭДЗІНЕ XVII ст.

*Статья посвящена конфессиональной ситуации в Беларуси в конце XVI – середине XVII в., рассмотреной сквозь призму ее обсуждения на шляхетских сеймиках Полоцкого воеводства. В течение первых четырех десятилетий после заключения Брестской церковной унии 1596 г. сеймик выступал в поддержку православной церкви и периодически – протестантов. Но в 1630 – 1640-е гг. произошли изменения, в результате каких местное учреждение шляхетского самоуправления очутилась под контролем униатов и католиков.*

Полацкае ваяводства ў першай палове XVI ст. было своеасаблівым рэгіёнам ВКЛ. Тут захоўваліся многія элементы аўтаномнага жыцця,

якія замацоўваліся ў праве і пацвярджаліся манархамі [10, с. 85-92]. Мясцовая палітычная эліта, калі не ўлічваць намеснікаў ці, пазней, ваяводаў, мела мясцовае паходжанне і складалася ў падаўляючай большасці з праваслаўных. Попіс войска ВКЛ 1528 г. сведчыць, што полацкія баяры і князі за невялікім выключэннем належалі да праваслаўных. Выснова гэта заснавана на аналізе анамастычнага матэрыялу дакумента, што не гарантуе ад памылак, але носьбітаў відавочных каталіцкіх імёнаў у спісе адзінкі (Марцін, Бертош) [8, с. 154-155]. Не змянілася становішча і на 1552 г., што адлюстравала «Полацкая рэвізія»: прыналежнасць да неправаслаўнага веравызнання можна суаднесці толькі з некалькімі асобамі сярод больш сотні, уключаных у спіс полацкіх шляхціцаў [7, с. 495-496]. Калі абапірацца на гэтыя статыстычныя крыніцы, то яшчэ ў сярэдзіне XVI ст. падаўляючую большасць полацкіх шляхціцаў трэба аднесці да вызнаўцаў праваслаўя. Разам з тым, нельга не заўважыць, што сярод палачанаў былі прыхільнікі не толькі традыцыйнага веравызнання.

Ужо ў сярэдзіне XVI ст. полацкая шляхта адчула на сабе ўздзеянне ідэй пратэстантызму. Цяжка сказаць, хто і калі пачаў пашыраць новае вызнанне на Полаччыне, не выключана, што гэтаму спрыялі выхадцы з Польшчы. Так, актыўнымі прыхільнікамі пратэстантызму былі Францкевічы-Радзімінскія. Прыналежнасць гэтага польскага рода, шчыльна звязанага з пратэстантызмам [22, s. 170], да полацкай шляхты фіксуе «Полацкая рэвізія 1552 г.» [9, с. 48, 60, 123-124]. У Полацку пратэстанцкая абшчына існавала ўжо да 1563 г., а пасля вызвалення горада ад маскоўскай акупацыі ў 1579 г. полацкі ваявода М.М. Дарагастайскі заснаваў тут новы збор [6, с. 512]. Менавіта полацкая шляхта дала рэфармацыйнаму руху такога выдатнага дзеяча, як Васіль Цяпінскі, які меў у сваім маёнтку Цяпіна ў Полацкім ваяводстве друкарню [2, с. 127]. Не застаўся абыякавым да «новай» веры найбольш уплывовы і разгалінаваны шляхецкі клан ваяводства – Корсакі [22, s. 119-120]. Корсакі далі і адну з самых колькасных у ВКЛ, хаця і не вельмі паслядоўную, групу шляхецкіх «евангелікаў» [22, s. 280, 282].

Што датычыцца каталіцкага веравызнання, то яно пусціла карані на Полаччыне задоўга да XVI ст., але стан каталіцкай царквы тут быў досыць хісткім. На цэлае ваяводства да сярэдзіны XVI ст. прыходзілася толькі адна парафія [19, s. 237]. Заснаваны ў 1498 г. у Полацку бернардынскі кляштар[19, s. 250] не быў у стане выканаць маштабных місіянерскіх задачаў, з якімі каталіцкая царква не давала рады нават на захадзе ВКЛ з-за вялікай тэрыторыі і нешматлікасці святароў [19, s. 236-243]. Маласпрыяльныя часы для каталіцкай царквы наступілі ў выніку пашырэння Інфлянцкай вайны на тэрыторыю Беларусі. Захоп Полацка ў 1563 г. і працяглая акупацыя маскоўскімі войскамі большай часткі



ваяводства прывяло да вымушанай міграцыі каталіцкага кліра і шляхты. «Зачыстка» тэрыторыі ваяводства маскоўскімі ўладамі ад неправаслаўных уплываў магла пайсці на карысць праваслаўным. Толькі ў 1579 г. пачало аднаўляцца даваеннае становішча. Стаўленне полацкіх абываталяў да каталіцкай царквы ў гэты час яскравым чынам ілюструе выпадак, апісаны Іванам Лапай. Падчас Віленскага з'езда шляхты ВКЛ дэлегацыя Полацкага ваяводства ў складзе падкаморыя Анікея Корсака і пісара земскага Юрыя Катавіцкага выступіла супраць рашэння Стэфана Баторыя заснаваць у Полацку езуіцкі калегіюм і перадаць яму частку земляў, якія належалі праваслаўнай царкве [7, с. 176, 181]. Пазіцыя полацкіх паслоў, прычым выказаная каралю адначасова з падзякай за вызваленне ад маскоўскай акупацыі, напэўна не мела толькі асабісты характар, а адлюстроўвала настроі пэўнай часткі шляхты, па меншай меры тых, хто, выпраўляючы паслоў на з'езд, складаў на сойміку інструкцыю. Не выключана, што палачане спадзяваліся «пагрэць рукі» за кошт уладычых земляў без удзелу езуітаў. Але сама рэакцыя на каралеўскія планы, скіраваная найперш на абмежаванне прысутнасці адукацыйнай каталіцкай установы, сведчыць пра выразныя антыкаталіцкія настроі мясцовай эліты.

Напрыканцы XVI ст. і ў першыя дзесяцігоддзі XVII ст. Полацкае ваяводства заставалася ў відавочнай апазіцыі да афіцыйнай палітыкі варшаўскіх уладаў у адносінах да праваслаўя [21, s.12]. Датычылася гэта, у першую чаргу, мяшчанства, але таксама і шляхты. Мясцовая шляхецкая грамада неадназначна ўспрыняла абвяшчэнне уніі ў 1596 г. Ужо напярэдадні сойма 1598 г. полацкі соймік апынуўся ў рэчышчы палітыкі кіеўскага ваяводы Канстанціна Астрожскага, правадыра праваслаўнай партыі, і яго хаўрусніка віленскага ваяводы Крыштапа Радзівіла, які ачольваў пратэстантаў у ВКЛ. На сойміку ў 1598 г. полацкія абывацелі актыўна падтрымалі просьбу праваслаўнага віленскага брацтва, якое скардзілася на праслед ад месцкіх уладаў і каралеўскіх ураднікаў: «*Віленскае Брацтва грэчаскай рэлігіі дало нам справу пра тое, нібы ім бяспраўе немалое чынілася, змушалі іх да паслушэнства і да іншага, па-рознаму праследуючы, і ў нявіннасці выклікалі на суды*» [16, s. 239]. Полацкія пасы атрымалі даручэнне прасачыць, каб «*ніхто не быў праспешаны, а маёнткі той рэлігіі каб давалі толькі асобам таго ж набажэнства паводле старадаўніх звычаяў і правоў*» [16, s. 239]. Не з'яўляецца выпадковым той факт, што акурат на полацкім сойміку ў 1599 г. пад старшынствам мясцовага падваяводы Баркулаба Корсака быў складзены пратэст супраць уніі, засведчаны шматлікімі подпісамі і пячаткамі [1, с. 205]. За абарону праваслаўя полацкі соймік выказаўся ў 1607 г.: «*Рэлігіі набажэнства грэцкага Віленскага брацтва, каб ніякага ўціску не чынілася*» [17, s.

191]. Полацкія абывацелі не толькі спрабавалі абараніць праваслаўе, але лічылі патрэбным прапаноўваць разнастайныя рэцэпты яго ўдасканалення. У складзенай на сойміку 27 сакавіка 1607 г. інструкцыі прапаноўвалася наступнае: «*Уладыкам Полацкім трэба прызначаць таго, за каго будуць прасіць паны* ***полацкія абывацелі****, а пасля смерці уладыкі, каб старосты С. Сафіі трымалі ўладычыя добра, якія потым пераходзілі да наступніка, які б па нашай просьбе прызначаўся* «[17, s. 191].

На працягу XVII ст. полацкі соймік неаднаразова і ў розных формах выступаў у абарону пераважна праваслаўных. Перад соймам 1609 г. мясцовыя абывацелі ўнеслі ў тэкст пасольскай інструкцыі пункт аб захаванні маёмасці «*Рускай Царквы*» паводле «*старога звычаю*»[3, с. 72]. На сойміку ў Полацку у той жа час разглядалася справа «*Віленскага брацтва грэцкай рэлігіі*», па выніках чаго паслы абавязваліся паспрыяць вырашэнню справы «*без парушэння права*» [3, с. 72].

На жнівеньскім сойміку 1611 г. полацкія абывацелі ў чарговы раз выказаліся ў падтрымку праваслаўнай царквы. Соймікавая інструкцыя патрабавала, каб адносна асоб, «*якія пад зверхнасцю мітрапаліта быць не жадаюць*», дзейнічала канстытуцыя сойма 1609 г., якая стала прававой падставай прызнання статуса праваслаўнай царквы [20, s. 257], і ўсе трыбунальскія дэкрэты «*пры моцы сваёй заставаліся*» [18, s. 51v.]. На гэтым жа сойміке палацкія шляхціцы рашуча падтрымалі пратэстантаў, а сярод абраных паслоў ад павета быў адзін з правадыроў «іншаверцаў» кашталян Парнаўскі – Пётр Стаброўскі [18, s. 49]. Пасольская інструкцыя на сойм 1611 г. інфармавала: «*Была ўнесена справа ад паноў Патронаў сеньёраў Віленскага евангельскага збору аб разбурэнні і спаленні збору, а таксама раскраданні і поўным знішчэнні маёмасці супраць бурмістраў, райцаў і іншых мяшчанаў места Віленскага…*» [18, s. 51-51 v.]. Далей паведамлялася, што спробы прыцягнуць абвінавачаны бок да адказнасці перад Галоўным Літоўскім Трыбуналам поспеху не прынеслі, а яго дэкрэты ігнараваліся. Узрушаныя такім стаўленнем да вышэйшай апеляцыйнай установы, палачане патрабавалі ад паслоў прыкладання максімальных намаганняў па гэтым пытанні паколькі, як адзначана ў дакуменце «*справу збора разумеем як абразу спакою паспалітага*» [18, s. 51 v.].

Падзеі наступных дзесяцігоддзяў скарэктавалі настроі полацкіх шляхціцаў. Напэўна, не прайшлі незаўважанымі наступствы забойства ў суседнім Віцебску полацкага архіепіскапа Іясафата Кунцэвіча. Але як толькі з'явілася магчымасць, полацкія абывацелі адкрыта выступілі ў абарону праваслаўя. Нагодай стаў скон па ультракаталіцку настроенага Жыгімонта Вазы ў 1632 г. Напярэдадні элекцыйнага сойма 1632 г. на мясцовым сойміку было сфармулявана патрабаванне аб аднаўленні ў



Полацку дзейнасці праваслаўнай царквы: "*Унесена просьба ад Іх Міласцей Паноў абывацеляў полацкіх шляхецкага народу Русі неуніятаў, каб па прыкладу местаў Вільні, Мсціслаўля і Магілёва ў месце Полацкім для іх вольнага набажэнства была дадзена царква, каб яны маглі мець свабоднае набажэнства і трымаць святара, аб чым маюць старацца паслы*" [15, s.1]. Побач з гэтымі патрабаваннямі полацкія абывацелі таксама актыўна падтрымалі уніятаў, крыўды якіх выказаў полацкі архіепіскап Антоні Селява: "*Панове Русь неуніяты ў дыяцэзіі Яго Міласці архіепіскапства Віцебскага і Мсціслаўскага ў Магілёве і Мсціслаўлі пэўныя цэрквы адабралі, што учынілі пры адсутнасці Яго Міласці, пасля чаго выйшлі з-пад духоўнага падпарадкавання і Яго Міласці самому, а таксама іншым будучым у уніі духоўным і свецкім асобам розныя шкоды чыняць, нарэшце пагражаюць жыццю*" [15, s.1]. Усплеск плюралізма на полацкім сойміку дапаўняе патрабаванне пратэстантаў аб тым, "*каб зборы ў местах на старажытных месцах вольна і бяспечна будаваліся, таксама ж і шляхта ў сваіх маёмасцях зборы для набажэнства свайго магла свабодна будаваць*" [15, s.1].

Адметна, што толькі пункт, датычны праваслаўнай царквы, быў паўтораны ў інструкцыі полацкім паслам на каранацыйны сойм 1633 г. [13, арк. 14-14 адв.].

Перад соймам 1638 г. полацкія шляхціцы ізноў вяртаюцца да традыцыйнай праблематыкі. Дваццаць трэці пастулат гучаў наступным чынам: «*Грэчаская рэлігія каб была супакоена як сярод Іх Міласцей паноў унітаў, так і дэзунітаў*» [12, арк. 167 адв.].

Цікава, што такое ўпартае жаданне полацкай шляхты адстойваць інтарэсы праваслаўнай царквы ўваходзіць у супярэчнасць з наяўнай інфармацыяй пра рэальныя ахвяраванні для царквы. Няма палачанаў сярод найбольш вядомых фундатараў праваслаўных храмаў у першай трэці XVII ст. [1, с. 209]. Нельга выключаць, што голас у падтрымку дысідэнтаў належаў нейкай маргінальнай групе, ці, увогуле, быў вынікам пратэстанцка-праваслаўнай узаемападтрымкі.

Але далёка не кожны раз палачане выказваліся ў абарону ці маглі падтрымаць праваслаўную царкву. Не выключана, што на гэта магла паўплываць актывісцкая пазіцыя уніяцкіх і каталіцкіх святароў, звесткі пра прысутнасць якіх на полацкіх сойміках з 30-х гадоў XVII ст. набываюць рэгулярны характар [23, s. 95]. З'яўленне уніяцкіх іерархаў на сойміках мела на мэце не толькі абарону інтарэсаў царквы, але і блакіраванне намаганняў дысідэнтаў, у тым ліку і праваслаўных. Так, у 1640 г. антыпратэстанцкі характар пастаноў полацкага сойміка добра карэлюецца з прысутнасцю на ім Антонія Селявы, полацкага архіепіскапа [4, с. 48]. З іншага боку, прысутнасць уніятаў і асабліва

каталікоў на сойміку сведчыць пра відавочную канфесійную пераарыентацыю мясцовай эліты.

Адбылося гэта пад уздзеяннем шэрагу фактараў. Побач з мэтанакіраванай палітыкай падтрымкі уніі ў Полацкім ваяводстве з боку каралеўскага двара, вялікай актыўнасцю вызначалася і само уніяцкае святарства. Дзейнасць пакутніцку замардаванага полацкага архіепіскапа Я. Кунцэвіча мела відавочныя вынікі. Напэўна не адзіным шляхціцам, пакінуўшым пад яго ўплывам праваслаўе, быў уплывовы полацкі месцкі пісар Ян Дзягілевіч, якому святар параіў прачытаць лёсавызначальную кнігу «Абарона святога адзінства» [14, s. 23-24]. Толькі адчуванне ўпэўненасці ў сваіх сілах магло падштурхнуць натоўп на чале з вучнямі базылянскай школы Корсакамі ў ноч з 23 на 24 ліпеня 1638 г. разбурыць кальвінскі збор у Полацку, а потым закідаць камянямі праваслаўных мяшчан [20, s. 464].

У першай палове XVII ст. больш відавочнай стала прысутнасць і ўплыў у ваяводстве шляхціцаў польскага паходжання, каталікоў па веравызнанні. У XVI–XVII стст. на Полаччыне аселі Радзімінскія, Беганскія, Кланоўскія, Кунінскія, Ласоўскія, Бажымоўскія [5, с. 48-55]. Некаторыя з іх дасягнулі высокіх пасадаў у мясцовай урадніцкай іерархіі [11, с. 73-80].

Полацкая шляхта да сярэдзіны XVI ст. была амаль выключна праваслаўнай па канфесійнай прыналежнасці. Прыхільнікі каталіцызму не ўтваралі для яе відавочнай канкурэнцыі. Распаўсюджванне рэфармацыйных ідэяў істотным чынам захапіла і ўсходнія ваяводствы ВКЛ, дзе пратэстанты папаўнялі свае шэрагі за кошт праваслаўных. Наступ уніяцкай царквы на Полаччыне спачатку ўспрымаўся адмоўна. Мясцовы соймік на працягу першых чатырох дзесяцігоддзяў уніі выступаў у падтрымку праваслаўнай царквы і перыядычна – пратэстантаў. На працягу 1630 – 1640-х г. адбыліся змены, у выніку якіх мясцовая ўстанова шляхецкага самакіравання апынулася пад кантролем уніятаў і каталікоў.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. – Минск: Изд. центр БГУ, 2004. – 407 с.
2. Галенчанка, Г. Цяпінскі / Г. Галенчанка // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. – Т. 6, кн. 2. – Мінск: БелЭн, 2003. – С. 127 – 128.
3. Галубовіч, В., Радаман, А. Інструкцыя полацкай шляхты на сойм 1609 г. / В.Галубовіч, А. Радаман // Commentarii polocenses historici. – 2006. – Т. III. – С.70 – 72.
4. Галубовіч, В.У. Пасольская інструкцыя ад шляхты полацкага ваяводства на сойм 1640 г. / В.У Галубовіч // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: матэрыялы IV Міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Полацк, 2003. – С. 41 – 49.
5. Галубовіч, В. Шляхта польскага паходжання ў Полацкім ваяводстве ў канцы XVI – XVII стст. / В.Галубовіч // Матэрыялы гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі: да 80-годдзя Полацкага краязнаўчага музея. – Полацк: НПГКМЗ, 2008. – С. 47 – 55.
6. Гісторыя Беларусі. У 6 т. – Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. – Мінск: Экоперспектива, 2008. – 688 с.
7. Лаппо, И. И. Великое княжество Литовское от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569 – 1586). Опыт исследования политического и общественного строя / И. И. Лаппо. – Т. 1. – СПб.: Тип. И. Н. Скороходова, 1901. – 796 с.
8. Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 г. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 523: Кніга публічных спраў 1. – Мінск: Беларуская навука, 2003. – 444 с.
9. Полоцкая ревизия 1552 г. – Москва: Университетская типография, 1905. – 237 с.
10. Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. – Вып. III. – Москва, 1980. – 215 с.
11. Радаман, А. Земскія ўраднікі Полацкага ваяводства (другая палова XVI – першая палова XVII стст.) / А.Радаман, В.Галубовіч, Д.Вілімас // Commetarii polocenses historici. – 2004. – Т. I. – С. 73 – 80.
12. Российская Национальная Библиотека в Санкт-Петербурге. Отдел рукописей. Автографы Дубровского. № 124.
13. Российская Национальная Библиотека в Санкт-Петербурге. Отдел рукописей. Автографы Дубровского. № 132.
14. Akta męczeńskie unii // Rocznik Towarzystwa historyczno-literackiego w Paryżu. Rok 1868. – Paryż: Księgarnia Luxemburgska, 1869. – S. 1 – 63.
15. Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. Archiwum Radziwiłłów. Dział II. Sygn. № 1066.
16. Biblioteka Książąt Czartoryskich w Krakowie. Rks. 2234.
17. Biblioteka PAU i PAN w Krakowie. Rks. 360.
18. Biblioteka PAU i PAN w Krakowie. Rks. 365.
19. Błaszczyk, G. Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności. 1492 – 1569 / G. Błaszczyk. – Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2002. – 336 s.
20. Kempa, T. Wobiec kontrreformacji. Protestanci i prawosławni w obronie swobód wyznaniowych w Rzeczypospolitej w końcu XVI i pierwszej połowie XVII wieku / T. Kempa. – Toruń: Wydawnictwo Adam Marszałek, 2007. – 624 s.
21. Kempa, T. Prawosławie i unia we wschodnich województwach WKL w końcu XVII wieku / T. Kempa // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – Z. 22. – Białystok, 2004. – S. 5 – 41.
22. Liedkie, M. Od prawosławia do katolicyzmu. Ruscy możni i szlachta Wielkiego Księstwa Litewskiego wobiec wyznań reformacyjnych / M. Liedkie. – Białystok: Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku, 2004. – 313 s.
23. Rachuba, A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569 – 1763 / A. Rachuba. – Warszawa: Wyd-wo Sejmowe, 2002. – 376 s.



**Галубовіч Віталь Уладзіміравіч** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, Гродзенскі дзяржаўны аграрны універсітэт.

УДК 947.6

**В.П. Гарматны** (Баранавічы)

# ПАДРЫХТОЎКА І ПРАВЯДЗЕННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ 1596 г.

*Статья посвящена процессу подготовки церковной унии и собора 1596 г. в Бресте. Отмечается, что Брестская церковная уния резко ухудшила положение Православной церкви ВКЛ, которую лишили последних проявлений попечительства со стороны закона и государства.*

Думка пра ажыццяўленне царкоўнай уніі праваслаўных жыхароў Вялікага княства Літоўскага з Каталіцкаю царквою даўно прываблівала рымскіх пап і мала-памалу стала ўвасабляцца ў жыццё. Езуіты прапагандавалі ў ВКЛ ідэю уніі сваімі пропаведзямі, дыспутамі з праваслаўнымі, сваімі школамі і асабліва праз свае творы. Такім чынам, яны змаглі дастаткова азнаёміць просты праваслаўны люд з ідэяй уніі. Падрыхтоўцы уніі ў значнай ступені спрыяла тагачаснае становішча Праваслаўнай царквы, далёка не заўсёды адпавядаючае кананічнаму статусу. Купля і продаж царкоўных пасад, ігнараванне пастырскіх абавязкаў і парушэнне царкоўных канонаў прынялі паграджаючыя памеры. Ужо з канца XV ст. мітрапаліта і епіскапаў прызначаў кароль ці найбольш уплывовыя магнаты. Сам кіеўскі мітрапаліт Анісіфор Дзевачка быў жанаты двойчы і да свайга рукапакладання ў духоўны сан з`яўляўся ўдаўцом пасля смерці другой жонкі, і таму ён ніяк не мог быць духоўнай асобай [3, с. 26; 4, с. 107].

Справа аб'яднання каталіцкай і праваслаўнай веры ставілася ў глабальным маштабе першапачаткова на Канстанцкім (1418 г.) і на Фларэнтыйскім (1438 г.) саборах. Упершыню на тэрыторыі ВКЛ ідэю уніі падтрымаў Вітаўт, які бачыў непазбежнасць барацьбы праваслаўя і каталіцтва на сваіх землях. Таму пытанне царкоўнай уніі мела на землях ВКЛ амаль 200-гадовую гісторыю. Не дзіўна, што езуіты так ухапіліся за ідэю уніі – для іх унія была не новай самастойнай царквой, а толькі пераходным этапам ад праваслаўя да каталіцызма [2, с. 355]. Галоўнай прычынай падрыхтоўкі царкоўнай уніі стала імкненне да збліжэння царкоўных і свецкіх іерархаў ВКЛ і Польшчы.

Галоўным тэарэтыкам уніі і яе ідэйным натхняльнікам стаў езуіт Пётр Скарга (Павенскі), які абгрунтаваў сваю задуму ў кнізе «Пра еднасць касцёла Божага» (1577 г.). У сваім шырокавядомым трактаце Скарга заклікаў праваслаўных грамадзян ВКЛ вярнуцца да рашэнняў Фларэнтыйскага сабора, пагадзіцца з тымі «нязначнымі», на яго погляд, умовамі, якія прывядуць да рэлігійнай згоды ў Рэчы Паспалітай. Ён



накідаў шырокую праграму палітычна-культурнай дзейнасці на землях ВКЛ: раіць наладжваць супольныя сяброўскія сустрэчы каталіцкіх і праваслаўных святароў, паноў, шляхты, браць пад апеку беларускія і ўкраінскія школы, кнігавыдавецтвы, перакладаць на польскую або «рускую» мову карысныя кнігі і г.д. Асаблівую ролю езуіт надаваў каталіцкім вучоным, якія павінны былі займацца апрацоўкай грамадскай думкі, «пераконваць» беларускіх і ўкраінскіх паноў і шляхту, растлумачваць неабходнасць рэлігійнай згоды, уніі, шкоднасць «схізмы» (праваслаўя).

У сваім творы Скарга вызначыў тры асноўныя, на яго думку, прычыны крызісу Праваслаўнай царквы: дапушчэнне шлюбу святароў, выкарыстанне стараславянскай мовы, якая нібыта прывяла да крызісу навукі, і ўмяшанне свецкіх асоб у царкоўныя справы [3, с. 30]. Узнікненне «схізмы» Скарга тлумачыў адыходам грэка-візантыйскага свету ад «сапраўднай» веры, заняпадам яе культурна-гістарычных і рэлігійных традыцый пад уплывам Атаманскай Порты і мусульманства, а таксама распаўсюджваў тэзіс аб тым, што канстанцінопальскі патрыярх пасля захопу ў 1453 г. туркамі-асманамі Канстанцінопаля (зараз Стамбул) з'яўляецца падданым турэцкага султана і адстойвае яго інтарэсы [6, с. 52].

Праваслаўныя іерархі ВКЛ не жадалі падпарадкоўвацца маскоўскаму патрыярху, які прыняў гэты тытул у 1589 г. і меў намер пашырыць сваю ўладу на ўсю тэрыторыю былой Кіеўскай Русі. Адначасова яны разлічвалі атрымаць усе прывілеі і правы каталіцкіх епіскапаў, абаперціся на падтрымку з боку Каталіцкай царквы ў нарастаючым канфлікце з брацтвамі, якія выступалі сапраўднымі абаронцамі праваслаўя, і рэфармацыйным рухам [5, с. 287; 7, с. 55].

Першым з праваслаўных іерархаў выказаў намер прыняць унію львоўскі епіскап Гедэон Балабан, дзеля гэтага ён уступіў у змову з луцкім епіскапам Кірылам Цярлецкім, з якім да гэтага часу варагаваў. Яны пачалі схіляць новага кіеўскага мітрапаліта Міхаіла Рагозу склікаць сабор у Бельзе, без удзелу міран, для абмеркавання царкоўных праблем. Мітрапаліт вырашыў склікаць сабор па справах уніі ў Брэсце ў 1591 г. Цярлецкі, Балабан, мінскі епіскап Лаўрэнці Пельчыцкі і холмскі Дыянісій Збіруйскі сабраліся трохі раней у Бельзе і дамовіліся прыняць унію, з такім намерам яны і прыехалі ў Брэст.

На Брэсцкім саборы вышэйшыя іерархі Праваслаўнай царквы скардзіліся на сваё гаротнае становішча і на нелады са свецкімі ўладамі. Цярлецкі прама заявіў, што выхад толькі адзін – прыняць царкоўную унію. Іерархі склалі грамату, у якой пісалі, што яны па абавязку пастыраў дзеля таго, каб выратаваць сваіх прыхаджан ад бед, гатовы падпарадкавацца рымскаму папе, калі будзе захавана ўсходняя

абраднасць [1, с. 120]. У маі 1592 г. епіскапы перадалі грамату каралю Жыгімонту III, які выказаў ім удзячнасць, абяцаў розныя выгоды і «абарону ад нягод», роўныя правы з каталіцкім духавенствам.

Нягледзячы на гэтыя захады сваіх духоўных лідараў, праваслаўныя вернікі не збіраліся прымаць унію і лічылі гэтых чатырох епіскапаў здраднікамі. Львоўскае братства звярнулася да Канстанцінопальскага патрыярха з просьбай дапамагчы і прысляць у ВКЛ свайго экзарха.

Між тым памёр брэсцкі епіскап Мялеці Храбтовіч, і на яго месца ў 1593 г. быў узведзены сенатар і кашталян Брэсцкі Іпаці Пацей, сваяк вядомага абаронцы праваслаўя Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, які, аднак, хутка паразумеўся з Цярлецкім і Балабанам і стаў галоўным арганізатарам падрыхтоўкі уніі [4, с. 109 – 110].

К.К. Астрожскі напісаў ліст Пацею, у якім выказаў думку, што аб`яднанне цэркваў павінны правесці перш за ўсё патрыярхі Усходніх Цэркваў, а таксама маскоўскі патрыярх, і раіў Пацею паехаць у Маскву і там папрасіць Вялікага князя Маскоўскага і мясцовых духоўных асоб, каб яны дапамаглі Праваслаўнай царкве ВКЛ. На гэта Пацей адказаў, што паездкі ў Маскву баіцца, бо там яго могуць арыштаваць і пакараць, і пісаў, што калі сам князь не дасягнуў пагаднення з мітрапалітам, «то і ён сам не адважваецца слова сказаць пра такія рэчы, бо мітрапаліт непрыхільны да рымлян». Гэта была відавочная няпраўда – Рагоза быў патаемным прыхільнікам уніі..

Прыхільнікі уніі не змаглі прыцягнуць на свой бок К. Астрожскага і атрымаўшы рашучы адказ [3, с. 46–47], вырашылі паспяшацца з прыняццем уніі. З гэтай мэтай шэраг вышэйшых асоб Праваслаўнай царквы, прыхільнікаў уніі (епіскапы Балабан, Рагоза, Пацей, Збіруйскі, Пельчыцкі і іншыя), у чэрвені 1595 г. падпісалі акт аб прыняцці уніі.

22 верасня 1595 г. адбылася нарада прыхільнікаў уніі, на якой абмяркоўвалася пытанне заключэння уніі і накіравання пасольства ў Рым. Адначасова адзначалася, што пад уплывам агітацыі К. Астрожскага народ настроены супраць будучай уніі.

Адначасова епіскапы далі Цярлецкаму і Пацею даручэнне наведаць рымскага папу Клімента VIII і зацвердзіць аб'яднанне Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў пад яго ўладай. 15 лістапада 1595 г. Іпаці Пацей і Кірыл Цярлецкі прыбылі ў Рым і перадалі ў папскую канцылярыю шэраг дакументаў, абапіраючыся на якія рымскі першасвятар мог прыняць рашэнне аб заключэнні царкоўнай уніі: 1) дамову епіскапаў ад 1 снежня 1594 г.; 2) артыкулы ад 1 чэрвеня 1595 г.; 3) саборнае пасланне папе ад 12 чэрвеня 1595 г.; 4) лісты караля і каталіцкіх біскупаў [6, с. 64–65].

Справу падрыхтоўкі уніі ўскладніў Клімент VIII, які ў сваёй буле, высланай мітрапаліту Рагозе адразу пасля выезду з Рыма Цярлецкага і Пацея, патрабаваў яшчэ і ўвядзення ва уніяцкую царкву каталіцкага



набажэнства. Епіскапы прадбачылі непазбежнасць абурэння праваслаўных і адправілі папе ліст, у якім прасілі яго адмяніць сваё патрабаванне. Клімент VIII згадзіўся і задаволіўся толькі падначаленнем праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай сваёй уладзе [2, с. 357].

Пасля атрымання з Рыма згоды на унію і ў адпаведнасці з універсалам Жыгімонта III у Брэсце ў царкве Святога Мікалая на пачатку кастрычніка 1596 г. сабраўся царкоўны сабор, мэтай якога было абвяшчэнне царкоўнай уніі. Адначасова па ініцыятыве Канстанціна Астрожскага ў доме пратэстанта Райскага сабраўся праваслаўны царкоўны сабор, які пракляў усіх, хто прысутнічаў на уніяцкім саборы і пазбавіў іх сана. У адказ уніяцкі сабор зрабіў тое самае ў дачыненні да сваіх апанентаў.

Абодва бакі ўяўлялі сабою ўзброеныя лагеры, шатры і гарматы пакрывалі наваколле Брэста. Католікі, каб не дапусціць ніякага ўздзеяння праваслаўных на Рагозу, узялі яго пад свой кантроль і ахову. Каб пазбавіць праваслаўных магчымасці весці саборныя нарады ў царкве, Іпаці Пацей, епіскап брэсцкі, загадаў зачыніць усе храмы, і праваслаўныя вымушаны былі выбраць для пасяджэнняў сабора прыватны дом, у якім знаходзілася вялікая зала, што служыла пратэстанцкай малельняй. Праваслаўныя падзяліліся на дзве часткі – свецкую і духоўную, вызначылі парадак пасяджэнняў і пасля асвячэння залы духоўнага сабора пачалі сваю дзейнасць [4, с. 122-123].

Насуперак канонам, патрабуючым асуджэння вінаватых і іх ушчування, епіскапы не выслухалі меркаванняў праваслаўных і адразу прызналі іх вінаватымі. Пытанне аб уніі не абмяркоўвалася на уніяцкім саборы, а толькі была прачытана папская зацвярджальная грамата на унію. 9 (19) кастрычніка 1596 г. пасля ўрачыстай працэсіі пад час набажэнства была абвешчана знакамітая Брэсцкая (Берасцейская) царкоўная унія. Новастворaная Уніяцкая царква захавала свае структуры: усе праваслаўныя епархіі, якія ахоплівалі беларускія землі, сталі уніяцкімі (Пінска-Тураўская, Полацкая, Смаленская і Уладзіміра-Берасцейская), а уніяцкі мітрапаліт захаваў тытул мітрапаліта кіеўскага з кафедрай у Навагрудку і Вільні.

Праваслаўныя епіскапы ВКЛ выступілі супраць заключанай уніі і адзначылі, што пытанне аб адзінстве цэркваў павінны вырашаць сусветныя саборы, і што яна можа сапраўды адбыцца толькі пры ўмове ліквідацыі ўсіх супярэчнасцей паміж Праваслаўнай і Каталіцкаю цэрквамі ў веры і абрадах і згодзе ўсіх усходніх патрыярхаў. Іерархі Праваслаўнай царквы 9 кастрычніка 1596 г. прынялі рэзалюцыю і надалей цвёрда прытрымлівацца праваслаўя і не падпарадкоўвацца пастырам-уніятам [3, с. 50-52].

Дагматычныя, абрадава-літургічныя, іерархічныя і юрыдычныя асновы уніяцкай царквы вызначаны трыццаццю трыма «Берасцейскімі артыкуламі», прызнанне якіх стала галоўнаю ўмовай заключэння уніі. Артыкулы былі закліканы ліквідаваць дэзарганізацыю Праваслаўнай царквы ва ўсіх сферах духоўнага, матэрыяльнага і культурнага жыцця Яны агаворвалі дзяржаўныя гарантыі пан неснасці Уніяцкай царквы, стваралі перашкоду яе лацінізацыі і паланізацыі, прадугледжвалі захаванне адміністрацыйнай самастойнасці і незалежнасці ад рымскага касцёла, павышэнне сацыяльнага статусу епіскапату, захаванне ўсходне-візантыйскай традыцыі. Праваслаўныя епіскапы, якія падпісалі унію, прызнавалі над сабою вяршэнства папы рымскага, але праваслаўная абраднасць павінна была заставацца ранейшай [5, с. 287; 7, с. 331]. Разам з тым Уніяцкая царква прызнавала догмат аб зыходжанні Святога Духа не толькі ад Бога-Бацькі, але і ад Бога-Сына («філіокве», з цягам часу былі прыняты і іншыя асноўныя рымска-каталіцкія дагматы).

Брэсцкая царкоўная унія 1596 г. рэзка пагоршыла становішча Праваслаўнай царквы ВКЛ, якую пазбавілі апошніх праяў апякунства з боку закона і дзяржавы. Уніяцкімі храмамі ў асноўным станавіліся праваслаўныя цэрквы, што не магло падабацца тым праваслаўным вернікам, якія не жадалі мяняць веру. З пункту гледжання свецкіх уладаў і уніяцкіх іерархаў, Уніяцкая царква становіцца свайго роду пераемніцай Праваслаўнай царквы, а праваслаўныя веруючыя павінны былі або падпарадкавацца уніяцкім епіскапам або апынуцца па-за законам, як гэта ў выніку фактычна і адбылося [8, с. 114]. Аб'яднанне, якое здзяснялася падманам і гвалтам, не спрыяла аб'яднанню Праваслаўнай і Каталіцкай царквы, а прывяла да з'яўлення новай – Уніяцкай, што істотна ўскладніла рэлігійныя і нацыянальна-культурныя супярэчнасці на Беларусі, Украіне і Літве.

Такім чынам, пасля Брэсцкага сабора 1596 г. на землях ВКЛ з`явілася новая царква – Уніяцкая, якая з цягам часу ахапіла абсалютную большасць вернікаў. Па планах яе стваральнікаў-езуітаў, Уніяцкая царква павінна была служыць толькі сродкам паступовага пераводу праваслаўных у лона каталіцызму. Але, трэба адзначыць, што яна перасягнула рамкі, адведзеныя ёй каталіцкім духавенствам, і набыла рысы беларускай нацыянальнай царквы.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Гронский, А.Д. Уния и политика в белорусской истории / А.Д. Гронский // XI Международные Кирилло-Мефодиевские чтения (Минск, 24–26 мая 2005 г.). – Минск: Ковчег, 2006. – С. 116–130;
2. Ермаловіч. М.І. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае / М.І. Ермаловіч // Мінск: Беллітфонд, 2000. – 448 с.





3. З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі) / пад рэд. М.В. Біча і П.А. Лойкі. – Мінск: Экаперспектыва, 1996. – 134 с.
4. Зноско, К. Исторический очерк церковной унии / К. Зноско. – Москва: Мартис, 1993. – 233 с.
5. Никольский, Н.М. История русской церкви / Н.М. Никольский. – Минск: Беларусь, 1990. – 541 с.
6. Падокшын, С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (філасофска-гістарычны аналіз) / С.А.Падокшын. – Мінск: Беларуская навука, 1998. – 111 с.
7. Рэлігія і царква на Беларусі: энцыклапедычны даведнік – Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 2001. – 368 с.
8. Шукан, М.Г. Нарушение имущественных прав Православной церкви вследствие заключения Брестской церковной унии 1596 г. / М.Г. Шукан // XII Международные Кирилло-Мефодиевские чтения (Минск, 24 – 26 мая 2006 г.). – Минск: Ковчег, 2007. – С. 114–121.


**Гарматны Віталь Пятровіч** – магістр гістарычных навук, Баранавіцкі дзяржаўны універсітэт.

УДК 2-9

**П.І. Гарбуль, П.С. Рамановіч** (Брэст)

## РОЛЯ ІОСІФА РУЦКАГА ВА ЎМАЦАВАННІ УНІЯЦКАЙ ЦАРКВЫ Ў РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

*Статья посвящена деятельности известной исторической личности – митрополита Иосифа Рутского по укреплению униатской церкви.*

Берасцейскі царкоўны сабор 1596 г. паклаў пачатак існавання на землях Вялікага княства Літоўскага новага веравызнання – уніяцтва. Першыя іерархі уніяцкай царквы кіеўскія мітрапаліты Міхаіл Рагоза (1596–1599 гг.) і Іпацій Пацей (1599–1613 гг.) паспелі распрацаваць агульныя прынцыпы існавання новай веры і падыходы да яе распаўсюджвання. Асноўная праца па умацаванню уніі была выканана трэцім мітрапалітам Іосіфам Руцкім (1613–1637 гг.).

Шлях І. Руцкага да уніяцтва быў складаным. Нарадзіўся ён на Навагрудчыне ў шляхецкай кальвіністкай сям'і, быў ахрышчаны паводле праваслаўнага абраду. Адукацыю атрымаў у Карлавым універсітэце у Празе, грэчаскім калегіуме ў Рыме, дзе прыняў унію. З 1603 г. І.Руцкі знаходзіўся ў Вільні, дзе займаў пасады рэктара Віленскай уніяцкай семінарыі, архімандрыта Віленскага Троіцкага манастыра. У 1612 г. І. Руцкі быў прызначаны епіскапам галіцкім [1, с. 280].

Узначаліўшы ў 1613 г. Кіеўскую мітраполію, ён каб узбуйніць царкву, узняць яе аўтарытэт у вачах хрысціянскага свету, зрабіць прыцягальнай для вернікаў, распачаў падрыхтоўку карэнных рэформ.

Рэфарматарская дзейнасць І. Руцкага насіла шматбаковы, комплексны характар. Важнейшае значэнне мітрапаліт надаваў пабудове цэркваў і заснаванню манастыроў. Яго намаганнямі былі ўзведзены Быценьскі, Жыровіцкі, Навагародскі уніяцкія манастыры. Яны сталі падмуркам новай царквы, асяродкамі хрысціянскай культуры і духоўнасці.

Асаблівую ўвагу І. Руцкі звяртаў на навучанне моладзі і падрыхтоўку пастыраў. Ён дамогся каралеўскага прывілея на адкрыццё школ у Навагародку, Мінску, Барунах, Жыровічах. Гэтыя адукацыйныя ўстановы перанялі арганізацыю, сістэму і змест навучання езуіцкіх калегіумаў і з 1615 г. атрымалі роўныя з імі правы і прывілеі. Настаўнікаў для уніяцкіх школ рыхтавалі ў Віленскай езуіцкай акадэміі, замежных універсітэтах, калегіўмах. Сістэма уніяцкай адукацыі і выхавання лічылася адной з лепшых. Яна праіснавала да пачатку 40-х гг. XIX ст.

Галоўную стаўку ў справе ўмацавання грэка-каталіцкай веры Іосіф Руцкі зрабіў на ўтварэнне Ордэна, які павінен быў сабраць і аб'яднаць усе духоўныя сілы царквы. Мэты, характар дзейнасці новага манаскага Ордэна, яго структура былі вызначаны ў падрыхтаванай мітрапалітам тэарэтычнай працы «Правілы манаскага жыцця». Афармленне манаскай карпарацыі, якая на ўстаноўчай кангрэгацыі атрымала імя вядомага багаслова старажытнасці Святога Васіля (Базыля) Вялікага, адбылося, па сцвярджэнні Івана Саверчанкі, у перыяд шасці з'ездаў прадстаўнікоў буйнейшых манастыроў – у Навагародку (1617 г.), Лаўрышаве (1612, 1626 гг.), Руце (1623 г.), Жыровічах (1629 г.) і Вільні (1636 г.) [4, с. 24]. На першай кангрэгацыі ў Навагародку быў прыняты статут Ордэна Базыльянаў, распрацаваны Руцкім на аснове правіл Святога Васіля на ўзор статутаў каталіцкіх ордэнаў, зацверджаны нормы прадстаўніцтва на наступных кангрэгацыях (ад аднага да чатырох паслоў ад манастыра ў залежнасці ад колькасці у ім манахаў), рэгламент правядзення пасяджэнняў. Вышэйшым органам Ордэна абвяшчалася кангрэгацыя, якая склікалася па меры неабходнасці, але не радзей, чым адзін раз у чатыры гады. Ствараліся і выканаўчыя структуры. Уводзілася пасада галоўнага адміністратара Ордэна – протаархімандрыта (генерала), які выбіраўся на кангрэгацыі таемным галасаваннем і падпарадкоўваўся папе рымскаму праз уніяцкага мітрапаліта. Дарадчыкамі протаархімандрыта з'яўляліся яго чатыры намеснікі. Пры Апостальскім пасадзе ў Рыме базыльяне мелі свайго прадстаўніка – пракуратара. Гэта



дазваляла ім атрымліваць інфармацыю аб царкоўным жыцці ў свеце, каардынаваць дзейнасць Ордэна. Для вырашэння магчымых супярэчнасцей І. Руцкі прадбачліва ўвёў пасаду манітора – пасрэдніка паміж Ордэнам і епіскапамі. Манітор знаходзіўся пры двары кіраўніка епархіі і ажыццяўляў сувязь паміж ім і базыльянскімі манастырамі. На вяршыні ордэнскай піраміды стаяў мітрапаліт. Яго ўзаемадзеянне з Ордэнам ажыццяўлялася праз каад'ютара – намесніка. Пазней практыка дзеяння Ордэна запатрабавала ўнесці ў яго арганізацыйную структуру пэўныя ўдасканаленні. У 1621 і 1623 гг. былі ўведзены пасады генеральнага правінцыяла (вікарыя) і генеральнага сакратара, якія займаліся вырашэннем пытанняў на месцах і справаводствам.

Дзейнасць Ордэна падмацоўвалася распрацаванымі І. Руцкім унутранымі механізмамі функцыянавання, уласнай адукацыйнай праграмай: былі створаны правілы для ўсіх станаў манаскай супольнасці, рэгламентаваліся паводзіны кожнага базыльяніна, дзейнічалі строгія этычныя нормы і жорсткая дысцыпліна, існавала свая сістэма барацьбы з парушэннямі, уводзіліся адзіны распарадак дня і ўніформа, дзейнічаў прынцып поўнага самазабеспячэння ўсім неабходным, рэгламентаваліся фінансавыя справы, узнікалі навучальныя ўстановы. Ідэя стварэння Ордэна аказалася настолькі ўдалай і была так добра рэалізавана, што ў 30-я гг. XVII ст. базыльяне сталі прэтэндаваць на першынства сярод усіх хрысціянскіх ордэнаў. Многія даследчыкі ўвогуле ролю базыльянскага ордэна ў працэсе пашырэння уніяцтва ў Вялікім княстве Літоўскім параўноўваюць з роляй ордэна езуітаў у гісторыі каталіцкай канфесіі ў гэтай дзяржаве [2, с. 280].

Намаганні І. Руцкага па ўмацаванню уніяцтва сталі прыносіць плён. Колькасць вернікаў павялічвалася, уніяцкія іерархі станавіліся ўсё больш уплывовай сілай у дзяржаве і некаторыя з іх увайшлі ў склад Рады Вялікага княства Літоўскага. Аднак далейшае распаўсюджванне новай царквы было перапынена аднаўленнем у Княстве ў 1620 г. праваслаўнай мітраполіі. Ерусалімскі патрыярх Тэафан, карыстаючыся правам найвышэйшага духоўнага пастыра над праваслаўнымі вернікамі ў Вялікім княстве Літоўскім, прызначыў кіеўскага мітрапаліта І.Барэцкага і яшчэ шэсць праваслаўных епіскапаў, што з'явілася парушэннем умоў Берасцейскай царкоўнай уніі. І. Руцкі, абапіраючыся на падтрымку вялікага князя Жыгімонта Ваза, выступіў з пратэстам адносна дзеянняў Тэафана. Гэта прывяло на спрэчак паміж праваслаўнымі і уніятамі, якія перараслі ў літаратурную палеміку. Галоўным у палеміцы было пытанне: каму належыць права прызначэння

на царкоўныя пасады – гаспадару дзяржавы або найвышэйшай духоўнай асобе. І. Руцкі адстойваў традыцыі і нормы, замацаваныя ў галоўным зборы законаў краіны – Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 г., у адпаведнасці з якімі ў Княстве ўсе пасады раздаваў манарх. Узнікшая дыскусія абвастрыла канфесійную сітуацыю ў дзяржаве, прывяла ў 1623 г. да забойства ў Віцебску уніяцкага архіепіскапа Я. Кунцэвіча.

Каб зняць напружанасць і не дапусціць рэлігійнай вайны, І. Руцкі прапануе ўрэгуляваць міжканфесійны канфлікт і аб'яднаць вернікаў шляхам утварэння сваёй вялікакняжацкай патрыярхіі, заснавання новага цэнтра хрысціянства. Яго падтрымала большасць уніяцкіх епіскапаў. Аднак у праваслаўных іерархаў план І. Руцкага выклікаў абурэнне. Тады пытанне аб прымірэнні было вынесена мітрапалітам на Варшаўскі сойм 1626 г. Пасля доўгіх дыскусій вялікі князь Жыгімонт Ваза падпісаў пастанову аб скліканні ў Кобрыне 26 верасня 1626 г. агульнага сабора для абмеркавання пытання царкоўнай еднасці. Але праваслаўныя прадстаўнікі ў Кобрын не з'явіліся. Не прыбылі яны і на наступны супольны сабор ў Львоў, які быў прызначаны на 28 кастрычніка 1629 г., лічачы, што яднанне ім навязваюць.

Такім чынам, праект І. Руцкага аб утварэнні патрыярхіі ў Вялікім княстве Літоўскім не здзейсніўся. Адна з галоўных мэтаў яго жыцця пацярпела крушэнне. Нягледзячы на гэта, ён увайшоў у гісторыю як чалавек, што уніяцтва «… умацаваў, пашырыў і зрабіў сапраўднай царквою» [3, с. 289].

Увогуле, падчас знаходжання на мітраполіі Іосіфа Руцкага уніяцкая царква стварыла асновы тэалагічнай дактрыны, набыла адметныя рысы, структурную завершанасць, налічвала сем епархій [4, с. 63].

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Кароткі, У.А. Руцкі Іосіф Вельямін / У.А. Кароткі // Рэлігія і царква на Беларусі: энцыкл. давед. – Мінск, 2001.
2. Кірэеў, В.Р. Базыльяне / В.Р. Кірэеў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т.1. – Мінск, 1993.
3. Коршунаў, А.Ф. Руцкі Іосіф Вельямін / А.Ф. Коршунаў // Мысліцелі і асветнікі Беларусі: энцыкл. давед. – Мінск, 1995.
4. Саверчанка, І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі / І. Саверчанка. – Мінск, 1994.



**Гарбуль Пётр Іванавіч** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна.

**Рамановіч Павел Сцяпанавіч** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна.




УДК 2-9(476)

**С.В. Казуля** (Гродна)

# МІСІЯНЕРСКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ОРДЭНА БАЗЫЛЬЯН У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII ст.


*Рассматривается миссионерская деятельность базилианского ордена в соседних с Речью Посполитой странах. Его недостаточная активность объясняется неустойчивостью положения самой униатской церкви.*


Эпоха Контррэфармацыі прынесла пашырэнне ўплыву Каталіцкай Царквы ва ўсім свеце. Менавіта ў другой палове XVI – XVII стст. каталіцызм пачынае адпавядаць сваёй назве «сусветны» і ахоплівае ўсе кантыненты. Каардынацыя місіянерскай дзейнасці знаходзілася ў руках Кангрэгацыі Прапаганды Веры, створанай булай папы Рыгора XV у 1622 г.

Ва Усходняй Еўропе прадметам асаблівай увагі Апостальскай Сталіцы былі праваслаўныя, якія засялялі абшары Рэчы Паспалітай, уладанні Габсбургаў, Венгрыю, Трансільванію, Асманскую імперыю, Маскоўскую дзяржаву. Ключавую ролю ў распаўсюджванні каталіцтва ў гэтым рэгіёне адводзілася уніяцкаму манаству Рэчы Паспалітай, якое ў 1617 г. аб'ядналася ў ордэн базыльян. І гэта зразумела. Уніятам, якія прытрымліваліся ўсходняга абраду, было лягчэй працаваць сярод праваслаўных, чым католікам-лацінаікам. На думку стваральніка базыльянскага ордэна Язэпа Вельяміна Руцкага, уніяцкія «манахі будуць успрымацца (праваслаўнымі) як свае, таму ім лягчэй будзе навучаць народ, вяртаць яго да паслухмянасці Святой Рымскай Царкве» [13, с. 24].

Планы рымскай курыі супадалі з геапалітычнымі інтарэсамі караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III, які быў зацікаўлены ў аслабленні Маскоўскай дзяржавы і Асманскай імперыі. Стварэнне уніяцкай царквы, менш залежнай ад уладаў, чым праваслаўная, дазволіла бы больш эфектыўна ўплываць на ўнутрапалітычныя працэсы ў гэтых краінах.

Акрамя знешніх чыннікаў, да місіянерскай дзейнасці ў суседніх краінах базыльян падштурхоўвала і рэлігійная сітуацыя ў Рэчы Паспалітай. Пасвячэнне патрыярхам Феафанам праваслаўнай іерархіі ў 1620 г. ускладніла становішча уніяцкай царквы. Супраць яе сталі выступаць не толькі праваслаўныя, але і частка каталіцкіх магнатаў і шляхты, у тым ліку некаторыя лацінскія епіскапы. Пачаўся пераход уніятаў у лацінскі абрад.

У гэтай сітуацыі мітрапаліт Я. Руцкі імкнуўся заручыцца падтрымкай Апостальскай Сталіцы. Каб даказаць неабходнасць

захавання царкоўнай уніі ў сябе на Радзіме, ён звяртаецца ў Кангрэгацыю Прапаганды Веры з шэрагам праектаў з удзелам базыльян. Адным з іх стаў план стварэння на тэрыторыі Рэчы Паспалітай місіянерскай семінарыі, выкладзены ў мемарандуме «Аб Масковіі» (1624 г.). Месцам знаходжання вучэльні быў абраны Мінск [6, с. 122].

Гэта ўстанова, па словах Я. Руцкага, павінна рыхтаваць «будучых прапаведнікаў сапраўднай веры, дзякуючы якім схізма будзе выкаранена, не толькі на Русі (беларуска-ўкраінскіх землях – С.К.), але таксама і ў Масковіі, і сярод іншых шматлікіх народаў гэтага абраду…, а менавіта … ў Валахіі, Малдавіі, Венгрыі, Сербіі, Балгарыі» [11, с. 28]. Кіраўніцтва семінарыяй планавалася даручыць базыльянам. Мітрапаліт спадзяваўся, што і самі семінарысты пасля заканчэння вучобы «стануць манахамі Чыну Св. Васіля Вялікага» або ўстрымаюцца ад шлюбу, што значна аблегчыць ім місіянерскую працу [11, с. 28].

Хоць у творы ў якасці абшару для місіі пералічаны шэраг краін з праваслаўным насельніцтвам, асаблівую ўвагу аўтар надаваў Маскоўскай Русі. Гэта тлумачыцца дзвюма прычынамі. Па-першае, «пераварочванне маскавітаў ніхто іншы не можа зрабіць, як толькі русіны, якія маюць з імі той самы абрад і мову богаслужбы» [11, с. 28]. Да таго ж, размоўная «маскоўская мова», на думку мітрапаліта, мала «адрозніваецца ад русінскай» [11, с. 26]. Па-другое, Я. Руцкі спадзяваўся, што каралевіч Уладзіслаў здолее рэалізаваць свае прэтэнзіі на маскоўскую карону і на троне гэтай дзяржавы будзе каталіцкі цар [11, с. 50; 14, с. 220–221]. Гэта створыць умовы для місіянерскай дзейнасці. Згодна мемарандаму, выпускнікі уніяцкай семінарыі заселяць маскоўскія манастыры. Як больш адукаваныя, чым мясцовае духавенства, яны «зоймуць пасады настаўнікаў у школах, святароў, візітатараў парафій», а з цягам часу – «епіскапаў ды іншыя вышэйшыя царкоўныя прэлатуры». За епіскапамі «як за сваімі ўладарамі пойдзе і народ» [11, с. 28]. Такім чынам, уся Маскоўская Русь пяройдзе ў падпарадкаванне Апостальскай Сталіцы.

План уніяцкага мітрапаліта быў падтрыманы Кангрэгацыяй Прапаганды Веры, якая ў жніўні 1626 г. выдаткавала 1000 скудзі на яго фінанасаванне [6, с. 105]. Праект місіянерскай семінарыі абмяркоўваўся на уніяцкім царкоўным саборы ў Кобрыне (1626 г.) і Лаўрышаўскай кангрэгацыі (1626 г.) базыльянскага ордэна [1, с. 31; 9, с. 98]. Было вырашана ахвяраваць ад кожнай епархіі і манастыра грошы на яе будаўніцтва. Свае ўкладанні зрабілі віленскі біскуп і князь Хрыстафор Збаражскі [11, с. 51]. Пытанне аб місіянерскай семінарыі заставалася актуальным для Рыма і ў 30-я гг. XVII ст. У інструкцыях, дадзеных Кангрэгацыяй Прапаганды Веры місіянеру Мікалаю Янсану, змешчана парада наведаць у Масковіі праваслаўныя манастыры, даведацца ў



ігуменаў: «Ці маглі б уніяцкія манахі прапаведаваць каталіцкую веру і засноўваць школы? Ці мажліва знайсці маладых манахаў для семінарыі, якая будзе заснавана ў Рускай Польшчы для рускіх уніятаў?» [11, с. 81].

Спадзяванні Я. Руцкага спраўдзіліся толькі часткова. Адмова Уладзіслава IV ад тытула маскоўскага цара ў 1634 г. зрабіла праблематычнай перспектыву місіянерскай працы ў Расіі. Семінарыя ў Мінску была адкрыта каля 1652 г. і праіснавала ўсяго 2 гады – да вайны, што пачалася ў 1654 г. [1, с. 52; 21, с. 51]. Яна не мела місіянерскага характару і займалася выключна падрыхтоўкай святароў для уніяцкіх прыходаў у Рэчы Паспалітай. Нічога невядома і аб прабыванні базыльян-місіянераў на тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы.

Параўнальна большых поспехаў ордэн дасягнуў на Балканах. Ва ўладаннях аўстрыйскіх Габсбургаў пражывала шмат праваслаўных, сярод якіх былі сербскія ўцекачы з Асманскай імперыі (г. зв. ускокі). Частка іх пасялілася ў горнай мясцовасці Жумбэрак (Харватыя). Заграбскі рыма-каталіцкі епіскап Пётра Дамітрыевіч перадаў сербам спустошаны кляштар у вёсцы Марча, у якім уцекачы заснавалі свой манастыр. Пазней ён стаў цэнтрам новаўтворанай Марчанскай епархіі. У 1611 г. Сімун Вратанья, епіскап марчанскі, прыняў унію [17, с. 102; 20, с. 128]. Паколькі кантакты сербскіх уніятаў з Рымам былі эпізадычнымі, Кангрэгацыя Прапаганды Веры ў 1628 г. запатрабавала ад папскага нунцыя ў Вене К. Карафо падрабязную інфармацыю. Той вырашаў паслаць у Жумбэрак студэнта Венскага папскага калегіума Мяфодзія Тарлецкага [17, с. 102]. М. Тарлецкі паходзіў з шляхецкага роду з Бельзкага ваяводства; выконваў абавязкі пісара пры падскарбіі ВКЛ Мікалае Трызне [5, с. 446]. На пачатку 1620-х прыняў манаства ў ордэне базыльян; у 1626 – 1630 гг. вывучаў багаслоўе ў Венскім калегіуме [12, с. 160, № 2]. Чаму К. Карафо звярнуўся менавіта да яго? С.Сэнык тлумачыць гэта тым, што базыльянін меў агульны з сербамі абрад і ведаў іх мову [17, с. 102]. На нашу думку, М. Тарлецкага парэкамендаваў нунцыю мітрапаліт Я.Руцкі, паколькі без дазволу апошняга ён бы не рызыкнуў паехаць у місіянерскае падарожжа. Цалкам мажліва, што Апостальская Сталіца бачыла ў маладым і энергічным базыльяніне намесніка, а ў перспектыве – і пераемніка марчанскага епіскапа. Сімун Вратанья быў ужо ў сталым узросце, таму рымскай курыі патрэбна была гарантыя, што і пасля яго смерці епархія застанецца уніяцкай [16, с. 129].

Восенню 1628 г. М.Тарлецкі наведаў Марчу і пазнаёміўся з сітуацыяй [17, с. 102]. У лютым 1629 г. ён прыязжае ў Рым, перадае ў Кангрэгацыю Прапаганды Веры справаздачу мітрапаліта Я.Руцкага аб стане уніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай і дзеліцца ўражаннямі аб прабыванні ў Марчы [17, с. 103]. Верагодна, гэтай інфамацыі было

недастаткова, таму летам 1629 г. місіянер зноў прыязджае ў Харватыю. Напрыканцы свайго прабывання М. Тарлецкі складае план пераўтварэнняў ў царкоўным жыцці епархіі. Галоўная роля ў ім адводзілася базыльянам з Рэчы Паспалітай. Яны павінны былі пасяліцца ў Марчы, заснаваць манастыр са строгім статутам, а затым і семінарыю для навучання сербскіх манахаў і святароў [13, с. 257, 329–333]. Як бачым, план у агульных рысах тоесны вышэйзгаданаму мемарандаму Я.Руцкага. Абодва праекты разглядалі базыльян як галоўную рухаючую сілу царкоўнай рэформы і рабілі націск на адукацыю кліру. Сам М.Тарлецкі напрыканцы 1629 г. мусіў пакінуць Харватыю, паколькі атрымаў ад мітрапаліта Я.Руцкага прызначэнне на пасаду холмскага епіскапа [17, с. 103].

Наступны раз ён трапіў у Марчу на пачатку 1643 г. па дарозе ў Рым. Менавіта тады завязаліся кантакты М.Тарлецкага з маладым Юрыем Крыжанічам, які на той час працаваў святаром у Заграбскай каталіцкай епархіі [7, с. 21]. «Юры Крыжаніч, лацінскі святар, жадае наведаць Русь для вывучэння абрадаў і мовы. Ён хоча змяніць абрад, каб было лягчэй навяртаць душы», – пісаў М.Тарлецкі ў Кангрэгацыю Прапаганды Веры [19, с. 128]. У красавіку 1644 г. на зваротным шляху з Рыму ён зноў наведаў Харватыю і сустрэўся з Ю. Крыжанічам. [17, с. 104]. М.Тарлецкі абяцаў узяць маладога харвата «да сябе (у Холм – С. К.) як жадаючага вывучаць грэчаскі абрад і складаць палемічныя творы» [7, с. 22]. Якую мэту пераследаваў холмскі епіскап? На думку С. Сэнык, ён хацеў «даць Крыжанічу інструкцыі для правядзення місіянерскай працы ў Марчы» [17, с. 104].

Але навошта дзеля гэтага было ехаць у далёкі Холм? «Абрады і мову» сербаў лепш было вывучаць на месцы. Верагодна, існуе сувязь паміж запрашэннем М.Тарлецкага і жаданнем самога Ю.Крыжаніча паехаць місіянерам у Маскоўскую Русь. Упершыню аб сваіх планах малады харват паведаміў у Кангрэгацыю Прапаганды Веры яшчэ ў 1641 г., а затым неаднаразова іх паўтараў [7, с. 15–17]. Аб гэтым не мог не ведаць М.Тарлецкі. Прабыванне ў Холмскай епархіі сярод людзей, блізкіх па абраду і мове да жыхароў Маскоўскай дзяржав, павінна было падрыхтаваць Ю. Крыжаніча да канчатковай мэты яго місіі. Як вядома, харвацкі місіянер так і не змог наведаць Холмшчыну. У 1646 г. Кангрэгацыя Прапаганды Веры накіравала яго ў Смаленск, адкуль ён урэшце трапіў у Маскоўскую дзяржаву.

Прыкладна ў гэты ж час на Балканы прыехаў базыльянін Паўлін Дэмбскі (каля 1615 – 1656). Кароткія біяграфічныя звесткі аб гэтай асобе захаваліся ў рукапісным зборніку мітрапаліта Л. Кішкі пачатку XVIII ст. [4, с. 122–123]. На думку І.Скрутэня, П.Дэмбскі паходзіў са шляхты Плоцкага ваяводства [18, с. 150]. Але ў спісах студэнтаў Брунсбергскага



калегіума насупраць яго прозвішча пазначана: «Ruthenus» (русін) [12, с. 55, № 41]. Гэта сведчыць аб тым, што місіянер быў звязаны з рускай галіной роду, якая жыла ў Галіцыі. Пасля прыняцця манаства ў ордэне базыльян П. Дэмбскі з 1633 па 1637 г. вучыўся ў Брунсбергскім езуіцкім калегіуме. У сярэдзіне 40-х гг. XVII ст. Кангрэгацыя Прапаганды Веры прызначыла яго «апостальскім місіянерам у Балгарыі, Сербіі, Чарнагорыі», якія на той час знаходзіліся пад уладай Асманскай імперыі [4, с. 123]. Базыльянін быў вымушаны утойваць сапраўдную мэту сваёй місіі; шмат падарожнічаў, пераапрануты гандляром або селянінам [4, с.123]. Падобна Я.Руцкаму, галоўны націск у місіянерскай працы ён рабіў на адукацыі. У гарадах Печ (Іпэк, Косава) і Катуро П.Дэмбскі адкрыў граматычныя школы для манахаў і шляхты з выкладаннем лаціны [4, с. 123; 18, с. 150; 8, с.4; 22, с. 99]. Гэта дазволіла яму завязаць цесныя адносіны з вышэйшым сербскім праваслаўным духавенствам. У 1652 г. Паўлін Дэмбскі разам з Франам Стаіміравічам, каталіцкім епіскапам Прызрэна, сустрэўся з сербскім патрыярхам Гаўрыілам Раічам [10, с. 233]. На той час Сербская Праваслаўная Царква знаходзілася ў цяжкім становішчы з-за праследу турак. Таму Г.Раіч звярнуўся праз П.Дэмбскага да папы з просьбай аб дапамозе. Абмяркоўвалася і пытанне заключэння царкоўнай уніі, але канчатковае пагадненнне па гэтаму пытанню так і не было дасягнута [10, с. 233].

У згаданым рукапісным зборніку мітрапаліта Л.Кішкі і пасланнях П.Дэмбскага ў Кангрэгацыю Прапаганды Веры ёсць інфармацыя аб яго ўдзеле ў падрыхтоўцы царкоўных сабораў 1648 і 1654 гг. у Морачскім манастыры (цэнтральная Чарнагорыя) [4, с.123; 18, с. 150]. Абодва саборы нібыта выказалі адданасць сербскага духавенства папе і дэлегавалі ў Рым сваіх пасланнікаў. Сербскія гісторыкі Ё.Радоніч, Н.Мілаш, Д.Сліпчэвіч аспрэчваюць аўтэнтычнасць саборных актаў і лічаць іх сфальсіфікаванымі [8, с. 4]. Але нават калі б вышэйзгаданыя пастановы былі сапраўды прыняты, практычных вынікаў яны не мелі. Сербская царква засталася праваслаўнай.

Аналіз місіянерскай дзейнасці базыльян па-за межамі Рэчы Паспалітай прыводзіць нас да наступных высноваў. Паміж грандыёзнымі планамі мітрапаліта Я.Руцкага, Кангрэгацыі Прапаганды Веры і наяўнымі вынікамі існавала відавочнае разыходжанне. Да сярэдзіны XVII ст. ордэн базыльян здолеў накіраваць толькі двух місіянераў на Балканы, аб душпастырскай дзейнасці ў іншых рэгіёнах нічога невядома. Прычыны гэтага трэба шукаць не толькі ў насцярожаным стаўленні праваслаўных да уніі або неспрыяльнай палітыцы ўладаў Маскоўскай дзяржавы і Асманскай імперыі. Становішча уніяцкай царквы ў самой Рэчы Паспалітай на працягу разглядаемага перыяду заставалася досыць хісткім. Па падліках М.

Ваврыка, у 1636 г. у краіне было 36 базыльянскіх манастыроў з прыблізна 160 манахамі [2, с. 9]. Гэта азначае, што на кожны кляштар у сярэднім прыпадала 4–5 чарняцоў. Такой колькасці было, відавочна, недастатковa для падтрымання гаспадаркі і духоўнага жыцця ў належным стане. Аб маланаселенасці уніяцкіх манастыроў гаворыцца ў лісце ў Кангрэгацыю Прапаганды Веры (1648 г.) пракуратара базыльян П.Баравіка, у «Літасе» П.Магілы (1644 г.), у «Перспектыве» К. Саковіча (1642 г.) [15, с. 60; 3, с. 319, 344]. У гэтых умовах больш актуальнай была праблема выжывання ордэна ў самой Рэчы Паспалітай, чым місіянерскай дзейнасці сярод праваслаўных суседніх краін.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Археографическнй сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. – Т. 12. – Вильна, 1900.
2. Ваврик, М. Нарис розвитку і стану Василіянського Чину XVII – XX ст. Топографічно-статистична розвідка / М. Ваврик. – Рим, 1979.
3. Голубев, С. Киевский митрополит Пётр Могила и его сподвижники / С. Голубев. – Т. 2. – Киев: Тип. С. В. Кульженко, 1898. – 524 с.; Приложение. – 498 с.
4. Житеписи Василіян // Записки Чина Св.Василия Великого. – Жовква, 1924. – Т. 1, вып. 1. – С. 105 – 130.
5. Петрушевич, А. К. Сводная галицко-русская летопись / А. К. Петрушевич. – Львов, 1874.
6. Плохий, С.Н. Папство и Украина / С. Н. Плохий. – Киев, 1989.
7. Пушкарёв, Л.Н. Юрий Крыжанич / Л. Н Пушкарёв. – Москва, 1984.
8. http://www.atlantaserbs.com
9. Стрельбицкий, И. Униатские церковные соборы с конца XVI в. / И.Стрельбицкий. – Вильна, 1880.
10. Турилов, А.А. Игнатий (Шестаков) Гавриил I Раич / А.А. Турилов // Православная энциклопедия. – Т. X. – Москва, 2005. – С. 232 – 233.
11. Шмурло, Е. Римская курия на русском православном Востоке в 1609 – 1654 годах / Е. Шмурло. – Прага, 1928.
12. Blažejovskyj, D. Byzantine Kyivan Rite students in pontificall colleges and in seminaries, universities and institutes of Central and Western Europe (1576 – 1983) / D. Blažejovskyj. – Romae: PP. Basiliani, 1984.
13. Epistolae Josephi Velamini Rutskyj, Metropolitae Kiovensis Catholicae (1613 – 1637). – Romae, 1956.
14. Harasiewicz, M. Annales Ecclesiae Ruthenae / M. Harasiewicz. – Leopoli: Typis institute Rutheni stauropigini, 1862.
15. Litterae Basilianorum in terris Ucrainae et Bielarusjae. – Vol. 1 (1600 – 1730). – Romae: PP Basiliani, 1979. – 368 p.
16. Rechowicz, M. Plany missyjne Kongregacji de Propaganda Fide na Bałkanach a unia w Polsce (1622 – 1635) / M. Rechowicz // Nasza Przeszłość. – T. 2. – 1947. – S. 135 – 145.
17. Senyk, S. Križanić and Ukrainę / S. Senyk // Papers and Proceedings of the Department of Historical Research of the Institute of Historical and Social Research of Creation Academy of Sciences and Arts. – Vol. 14. – 1986. – P. 101 – 112.
18. Skruteń, I. Dębski (Dembski) Paulin / I. Skruteń // Polski Słownik Biograficzny. – T. 5. – Kraków, 1936 – 1946. – S. 150.
19. Supplicationis Ecclesiae Unitae Ucrainae et Bielarusjiae. – Vol. 1. – Romae, 1960.





20. Ks Suttner, E. Unie Kościołów Wschodnich z Kościołem Rżymskiem w wiekach XVI i XVII / Ks E.Suttner // Unia Brzeska z perspectywy czeterech stuleci. – Lublin, 1998. – S. 123 – 141.
21. Wojnar, M. Basilian seminaries, colleges and schools (XVII – XVIII) / M. Wojnar // Записки Чина Св.Василія Великого. – Vol. 9. – 1974. – P. 48 – 63.
22. Wojnar, M. Basilian missionary work, missionaries and missions (XVII – XVIII) / M. Wojnar // Записки Чина Св.Василія Великого. – Vol. 9. – 1974. – P. 95 – 110.



**Казуля Сяргей Віктаравіч** – старшы навуковы супрацоўнік, Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі.


УДК 271.4 (476)

**Т.В. Васюкевіч** (Гродна)

## КАРАНАВАННЕ ЖЫРОВІЦКАГА АБРАЗА


*В статье исследуются причины, ход и итоги коронации иконы Матери Божьей Жировичской.*


…калі ты і плоццю, й душой нездароў,
І боль твой суняцца не можа –
успомні што ёсць жыватворны Пакроў
Жыровіцкай Маці Божай…

Гісторыя Жыровіцкай цудатворнай іконы прываблівае сваімі таямніцамі гісторыкаў, тэолагаў, культуролагаў. Ікона прызнаецца цудадзейнай праваслаўнымі, уніятамі, каталікамі. «Ніводзін з беларускіх абразоў Маці Божай не перажыў такога шматвяковага ўсеагульнага шанавання і не спарадзіў такой шырокай рукапіснай і друкаванай гісторыяграфіі», як жыровіцкі абраз [12, с. 21].

З'яўленне іконы ўпершыню было апісана ігуменам Віленскага Свята-Троіцкага манастыра Феадосіем Баравіком у 1622 г.: «на той пущи пасучи быдло, пастыри убачили на древе светлость великую, образ Пречистой Девы Богородицы, на древе стоящий и накшталт промней солнечных блистающийся, который взявши, принесли до Господина своего на имя Александра Солтана». Ігумен апавядае нам і аб пасадах першага ўладальніка абраза, які з'яўляўся «кавалерам або рыцарам Святога Гробу и Золотого Руна, подскарбием надворным Великого Князства Литовского, который от короля Казимира Ягеллона тые Жировицы за службу держал». Аднак Феадосій у сваёй працы не назваў даты з'яўлення іконы. Пазней, у 1721 г., калі было ўзнята пытанне аб каранацыі цудатворнага абраза, італьянец Ісідор Нардзі

датаваў яўленне 1470 г., аднак такая дата пастаўлена пад сумненне. Паколькі А. Солтан валодаў Жыровічамі ў 1493– 495 гг., таму гэтыя падзеі не маглі адбыцца раней, аб чым сцвярджаў і прафессар гісторыі П. М. Жуковіч.

Жыровіцкая ікона ўяўляе сабою зробленую на яшме рэльефную выяву Маці Божай Замілаванне з дзіцем на правай руцэ. Падчас нагрэву гэты камень набыў цёмна-чырвонае адценне. Феадосій Баравік распавядае аб гэтым пажары, які ўспыхнуў 1520 г., агонь знішчыў царкву, аднак абраз уцалеў і быў цудадзейным чынам вернуты веруючым.

Ікона прываблівала сваёй цудадзейнай сілай людзей рознага сацыяльнага стану: «Божая Маці пачала збіраць да Свайго абраза многіх людзей з навакольных гарадоў і вёсак. Мясцовыя жыхары і паломнікі адзначалі, што пасля малітвы перад Жыровіцкай іконай Маці Божай яны атрымоўваюць дапамогу і ацаленне» [8, с. 82]. Дайшлі звесткі аб «васкрашэнні» ў сценах Жыровіцкай святыні Ірыны з шляхецкага роду Войнаў (1558 г.) [4, с. 10], аб паломніцтвах да абраза каранаваных асоб, сярод якіх былі Уладзіслаў IV з каралевай Марыяй Людвікай (1644 г.), Ян Казімір (1651 г.), Ян ІІІ Сабескі (1688 г.), Аўгуст ІІІ (1744 г.), Станіслаў Аўгуст Панятоўскі (1784 г.). Магнаты прыносілі да іконы шыкоўныя дары. У 1621 г. базыльянская кангрэгацыя ў Лаўрышаве пастанавіла выдаць кнігу пра яўленне і цуды абраза.

Каранаванне іконы павінна было павысіць прэстыж Жыровіцкай святыні і прынесці дадатковыя матэрыяльныя сродкі, вельмі неабходныя пасля эпідэміі чумы, якая забрала жыцці 600 святароў-базыльян, і спусташальнага шведскага нашэсця, у час якога манастыр выплачваў вялікія кантрыбуцыі.

Каранаванне абраза з’яўлялася прызнаннем за ім цудадзейнай сілы і ажыццяўлялася асобым «кананічным працэсам». Уведзены быў гэты абрад папай Рыгорам ІІІ, а ў нашай краіне ён стаў вядомы ў пачатку XVIII ст. Жыровіцкая ікона з’яўляецца пятай сярод каранаваных абразоў Рэчы Паспалітай .

Думкі аб каранацыі наспелі пасля яўлення ў Рыме копіі іконы ў базыльянскай царкве Сергія і Вакха (1718 г.). У час рамонту яе знайшоў майстар Сімон Чыоці : «Когда он сметал пылъ со стенъ коридора и жесткой метлой сглаживалъ шороховатость штукатурки, в одном месте отвалился кусокъ ея, и мастеръ съ изумленіамъ заметилъ из-подъ отвалившагося осколка глазъ Богомладенца Іисуса, засіявшій необыкновеннымъ светом. … Чіотти осторожно сталъ отламывать въ этомъ месте штукатурку, и передъ нимъ явились неповрежденные лики Богомладенца и Богоматери» [5, с. 11].



Бенедыкт Трулевіч (генеральны базыльянскі пракуратар у Рыме) прызнаў у фрэскавай выяве знакаміты Жыровіцкі абраз, вакол якога быў размешчаны кірылічны надпіс: «Честнійшую Херувімъ и Славнійшую воистину Серафимъ, без истленія Бога слово родившую», а па баках грэчаскія надпісы: «Іисусъ и Мария». Творчасць невядомага іканапісца і папулярнасць адкрыўшайся рымскай фрэскі сярод веруючых паскорылі наступныя падзеі. 20 студзеня 1726 г. у Рыме была сабрана капітула, якая даследавала гісторыю абраза і цуды, якімі ён праслявіўся. У выніку прашэнне аб каранацыі было адзінагалосна задаволена. Апісанне гэтага абраду з лацінскай мовы пераклаў на рускую айцец П. Дзікоўскі і са сваімі каментарамі ў духу заходнерусізму выдаў у Гродне.

Першапачаткова каранацыя прызначалася на 8 верасня 1728 г., але была перанесена на 19 верасня 1730 г. У хуткім часе гэтая вестка абляцела Рэч Паспалітую, а ў Жыровічах пачаліся прыгатаванні для пачэснай сустрэчы гасцей. Па Слонімскай дарозе, з поўначы на поўдзень, на адлегласці 100 крокаў адна ад адной былі пабудаваны 6 арак, якія здзіўлялі сучаснікаў сваёй прыгажосцю. Першая арка належала базыльянскаму ордэну і Слонімскаму павету. Упрыгожвалі арку скульптуры і карціны з рэлігійнымі сюжэтамі. На карнізе размяшчаўся герб Слонімскага павета: коннік з мячом. Другая была зроблена па загаду «пресветлейшего коронатора» [5, с. 25], мітрапаліта Афанасія Шаптыцкага. Трэцяя – «светлейшего рода Поцеев» – была пабудавана ваяводай віленскім, гетманам вялікім Людвікам Канстанцінам Пацеем. Тэмай, якая была ўвасоблена ў архітэктурна-мастацкім рашэнні, з'яўляецца праслаўленне уніяцтва і яго першага мітрапаліта Іпація Пацея. Далей ішлі двух'ярусныя Радзівілаўскія вароты, яны мелі 8 арак, над якімі ўзвышаліся хоры для музыкаў. Верхні ярус быў зроблены ў выглядзе ўсечанага конуса. Арку шчодра распісвалі рэлігійнымі сюжэтамі і радзівілаўскімі арламі. Пятыя вароты належалі роду Вішнявецкіх, яны будавалася два гады на сродкі канцлера ВКЛ Міхала Сервацыя Карыбут-Вішнявецкага і мелі выгляд егіпецкай піраміды. Апошнія, шостыя вароты, належалі Сапегам, якія для іх будаўніцтва запрасілі мастака Матфея Асоўскага.

Напярэдадні каранавання жыровіцкія базыльяне займаліся ўпрыгожваннем галоўнага храма, які не павінен быў саступаць у велічы і прыгажосці трыумфальным аркам. Сцены і калоны сабора ад падлогі да столі былі пакрыты персідскімі дыванамі. Аб тым, як выглядаў манастыр, бачна з наступнага апісання: «Олтарь Жировицкой Богоматери (один из боковых) сиял исключительно бриллиантами и драгоценными камнями. Кроме множества лампад и светильников серебрянныхъ, 12 литых из серебра ангелов огромнаго веса и роста, держали в руках свечи…» [5, с. 37]. Адметным з'яўляецца і тое, што над царскімі варотамі знаходзілася статуя першага уніяцкага ігумена жыровіцкага манастыра, а затым архіепіскапа полацкага Іасафата

Кунцэвіча, які пазней быў кананізаваны. Яго асоба і дзейнасць да нашых дзён з'яўляецца дыскусійным пытаннем у айчыннай і расійскай гістарыяграфіі.

Напярэдадні каранавання Жыровічы становяцца паломніцкім цэнтрам веруючых, якія перапаўняюць навакольныя вёскі за 2 – 3 мілі ад святыні. Павялічваецца колькасць магнатаў і шляхты, сярод якіх былі канцлер ВКЛ Міхал Сервацы Карыбут-Вішнявецкі з сям'ёю, польны гетман Лука Баранавіч, Адам Хадкевіч, Радзівілы, Сапегі і інш.

За тыдзень да каранацыі тры разы на дзень гучаў поўгадзінны звон, пасля якога іграла сімфанічная музыка. Кароны для абраду былі аздоблены каштоўнымі камянямі на сродкі Ганны Кацярыны Радзівіл з Сангушкаў і яе сына Гераніма, які прывез іх з Рыма, дзе іх асвяціў папа Бенедыкт XIII.

Пачалася каранацыя яснай раніцай 19 верасня 1730 г. у гаі Вікне з урачыстай перадачы карон Бенедыктам Трулевічам «апостальскаму дэлегату» Гераніму Радзівілу. Экіпаж апошняга суправаджаўся мноствам карэт, коннікаў, прыдворных, шляхтай, замыкала эскорт іншаземная конніца. З гаю кароны святочна пераносілі на ўзгорак святога Георгія, дзе яны былі сустрэты салютам з гармат. Тут іх чакалі мітрапаліт, епіскапы, абаты, магнаты, шляхта і кавалерыя. Далей працэсія накіроўвалася праз трыўмфальныя аркі ў галоўны храм. Адкрывалі гэтае шэсце мітрапаліт кіеўскі і галіцкі Афанасій Шаптыцкі з Геранімам Радзівілам і епіскапамі. Цырымонія перанясення карон заняла тры гадзіны. Затым у саборы пачалася святочная служба, падчас якой быў прачытаны прывілей рымскай капітулы мітрапалітальным аўдытарам.

Пад гукі аргана мітрапаліт каранаваў найсвяцейшы абраз, усклаўшы кароны на Галавы Свяцейшага Немаўляткі Ісуса і Свяцейшай Яго Маці. Тады ж абраз набыў дарагі абклад. У гонар гэтай святочнай падзеі па загаду мітрапаліта і Гераніма Радзівіла былі выбіты памятныя медалі з золата і срэбра шасці відаў, якія былі раздадзены народу. Святкавалі каранаванне ў Жыровічах восем дзён. У час яго кульмінацыі было засведчана некалькі выпадкаў цудатворнага выздараўлення. Каранаванне абраза, грандыёзныя паломніцтвы да святыні, у тым ліку шляхты і магнатаў, спрыялі падняццю прэстыжа і папулярызацыі базыльянскага ордэна і уніяцкай канфесіі. Падчас Першай сусветнай вайны цудатворны абраз вывозілі ў Маскву, адкуль ён вярнуўся, на жаль, без большасці аздоб.

Штогод і да нашага часу 20 мая адзначаецца свята абраза Жыровіцкай Маці Божай.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Бараноўскі, І. Каралева беларускага народу / І.Бараноўскі // Царква. – 2005. – № 4. – С.12 – 14.





2. Бобровский, П.И. Противодействие Базилианского ордена стремлению белаго духовенства к реформам Русской греко-униатской церкви / П.И.Бобровский. – Вильна: Губернская типография, 1889.
3. Віцьбіч, Ю. Наша спадчына прамаўляе: «Уладарка Беларусі, што сьвеціць у Жыровічах» / Ю. Віцьбіч // Спадчына. – 2000. – № 4. – С. 134 – 138.
4. Глухова, Г. Жировичский Свято-Успенский монастырь / Г.Глухова. – Москва, 2006.
5. Дзиковский, Н.Р., Коронование Жировицкой иконы Богоматери / Н.Р.Дзиковский. – Гродно, 1891.
6. Киприанович, Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнешего времени до настоящего времени / Г.Я.Киприанович. – Вильна: Тип.И.Блюмовича, 1895.
7. Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 2004. – С. 53 – 56.
8. Сакалоў, Г. Святло Жыровіцкай іконы / Г. Сакалоў // Маладосць. – 2007. – № 9. – С. 81 – 88.
9. Суша, А.А. Ля вытокаў беларускай гістарычнай навукі: творчая спадчына Ігната Кульчынскага / А.А.Суша // Беларускі Гістарычны часопіс. – 2009. – № 2. – С. 27–37.
10. Слюнькова, І. Базыльянскія кляштары на Беларусі / І.Слюнькова //Полымя. – 1993. – № 5. – С. 224–238.
11. Харлампович, К. Западнорусские православные школы XVI и XVII века, отношение их к инославным, религиозное обучение в них и заслуги в деле защиты православной веры и церкви / К.Харлампович. – Казань: Типо-литогр. ун-та, 1898.
12. Ярашэвіч, А.А. Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр /А.А.Ярашэвіч. – Мінск: Беларусь, 2006.
13. Ярашэвіч, А.А. Жыровіцкі Успенскі манастыр / А.А.Ярашэвіч // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. – Т. 1. – С. 632 – 634.


**Васюкевіч Тацццяна Васільеўна** – выпускніца факультэта гісторыі і сацыялогіі ГрДУ імя Я.Купалы, магістрантка, малодшы навуковы супрацоўнік Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Сфера навуковых інтарэсаў – гісторыя уніяцкай царквы.

УДК 283/289(476)

**А. Крот** (Гродна)

## КУЛЬТ МАЦІ БОЖАЙ ЖЫРОВІЦКАЙ У ТВОРАХ АЙЦА ІГНАТА КУЛЬЧЫНСКАГА

*Отец Игнат Кульчинский – белорусский историк XVIII в., который жил и работал в Риме и Гродно. Важным направлением его деятельности было развитие культа Жировичской иконы Божьей Матери и её римской копии. Этим святыням историк посвятил несколько публикаций на итальянском, польском и латинском языках. Для И. Кульчинского развитие культа Жировичской иконы носило не только религиозный характер, но и являлось способом распространения знаний об Униатской Церкви Великого княжества Литовского среди католиков Западной Европы.*

Спадчына айца Ігната Кульчынскага, якога справядліва лічаць заснавальнікам беларускага гістарычнага краязнаўства, выклікае вялікую цікавасць у беларускіх гісторыкаў [3, с. 100]. Аднак працы І.Кульчынскага, прысвечаныя духоўнаму жыццю Беларусі, да апошняга часу заставаліся па-за ўвагай даследчыкаў.

Ігнат Кульчынскі нарадзіўся ў 1694 г. [4, с. 249] (па іншых звестках – 1707 г.) [3, с. 100]. Няма пэўнасці, што да месца яго нараджэння. Па звестках адных гісторыкаў, ён паходзіў з Уладзіміра Валынскага [2, с. 471], паводле іншых, – з ваколіц Гродна [3, с. 100] . З 1729 па 1735 г. айцец Ігнат жыў і вучыўся ў Рыме [1, с. 28], дзе атрымаў тытул доктара тэалогіі. У Вечным Горадзе святар выконваў таксама функцыі генеральнага пракуратара кангрэгацыі базыльянаў і рэктара царквы святых Сергія і Вакха [1, с. 28]. У Рыме ж Ігнат Кульчынскі выдаў шэраг твораў, найбольш вядомыя з якіх «Specimen Ecclesiae Ruthenicae…» і «Appendix ad Specimen Ecclesiae Ruthenicae…».

Пасля вяртання ў 1735 г. у Вялікае Княства Літоўскае айцец Ігнат Кульчынскі стаў архімандрытам Гродзенскага Барысаглебскага (Каложскага) манастыра і займаў гэту пасаду аж да сваёй смерці ў 1747 г. Адначасова святар займаўся даследніцкай дзейнасцю, стварыў «Інвентар Гродзенскага Каложскага базыльянскага манастыра» і «Хроніку ігуменаў, архімандрытаў, царкоўных старастаў і заступнікаў Гродзенскага Каложскага манастыра». Вывучаў іншыя беларускія старажытнасці: Жыровіцкі Свята-Успенскі мужчынскі манастыр, крыж Еўфрасінні Полацкай.

Прысутнасць гісторыка і царкоўнага дзеяча ў Рыме супала з узрастаннем культу Маці Божай Жаровіцкай. У жніўні 1718 г. у рымскай царкве святых Сергія і Вакха падчас рамонту пад тынкам на адной са сцен выпадкова быў выяўлены абраз Маці Божай, які ідэнтыфікаваны як копія іконы Маці Божай Жыровіцкай. Сярод рымскага люду абраз стаўся вельмі папулярным пад назвай Madonna del Pascolo. Напэўна, цудоўная знаходка копіі і рост яе папулярнасці паспрыялі паскарэнню каранацыі самой Жыровіцкай іконы, якая адбылася 19 (8) верасня 1730 г., у той час, калі І. Кульчынскі знаходзіўся ў Рыме. Аднак святар разам з мітрапалітам Атаназіем Шаптыцкім прымаў удзел у каранацыі рымскай копіі іконы ў тым самым годзе [5, с.119].

Развіццё культу Маці Божай Жыровіцкай стала адным з асноўных накірункаў дзейнасці І. Кульчынскага. Першай яго працай на гэтую тэму стаў пераклад з італьянскай на польскую мову працы каноніка Ізідара Нардзі «Relacja historyczna o zjawieniu Cudownego Obrazu Najświetszej Panny Żyrowickiej, nazwanego po włosku DEL PASCOLO...». Пераклад быў выдадзены ў Супраслі ў 1728 г. [5, с.118]. Наступныя творы – «Il Diaspro prodigioso di tre colori ovvero narrazione istorica delle tre imagini miracolose della B. V. Maria: la prima di Zirovice in Litvana, la seconda, del Pascolo in Roma, e la terca copia della seconda parimente in Zirovice detta de quei Polpoli Romana…» («Цудатворная трохкаляровая яшма, або гістарычны аповяд пра тры цудатворныя абразы Дзевы Марыі: першы ў Жыровічах на Літве, другі – Паскола ў Рыме, і трэці – гэта копія другога, падораная рымлянамі ў Жыровічы») і «Signum magnum… Regina Maria Virgo, in thaumaturgo icone Zyroviesi… coronata…» («Вялікі знак... Валадаркі Дзевы Марыі, у цудатворнай іконе Жыровіцкай... каранаванай...») і «Oratio de beatissimae Virginis Mariae imagine Zyroviensi miraculis» («Малітва да найсвяцейшай Дзевы Марыі ў цудатворным Жыровіцкім абразе...») – выйшлі амаль адначасова – ў 1732 г.

Праца «Signum magnum…» невялікая па памерах і напісаная на лацінскай мове. Яна прысвечана каранацыі іконы, якая адбылася ў Рыме з удзелам мітрапаліта Атаназія Шаптыцкага і самога айца Ігната Кульчынскага. Твор напісаны ва ўзнёслай форме ўсхвалення цудадзейнага абраза. Гэтай падзеі прысвечана яшчэ адна праца гісторыка: «Oratio de Beatissimae Virginis Mariae imagine Zyrovicensi…» Яна перадае тэкст прамовы, якая прагучала ў Рыме падчас каранацыі іконы [6, с. 31].

Найбольшае значэнне сярод твораў айца Ігната Кульчынскага мае напісаная па-італьянску праца «Il Diaspro prodigioso…». Сама мова гэтага твору раскрывае мэту яго стварэння. Праца была адрасавана італійскім вернікам і ставіла за мэту пашырэнне культу Жыровіцкай іконы сярод католікаў Рыма і ўсёй Італіі. «Il Diaspro prodigioso…» складаецца з трох частак: першая – «Стварэнне і шанаванне Жыровіцкай Мадонны»; другая – «Некаторыя звесткі пра царкву Сергія і Вакха, яе жыццё, а таксама пра блаславёнага Язафата»; трэцяя – «Гістарычны аповяд пра Дзеву Марыю Паскола ў Рыме і зробленую з яе цудатворную копію, якая потым з’явілася ў Жыровічах»; чацвёртая – «Аповяд пра каранацыю Жыровіцкай Мадонны». Каштоўнасць выдання для сучасных даследчыкаў яшчэ і ў тым, што яно ўтрымлівае медзярыт Жыровіцкага абраза – малавядомы сучасным даследчыкам іканаграфічны спіс [6, с. 31].

Асаблівай ўвагі заслугоўвае гісторыя рымскай копіі Жыровіцкай іконы, якую апісвае айцец І. Кульчынскі. Як адзначае сам даследчык, гісторыю іконы ён даведаўся ад езуіта К. Кароччы, вядомага ў Рыме распаўсюдніка культу цудатворных абразоў Маці Божай [7, с. 42]. Рымская ікона Жыровіцкай Божай Маці была знойдзена ў гаспіцыі, які прылягаў да царквы св. Сергія і Вакха, на пачатку жніўня 1718 г. У гэты час паводле загаду генеральнага пракуратара распачаўся рамонт памяшкання, і майстар, які ачышчаў мур ад старой вапны, нечакана ўбачыў фрагмент абраза. Прыйшоўшы на наступны дзень, майстар

убачыў, што адвалілася яшчэ некалькі кавалкаў вапны і адкрыўся прыгожы абраз Маці Божае з Дзіцяткам. У гэтай выяве рэктар царквы пазнаў копію Жыровіцкай іконы. І. Кульчынскі піша, што невядома, хто намаляваў гэтую копію, хто яе схаваў і як доўга яна была схаваная. Аднак рымская копія, хоць і большая за арыгінал, ва ўсім падобная да яго [7, с. 43].

У кнізе «Il Diaspro prodigioso…» святар пераказвае гісторыю развіцця культу іконы ў Рыме на працягу 1718 – 1719 гг. Шанаванне беларускай святыні італійскімі вернікамі, сярод якіх былі і простыя сяляне, і шляхта, паспрыяла пераносу іконы з гаспіцыя да царквы. Сам І.Кульчынскі спрычыніўся да развіцця культу абраза, падрыхтаваўшы для яго ў час паміж 13 верасня і 29 кастрычніка новую капліцу, адкрытую мітрапалітам Фларыянам Грабніцкім [7, с. 45].

Падсумоўваючы, можна сказаць, што а. Ігнат Кульчынскі пакінуў па сабе невялікую, але надзвычай важную спадчыну. Як адзначаюць некаторыя даследчыкі, менавіта І. Кульчынскі сваімі публікацыямі і дзейнасцю ў значнай ступені паспрыяў шанаванню беларускага цудатворнага вобраза на Захадзе [5, с.119]. Культ Жыровіцкай іконы Божай Маці стаўся для вучонага манаха памостам паміж Уніяцкай Царквой Вялікага Княства Літоўскага і Каталіцкай Царквой Заходняй Еўропы. Маці Божая Жыровіцкая яднала беларускіх вернікаў і сялянаў з ваколіц Рыму. І таму айцец Ігнат Кульчынскі праз свае творы імкнуўся як наблізіць беларускім вернікам культ рымскай іконы, так і заходнім вернікам – шанаванне Маці Божай Жыровіцкай.

### *Спіс крыніц і літаратуры*


1. Monumentae Ucrainae historica. – Рим, 1968.
2. Słownik polskich teologów katolickich / Akademia Teologii Katolickij; red. E. Wyczawski. – Warszawa, 1982. – T. 2. – S. 471 – 473.
3. Алексеев, Л. В. Игнатий Кульчинский – первый исследователь белорусских древностей / Л. В Алексеев // Древности славян и Руси. – М., 1988. – С. 100 – 105.
4. Патрило, І. Нарис історії василіян від 1743 до 1839 року / І. Патрило // Нарис історії василіянского чину святого Йосафата. – Рим, 1992. – С. 183 – 274.
5. Суша, А. А. «Signum magnum apparuit in caelo...» (Творчая спадчына Ігната Кульчынскага) / А. А Суша //Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: зборнік навуковых артыкулаў. – Мінск, 2006. – С. 117 – 124.
6. Суша А. А. Ля вытокаў беларускай гістарычнай навукі: творчая спадчына Ігната Кульчынскага / А. А Суша //Беларускі гістарычны часопіс. – 2009. – № 2. – С. 27 – 37.
7. Хома, І. Нарис історії храму Жировицької Богоматері в Римі / І. Хома. – Romae, 1972.



**Крот Андрэй** – магістр тэалогіі. Грэка-каталіцкая парафія Маці Божае Фацімскай, г.Гродна.




УДК 711.424 (476)

**А.Ю. Барташэвіч** (Гродна)

## ДА ПРАБЛЕМЫ ПОЛІКАНФЕСІЙНАСЦІ ГАРАДСКОЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ XVI – XVIII ст.


*В статье очерчивается понятие городской культуры Беларуси как комплексного феномена. Затрагиваются вопросы поликонфессиональности белорусского общества и ее влияния на формы и содержание городской культуры ВКЛ эпохи позднего средневековья: архитектуры, социотопографии, просветительской деятельности. Подчеркивается значимость реформации, которая способствовала распространению сервильных форм культуры – меценатства, книгопечатания и пр. Автор обращается к проблеме ментальности, этических ценностей белорусских горожан.*


Важнае месца ў даследаванні беларускага горада займае вывучэнне такой складанай дэфініцыі *як гарадская культура*. Тэрмін «гарадская культура» з'яўляецца даволі агульнай катэгорыяй: гэта арганізаваная сукупнасць фізічных, сімвалічных аб'ектаў, каштоўнасных фармаванняў, якія ўключаюць не толькі матэрыяльныя аб'екты (артэфакты), але і такія элементы культуры як нормы і этыка дадзенай гарадской абшчыны, сацыяльная псіхалогія гарадской грамады, менталітэт гараджан, развіццё адукацыі і навукі і г.д.

Эпоха з канца XVI да пачатку XVIII ст. дастаткова яскравая, але і складаная ў гісторыі гарадоў і гарадскога жыцця на Беларусі. Гэты час даследчыкі разглядаюць асобна, адзначаючы, што перыяд пасля Лівонскай вайны і да пачатку казацкіх паўстанняў можна назваць «залатым векам» гарадской культуры ВКЛ. У галіне *архітэктуры* з'яўляюцца новыя тыпы абарончых збудаванняў – замкі бастыённага тыпу, мураваныя гарадскія ратушы [7, с.11]. Агульны росквіт, рэнесансавыя тэндэнцыі уплывалі на горадабудаўнічую культуру беларускіх гарадоў і мястэчак у XVI-XVII стст. З'яўляючыся асяродкамі грамадскай актыўнасці, між тым, духоўнае і культурнае жыццё ў сярэднявечных гарадах развівалася пераважна ў канфесіянальных рамках [6, с. 94].

Існаванне беларускіх земляў у складзе поліэтнічных дзяржаўных утварэнняў – Вялікага княства Літоўскага, а пазней і Рэчы Паспалітай, знаходжанне на перакрыжаванні шляхоў заходняй цывілізацыі і

візантыйскага свету абумовілі складанасць і стракатасць канфесійных адносінаў на працягу XVI – XVIII стст., неадназначны ўплыў на культурныя працэсы, якія адбываліся ў беларускім грамадстве.

Царква ў феадальным грамадстве заўсёды выконвала шэраг важных функцый – акрамя непасрэдна ідэалагічных, нацыянальна-кансалідацыйных, царква займалася распаўсюджваннем культурных ведаў. Адпаведна, справай адукацыі і асветы на Беларусі займаліся установы, якія належалі да розных канфесій.

Асветніцкая і дабрачынная дзейнасць праваслаўных канцэнтравалася вакол брацтваў – рэлігійных арганізацый насельніцтва. Брацтвы ставілі рэлігійныя і дабрачынныя мэты. Пад іх патранатам дзейнічалі ў асноўным пачатковыя школы, выкладанне ў якіх вялося на царкоўнаславянскай ці старабеларускай мове, друкарні, шпіталі. Брацтвы былі важным кампанентам сацыяльнай актыўнасці гараджан – іх дзейнасць накладвала адбітак на вытворчыя адносіны, палітычную дзейнасць праваслаўнай грамады [5, с. 37].

У справе арганізацыі асветы небяспечным канкурэнтам праваслаўных брацтваў былі каталіцкія ўстановы. Ужо ў другой палове XVI ст. ствараюцца езуіцкія калегіі ў Вільні, Нясвіжы, Полацку. У 1579 г. пачынае дзейнічаць Віленская езуіцкая акадэмія – першая вышэйшая навучальная ўстанова ў межах Вялікага княства Літоўскага. Да 70-х гг. XVIII ст. толькі на тэрыторыі ВКЛ езуіты стварылі каля 90 пунктаў (рэзідэнцыі, місіі, калегіі), якія на Беларусі дзейнічалі ў Нясвіжы, Пінску, Берасці, Вільні, Мінску, Навагрудку, Віцебску і інш. Значная роля ў прапагандзе езуітаў адводзілася дзейнасці сяброў ордэна ў прытулках, шпіталях і турмах.

Дзейнасць езуітаў мела неадназначныя вынікі для культуры Беларусі. З аднаго боку, здольныя дзеці з розных сацыяльных груп мелі магчымасць атрымаць гуманітарную адукацыю еўрапейскага ўзроўню, з другога боку, інтэлектуальная эліта ўсё больш губляла сувязь з нацыянальнай глебай.

Цікавасць уяўляе дзейнасць уніятаў, як рэфарматараў, што ўпершыню паспрабавалі спалучыць рымскія і праваслаўна-візантыйскія традыцыі. Найбольшую актыўнасць уніяты праяўлялі ў справе арганізацыі асветы і кнігадрукавання [5, с. 40]. Сістэма адукацыі уніятаў (напрыклад, базыльян) уключала ўсе тыпы навучальных устаноў: духоўныя вучылішчы, манаскія і епархіяльныя, а таксама грамадскія



калегіі і школы, прыходскія школы, якія выхоўвалі моладзь на аснове хрысціянскага вопыту як Усходу так і Захаду.

У XVI ст. разам з уплывамі Рэнесансу беларускія землі закрануў такі агульнаеўрапейскі працэс, як Рэфармацыя. У межах рэфармацыйнага руху бяруць свой пачатак многія формы свецкай гарадской культуры: у прыватнасці, літаратурнага і мастацкага *мецэнацтва* [3, с. 97]. Трэба адзначыць вялікую ролю рэфармацыйнага мецэнацтва ў справе пашырэння асветы сярод розных сацыяльных слаёў насельніцтва, арганізацыі сталага кнігадрукавання, у пераўтварэнні шэрагу мястэчак і прыватнаўласніцкіх беларускіх гарадоў у культурныя цэнтры [2, с. 445]. Да таго ж пры шэрагу пратэстанцкіх збораў дзейнічалі пачатковыя школы, гімназіі, дзе маглі вучыцца прадстаўнікі розных саслоўяў (напрыклад, у Ракаве). Дэмакратычная этыка рэфармацыі накіроўвала дзеянні яе прадстаўнікоў на прапаганду ідэй адукаванасці, ведаў, адкрытасці да ўсяго новага [6, с.130].

Такім чынам, нягледзячы на тое што распаўсюджваннем ведаў займаліся пераважна канфесійныя ўстановы, культурнае значэнне гэтай дзейнасці знаходзілася па-за канфесійнымі рамкамі. Разам з ведамі гараджанін засвойваў пэўную сістэму каштоўнасцей, светапогляд, што фармаваліся ў межах адукацыйных устаноў розных канфесій.

Поліканфесійнасць стварала стракатасць ментальнага, этычнага слоя гарадской культуры. Напрыклад, актавыя запісы магістратаў беларускіх гарадоў фіксуюць праявы тыповых рысаў пратэстанцкіх гарадскіх супольнасцей: культ добрасумленнай працы, ашчаднасці, сацыяльнага прэстыжу, грамадскай актыўнасці [10, с. 250]. Сустракаюцца і запісы аб справах па чараўніцтву, ведаўству, што адлюстроўвае пэўныя забабоны менталітэту тагачаснага мяшчанства [4, с. 267]. Поліканфесійнасць (а пазней і поліэтнічнасць), якая асабліва ўзмацнілася з другой паловы XVII ст., вяла да стракатасці паўсядзённых стасункаў паміж гараджанамі.

У айчынай гістарыяграфіі замацаваўся погляд на талерантныя адносіны паміж прадстаўнікамі розных канфесій. Між тым, варта пазбягаць ідэалізацыі гэтага працэсу: захаваліся, напрыклад, дакументы пра канфлікты паміж рознымі цэхамі ці нават унутры аднаго цэха па рэлігійнай прыкмеце; існавала сістэма прадстаўніцтва ў гарадскім магістраце ад праваслаўнай і каталіцкай абшчын. У сувязі з наплывам яўрэйскага насельніцтва расла напружанасць у адносінах апошніх з

мясцовым насельніцтвам, у дакументах сустракаюцца звесткі пра забойствы на рэлігійнай глебе [9, с. 250]. Аднак трэба уважліва вывучаць падобныя звесткі і дакладна адрозніваць сітуацыі, дзе прычынай канфлікта з'яўлялася рэлігійная прыналежнасць, а дзе – сацыяльная канкурэнцыя.

Шматканфесійнасць уплывала і на прасторавае асяроддзе беларускіх гарадоў. Для беларускіх гарадоў эпохі позняга рэнесансу характэрным з'яўлялася існаванне значных тэрытарыяльных комплексаў з монаканфесіянальнай забудовай. Склаліся комплексы забудоў, арганізацыйна належачых пэўнай канфесіі – «праваслаўныя», «іудаісцкія», «каталіцкія», нават «уніяцкія» горадабудаўнічыя кампаненты [8, с. 17]. Рэфармацыя прынесла новы тып культавага будынку – кальвінісцкі збор. Езуіты імкнуліся размяшчаць свае калегіі і касцёлы ў цэнтрах гарадоў, ствараючы шыкоўныя барочныя комплексы [3, с. 97]. Падобная планіровачная структура склалася ў Гародні ў XVI – XVII стст., калі ў раёне рынкавай плошчы склаліся архітэктурныя комплексы каталіцкіх ордэнаў з Фарным, Бернардзінскім касцёлам. На тэрыторыі старажытнага пасада існаваў уніяцкі манастырскі комплекс з царквой Раства Багародзіцы ў якасці архітэктурнай дамінанты [1, с. 217]. Безумоўна, падобная структура магла аформіцца ў межах поліканфесійнай абшчыны беларускіх гарадоў. У гэтым – значная асаблівасць гарадской культуры ВКЛ.

Такім чынам, нягледзячы на значнасць уздзеяння канфесійных установ на культурнае жыццё ў беларускіх гарадах, трэба адзначыць рознасць і стракатасць форм гэтага ўздзеяння: арганізацыя асветы, кнігадрукавання, палемічнай публіцыстыкі; гуманізм і антыклерыкалізм Рэфармацыі, рэлігійная талерантнасць дазволіла пранікаць на Беларусь розным свецкім формам культуры (як матэрыяльнай, так і духоўнай), секулярызаваць культурную місію царквы, грамадскую думку, вяла да стварэння спецыфічна гарадскога асяроддзя, гарадской грамады, блізкай па каштоўнасцях, манеры паводзін, менталітэту да іншых бюргерскіх супольнасцей Еўропы. Аднак інтэлектуальная эліта, адукаваная частка насельніцтва выхоўвалася ў розных, часам процілеглых ментальных праекцыях, засвойвала розныя каштоўнасці, што, з аднаго боку, вяло да ўзбагачэння зместу гарадской культуры, з другога, – падзяляла, раз'ядноўвала мяшчанства, вяла да страты грамадзянскага адзінства.

*Спіс крыніц і літаратуры*



1. Гардзееў, Ю. Магдэбургская Гародня / Ю.Гардзееў. – Гародня – Wrocław, 2008.
2. Иванова, Л.С. Меценацтво и Реформация В Белоруссии (вторая половина XVI – первая половина XVII вв.) / Л.С.Иванова // Наш радавод. – 1993. – Кн.4. Ч.2. – С. 442 – 447.
3. Клімуць, Л. Мецэнацтва і шляхецкі патранаж у Рэчы Паспалітай XVI – XVIII стст. і іх сацыяльнае значэнне / Л.Клімуць // Роднае слова. – 2003. – №11. – С. 97 – 98.
4. Марзалюк, І. Актавыя кнігі магілёўскага магістрата XVI – XVII ст. як крыніца па гісторыі ментальнасці беларускага мяшчанства/ І.Марзалюк // Castrum, urbis et bellum: зборнік навуковых прац. – Мінск, 2002. – С. 263 – 272.
5. Новицкая-Ежова, А. Орден базилиан и его культурно-просветительская деятельность на украинско-белорусско-литовских землях Речи Посполитой / А. Новицкая-Ежова // Славяноведение. – 1996. – №2. – С. 33 – 46.
6. Парашкоў, С.А. Гісторыя культуры Беларусі / С.А.Парашкоў.– Мінск: Беларуская навука, 2004.
7. Трусаў, А. Агульныя тэндэнцыі ў гарадской матэрыяльнай культуры Вялікага княства Літоўскага / А.Трусаў // Спадчына. – 1994. – №6. – С. 11 – 12.
8. Чантурия, Ю.В. Развитие градостроительства Беларуси (вторая половина XVI – первая половина XIX вв.): автореф. дис. … д-ра архитектуры / Ю.В.Чантурия. – Минск, 2003.
9. Археографический сборник документов, относящийся к истории Северо-Западной Руси. – Т.IV. – Вильна, 1867. – С. 250 – 252.
10. Археографический сборник документов, относящийся к истории Северо-Западной Руси. – Т. VI. – Вильна, 1869. – С. 214 – 216.

**Барташэвіч Андрэй Юр'евіч** – магістр гістарычных навук, аспірант кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

# ХРЫСЦІЯНСКІЯ ЦЭРКВЫ
# Ў КАНЦЫ XVIII – ПАЧАТКУ XX ст.

УДК [947.6 + 272 – 9 – 725: 37 (476 +474.5)]

**Р.У. Зянюк** (Мінск)

## СТРУКТУРА ПАДРЫХТОЎКІ РЫМСКА-КАТАЛІЦКАГА ДУХАВЕНСТВА НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ГУБЕРНЯЎ У КАНЦЫ XVIII – XIX ст.

*В статье исследуется система подготовки католического духовенства, которая включала семинарии, академии и внутриорденские учебные заведения.*

Роля каталіцкай царквы, яе аўтарытэт і ўплывовасць ў грамадстве беларуска-літоўскіх губерняў канца XVIII – XIX ст. у значнай меры вызначалася ўзроўнем падрыхтоўкі яе духавенства.

Каталіцкае духавенства традыцыйна падзялялася на манаскае і дыяцэзіяльнае, што таксама праяўлялася і ў розных спосабах і варунках іх падрыхтоўкі. Агульныя прадпісанні, якія датычылі падрыхтоўкі ўсяго духавенства і абавязвалі прадстаўнікоў белага і чорнага духавенства ва ўсім свеце, былі выпрацаваны каталіцкім касцёлам на Трыдэнцкім саборы (1545 – 1563 гг.) і ўжываліся да II Ватыканскага сабора.

Згодна з кананічнымі нормамі, падрыхтоўка манахаў праходзіла ў некалькі этапаў. Кожным ордэнам вызначалася працягласць кожнага з іх і змест. Найбольш развітай і разгалінаванай была структура навучання ў ордэне прапаведнікаў. Кожная асобная тэрытарыяльна-адміністрацыйная ордэнская адзінка, якой з'яўлялася правінцыя, або, у выпадку непасрэдна манаскіх ордэнаў (бенедыктынцы, цыстэрсы, картузы і г.д) – кожны асобны кляштар, павінны былі арганізаваць навучанне і выхаванне сваіх членаў. На практыцы гэта азначала вызначэнне асобнага кляштара на месца для размяшчэння навіцыяту і асобнага кляштара – для семінарыі. Часта здаралася, што розныя этапы навучання (рыторыка, граматыка, філасофія, маральная і дагматычная тэалогія) адбываліся ў розных кляштарах.

Першым абавязковым этапам у фармацыі манаскага духавенства быў навіцыят (у кангрэгацыі місіянераў Вінсэнта дэ Поль гэты час меў назву seminarium internum [4, s. 458]). Навіцыят – гэта перыяд пробы, падчас якога кандыдат прыглядаўся да жыцця ў ордэне, а таксама калі члены манаскага ордэна вызначалі, ці можа гэты чалавек быць прыняты.



Узрост кандыдыта кананічным правам дакладна не вызначаўся, меліся толькі прадпісанні аб тым, каб уступаючы разумеў сэнс навіцыяту. Паколькі ўзрост прынясення манаскіх зарокаў вызначаўся мінімумам у 16 год, то мінімальным ўзростам, неабходным для ўступлення ў навіцыят, было поўных 15 год кандыдата. У прыняцці ў навіцыят ордэны, згодна з кананічным правам, былі абсалютна незалежныя ад біскупаў. Паводле агульнакасцельнага права, час навіцыяту павінен працягвацца не меньш за год. У іншых выпадках складанне шлюбаў (зарокаў) пасля яго заканчэння не з'яўляецца сапраўдным [1, s. 27]. Таму асноўная колькасць ордэнаў у сваіх канстытуцыях вызначала працягласць навіцыяту менавіта гэтым тэрмінам, некаторыя ж (езуіты, піяры, місіянеры) вырашалі неабходным прадоўжыць час навіцыяту да двух гадоў. Асноўным зместам навіцыяту з'яўлялася духоўная падрыхтоўка кандыдата да будучага жыцця ў ордэне. Але ордэны, якія мелі двухгадовы навіцыят, дадавалі да выхаваўчых мерапрыемстваў і навуку. Так, у акце візітацыі любешаўскіх піяраў пазначана наступнае: «Апісанне навук для навіцыяту: У першы год навіцыі пачынаюць свае практыкаванні ў навуках, паглыбляючы веды аб рэлігіі і правілах, у распазнанні свайго паклікання да кангрэгацыі, у пазнанні стану духоўнага, абавязкаў, адвыкаючы ад свецкага жыцця. Вывучаецца граматыка, рыторыка духоўная» [6]. Гэтыя ж навукі працягвалі вывучацца і на другім годзе навіцыяту, да іх дадавалася яшчэ і онталогія. На беларускіх землях навіцыяты размяшчаліся ў наступных кляштарах: дамініканцаў у Гродна, Забялах, Вільні; францысканцаў у Івянцы і Пінску; бернардзінцаў у Друі і Віцебску, езуітаў ў Полацку, піяраў у Любешаве, кармелітаў босых ў Глыбокім, Вільні; місіянераў у Смілавічах, Вільні; картэзіянцаў – у Бярозе; і г.д. Навіцыят заканчваўся складаннем зарокаў – беднасці, паслухмянасці і чыстасці.

Другім этапам у падрыхтоўцы манаскага духавенства, які працягваўся 5 – 6 год, з'яўляліся студыі манаскія, або арганізаваныя кожным ордэнам семінарыі для сваіх членаў. Час навучання тут падзяляўся на некалькі больш дробных перыядаў: студыі рыторыкі, граматыкі, філасофіі і тэалогіі. Студыі рыторыкі і граматыкі з'яўляліся базавымі. Стваралiся яны для таго, каб кандыдаты, якія ўступалі ў ордэн, і мелі розны ўзровень падрыхтоўкі, маглі падыйсці да наступнага этапу – вывучэння філасофіі – з больш-меньш аднолькавым узроўнем ведаў. Арганізоўваліся яны кожным ордэнам па-свойму: як асобныя студыі (сустракаліся ў бернардзінцаў і рэфарматаў, чаравічковых кармелітаў); як этап іншых студыяў (дамініканцы літоўскай правінцыі, канвентуальныя францысканцы рускай правінцыі і місіянеры св. Вінсэнта дэ Поль) [1, s. 51]. Студыі філасофіі разлічваліся на 3 гады, але часта іх скарачалі да двух гадоў навучання. На занятках вывучалі

пераважна працы Арыстоцеля ў інтэрпрэтацыі Тамаша Аквінскага (дамініканцы) або Дунса Скота (францысканцы). У гэты час таксама вывучалася логіка і метафізіка. Навучанне тэалогіі таксама падзялялася на некалькі этапаў: маральнай і дагматычнай тэалогіі, паралельна з вывучэннем тэалогіі вывучалася Біблія. На вывучэнне ўсяго курса тэалогіі вызначалася 3 – 4 гады. Дамініканцы мелі свае студыі ў Гродна (генеральныя студыі), Дунілавічах (філасофія), Дзярэчыне (маральная тэалогія), Забялах (фармальныя студыі), францысканцы – ў Драгічыне, Гальшанах (рыторыка), Пінску (філасофія), Удзеле (філасофія); бернардзінцы – ў Слоніме (філасофія), Нясвіжы (дагматычная тэалогія), і г.д. [8].

У працэсе падрыхтоўкі кандыдатам (як з белага, так і з чорнага духавенства) удзялялася некалькі прамежкавых пасвечанняў, якія паступова набліжалі іх да выніковай мэты. Пасвечанні гэтыя традыцыйна падзяляліся на ніжэйшыя і вышэйшыя. Да ніжэйшых належалі астарыят, лектарат, экзарцыст, акалітат, да вышэйшых – субдыяканат, дыяканат і прэзбітэрат, а таксама біскупскія пасвечанні. Некаторыя з ніжэйшых пасвечанняў ў XIX ст. ужо не мелі першапачатковага значэння, але традыцыйна ўдзяляліся, як, напрыклад, астарыят і экзарцыст.

Пасвечанні лектарату ў XIX ст. удзяляліся клерыкам, якія ад часу іх атрымання мелі права чытаць і захоўваць Біблію. Акалітат – гэта апошняя ступень з ліку «ніжэйшых» пасвечанняў. У XIX ст. абавязкамі акалітаў было запальваць і насіць свечкі (падчас працэсій), а таксама паднясенне да алтара віна і вады, пры неабходнасці – дапамога субдыяканам і дыяканам.

Пасвечанні субдыяканату давалі права клерыку, які іх атрымаў, выконваць пэўныя літургічныя паслугі: пераважна гэта была дапамога дыяканам падчас урачыстых набажэнстваў: абмываць палкі і карпаралы, падрыхтоўваць келіх і патэну да імшы, урачыста спяваць чытанні. Узрост клерыка, неабходны для атрымання пасвечанняў субдыяканату, вызначаўся 21 гадамі. У XIX ст. лічылася, што пасвечанні субдыяканату належаць да тзв. «вышэйшых». Пасвечанні субдыяканату меў права ўдзяляць біскуп, а з дазволу папы Рымскага – і звычайны святар. Пасвечанні дыяканату – гэта пераходны этап да пасвечанняў прэзбітэрату. Традыцыйныя важнейшыя абавязкі дыяканаў ў XIX ст. ужо належалі святарам. Таму абавязкі дыяканаў у азначаны перыяд зводзіліся да хросту, удзялення камуніі, прапаведавання з дазволу біскупа, адпявання нябожчыкаў. Дыяканскія пасвечанні ўжо абавязвалі да захавання цэлібату. У XIX ст. Каталіцкі касцёл з цяжкасцю вызваляў ад дыяканскіх пасвечанняў [5, s. 216 – 217].



Дыяцэзіяльнае духавенства сваю падрыхтоўку атрымлівала ў дыяцэзіяльных семінарыях. Выхадцы з беларуска-літоўскіх губерняў у канцы XVIII – XIX ст. маглі атрымаць адукацыю ў папскім алумнаце, шасці семінарыях: ніжэйшай Смілавіцкай (існавала у першай чвэрці XIX ст.), Брэсцкай (да 1842 г.), Беластоцкай (1815 – 1842), Мінскай (1798 (1803) – 1869 гг.), Магілёўскай (1788 – 1843 гг.), Краслаўльскай (1757 – 1843), Ілукштайскай (1787 – 1842 гг.), Варнянскай (у 1865 г. перанесеная ў Коўна), Віленскай, у Калегіі распаўсюджвання веры ў Рыме і ў духоўных акадэміях: у Полацку (1812 – 1820), у Вільні (1832 – 1843) і ў Пецярбургу (ад 1843 г.).

Структура навучання ў семінарыях у агульных рысах нагадвала ордэнскую: клерыкі вывучалі перадусім два блокі дысцыплін: філасофскія і тэалагічныя. Працягласць навучання ў семінарыі складала 3 – 4 гады, падчас якіх клерыкі атрымлівалі веды па філасофіі, тэалогіі, кананічнаму праву, літургіцы, справаванні сакрамэнтаў, мясцовым і замежным мовам. З 1843 г. абавязковымі былі вывучэнне рускай мовы і гісторыі Расіі. Паступаючы ў семінарыю павінен быў мець прынамсі 18 год, закончыць як мінімум 4 класы школы, прадставіць рэкамендацыю ад парафіяльнага святара. Працягвалася гэтая падрыхтоўка ад 3 да 7 год. Распарадак дня быў строга рэгламентаваны. Раніцай уставалі каля 5, пасля пабудкі ад 5.30 да 6.00 – медытацыя, пасля яе, а 7.00 – імша. Заняткі працягваліся ад 8.30 да 17.45 з перапынкам ад 11.30 да 15.00 на абед і адпачынак. Пасля заняткаў прадугледжваўся час на вывучэнне духоўнай літаратуры. Дзень завяршаўся вячэрай і супольнай малітвай [11, с. 231 – 232].

Пасля 1869 г. падрыхтоўка каталіцкага духавенства ажыццяўлялася ў Вільні, Коўна і ў Пецярбургу.

Вышэйшымі духоўнымі навучальнымі ўстановамі з'яўляліся акадэміі. Акадэміі мелі статус міждыяцэзіяльных – адукацыю ў іх атрымлівалі прадстаўнікі з усіх дыяцэзій імперыі, на кожную з якіх выдзялялася пэўная колькасць месцаў. Менавіта выпускнікі духоўных акадэміяў пасля заканчэння навучання займалі кіруючыя пасады ў каталіцкім касцёле ў Расійскай імперыі. З канца XVIII ст. падрыхтоўка вышэйшага каталіцкага духавенства адбывалася (з 1796 г.) ў Галоўнай Віленскай школе, потым ў Галоўнай семінарыі пры Віленскім універсітэце, а пасля яго скасавання ў Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі (з 1832 па 1842 г.), якая затым была перанесена ў Пецярбург. Праграма акадэміі ўключала ў сябе курсы лекцый па Бібліі, дагматыцы, гамілетыцы, гісторыі Расіі, а таксама навучанне рускай, лацінскай, грэцкай, французскай і нямецкай мовам [12, с. 4].

Асаблівасцю існавання ўсіх формаў падрыхтоўкі каталіцкага духавенства на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў у канцы XVIII –

XIX ст. (як і на тэрыторыі Расійскай імперыі ўвогуле) з'яўлялася тое, што свецкія ўлады імкнуліся кантраляваць працэс падрыхтоўкі. Кандыдат, які хацеў быць прынятым у ордэн або ў семінарыю (што акрэслівалася як «принятие в духовное сословие»), павінен быў мець дазвол ад свецкіх уладаў, і толькі маючы гэты дазвол, можна было прасіць ордэнскія ўлады аб прыняцці. Свецкімі ўладамі вызначаўся і ўзрост, неабходны для прыняцця пасвечанняў, а таксама час падрыхтоўкі (не меньш за 3 гады) [10, с. 200]. Але фактычная незалежнасць ордэнскай адукацыі нават ад мясцовых біскупаў была, бадай што, адной з прычынаў, якая паўплывала на рашэнне забараніць існаванне манаскіх студый і спыніць прыём кандыдатаў (у 1843 г.).

Дыяцэзіяльныя семінарыі і акадэміі таксама знаходзіліся пад кантролем дзяржавы. Можна сказаць, што кантроль над імі быў значна большым, чым кантроль над ордэнскімі навучальнымі установамі. Калі кандыдатам і ў першыя, і ў другія неабходна было мець дазвол ад свецкіх уладаў, то ў семінарыях свецкія ўлады кантралявалі і навучальны працэс, вызначаючы неабходныя, на іх думку, курсы, а таксама ўплываючы на выбар кандыдатаў на пасады выкладчыкаў. Так, у Высачайша зацверджаным 19 лістапада 1843 г. уставе для рымска-каталіцкіх духоўных семінарыяў было вызначана, што «все науки богословския преподаются на латинском, а прочия на русском», а ў параграфе 28 вызначаліся прадметы, якім павінны былі навучацца клерыкі [9, л. 79 – 87].

Структура падрыхтоўкі каталіцкага духавенства (як белага, так і чорнага) на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў у канцы XVIII – першай палове XIX ст. была прадстаўлена даволі шырока: семінарыямі, акадэміямі і ўнутрыордэнскімі навучальнымі установамі. Становішча рэзка змянілася ў другой палове XIX ст., калі на гэтай тэрыторыі перасталі існаваць навіцыяты і манаскія студыі і засталася толькі дзве каталіцкія семінарыі і акадэмія ў Пецярбургу.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Flaga, J. Formacja i kształcenie duchowieństwa zakonnego w Rzeczypospolitej w XVII i XVIII wieku / J. Flaga. – Lublin: Redakcja wydawnictw Katolickiego Uniwersitetu Lubelskiego, 1998. – 365 s
2. Kałowski, J. Wiek wymagany przy przyjęciu do zakonu – nowicyjatu (studium prawno-historyczne) / J. Kałowski // Prawo kanoniczne. – Warszawa. – 2001. – № 3 – 4. – S. 2 – 42.
3. Makarczyk, J. Kustodia Grodzieńska zakonu Braci Mniejszych konwentualnych w latach 1687 – 1832 / J. Makarczyk. – Гродна: Гродзенская дыяцэзія Рымска-каталіцкага касцёла ў Рэспубліцы Беларусь, 2006. – 218 с.
4. Misjonarze św. Winsentego a Paulo w Polsce. – T 1: Dzieje. Red. tomu: S Rospond. – Kraków: Instytut wydawniczy ks. Misjonarzy „Nasza przeszłość» , 2001. – 550 s.
5. Podręczna Encyklopedya Kościelna: w 44 t. / red. Z. Chełmicki. – Warszawa: Wyd. Bibl. Dzieł Chrześcijańskich, 1907 – 1914. – T. 9 – 10: D – E / red. Z. Chełmicki. – 1906. – 414 s.





6. Świętochowski, R. Szkolnictwo teologiczne dominikanów / R. Świętochowski. – Kraków, 1977. – 120 s.
7. Визит Любешовского монастыря пиаров Пинского уезда Минской губ. // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (г. Мінск). – Ф. 1781. – Воп. 27. – Спр. 264.
8. Ганчарук, І. Каталіцкія манаскія ордэны на Беларусі ў 1770-х – 1820-х гг. (спецыфіка духоўнасці і фармацыйныя дамы) / І. Ганчарук // Гістарычны альманах. – Гародня, 2003. – Т. 9. – С. 185 – 1 96.
9. Дело о починке Могилёвской семинарии // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (г. Мінск). – Ф. 1781. – Воп. 2. – Спр. 2650.
10. Полное собрание законов Российской империи. [Второе собрание]. – СПб.: Тип. Второго отд.собств. е.и.в.канцелярии, 1843. – Т. IV.
11. Попов, М. Могилёвская римско-католическая духовная семинария (1783 – 1842). Исторический очерк / М. Попов // Молодёжь в науке – 2007. Приложение к журналу «Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі». В 4 ч. Ч. 2. – Минск, 2008. – С. 231 – 234.
12. Радван, М. Римско-католические духовные учебные заведения Санкт-Петербурга в 19 в. (1842 – 1917 гг.) / М. Радван. – СПб., 1995 – 25 с.


**Зянюк Раіса Уладзіміраўна** – аспірант, Інстытут гісторыі НАН Беларусі.

УДК 94 (476)

**А.Р. Радзюк** (Гродна)

## УДЗЕЛ ДУХАВЕНСТВА Ў НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧЫМ РУХУ 30-х гг. XIX ст. НА БЕЛАРУСІ

1830-я гг. – адзін з найбольш значных этапаў нацыянальна-вызваленчага руху на землях Беларусі ў XIX ст. Акрамя паўстання 1830–1831 г., яго складаемымі часткамі былі так званая экспедыцыя Ю. Заліўскага і тайныя, канспіратыўныя арганізацыі, сярод якіх вылучаецца таварыства, утваранае Ш. Канарскім. Духавенства, у першую чаргу каталіцкае, у рознай ступені і ў розных формах прымала актыўны ўдзел у гэтым руху.

Даследаванні сацыяльнага складу ўдзельнікаў паўстання 1831 г. на Беларусі паказваюць, што каталіцкае, праваслаўнае і уніяцкае духавенства складала 5,4 % ад агульнай колькасці паўстанцаў [7, с. 127]. Гэта шостая па колькасці сацыяльная група, але яе роля ў разгортванні нацыянальна-вызваленчай барацьбы была куды больш значнай за іншыя. Аналіз крыніц і літаратуры дазваляе вылучыць наступныя асноўныя формы ўдзелу духавенства ў паўстанні 1831 г.

Па-першае, белае і чорнае духавенства актыўна садзейнічала распаўсюджванню ўзброенай барацьбы на тэрыторыі Беларусі праз агітацыю. У снежні 1830 г., калі паўстанне на ўсход ад Нёмана яшчэ не распачалося, у Гродзенскай губерні па даносу быў арыштаваны святар

Прывальскага прыхода С. Вайткевіч, які «стращал прихожан», і аддадзены пад ваенна-палявы суд [14, арк. 1, 8]. Яшчэ больш актывізавалася духавенства ў плане агітацыі і прапаганды пасля пачаткау паўстання ў Літве і Беларусі. Як сведчаць данясенні расійскіх улад, ксяндзы даволі часта з амбона звярталіся да сваіх прыхаджан з заклікам падтрымаць вызваленчую барацьбу, зачытвалі паўстанцкія адозвы, служылі ўрачыстыя імшы і г.д. У падобных «супрацьпраўных дзеяннях» царскімі ўладамі былі выкрыты дзесяткі ксяндзоў у розных рэгіёнах Беларусі, ахопленых паўстаннем. А колькі іх засталіся невядомымі?

У адрозненне ад белага чорнае духавенства не мела такой магчымасці ўплываць на прыхаджан, але і манахі прымалі ўдзелу ў распаўсюджванні полымя ўзброенай барацьбы. Чорнае духавенства таксама заклікала народ на барацьбу, асабліва актыўна – падчас набліжэння інсургентаў або заняцця імі гарадоў і вёсак. У Навагрудку пасля таго, як горад апынуўся ў руках інсургентаў Ю. Кашыца, манахі дамініканскага, баніфрацкага і базыльянскага кляштараў актыўна і небезвынікова агітавалі жыхароў далучацца да паўстання. Улады западозрвалі, што без іх удзелу не абышлося ў справе ўступлення ў паўстанцкі атрад вучняў (14–18 гадоў) мясцовага вучылішча. Найбольш наракалі на ксяндза фарнага касцёла К. Длускага, які «з асаблівым запалам нагаворваў народ да паўстання» [12, арк. 152, 230, 232]. У Лідзе падчас знаходжання там атрада Д. Хлапоўскага актыўнічалі манахі-піяры і кармеліты. Падобнае мела месца ў Ашмянах, Лужках, Маладзечне, Радашковічах, Глыбокім, Вілейцы, Бярозе-Картузскай, Драгічыне (Кобрынскі ўезд) і інш. населеных пунктах. Не выклікае сумнення, што дзейнасць духавенства садзейнічала павелічэнню паўстанцкіх шэрагаў.

Па-другое, духавенства актыўна прымала ўдзел у падрыхтоўцы выступленняў. У Ашмяны ў якасці эмісара для ўзняцця паўстання ў Гродзенскай губерні быў накіраваны ксёндз Л. Ясінскі. У Лепельскі ўезд з той жа мэтай быў вызначаны ксёндз піярскага кляштара Дзісненскага ўезда Ст. Заленскі. У падрыхтоўцы паўстання ў Белавежскай пушчы актыўны ўдзел прымалі ўніяцкі святар А. Клышынскі і каталіцкі ксёндз Пануфнік (абодва з Шарашова). Акрамя таго, Пануфнік абяцаў «узбунтаваць» (далучыць да ўзброенай барацьбы) Сялецкую парафію. У Радашковічах ксёндз С. Вайткевіч і ксёндз В. Завадскі ў Свянцанах выступілі ў ліку галоўных ініцыятараў узброенага выступлення [12; 1; 2; 8].

Нягледзячы на тое, што кананічна духавенства падпарадкоўвалася Апостальскай сталіцы, якая забараняла ўдзел у рэвалюцыях, на асуджэнне паўстання главой рымска-каталіцкай калегіі ў Санкт-



Пецербурзе С.М. Гедройцам і мітрапалітам уніяцкай царквы І.Булгакам, ніжэйшы клір на землях Беларусі актыўна далучаўся да ўзброенай барацьбы. Найбольш яскравым прыкладам з'яўляецца дзейнасць манахаў з Бярозы-Картузскай Пружанскага ўезда. Яны арганізавалі асобны атрад на чале з манахам Ламбертам Плюшчэўскім і намерваліся злучыцца з паўстанцамі Белавежскай пушчы. Але злучэнню перашкодзіла царскае войска. Манахі францішканскага кляштару ў Шэйбакполі абвінавачваліся ў нападзе на пошту ў Ваўкавыскім уездзе [13, арк. 55]. Ксяндзы былі ў складзе большасці вядомых паўстанскіх атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі. Яны пераважна выконвалі функцыі капеланаў. Ксяндза А. Лога – капелана ў корпусе Д. Хлапоўскага, і ўлады, і самі паўстанцы лічылі адной з ключавых фігур, якая натхняла на ўзброеную антыўрадавую барацьбу [3; 9; 12, арк. 235]. Ксёнд Л. Ясінскі з касцельнай харугвай у руках павёў жыхароў Ашмян на рускі гарнізон, а пасля ўдзельнічаў у сутычках і бітвах пад Вільна, Вілейкай, Глыбокім і Кушкарышкамі. У некаторых мясцовасцях духавенства ўваходзіла ў склад уездных паўстанцкіх камітэтаў. Акрамя таго служыцелі рэлігійнага культа прыводзілі інсургентаў да прысягі, назапашвалі, выраблялі і дастаўлялі зброю, ахвяравалі грашовыя сродкі, давалі прытулак паўстанцам, урачыста віталі іх, служылі святочныя службы, пастаўлялі апалчэнцаў і г.д. Усё гэта дазваляе зрабіць выснову, што каталіцкае духавенства з'яўлялася адным з асноўных рухаючых элементаў паўстання 1831 г. на землях Беларусі. Каталіцкі клір Беларусі і Літвы больш актыўна падтрымаў і ўдзельнічаў у паўстанні, чым іх «калегі» з тэрыторыі Каралеўства Польскага [10; 4].

Белае уніяцкае духавенства, абцяжаранае сем'ямі, гаспадарчай дзейнасцю, падтрымлівала паўстанне не так актыўна. Больш актыўную пазіцыю займала чорнае духавенства (базыльяне), што дало падставу ўладам пасля задушэння паўстання распачаць масавае закрыццё кляштараў гэтага ордэна.

«Экспедыцыя Заліўскага» ўяўляла сабой спробу ўзнаўлення барацьбы за незалежнасць Рэчы Паспалітай супольна з агульнаеўрапейскім рэвалюцыйным рухам. Ю. Заліўскі – адзін з арганізатараў паўстання на землях былога ВКЛ. У эміграцыі ён стварыў арганізацыю «Помста Народа» («Zemsta Ludu»). Яна згуртавала пэўную колькасць эмігрантаў, якія згадзіліся выехаць на радзіму ў якасці эмісараў з мэтай аднаўлення ўзброенай барацьбы на тэрыторыі Каралеўства Польскага і заходніх губерняў Расійскай імперыі. Далёка не ўсім удалося дабрацца да месца прызначэння і распачаць актыўныя дзеянні. На тэрыторыі Беларусі ў 1833 г. гэта паспеў зрабіць толькі М. Валовіч. Астатнія з прыбыўшых на месца эмісараў – М. Шыманскі, А. Пішчатоўскі, Ю. Гардынскі толькі пачалі наладжванне канспіратыўных

сувязяў. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што за выключэннем М. Валовіча, астатнія кіраўнікі ў сваёй эмісарскай дзейнасці ў асноўным абапіраліся на мясцовае духавенства. Менавіта каталіцкія ксяндзы і манахі давалі рэкамендацыі адносна надзейных людзей, прадастаўлялі сховішча, перадавалі тайную пошту, нагаворвалі мясцовую шляхту да выступлення. Паводле ўспамінаў тагачаснага гродзенскага губернатара М. Мураўёва, па справе эмісараў у губерні было арыштавана каля 200 асоб [11, с. 18]. Архіўныя дакументы сведчаць, што колькасць асоб духоўнага звання, прыцягнутых да следства, перавышае 10 %. У якасці пакарання большасць іх была пераведзена ў іншыя епархіі. 10 асоб (ксяндзы І. Нецюнскі, Я. Сянкевіч, А. Шымборскі, В. Багінскі, Ф. Зялінскі, А. Садкоўскі, С. Шышко, К. Важынскі, Ф. Ляскоўскі, С. Гілеўскі) за падтрымку эмісараў саслалі ў Сібір або ў цэнтральныя губерні Расіі. Некаторыя з іх былі пазбаўлены шляхецкай годнасці і духоўнага сану. Таксама за «обнаруженное участие монахов злонамеренных замыслах преступников, возвратившихся из-за границы», у 1833 г. быў ліквідаваны гродзенскі дамініканскі кляштар [6, с. 346].

Канцом 1830-х гг. датуецца стварэнне і дзейнасць на землях былога ВКЛ канспіратыўнай арганізацыі «Садружнасць польскага народа», якую ўзначальваў Ш. Канарскі. З'яўляючыся прадстаўніком ліберальна-дэмакратычнай плыні нацыянальна-вызваленчага руху, выступаючы за рэфармаванне палітычнай і сацыяльнай сістэмы, Ш. Канарскі, тым не менш, быў вымушаны ў сваёй дзейнасці абапірацца на тыя ж самыя слаі грамадства, што і яго папярэднікі. Усведамляючы той факт, што духавенства мела найбольшы ўплыў на мясцовае насельніцтва, кіраўнік «Садружнасці» імкнуўся далучыць да яе дзейнасці каталіцкі і уніяцкі клір. Вядомы прозвішчы ксяндзоў Зялінскага, Грабоўскага, Яржына, Трынкоўскага, Шалевіча, Тарлецкага, уніяцкага святара Кузьміцкай плебаніі Ваўкавыскага ўезду Ярмаловіча (які чытаў селяніну атрыманыя ад Тарлецкага кнігі) і інш. [5, с. 39]. Гэтыя факты дазваляюць зрабіць выснову, што нягледзячы на выразную тэндэнцыю дэмакратызацыі нацыянальна-вызваленчага руху, духавенства (пераважна каталіцкае) працягвала адыгрываць у ім надзвычай важную ролю.

*Спіс крыніц і літаратуры*

1. Brežko, B. Odglosy powstania 1830–1831 roku na Witebszczyźnie i Inflantach / B. Brežko // Pamętnik V powszechnego zjazdu historykow polskich w Warszawe. – Lwów, 1930.
2. Mienicki, R. Powstanie w Radoszkowiczach w r. 1831 / R. Mienicki // Ateneum Wileńskie. – 1929. – Zeszyt 9.
3. Popowska, M. Rys dziejów Kartuzji Bereskej w latach 1648–1831 / M. Popowska. – Wilno, 1938.



4. Powstanie listopadowe 1830—1831. Dzieje wewnętrze. Militaria: Europa wobec powstania. Warszawa: PWN, 1990.
5. Zahorski, W. Szymon Konarski (życie i czyny) / W. Zahorski. – Wilno, 1907.
6. Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов: В 4 т. / Ин-т. ист. Акад. наук БССР. — Минск: Наука и техника, 1961—1990. — Т. 4: Социально-политическая история и культура Белоруссии первой половины XIX в. / Сост. В.В. Чепко, В.В. Шатилло. — 1979.
7. Гарбачова, В. Паўстанне 1830—1831 гадоў на Беларусі / В. Гарбачова. — Мінск: БДУ, 2001.
8. Гарбачова, В. Удзельнікі паўстання 1830—1831 гг. на Беларусі: біябібліяграфічны слоўнік / В. Гарбачова. — Мінск: БДУ, 2006.
9. Дамейка, І. Мае падарожжы / І. Дамейка. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002.
10. За вольнасць і веру. Ігнаці Клюкоўскі і яго ўспаміны аб падзеях паўстання 1830 – 1831 гадоў. – Мінск: Лімарыус, 2007.
11. Краткий очерк жизни и деятельности графа М. Н. Муравьёва. – Вильно, 1898.
12. НГАБ у Гродне. – Ф. 1. – Воп. 27. – Спр. 64.
13. НГАБ у Гродне. – Ф. 1. – Воп. 3. – Спр. 1239. – Арк. 55.
14. НГАБ у Гродне. – Ф.1. – Воп. 3. – Спр. 846.

**Радзюк Аляксандр Рыгоравіч** – кандыдат гістарычных навук, выкладчык, Гродзенскі дзяржаўны аграрны універсітэт.

УДК 2-9(476)

**А.К. Шидловский** (Гродно)

# МЕЖКОНФЕССИОНАЛЬНЫЕ ОТНОШЕНИЯ В БЕЛАРУСИ И ЛИТВЕ ВО ВРЕМЯ ВОССТАНИЯ 1863 – 1864 гг.

*В статье показано разное отношение к восстанию и постанцам 1863 – 1864 гг. католического и православного духовенства и населения Беларуси и Литвы и усложнившиеся в связи с этим межконфессиональные отношения. Приводятся факты расправ с духовенством.*

Более 9/10 повстанцев 1863–1864 гг. составляли католики. Из рапорта Могилёвской следственной комиссии А. П. Беклемишеву следует: «Главными же двигателями восстания по числу лиц, бывших в мятежных партиях, оказываются помещики, служившие в гражданской службе чиновники и воспитанники разных учебных заведений, вообще лица дворянского происхождения, римско-католического вероисповедания, из которых многие не принадлежали к числу постоянных жителей Могилевской губ [ернии], а прибыли из разных западных губерний, преимущественно Минской, Виленской и Витебской» [1, с. 485].

Большинство католических священников и монахов участвовало в восстании или ему сочувствовало. Они поддерживали в народе идеи национальной независимости, возрождения былой славы и могущества Речи Посполитой. Идеологическая подготовка восстания велась в костёлах Беларуси с начала 60-х годов и особенно активизировалась после событий 27 февраля 1861 года, когда в Варшаве от пуль царских солдат погибли люди. В костёлах Беларуси служили панихиды по убитым в Варшаве, а многие жители белорусских губерний носили траурную одежду. Народный протест нарастал во всех уголках Беларуси. Власти запрещали ношение символов траура и других «революционных» отличий. Но ожидаемых результатов эти меры не приносили. Особенно раздражало царские власти пение в костёлах польских патриотических гимнов, среди которых наиболее распространённым был «Boże coś Polskę…», 24 октября 1861 года минский губернатор в докладе на имя министра внутренних дел П. Валуева сообщал: «Чувствуется влияние последних варшавских событий. Пение в костёлах повторяется с бешеным фанатизмом до такой степени, что молодёжь потушила свет в минском костёле бенедиктинок, обесчестила пристава, который был там во время службы. Раскрыть виноватых невозможно» [2, с. 46].

Был сделан перевод гимнов на белорусский язык. Гимн «Божа, які Польшчу...» был напечатан латинкой и включал в себя куплеты, посвященные борьбе униатов Беларуси против перевода их в православие [6, с. 60]. Правительство предприняло соответствующие меры – за подозрение в участии в революционном движении и пение в костёлах патриотических гимнов ксендза могли освободить от службы или перевести в другой приход. Это приводило к тому, что гимны на время стихали, чтобы потом снова зазвучать с новой силой [2, с. 47].

В 1862 году католическое духовенство обратилось с воззванием к православному духовенству Беларуси и Литвы. «Необычная эпоха настаёт для нас, поляков, – говорилось в воззвании. – Восстаньте из грехов, опомнитесь, вы рождены вашими матерями-польками, которые вас выкормили, проводили беспокойные ночи над вами, чтобы воспитать из вас сыновей Отечества и надёжных пастырей народа. Но как же вы учите, какие гласите проповеди?.. За мизерные царские гроши вы продали душу «дьяволу». О, беда вам будет, беда!!! Не волнуйте сельских жителей, мы вам приказываем, потому что знаем о ваших злых и тайных намерениях; обходитесь с народом обдуманно, внушайте ему любовь к ближнему, так как месть поляков за святую веру страшная» [6, с. 60]. В дальнейшем в ходе восстания произошли жестокие расправы с православными священнослужителями, верными властям. Были убийства православных священников проявлением антицарских



настроений или же реакцией на расправы с католическими священнослужителями, пока не известно.

Первой жертвой стал викарный ксёндз Ишора (Лидский повет). Военный суд приговорил его к расстрелу за чтение манифеста национального правительства в январе 1863 года и призыв населения к восстанию. Казнь ксендза состоялась 22 мая в Вильно: «От доминиканского монастыря, который был преобразован в тюрьму, под конвоем его повели по улицам города на Лукишинскую площадь и здесь наказали всенародно, не снимая сана священнослужителя». А в ночь с 22 на 23 мая произошло первое убийство православного священника.

24 мая был расстрелян настоятель Виварского костёла (Лидский повет) ксёндз Земацки – тоже за чтение в костёле манифеста. Не помогли ему и свидетельские показания на судебном процессе, что ксендза заставили прочесть документ. Всего в Беларуси и Литве было казнено восемь католических священников (Ишора, Земацки, Дайлид, Гаргас, Фальковски, Нарейка, Рачковски, Мацкевич), причём каждый второй – только за чтение манифеста.

Как только стало ясно, что восстание терпит поражение, католическая иерархия обратилась к населению с призывом сложить оружие и подчиниться законному правительству. 13 сентября 1863 года Виленская римско-католическая консистория решила «сделать циркулярное распоряжение на польском языке по всей епархии о призвании народа к горячим молитвам с чистосердечным раскаянием и просьбой у Господа Бога положить конец этим несчастьям и о установлении мира…» [6, с. 62]. Это воззвание „Do rzymsko-katolickiego Duchowienstwa i Ludu wiernego po Diecezji Wilenskiej» было доведено через деканов до всего католического духовенства для зачтения его амвона в первое же воскресенье или первый праздник после его получения.

После подавления восстания положение католического костёла в Беларуси значительно ухудшилось. Участие ксендзов и монахов в восстании явилось основанием для властей применить жестокие меры к римско-католической церкви. Всего в шести западных губерниях в 1860 – 1865 гг. ликвидировали 160 приходов, более 70 филиалов и более 200 каплиц [5, с. 192]. Часть костёлов преобразовали в православные церкви. За помощь повстанцам были лишены должностей и сосланы за пределы своих епархий 9 епископов, в том числе с белорусских земель: Адам Станислав Красиньски (Виленская епархия) – в Вятку; Адам Вайткевич (Минская епархия) – в Вильно, Винцент (Викентий) Хостяк-Пополь (Полоцкая Греко-католическая епархия) – в Нижний Новгород.

Но одновременно 8 чиновников Виленской римско-католической духовной консистории были представлены к наградам – столоначальник, архивариус, секретарь и т. д. – за то, что «они проявили преданность

правительству во все времена, стремились быстро исполнять административные распоряжения в отношении подавления мятежа» [6, с. 64].

Более длинным был список, который римско-католическая духовная консистория представила Виленской следственной комиссии по политическим делам. В нем было 136 человек. В список вошли ксендзы, дьяконы, семинаристы, которые самовольно и в неизвестном направлении выехали во время восстания, а также те, кто были арестованы за антиправительственные действии [6, с. 65].

Наиболее распространённым наказанием католического духовенства была ссылка во внутренние губернии России. Там священнослужители находились под надзором полиции до 1871 года. Только в 1872 году им было разрешено занимать должности в приходских костёлах. Однако одновременно с этим все губернаторы получили приказ министра внутренних дел допускать ксендзов к их служебным местам только с разрешения министра внутренних дел и третьего отделения императорской канцелярии. В приказе говорилось об ограничении служебного роста этих священников – «чтобы эти личности не назначались настоятелями, а только викариями, и находились под надзором их духовного начальства и секретным надзором полиции».

Ещё более сильному давлению подвергались католические монастыри. Тут у Муравьёва уже был опыт. За закрытие римско-католических монастырей в Гродненской губернии после восстания 1831 года он получил высочайшую благодарность. В конце 1864 года Муравьёв разослал всем губернаторам секретное предписание. «В связи с острой необходимостью, - писал он начальнику Могилёвской губернии, – прошу Ваше Превосходительство собрать самые точные сведения и представить мне в ближайшее время: сколько насчитывается в вашей губернии римско-католических монастырей, как мужских, так и женских, какие точно и сколько в них монахов. При этом не забудьте отметить, из каких римско-католических монастырей были участники польского восстания, и вообще, какие из них наиболее неблагонадёжные» [6, с. 67].

Попытки могилёвского римско-католического епископа объяснить отсутствие монахов во время восстания тем, что в связи с нехваткой белого духовенства они должны были находиться в приходах или пребывали в отпуске «по слабости здоровья», не могли удовлетворить Муравьёва. В результате в Могилёвской губернии не осталось ни одного монастыря.

Указом императора Александра II от 1864 г. с целью «улучшения материального положения римско-католического епархиального духовенства» был введен «штатный состав», а всевозможное имущество, что принадлежало приходам и монастырям, поступало в распоряжение казны. Были ликвидированы Каменецкая (1866 г.) и Минская (1869 г.) епархии, закрыты 114 из существующих ещё 197 католических монастырей, в



результате чего число католических монахов в Российской империи за 10 лет (1864 – 1874 гг.) уменьшилось с 1638 до 264 человек [5, 192].

В шести западных губерниях в 1864 – 1867 гг. было закрыто 24 мужские и 23 женских монастыря. В это время государственными органами были введены новые правила деятельности монашеских орденов на территории империи – все монастыри делились на «штатные» и «внештатные», в которые нельзя было принимать новициев. После восстания в западных губерниях осталось 25 мужских и 10 женских «штатных» монастырей. С 1864 года они формально были подчинены исключительно своему епархиальному ординарию, а не властям ордена, которые находились за пределами государства. Монашествующим было запрещено открывать образовательные учреждения, выезжать без разрешения властей за пределы уезда, а с 1866 г. они было обязаны носить одеяние епархиального духовенства. Так как всё недвижимое имущество монастырей перешло в казну, государство выделяло примерно 1750 рулей на каждый монастырь – из расчета 40 рублей на одного «штатного» монашествующего [5, с. 192–193]. Одновременно были увеличены ассигнования на православную церковь – правительство решило отпускать духовенству четырёх западных епархий ежегодно по 400.000 рублей прибавки к его жалованию. Таким образом, содержание городского священника увеличилось в год до 400 рублей, а сельского – стало не ниже 300 руб. в год [3, с. 431]. На пожертвования жителей Петербурга и Москвы 512 церквей западных губерний без помощи казны были наделены утварью и ризами [4, с. 55].

В 1866 г. были закрыты Новогрудская и Свенцянская гимназии и прогимназия в Тельшах. Главной причиной их ликвидации явилось участие учеников в восстании 1863 – 1864 гг., а также то, что здесь в основном учились римо-католики [1, с. 586–587]. К 1 апреля 1863 г. число православных церковных училищ достигло значительного числа – 323 [3, с. 418-419]. Согласно распоряжению митрополита Иосифа, изымались, а затем уничожались польские молитвенники. Волковысский благчинный предал сожжению 178 молитвенников, в Сморгонском приходе их уничтожили 305, в Залесском – 80, в Беницком – 85 [3, с. 431].

Усилилось движение по переходу из римо-католицизма в православие – за 1864 год в пределах Литовской православной митрополии зафиксировано 1620 таких переходов [3, с. 435].

Среди католиков были также и те, кто стал на сторону царского правительства. Так, крестьянин Андрей Коц за поимку двух «мятежников» получил свидетельства «о содействии войскам во время бывшего мятежа» [8, с. 8]. Католик Ипполит Раховицкий на допросе 4 сентября 1865 года выдал многих своих товарищей по оружию [9].

Среди 26 нижних чинов Брестской полицейской команды, которых удостоили медали за «точное исполнении возложенных на них обязанностей», было 18 православных, 3 католика, 3 еврея и 2 лютеранина [7,

л. 397 – 404]. 1 апреля 1866 г. гродненский губернатор получил 777 медалей с лентой для вручения их чиновникам и крестьянам губернии. Из 754 награжденных в Волковысском, Гродненском и Пружанском уездах 516 были православными и 238 – католиками (31,5 %). За исключением четырех чиновников все они – крестьяне различных волостей, которые служили в сельских вооруженных караулах [7, л. 411– 535].

Восстание 1863–1864 гг. несло идеи возрождения Речи Посполитой, а, значит, возрождение доминации католической церкви. Эта идея была распространена среди значительной части католического населения и духовенства.

Повстанцы 1863–1864 гг. получили большую поддержку римско-католического костела. Ксендзы призывали народ к борьбе. Поэтому уже в ходе восстания костел подвергся репрессиям со стороны царского правительства. Монастыри и костелы закрывались, часть их была передана в православное ведомство. Католики подвергались дискриминации – их увольняли с занимаемых должностей и заменяли на православных чиновников.

Только в ходе Первой мировой войны польский народ смог воссоздать независимое государство, в котором большинство населения исповедовало католицизм.

*Список источников и литературы*


1. Восстание 1863 года. Материалы и документы. Восстание 1863–1864 гг. в Литве и Белоруссии / редкол.: В. Дьяков, В. Жигалов [и др.]. – Москва: Наука, 1965. – 586 с.
2. Грыгор'ева, В. В. Каталіцкае і праваслаўнае дыхавенства ў паўстанні 1863 г. / В.В.Грыгор'ева // Беларускі гістарычны часопіс. – 1993. – № 3. – С. 46 – 50.
3. Записки Иосифа митрополита Литовского: в 3 т. Т. 3. – СПб.: Типография Императорской Академии Наук, 1883. – 606 с.
4. Литовские епархиальные ведомости за 1863 год. – Вильно, 1864. – 446 с.
5. Міхайлік, Л. Некаторыя аспекты гісторыі рыма-каталіцкага касцёла на беларускіх землях у складзе Расійскай імперыі ў перыяд з канца XVIII ст. па пачатак XX ст. / Л.Міхайлік // Studia Theologika Grodnensia. – Гродзенская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь. –2007. – № 1.
6. Канфесіі на Беларусі (к. XVIII – XIX ст.) / У.І. Навіцкі, [і інш.]. – Мінск: ВП «Экаперспектыва», 1998. – 340 с.
7. Национальный исторический архив Беларусі в г. Гродно (далее НИАБ в г. Гродно). – Ф. 1. – Оп. 22. – Д. 1563. Списки чиновников и разных лиц, награжденных темно-бронзовой медалью за подавление польского восстания 1863–1864 гг. (24 июля 1865 г. – 1 февраля 1867 г.) – 831 л.
8. НИАБ в г. Гродно. – Ф. 1. – Оп. 34. – Д. 3318. Дело о крестьянине Анрее Коце. – 14 л.
9. НИАБ в г. Гродно. – Ф. 1714. – Оп. 1. – Д. 2. Дело о мещанине Ипполите Раховецком. – 5 л.



**Шидловский Антон Казимирович** – студент факультета истории и социологии, Гродненский государственный университет им. Я. Купалы.




УДК 2-67(476)

**О.Э. Проценко** (Гродно)

## КОНФЕССИОНАЛЬНЫЙ АСПЕКТ ИСТОРИИ ГРОДНЕНСКОЙ ГУБЕРНИИ В XIX в.


*В статье анализируется конфессиональная ситуация в Гродненской губернии на протяжении XIX века. Рассматриваются отношения внутри христианской церкви между православными и католиками, а также положение мусульман и иудеев.*


На западных землях Беларуси, вошедших в состав Российской империи в результате разделов Речи Посполитой, 70% населения составляли униаты, 15% – католики, 6% – православные, 7% – иудеи и 2% – протестанты. Социальную базу униатства составляло крестьянство. На территории образованной Гродненской губернии 90% крестьян были униатами [1, с. 245]. Правительство и православная церковь с самого начала рассматривали 1,5 миллиона униатов, проживающих на присоединенных землях, как резерв для пополнения православной паствы.

Но процесс кардинального изменения положения православной церкви затянулся. Связано это было как с небольшим количеством православных верующих в крае, так и с материальным положением православной церкви. Как писал Ф.Еленев, «…сельские православные церкви в западных губерниях малыя, убогия, полуразвалившиеся, похожи более на сараи, чем на Божьи храмы» [2, с. 63]. Не имея возможности быстро укрепить православие, правительство принимает меры для ослабления конкурирующих конфессий: католической и униатской и начинает с наступления на более незащищенную – униатскую. Притеснения униатов начинаются не сразу, но участие униатского духовенства в восстании 1830–1831 гг. ускоряет этот процесс. Одновременно миссионерскую деятельность среди униатов проводит и костел, но православная церковь одерживает верх.

Восстание 30-х гг. обострило интерес администрации к вероисповеданию подданных. В середине 30-х гг. на территории Российской империи проводилась восьмая ревизия государственных имуществ казенных имений. В инструкции чиновникам, командированным для «подробного обревизования государственных имуществ в Западных губерниях» вменялось следующее: «…Собирая сведения обо всем, относящемся до вероисповедания, Чиновник обязан разыскивать под рукою, какое имеет влияние Римско-Католическое и Греко-Униатское духовенство», «…не проводится ли с крестьян

знаёмства з расійскім духам у вышэйшых праваслаўных духоўных установах» пасылалі на навучанне ў Маскву ды Пецярбург.

*Гэта чарговыя прыклады палітычнага (а, значыць, і нekананічнага) ўмяшання царскіх уладаў у жыццё Уніяцкай Царквы.*

У 1831 годзе замест уніяцкага быў прымусова ўведзены праваслаўны Службоўнік, у якім *не было памінання Папы Рымскага*, таксама і ў семінарыях грэка-каталіцкія падручнікі былі заменены на маскоўскія кнігі.

Нязгодныя прыняць гэтыя змены былі рэпрэсаваны (напрыклад, з 54 святароў Наваградскага павету, якія падпісалі пратэстацыю, некаторыя пад пагрозай былі прымушаны адклікаць свае подпісы, а тыя, што не паслухаліся, былі асуджаны да году пакуты ў манастырах. У найбольш упартых адбіралі дзяцей, а іх саміх высылалі ў Сібір (Я. Майсейчык, Антвэрпэн).

5. У 1838 годзе памёр стары мітрапаліт Язафат Булгак – апошняя перашкода ў справе знішчэння Уніяцкай Царквы. З сакавіка 1838 г. Язэп Сямашка стаў на чале Грэка-Уніяцкай Калегіі.

Я. Міpановіч прыводзіць чарговыя дадзеныя пра адносіны уніяцкага духавенства да ідэі т.зв. ўз'яднання з Расійскай Царквой. «У Літоўскай епархіі у 1837 г. за ўз'яднанне выказалася 760 духоўных, у Беларускай – з 680 падпісалася толькі 180» (E. Mironowicz, Kosciоł prawosławny…). Каб змяніць сітуацыю, належала разгарнуць шырокую агітацыю за «ўз'яднанне».

Я. Сямашка, адчуўшы, што апазыцыя яго раскольніцкай дзейнасці практычна задушана, заняўся актыўнай падрыхтоўкай адступніцкага «сабору».

24 лютага 1839 году ў Полацку пад патранатам расійскіх уладаў адбыўся царкоўны з'езд, які часам называецца Полацкім саборам.

На гэтым «саборы» літоўскі біскуп Язэп Сямашка і яго нешматлікія паплечнікі абвясцілі сваё адмаўленне паслухмянасці Папе Рымскаму і «ўз'яднанне» Уніяцкай Царквы на беларускіх землях з дзяржаўнай Царквой Расійскай Імперыі (якая афіцыйна называлася «православно-кафолическая Церковь»).

З кананічнага пункту бачання, аніводны царкоўны з'езд, які адкідае ўладу і аўтарытэт найвышэйшага іерарха не можа называцца саборам, а тым больш не можа лічыцца кананічным.

*З'езд у Полацку ў 1839 г. быў не царкоўным саборам, але прадзяржаўным з'ездам, які ліквідаваў Уніяцкую Царкву па палітычных прычынах.*

6. Уніяцкая Царква на Беларусі была Каталіцкай Царквой, і ў ёй абавязковымі з'яўляліся кананічныя правілы усёй Каталіцкай Царквы, у склад якой заўсёды ўваходзілі і Цэрквы розных усходніх традыцый.



Адно ж з гэтых кананічных правілаў кажа, што дзяржаўныя ўлады не маюць права ўмешвацца ва ўнутранае жыццё Царквы.

З'езд у Полацку у 1839 г. быў яскравым прыкладам такога неканаанічнага ўмяшання.

У Праваслаўнай Царкве, у тым ліку ў Праваслаўнай Царкве Расійскай Імперыі, існаваў прынцып сімфоніі духоўнай і свецкай уладаў. На практыцы, відавочна, усе рашэнні прымаў «Священный Синод». Такая сітуацыя прыносіла вялікую шкоду самой Праваслаўнай Царкве, і менавіта гэта сітуацыя стварыла магчымасць нekананічнай, насільнай ліквідацыі Уніяцкай Царквы ў 1839 г.

У працэсе ліквідацыі рэлігійная свабода была цалкам згвалчана.

Часамі можна пачуць, што таксама і Брэсцкая Унія не давала свабоды выбару. Варта ўсё ж адзначыць, што ў Брэсце ў 1596 г. адбыліся два сіноды: праўніяйны і антыуніяйны. У Полацку ў 1839 г. аніякага выбару не было. Царкоўны Полацкі з'езд быў толькі сцэнай рэалізацыі сцэнарыя, які доўга і сакрэтна рыхтаваўся «Сакрэтным Камітэтам» у Пецярбургу.

*Гэтая сакрэтнасць падрыхтоўкі – чарговае пацвярджэнне нekананічнасці дадзенага з'езду.*

**Гаек Сяргей** – архімандрыт, доктар усходніх царкоўных навук = SEOD (Рым), Люблін – Мінск.

**Сапунко Олександр** – магістр-ліцэнцыят усходняга кананічнага права = ICOL, дактарант Pontificio Istituto Orientale, Рым.

УДК 2-9(476)

**С.В. Марозава** (Гродна)

## БЕЛАРУСЬ, ВОСЕНЬ 1838 – ВЯСНА 1839 г.: АПОШНІ АКТ УНІЯЦКАЙ ТРАГЕДЫІ (НЕКАТОРЫЯ МАЛАВЯДОМЫЯ СТАРОНКІ)

*Осенью 1838 года внешнее спокойствие и атмосферу ожидания императорской воли на всеобщую конверсию униатов взорвали выступления в защиту унии 111 священников Белорусской епархии и 15 священников Белосточчины. Расправой с ними руководили литовский епископ И.Семашко и чиновник Синода В.Скрипицын, которые по указу Николая I прибыли в Полоцк. Ее пик пришелся на январь-февраль 1839 г. Вместе с принятием мер предупреждения массовых волнений (от наделения генерал-губернаторов чрезвычайными полномочиями до введения в Беларусь дополнительного войска) эта расправа составила закулисное действо Полоцкого собора.*

Уніяцкая царква аказалася для самадзяржаўна-сінодавага рэжыма Расійскай імперыі адной з перашкод ў ажыццяўленні яго уніфікацына-нівеляцыйнай палітыкі ў заходніх губернях. Захаванне царквы, якая не гарнулася да трону, царская ўлада звязвала з небяспекай сепаратызму. Духоўнае падпарадкаванне Беларусі разглядалася ёй як сродак і неабходная ўмова панавання тут. Таму з канца XVIII ст. канфесійнай стратэгіяй царызма стала абмежаванне сферы ўплыву уніяцкай царквы. Свае дзеянні прыкрывалі сентэнцыямі пра «непадзельнасць расійскага народу», якой нібыта пагражае «злацінізаванае» і «апалячанае» уніяцтва.

У 1833 г., выкарыстоўваючы сваё права пераможцы, улады сталі на шлях адміністрацыйна-сілавога вырашэння праблемы, справакаванага актыўнай дапамогай уніяцкага духавенства паўстанцам 1830–1831 г. Царкву прызналі ворагам расійскіх інтарэсаў на Беларусі і адзінае выйсце ўбачылі ў яе знішчэнні. Беларусь стала аб'ектам вялікага эсперымента па перакройванні яе канфесійнай карты ў імя «будаўніцтва Расіі» і ўмацавання яе пазіцый ў Еўропе.

На чале уніцкай царквы былі пастаўлены людзі, верныя «видам правительства»: літоўскі епіскап Іосіф Сямашка, аршанскі епіскап Васіль Лужынскі, брэсцкі епіскап Антон Зубко. З 1835 г. у Пецярбургу дзейнічаў створаны загадам Мікалая I Сакрэтны камітэт па уніяцкіх справах. Ён павінен быў папярэдне разглядаць усе распараджэнні на гэты прадмет і ўзгадняць дзеянні дзяржаўных і царкоўных структур.

Змянілі дэкор храмаў і цырымоніі, выдалілі арганы. Уніяцкія багаслужэбныя кнігі мясцовага друку, віленскага, пачаеўскага і супрасльскага, выцеснілі служэбнікамі і спеўнікамі маскоўскай сінадальнай друкарні. Гэту рэформу ажыццявілі прыкладна за два гады.

Падаўленне уніяцкай традыцыі ўвергла грамадства ў шокавы стан. Народ не мог зразумець, чаму тое, што яшчэ ўчора шанавалася, лічылася святым, дагодным Богу, сёння руйнуецца і забараняецца. Але нават «просталюдзін» зразумеў: «ламаюць веру». Шляхта ж успрымала мікалаеўскі курс на знішчэнне уніяцкай царквы як помсту цара за нядаўні бунт.

Былі перавыхаваны сотні святароў – гэта заняло значна больш часу. У 1837 г. уніяцкую царкву падпарадкавалі обер-пракурору Сінода. Гэта азначала, што палітыка яе ліквідацыі зыходзіць ад вышэйшай ўлады імперыі, і працівіцца ёй – значыла працівіцца волі імператара, у той час, як раней гэта была нібыта толькі воля ўласнага духоўнага начальства. У тым жа годзе арганізавалі збор падпісак ад духавенства аб згодзе прыняць праваслаўе, калі на тое «воспоследует монаршая воля». На іх выбіванне пайшоў 1838 год.



Смерць у 1838 г. апошніх (з ліку кіраўніцтва царквы) праціўнікаў аб'яднання з Рускай праваслаўнай царквой: мітрапаліта Ясафата Булгака і пінскага епіскапа Ясафата Жарскага – зняла апошнія перашкоды для скасавання уніі. Да восені 1838 г. было відавочна, што знішчэнне уніяцкай царквы – справа часу. Гэта разумелі як у сталіцы імперыі, так на Беларусі і Украіне.

Дзякуючы аналітычнай справаздачы ад 31 жніўня 1838 г. чыноўніка Сінода В.Скрыпіцына, які па даручэнню Мікалая I вывучаў ступень гатоўнасці заходніх губерняў да «вырашэння уніяцкага пытання» [1, арк. 14–32; 2], афіцыйны Пецярбург у прынцыпе арыентаваўся ў сітуацыі і настроях, якія тут панавалі. Яны адрозніваліся ў Беларускай і Літоўскай епархіях. На 15 жніўня 1838 г. у першай выказала згоду кінуць унію толькі 25 % духавенства, ў другой – амаль 72 % [3, s. 174].

Усіх уніятаў наогул В.Скрыпіцын падзяліў на 3 групы: добранадзейных, якія станоўча ставіліся да перамены веры; паслухмяных; непрыхільных. Да першай катэгорыі ён залічыў 633 прыходы Гродзенскай і Віленскай губерняў, Беластоцкай вобласці, заходніх паветаў Валынскай і Мінскай губерняў, а таксама Пінскага, Слуцкага і Мінскага паветаў. Да другой групы быў аднесены 441 прыход амаль усёй Віцебскай і Магілёўскай губерняў і той часткі Мінскай губерні, якая да іх прымыкала. Да трэцяй групы належалі паўночныя паветы Віцебскай губерні: Себежскі, Полацкі, Лепельскі і Дрысенскі, Дзісненскі павет Мінскай губерні, Мсціслаўскі і Сенненскі паветы Магілёўскай губерні, Оўручскі павет Валынскай губерні і Радамышльскі павет Кіеўскай губерні – усяго 151 прыход [1, арк. 27 адв.–28].

Агульная выснова чыноўніка Сінода па асобых даручэннях была наступнай: пры цяперашніх абставінах «усялякае прамаруджванне з'яўляецца шкодным, ... можа, калі не зусім разбурыць, дык адтэрмінаваць … вялікае дзяржаўнае прадпрыемства далучэння грэка-уніяцкай царквы», ды й пісьмовыя абавязацельствы, пры далейшым адкладванні, могуць страціць сваю моц [1, арк. 21 адв., 31]. Нягледзячы на знешні спакой, абстаноўка ўсё ж была трывожнай. Справа – за імператарскім указам аб усеагульнай рэлігійнай канверсіі уніятаў.

Усе гэтага ўказу толькі і чакалі. Але восенню гэты спакой і атмасферу чакання ўзарвалі два дзёрзкія і масавыя выступленні.

У сярэдзіне верасня ў вёску Царкаўляны, што ў Дзісненскім павеце Мінскай губерні, з'ехаліся і сышліся многія апазіцыйныя святары. Там яны правялі масавую працэсію і несанкцыянаваны сход, на якім рашылі стаяць за унію. Арганізатарамі гэтай акцыі пратэсту былі асэсар Полацкай грэка-уніяцкай кансісторыі Іван Ігнатовіч і святар Адам Тамкавід. Ігнатовіч звярнуўся да народа з заклікам, «каб цвёрда

трымаліся сваёй уніяцкай веры». Зачыншчыкі, як праходзіць па дакументах Сінода, «хацелі ўзняць народ на супраціў» [4, арк. 43 адв.].

Царкаўлянскі сход выпрацаваў петыцыю-просьбу да імператара аб абароне і дапамозе. У кіраўніка дзяржавы прасілі назаўсёды пакінуць духавенства і прыхаджан паветаў, чые прадстаўнікі падпісалі петыцыю, ва уніі. Прасілі прызначыць для тых, хто застаўся ва уніі, асобага пастыра і духоўнае начальства. Петыцыю падпісалі 111 святароў. Для яе дастаўкі ў Пецярбург сход абраў дэлегацыю. Выканаць гэту місію выпала святарам Лепельскай і Астровенскай благачыній [4, арк. 6 адв., 24.]. Каб звярнуцца з лістом да імператара, яны, як таго патрабавалі тагачасныя парадкі, атрымалі на тое пісьмовыя даверанасці кожнага з падпісантаў.

Моцны збой атрымаўся і ў Літоўскай епархіі, дзе справа дэунізацыі ішла, здавалася, больш гладка. Цэнтрам супраціву тут стала Беластоцкая вобласць – у ёй усяго 49 уніяцкіх цэркваў. Калі брэсцкі епіскап А.Зубко стаў збіраць тут подпісы, пайшлі масавыя адмовы. Ідэйнымі натхняльнікамі адмовы сталі Фаўстын Гаворскі з Чыжэва, Антон Панькоўскі з Новабярозава і протаіерэй Антоній Сасноўскі з Кляшчэль – чалавек высокаадукаваны, паважаны духавенствам, былы старшыня скасаванай Віленскай грэка-уніяцкай кансісторыі. 15 святароў з Беласточчыны падалі імператару просьбу, каб іх не прымушалі да пануючай веры. Гэта была не звычайная скарга, але юрыдычна абгрунтаванае абвінавачанне, патрабаванне спыніць уціск іх веры. Фактычна імператара заклікалі загадаць духоўнаму і грамадзянскаму начальству прытрымлівацца дзеючага заканадаўства, якое гарантуе свабоду веравызнання. У чаканні станоўчага адказу са сталіцы завадатары адмовіліся ад падпісак ды яшчэ і ўзбунтавалі сялян прыходаў Чыжэў і Новабярозаў [5, арк. 6 адв.–21].

Пецярбург імкнуўся пераканаць свет, што ўсё робіцца з добрай волі уніятаў, а тут – гэтыя эксцэсы. Яны выклікалі пры двары эфект выбухнуўшай бомбы, бо ставілі «вырашэнне уніяцкага пытання» пад сур'ёзную пагрозу, і, хутчэй за ўсё, прыспешылі вышэйшую санкцыю на ўсеагульную канверсію уніятаў. Да таго ж асцерагаліся, як успамінаў пазней паплечнік І.Сямашкі Н.В.Сушкоў, «не раззлаваць Еўропу», каб «не апалчыліся на нас замежныя ўсіх колераў часопісы» [6, с. 8].

Запісы ў журнале пастаноў Літоўскай духоўнай кансісторыі (Жыровіцы) за верасень 1838 г. раскрываюць механізм нейтралізацыі «бунтаўшчыкоў» з Беласточчыны, а таксама сведчаць, што пад знешнім спакоем чакання вакол уніяцкай веры кіпелі страсці, ламаўся лёс людзей.

Вось некаторыя з гэтых запісаў [7, арк. 19, 28, 54, 72, 77, 79, 104]:



2 верасня – разглядалі прашэнне святароў Бельскага і Драгічынскага паветаў ад 27 ліпеня вызваліць іх ад дачы падпісак, патрабуемых епархіяльным начальствам; паводле прадстаўлення І.Сямашкі, пастанавілі выдаліць з прыходаў нядобранадзейных Антонія Панькоўскага (Новабярозаўская царква) і Фауста Гаворскага (Чыжэўская царква) і заключыць іх у Тараканскі манастыр для «зацвярджэння ў пакоры».

3 верасня – абмяркоўвалі патрабаванне І.Сямашкі змясціць у Быценскі манастыр «для выпраўлення ладу думак» святара Боцькаўскага прыхода Васіля Высекірскага.

5 верасня – нядобранадзейнага святара царквы ў Жыдомлі Івана Савашкевіча вызначылі перавесці прычэтнікам у Заслаўе; калі не паедзе добраахвотна – выслаць з дапамогай паліцыі; вырашылі выклікаць у Жыровіцы для тлумачэняў настаяцеля царквы ў Кляшчэлях Сасноўскага, які «ўзбуджае некаторых нявопытных святароў да непадпарадкавання мясцоваму благачыннаму»; гэтак жа выклікаць у Жыровіцы для перавыхавання ненадзейнага настаяцеля Чыжэўскай царквы Івана Філяноўскага.

7 верасня – даставіць у Жыровіцы «паліцэйскімі мерамі» святароў Давілейскага благачынія Зялінскага і Кавалеўскага, якія ўхіляюцца прыехаць у кансісторыю самі.

Уніяцкая царква, як 25 кастрычніка канфідэнцыйна інфармаваў епіскап Антоній з Жыровіцаў обер-пракурора Сінода, цяпер нагадвае нанова адбудаваны будынак, які застаецца аднак без даху. Дах – гэта воля ўраду. «Без нее враждебные стихии начинают уже нашептывать, что присоединение к православию есть изменение веры прародительской… Уже появляются маленькие возмущения прихожан, проистекающие от неблагонамеренных священников. Епархиальное начальство предпринимает против онаго меры, но пока дело в секрете (официальном), эти меры будут недостаточны» [4, арк. 1 адв.; 8, с. 52].

Гучная «справа 111-ці» і «акт 15-ці» былі апошнімі радыкальнымі крокамі духавенства ў ратаванні уніі. Далей ужо ішлі, галоўным чынам, рэпрэсіі. Закліканыя забяспечыць поспех «уніяцкай справы» на яе апошнім этапе, яны сталі, так бы мовіць, закулісным действам Полацкага царкоўнага сабора. Пачалася «зачыстка» рэлігійнага поля Беларусі. На падаўленне уніі мабілізавалі ўвесь апарат царскай улады: Сінод, сенат, міністэрства ўнутраных спраў, губернатараў, паліцыю, войска. Афіцыйны Пецярбург усур'ёз чакаў масавых хваляванняў на Беларусі і Украіне. Таму рэпрэсіўная машына была заведзена да адказу.

4 лістапада обер-пракурор Сінода граф Пратасаў папярэджваў віленскага генерал-губернатара Н.Далгарукава аб неабходнасці «ўзмацнення мер бяспекі … для папярэджвання хваляванняў пры

цяперашнім пераўтварэнні уніяцкай царквы», асабліва ў Беластоцкай вобласці. Беларускага генерал-губернатара ён інфармаваў пра неабходнасць прыняцця мер перасцярогі ў Себежскім, Полацкім. Лепельскім і Дрысенскім паветах Віцебскай губерні і Мсціслаўскім і Сенненскім паветах Магілёўскай губерні [9, арк. 1 в].

11 лістапада ў Царскім сяле обер-пракурор Сінода дакладваў імператару, з падачы Скрыпіцына, наступнае: «Справа агульнага ўз'яднання уніятаў магла б лічыцца ўжо далёка прасунутай, калі б Беларуская епархія дасягнула роўнай ступені (гатоўнасці – С.М.) з Літоўскай. … Цяпер асабліва патрэбнае намаганне мясцовых грамадзянскіх начальстваў утаймоўваць яўныя і тайныя супрацьдзеянні… У дачыненні асоб, якія распасціраюць сваю нядобранадзейнасць да дзёрзкага ўзбуджэння іншых супраць урадавай мэты, … прысутнасць іх у заходніх губернях робіцца шкоднай». Кіраўнік рэлігійнымі справамі імперыі прасіў найвышэйшага дазволу на высылку тых духоўных Беларускай епархіі, якіх епархіяльнае начальства прызнае нядобранадзейнымі, у вялікарасійскія манастыры, а таксама на сакрэтнае даручэнне генерал-губернатарам заходніх губерняў «аб узмацненні … мер перасцярогі і пільнага нагляду дзеля папярэджання найменшых беспарадкаў пры цяперашнім пераўтварэнні грэка-уніяцкай царквы» [4, арк. 1–2 адв.]. Вынікам гэтага хадайніцтва стаў імператарскі ўказ, на падставе якога паставілі ў абавязак ваенна-павятовым начальнікам мець за уніяцкай справай «аккуратнейшее, согласное с высочайшею волею наблюдение, содействуя всемерно духовному начальству» [10, арк. 3 адв.].

28 снежня обер-пракурор Сінода прапанаваў Мікалаю I ў сувязі са «справай 111-ці» зноў камандзіраваць у Беларускую епархію В.Скрыпіцына дзеля «садзеяння ходу уніяцкай справы ў цяперашняй важнай для яе сітуацыі». Імператар даручыў Скрыпіцыну вінаватых у падачы дзёрзкай просьбы расшукаць і пакараць [4, арк. 29–29 адв., 32]. У той жа дзень з'явіўся імператарскі ўказ: пад пагрозай пакарання абмежаваць перасоўванне рымска-каталіцкага духавенства па тэрыторыі заходніх губерняў і аказанне імі рэлігійных паслуг для уніятаў [11, арк. 1–1 адв.] – баяліся тайнага місіянерства, якое магло хваляваць людскія розумы, перакрывалі яшчэ адзін канал магчымага выбуху незадавальнення «ўз'яднаннем».

На чарговае пасяджэнне Сакрэтнага камітэта, якое адбылося ў Пецярбургу 4 студзеня 1839 г., запрасілі і генерал-губернатараў: смаленскага, віцебскага і магілёўскага Дзякава, а таксама віленскага, гродзенскага, беластоцкага і мінскага Далгарукава. Прысутнічалі шэф жандараў генерал Бенкендорф, міністр дзяржаўных маёмасцяў П.Кісялёў, міністр унутраных спраў Д.Блудаў, обер-пракурор Сінода



Пратасаў. Абмяркоўвалі выпрацаваную Сакрэтным камітэтам інструкцыю. У ёй – «часова дараваныя генерал-губернатарам асаблівыя правы, якія перавышаюць іх звычайную ўладу».

«Для большага поспеху агульнага ўз'яднання уніятаў, – гаварылася ў той інструкцыі, – ён (урад – С.М.) прызнае неабходным даць усемагчымае адзінства распараджэнням галоўных начальнікаў Заходняга краю да ўтаймавання ўсіх магчымых супрацьдзеянняў». Каб рымска-каталіцкае духавенства і шляхта, з боку якіх найперш чакалася супрацьдзеянне, не смелі «ні яўна, ні тайна, пропаведзямі або настаўленнямі падрываць цяперашнюю схільнасць уніятаў да ўз'яднання…, каб нідзе, у гарадах і сялібах, не дапускалася ані найменшая непакорнасць начальству, а тым больш парушэнне грамадскага спакою» – такая задача ставілася перад генерал-губернатарамі. Ажыццяўляць паліцэйскі нагляд над сялянамі абавязалі саміх паноў і арандатараў, якіх належала папярэдзіць пра ўсю «адказнасць, якой яны падвяргаюць сябе ў выпадку хваляванняў у іх маёнтках».

«Незалежна ад гэтых паліцэйскіх мер, – апавяшчаў чацвёрты пункт інструкцыі, – і пры гэтым без далейшага адкладу генерал-губернатары і, згодна іх настаўленню, начальнікі губерняў … абяруць … зручныя пункты ў гарадах і сялібах для размяшчэння ў іх войскаў пастоем… Для ўвядзення войскаў у паветы, дзе іх няма і дзе прадбачыцца ў тым патрэба, генерал-губернатары адразу ж звернуцца да ваеннага міністра…»

Рымска-каталіцкаму духавенству «пад пагрозай найстражэйшага спагнання» забаранялася адпраўляць трэбы для уніятаў і ганіць праваслаўную веру. Абмяжоўвалася перасоўванне каталіцкага духавенства ў межах заходніх губерняў. Уніяцкае духавенства, якое не падпарадкоўвалася свайму начальству, падлягала выдаленню. Генерал-губернатары атрымлівалі права высылаць такіх духоўных асоб у праваслаўныя манастыры ў глыб Расіі, а асоб «з меншай ступенню фанатызму» – змяшчаць пад нагляд у манастырах паўднёвых губерняў.

Генерал-губернатарам прадстаўлялася права адхіляць ад пасады прадвадзіцеляў дваранства, гарадніччых, земскіх спраўнікаў, западозраных «у саўдзеле іх процідзеянню відам ураду». Духоўных і свецкіх асоб, якія б асмеліліся «пахіснуць цяперашнюю схільнасць грэка-уніятаў да ўз'яднання», трэба было высылаць у вялікарасійскія губерні, якія не мяжуюць з заходнімі губернямі. У выпадку ўзброенага мяцежа … аддаваць іх ужо ваеннаму суду».

Генерал-губернатары надзяляліся правам выдаляць з маёнткаў памешчыкаў і арандатараў, калі яны дапусцяць у іх хваляванні сялян або будуць шкодзіць поспеху справы. Маёнткі ў такім выпадку перадаваліся

ў казённае кіраванне. Калі ж «прысутнасць такіх уладальнікаў у Заходнім краі акажацца шкоднай», іх трэба дэпартаваць у расійскія губерні, якія не мяжуюць з заходнімі.

Пра ўсе свае захады адносна духоўных і свецкіх асоб генерал-губернатары павінны былі інфармаваць міністэрства ўнутраных спраў і Сінод [12, арк. 1 адв.–7].

Незадоўга да гістарычнага сабора, які павінен быў паставіць апошнюю кропку на гісторыі уніяцкай царквы ў Расійскай імперыі, па загаду Мікалая I ў Полацк прыбыў саветнік обер-пракурора Сінода камергер Скрыпіцын. Ён меў «асобае даручэнне па грэка-уніяцкіх справах», выкладзенае ў сакрэтнай запісцы-інструкцыі ад 6 студзеня 1839 г., якую атрымаў ад свайго шэфа. «Уважліваназіраць за настроямі грэка-уніяцкага духавенства, – патрабавала інструкцыя. – Звяртаць пастаянную ўвагу на супрацьдзеянні, якія могуць быць ад памешчыкаў і лацінскага духавенства... Калі заўважаны будзе дзесьці пачатак неспакою, схільнасць да хвалявання, неадкладна з эстафетай апавяшчаць пра гэта мясцовага губернатара, даводзячы разам з тым да ведама генерал-губернатара, з дадаткам яму, калі будзе вядома, якія асобы ёсць галоўныя зачыншчыкі і ўзбуджальнікі астатніх... Штотыднёва дакладваць мне пра ўсё заўважанае вамі па ўскладзенаму на вас даручэнню, пра вашы дзеянні, пра асобаў, якія асабліва адзначыліся руплівасцю або заўважаныя ва ўпартасці і нядобранадзейнасці, далейшае прабыванне якіх у тым краі можа быць у цяперашні час шкодным» [12, арк. 62–67].

У адпаведнасці з гэтымі інструкцыямі, у Чашніках арыштавалі і адправілі ў Полацк Івана Ігнатовіча, арганізатара акцыі пратэсту ў Царкаўлянах. Кіраваў арыштам – адпаведна значнасці злачынцы – вядомы змагар з уніятамі падпалкоўнік Агатонаў. Бунтара ў расе, чыё прабыванне ў Беларусі палічылі «шкодным, як з-за непрыхільнасці яго да праваслаўя, так і з-за ўплыву, якое ён меў на іншае духавенства», 10 студзеня пад канвоем павезлі ў Смаленск. Далейшы шлях ляжаў у Прадцечанскі манастыр у Вязьму. Другога арганізатара царкаўлянскага сходу і петыцыі на імператарскае імя Адама Тамкавіда ўзялі ў Іказні Дзісненскага павета і пераправілі ў Мінск, а адтуль 26 студзеня – ў Курск. Праз два тыдні, 9 лютага, яго даставілі на месца высылкі [12, арк. 78, 83, 125, 136, 137, 152]. Перамешчаныя на сотні кіламетраў ад таго месца, дзе рыхтаваўся апошні акт уніяцкай трагедыі, Іван Ігнатовіча і Адама Тамкавід небяспекі ўжо не ўяўлялі.

Скрыпіцын вяршыў расправу ў Полацку. І.Сямашка пакуль даваў распараджэнні адносна неслухаў з Пецярбурга. У лісце ў Літоўскую кансісторыю ад 9 студзеня ён абураўся тым, што 6 «нядобранадзейных» святароў яшчэ кіруюць прыходамі, патрабаваў выклікаць іх на



перавыхаванне ў Жыровіцы, а калі і там не ўдасца пераканаць іх кінуць унію, то замяніць «надзейнымі» людзьмі [13, арк. 1]. 13 студзеня І.Сямашка даў указанне пад ваенным канвоем неадкладна вывезці ў расійскія манастыры іншадумных іераманахаў Віктара Басяцкага, Анаклета Данілевіча і Іллю Андрушкевіча – адпаведна ў Курскую, Арлоўскую і Чарнігаўскую епархіі. Часу на зборы ім не далі [14, арк. 1, 10].

Для разбору з царкаўлянскімі мяцежнікамі ў пачатку лютага прыбыў у Полацк, згодна з імператарскім загадам, літоўскі епіскап. Шукалі складальніка прашэння, а таксама людзей, якія сваімі даверанасцямі ўпаўнаважылі дэлегацыю на падачу петыцыі імператару.

Галоўную прычыну «гэтак важнага супраціву духавенства Беларускай епархіі» І.Сямашка ўгледзеў «у раздражнёнасці і нават разлютаванасці, выкліканымі ... цяжкімі наступствамі ранейшай сістэмы пераварочвання уніятаў». Такімі настроямі, сцвярджаў ён, намагалася скарыстацца варожая справе польска-каталіцкая партыя. Звальненне полацкага епіскапа Смарагда, беларускага генерал-губернатара князя Хаванскага і віцебскага губернатара Шрэдара, якое лічыцца справай рук гэтай партыі, узмацніла аўтарытэт яе намоў, нібыта пераўтварэнні грэка-уніякай царквы робяцца самім яе духоўным начальствам і супраціўныя намерам гасудара-імператара.

Другой прычынай Сямашка лічыў слабасць духоўнай улады ў Беларускай епархіі. Нядобранадзейныя святары, якіх выклікалі ў Полацк «дзеля настаўленняў або выпраўлення», заставаліся на прыходах, нават будучы ад іх адхіленымі. І гэта нягледзячы на прадпісанні начальства. Не дзіўна, піша ён ў сваёй справаздачы обер-пракурору Сінода, што знайшлося 111 духоўных асоб, якія падпісалі даверанасць на падачу прашэння імператару супраць уласнага начальства [12, арк. 138 б].

Адзін з іх, Захарый Маркоўскі, як паведамляў 4 лютага з Полацка ў Сінод епіскап Іосіф, «дзейнічаў рашуча і амаль адкрыта..., і таму звольнены яшчэ ў мінулым годзе ад Чашніцкага прыхода і ад пасады благачыннага. Пій Перабіла звольнены таксама за падобныя ўчынкі ад Бешанковіцкага Ільінскага прыхода і ад пасады благачыннага». Разам з настаяцелем Дварэцкай царквы Іванам Тачыцкім яны «маюць моцны і шкодны ўплыў на духавенства». «Дзеля супакаення мясцовага грэка-уніяцкага духавенства, а таксама дзеля выкаранення сярод яго духа ўпартасці і непакоры» Сямашка палічыў за лепшае ўпячы згаданых трох асоб ў расійскія манастыры [12, арк. 123–123 адв.].

Распраўляючыся з апазіцыянерамі, епіскап, як ён сам адзначаў, кіраваўся трыма мэтамі: 1) разарваць сувязі паміж членамі «шматлікай партыі духавенства, якое запрацівілася распараджэнням Беларускага епархіяльнага начальства»; 2) аднавіць уладу гэтага начальства;

«знішчыць дух сваволля і думкі пра беспакаранасць» з яго боку; 3) «аблегчыць таму ж начальству спосабы ўздзейнічаць на розум астатняга духавенства, яшчэ не набытага праваслаўнай царквой» [12, арк. 138 б].

«Мінулы тыдзень, – пісаў 8 лютага І.Сямашка обер-пракурору Сінода, – прысвяціў я разгляду абставін справы, мне даручанай. На жаль, значная колькасць духавенства, уцягнутага ў супрацьдзеянне, … не дазволіла мне абмежавацца некалькімі прыкладамі строгасці. Аказалася неабходным зрабіць нашмат важнейшае ўражанне, каб разарваць шайку, існаваўшую даволі ўжо працяглы час, каб устараніць у аддаленыя месцы людзей, якія ёй кіравалі, каб пазбавіць іх магчымасці зносін паміж сабой і з астатнім духавенствам Беларускай епархіі». А каб адабраць у пазначаных духоўных надзею на ранейшае бяздзеянне паліцыі», ён распарадзіўся неадкладна адправіць апальных святароў у вызначаныя для іх месцы выгнання ў суправаджэнні паліцыі [12, арк. 121, 132–132 адв., 138 б].

У Трыгурскі манастыр «на чорную работу» выслалі Андрэя Нікановіча і Івана Латто. Яго аддаленасць ад уніяцкіх цэркваў павінна была пазбавіць гэтых упартых святароў сродкаў «шкоднага ўплыву» на астатняе духавенства. У Любарскі манастыр «пад нагляд да поўнага выпраўлення» даставілі Фаму Чабаноўскага і Грыгорыя Эльяшэвіча, у Жыровіцы – Ігнацця Хруцкага. 14 лютага Пія Перабілу часова, «да асобага распараджэння», выслалі ў Аршанскі манастыр «пад нагляд настаяцеля і паліцыі». Услед за ім 21 лютага туды павезлі Івана Тачыцкага.

Руплівасцю Сямашкі высылцы з Беларускай епархіі падлягала 20 святароў, якія далі І.Ігнатовічу і А.Тамкавіду даверанасці на падачу прашэння імператару. Адны былі адпраўлены ў Літоўскую епархію для назначэння на пасады прычэтніка «пры разважных настаяцелях», другія – заключаны ў аддаленыя базыльянскія манастыры, размешчаныя паміж праваслаўным насельніцтвам, трэція – высланы ў манастыры Расіі.

Кіраўнік духоўнага ведамства дзяржавы Пратасаў такое пакаранне санкцыянаваў. У сваім сакрэтным лісце ад 20 лютага ён цікавіўся ў аршанскага епіскапа Васілія, «ці ўсе яны сапраўды адпраўлены да месцаў іх прызначэння» [4, арк. 124, 125, 131–132 адв., 138 б, 148 адв.]. Чыноўнікі на месцах, якія непасрэдна ажыццяўлялі арышт і дэпартацыю, спрацавалі не так аператыўна, як гэта было патрэбна Сіноду. 3 сакавіка «за маруднасць у высылцы грэка-уніяцкіх святароў Мараўскага і Стульчынскага» знялі з пасады станавога прыстава, зрабілі строгую вымову членам Дрысенскага земскага суда [4, арк. 154].

Пераведзеныя дзячкамі ў Літоўскую епархію святары з ўсходу Беларусі звязвалі з місіяй Скрыпіцына надзею на аднаўленне справядлівасці. Спадзяваліся, што ён ва ўсім разбярэцца, дакладзе імператару і той задаволіць іх жаданне застацца ва уніі. У чаканні царскага рашэння яны дамовіліся настойліва стаць на сваім. Яны заўлялі аб сваім непрызнанні цяперашняга духоўнага начальства, як прыналежнага да іншай царквы, і яго праве караць іх [15, с. 56–57].

Ад галоўных зачыншчыкаў царкаўлянскай акцыі пратэсту пазбавіліся. Але на месцах заставаліся яшчэ многія дзесяткі яе ўдзельнікаў, якія, на думку І.Сямашкі, былі «ўцягнутыя ў яе болей староннімі інтрыгамі, чым па ўласнаму жаданню, якія аднак яшчэ не засведчылі начальства ў сваім раскаянні». Лёс 68 святароў, якія падпісалі «супрацьзаконныя даверанасці» на імя Ігнатовіча і Тамкавіда, Сямашка вырашаў 11 лютага. Вось што займала яго думкі за дзень да гістарычнага Полацкага сабора! Ён распарадзіўся выклікаць іх па чарзе ў Беларускую кансісторыю. Тых, хто раскаецца, можна вяртаць на месца службы. Тых, хто адмовіцца ад раскаяння, і нядобранадзейных падвяргаць забароне. «А калі каторыя з царкоўнаслужыцеляў акажуцца лішнімі або шкоднымі па Беларускай епархіі», заключаць такіх пад нагляд у манастыр [12, арк. 123–123 адв.].

«На астатнюю масу духавенства яшчэ няпэўнай добранадзейнасці» ён раіў уздзейнічаць праз благачынных, «цяпер ужо амаль усіх надзейных». А потым рэкамендаваў выклікаць іх для перавыхавання ў Полацк па 2–3 чалавекі – «каб зноў не даць поваду скласціся шматлікай бандзе неслухаў». Тых, хто адмовіцца змяніць веру, Сямашка патрабаваў паступова замяшчаць надзейнымі святарамі.

З часам большасць рэпрэсіраваных святароў была зламана і вымушана даць згоду кінуць унію на карысць праваслаўя.

«Пасля гэткіх мер, – пісаў уладыка, – я не чакаю ніякага важкага супраціву з боку няпэўнай яшчэ добранадзейнасці святароў Беларускай епархіі. … Пра манахаў не варта хвалявацца, … таму што наогул амаль ужо пазбаўлены ўсялякага ўплыву на грэка-уніяцкі народ. Адзіна, на што належыць звярнуць увагу, ёсць … спробы ўзняць прыхаджан супраць святароў, прызначаных на месца духоўных, якія аказаліся нядобранадзейнымі». Памешчыкаў, настаўляў далей Сямашка, праз прадвадзіцеляў дваранства трэба папярэдзіць, што хваляванні сялян у іхніх уладаннях будуць разглядацца як іх уласная безадказнасць.

Пасля ўсіх прынятых і плануемых да ўжытку мер, заключаў літоўскі епіскап, «не бачу ніякага поваду прыпыняць мяркуемае далучэнне уніятаў, насупраць, лічу, што гэта мера будзе рашуча садзейнічаць канчатковаму вынішчэнню элементаў супрацьдзеяння… Адна толькі перасцярога можа быць не лішняй, менавіта: каб не абвяшчаць цяпер афіцыйна ўказу Св.Сінода…, каб выйграць час…» [12, арк. 138 б].

Шмат намаганняў было прыкладзена свецкімі і духоўнымі ўладамі, каб дасягнуць жаданай развязкі. Паводле ўспамінаў Н.В.Сушкова, 3 або

4 лютага ўсім павятовым прадвадзіцелям дваранства накіравалі канфідэнцыйны ліст. Іх абавязвалі наведаць усіх памешчыкаў свайго павета і асабіста аб’явіць кожнаму, што «справа уніі – вырашаная», што тыя адказваюць за захаванне спакою ў сваіх маёнтках і ў выпадку любых хваляванняў, калі не змогуць іх самі ўтаймаваць, будуць пакараны аддачай маёнткаў у апеку. Паны, як пісаў Сушкоў, «вразумились от такого объявления» [6, с. 10, 11].

Зусім верагодна, што царкаўлянская акцыя пратэсту, разам з аўтарытэтнай заявай Скрыпіцына, што Беларусь да ліквідацыі уніяцкай царквы гатова, а прамаруджванне можа разбурыць так старанна падрыхтаваную справу, прыспешылі санкцыю афіцыйнага Пецярбурга на ўсеагульную канверсію уніятаў.

Між тым, апошні акт уніяцкай трагедыі няўмольна набліжаўся. Падрыхтаваліся да яго, трэба адзначыць, вельмі старанна.

Дзеля канчатковых нарад адносна «вяртання уніятаў да праваслаўнай царквы» ў Полацк прыбылі таксама епіскапы Васіль Лужынскі, Антоній Зубко. «Падрыхтаваны для паднясення гасудару імператару акт (аб далучэнні уніятаў да Рускай праваслаўнай царквы – С.М.), – даносіў з Мінска шэфу жандараў Бенкендорфу маёр корпуса жандараў Ламачэўскі, – будзе падпісаны важнейшымі духоўнымі асобамі, у колькасці да 22-х. Да яго будзе дададзена да 1800 падпісак уніяцкіх благачынных і святароў, якія выказалі жаданне на прыняцце ранейшых абрадаў праваслаўнай царквы, перайначаных часам і ўплывам палітычных абставін» [16, арк. 6–6 адв.]. Значыць, планавалася прадэманстраваць ураду поўнае, 100-працэнтнае аднадушша духавенства ў жаданні кінуць унію. Да апошняга моманту спадзяваліся дамагчыся менавіта такой колькасці згодных. Трэць духавенства іх усё-такі не дала. Гэта і тлумачыць жорсткасць таго рэпрэсіўнага махавіка, які да апошняга дня выбіваў з раз’яднаных святароў іх подпісы і караў тых са 111-ці, хто ад свайго подпісу ў абарону уніі не адрокся. Скрыпіцыну і Сямашкы належала ў гэтым першаступенная роля.

12 лютага 1839 г. сабраныя на саборы ў Полацку тры епіскапы і 21 іншая духоўная асоба прынялі Акт, у якім абвяшчалася адзінства з Рускай праваслаўнай царквой і ўтрымлівалася просьба да імператара Мікалая I садзейнічаць хутчэйшаму далучэнню уніятаў да праваслаўя. Да саборнага Акта прыкладалася 1305 распісак-абавязацельстваў святароў і манахаў.

Колькасць распісак зусім не азначала колькасці тых, хто адрокся ад уніі. Паводле Г.Кіпрыяновіча, у распісках беларускага духавенства (ён меў на ўвазе духавенства Беларускай епархіі) не было шчырасці. Подпісы рэдка даваліся шчыра і добраахвотна, часцей за ўсё – пад уплывам страху або разліку, бо В.Лужынскі папярэджваў, каб не



спадзяваліся на беспакаранасць. Адны марылі тайна падтрымаць унію, іншыя жадалі пачакаць, што пакажа час. Праўда, вырваныя падпіскі вымушалі быць больш асцярожнымі ў праяве сваіх уніяцкіх сімпатый [17, с. 82–85].

593 чалавекі, у тым ліку 172 манахі, сваёй згоды так і не далі. Дарэчы, Полацкі царкоўны сабор яшчэ чакае свайго незаангажаванага беларускага даследчыка.

Ужо пасля сабора Скрыпіцын прасіў віцебскага, магілёўскага і смаленскага генерал-губернатара аб высылцы з Сенненскага павета Віцебскай губерні 14 святароў, якія ў верасні мінулага года падпісалі прашэнне ў абарону уніі на царскае імя [18, арк.19–21, 29 адв.]. 25 лютага 1839 г. у Віцебску яны трымалі адказ перад самім царскім пасланнікам. Прысутнічаў запрошаны ім палкоўнік корпуса жандараў Куцынскі. Абвінавачаныя ў супрацьдзеянні імператарскай волі, маральна зламаныя і застрашаныя, безабаронныя, святары далі пісьмовае абяцанне, што «заўсёды будуць павінавацца свяшчэннай волі манарха і … ўладам». Адзін толькі Адам Ранчэўскі ад такога абавязацельства, а, значыць, на што націскалі высокапастаўленыя следчыя, ад пакоры ўладам адмовіўся, «выявіў дух упартасці і дзёрзкага свавольства». Па распараджэнню Скрыпіцына яго павезлі пад паліцэйскім канвоем у Полацк, да аршанскага епіскапа Васілія [19, арк. 1–2]. Далейшы лёс святара быў прадвызначаны.

Потым Скрыпіцын паехаў у Магілёў і Мінск , каб там давяршыць справу «ўз’яднання уніятаў». Але варта было яму часова выехаць з Полацка, як пачалася новая хваля антыўз’яднаўчых хваляванняў. «Злосць ворагаў … не дрэмле…, – паведамляў обер-пракурору Сінода аршанскі епіскап Васілій Лужынскі. – Гэтыя ворагі туземцы ў час ад’езду пана камергера Скрыпіцына … распусцілі чуткі, … быццам бы ён адкліканы ў Пецярбург, і ўжо болей не вернецца». Сяляне шэрагу прыходаў пад уздзеяннем гэтых чутак адмовіліся аддаць новым, прызначаным уладыкай «добранадзейным святарам» ключы ад сваіх цэркваў. Адных бунтаўшчыкоў епіскапу Васілію ўдалося супакоіць самому з дапамогай мясцовых «добранадзейных» памешчыкаў. Для ўтаймавання іншых прыйшлося звярнуцца па дапамогу да генерал-губернатара Дзякава.

Выклікаными ад’ездам Скрыпіцына чуткі натхнілі некаторых святароў, якія паставілі свой подпіс пад зваротам 111-ці да цара, на новую дзёрзкасць. Яны, якія амаль раскаяліся перад камергерам, цяпер зноў «моцна стаяць на сваім», сцвярджаюць, што высланыя святары не пазней мая–чэрвеня вернуцца ў свае прыходы. Адзін з іх, Ігнацій Малішэўскі, які «здаваўся агнцам перад панам Скрыпіцыным», нібыта ў насмешку прасіў кансісторыю паспяшацца з вырашэннем яго лёсу.

Высылаемыя ў Курск святары Казаневіч і Макавецкі, развітваючыся са сваімі прыхаджанамі, публічна заклікалі іх стаяць за сваю веру, байкатаваць новых святароў. Завяралі, што яны хутка вернуцца, застаўшыся уніятамі. Памешчык Валер'ян Місевіч таксама агітаваў тады сваіх сялян байкатаваць святароў, якія змянілі веру.

Як толькі Скрыпіцын вярнуўся ў Полацк, гэтыя «шкодныя» чуткі сціхлі. В.Лужынскі інфармаваў тады обер-пракурора Сінода, што прабыванне Скрыпіцына «як руплівага і бескарыслівага дзеяча паскарае ход справы наконт уніі» ў Полацку і «пры цяперашніх абставінах неабходна», бо тады «і духавенства робіцца больш паслухмяным, а прыхаджане – ціхмяныя» [20, арк. 1–5].

26 лютага 1839 г. Сямашка пісаў Мікалаю І пра выкананне імператарскага даручэння: «Амаль усе святары-завадатары, якія ўдзельнічалі ў згаданай інтрызе або праявілі дух прадпрымальны і дзёрзкі, устаранёныя ў аддаленыя месцы» [12, арк. 138 б адв.]. Там яны ўжо не ўяўлялі небяспекі.

Дзейнасцю Сямашкі і яго акружэння была забяспечана нейтральная пазіцыя большасці святароў адносна «ўз'яднання», непакорных пазбавілі магчымасці супраціву, душылі незадавальненне сялян.

Некалькі гадоў схілялі адмовіцца ад уніі жыхароў мястэчка Ушачы Лепельскага павета. Іх угаворвалі камісіі, пераконваў лепельскі земскі спраўнік, адміністрацыя маёнтка, прымушала паліцыя. Але яны так і заставаліся ўпартымі ў сваіх «памылках». Нават падпалкоўнік Агатонаў, «пры ўсёй яго дбайнасці і руплівасці да спраў праваслаўя», не меў поспеху.

Жыхароў мястэчка нават асцерагаліся публічна пытацца, хто з іх уніят, хто праваслаўны, «бо можа адбыцца сярод іх хваляванне, ды й сумніўна, каб хоць адзін сказаў, што ён праваслаўны». Прыходскі святар Ясафат Шавельскі, які веру-такі змяніў, здабыў сабе нянавісць навакольных паноў, уніяцкіх святароў Лепельскага павета, ушацкіх прыхаджан.

Застаўся адзін сродак – па чарзе (так лягчэй было зламаць) выклікаць сялян у Полацк у грэка-расійскую кансісторыю для ўгаворвання. Яго і пусцілі ў ход у лютым 1839 г. Зразумела, ніхто сам у Полацк не паехаў. Тады паспрабавалі вазіць іх туды ў суправаджэнні паліцыі. Дык сяляне спачатку ўцякалі ад паліцэйскіх, а потым пачалі збірацца натоўпамі і адбіваць узятых пад канвой аднавяскоўцаў [21, арк. 12]. Памешчык Сялява, якога абвінавацілі «ў неспрыянні пераварочванню уніятаў», апраўдваўся: сялян выклікаюць у кансісторыю і там ваенна-павятовы начальнік «моцна б'е іх і прыўшае да праваслаўя», таму яны і не ідуць у Полацк [22, арк. 1 адв.–2].



У архіве Сінода захаваўся перахоплены паліцыяй прыватны ліст ад 5 сакавіка 1839 г. нейкага Івана з Полацка ў Пецярбург студэнту Медыка-хірургічнай акадэміі Г.Акаловічу. У лісце згадваецца нехта Нарбут – адзін з уніяцкіх святароў-падпісантаў прашэння імператару. «За гэта яны пастрыжаны ў дзячкі, панамары і званары і сасланы ў дальнія краіны, – паведамляе аўтар ліста пра мясцовыя навіны. – …Іх налічваюць каля ста чалавек. Не ўваходжу ў падрабязнасці гэтай справы, што ўрад захоча, тое і будзе: ёсць бізун, дзе ён свісне, там і рэлігія пырскне» [9, арк. 10–10 адв.; 19, арк. 4–5].

Акт Полацкага сабора некалькі месяцаў хавалі ад народа – баяліся выбуху бунтаў, чакалі падыходу дадатковай вайсковай сілы. «У выніку супраціву, дзе б тое ні здарылася, – звяртаўся ў студзені 1839 г. да ваеннага міністра смаленскі, віцебскі і магілёўскі генерал-губернатар, – прысутнасці адной роты дастаткова будзе на прывядзенне ў паслушэнства ўпартых, тады як па прашэсці месяца, на працягу якога зло гэта можа ўзмацніцца, трэба будзе дзеля гэтага ўжыць намнога большую колькасць войск».

Каб прадухіліць хваляванні, імператар тады ж распарадзіўся накіраваць у Беларусь 29-ты казацкі полк, які ішоў з Фінляндыі на Дон. Полк прыбыў у сярэдзіне сакавіка. Яго размясцілі сотнямі ў тых населеных пунктах Полацкага, Дрысенскага, Себежскага і Лепельскага паветаў Віцебскай губерні, Вілейскага, Дзісненскага і Барысаўскага паветаў Мінскай і Сенненскага і Мсціслаўскага паветаў Магілёўскай губерняў, дзе чакалі супраціўлення [18, арк. 5–6 адв., 8, 11 адв., 27, 29 адв., 53–53 адв.]. Абнародаванне саборнага рашэння прайшло спакойна…

Паводле А.Зубко, «польскія паны паспелі напужаць рускіх саноўнікаў» так, што віленскі генерал-губернатар Далгарукаў прапаноўваў і яму прыслаць у Літоўскую епархію войскі ў сувязі з абнародваннем указа аб уз'яднанні. Ва ўрадзе радаваліся, што ўз'яднанне 1839 г. абыйшлося без кравапраліцця. Прайшлі дзесяцігоддзі, перш чым асмеліліся «пригласить к воссоединению» уніятаў Царства Польскага [23, с. 8 – 9].

25 сакавіка 1839 г. па распараджэнню Мікалая І была прынята пастанова Сінода аб далучэнні уніятаў. На «уз'яднаўцаў» пасыпаліся ўзнагароды. Сямашку прынялі ў члены Сінода.

Але гэты ўказ да часу трымалі ў таямніцы. Абвяшчэнне саборнага акта пачалося ў красавіку. Паступова яго даводзілі да ведама «добранадзейных» святароў, якіх дзеля гэтага па аднаму выклікалі ў кансісторыю. Прызначаная ім грашовая ўзнагарода за перамену веры была зручнай нагодай для іх выкліку ў Жыровіцы або Полацк.

Праводзіць жа публічныя набажэнствы пакуль забаранілі, каб не прыцягваць увагі да гэтай перамены.

З сярэдзіны мая ў галоўных гарадах Заходняга краю, у яго самых знакамітых храмах, пачаліся з нагоды «ўз'яднання» ўрачыстыя богаслужэнні «ліквідатараў» уніі разам з высокімі праваслаўнымі іерархамі. Скрыпіцын, які, не дачакаўшыся дазволу з Пецярбурга, загадаў публічна зачытаць сінадальны ўказ у царкве, атрымаў вымову обер-пракурора вышэйшага духоўнага ведамства імперыі. Яно не хацела заўчасна абнародаваць здзейсненую справу, бо на той момант народ яшчэ не ўсюль быў да гэтага падрыхтаваны і мог ўспрыняць «уз'яднанне» як здраду духавенства веры бацькоў [15, с. 57].

У Пецярбургу вырашылі карысным, каб Беларусь і Літву наведаў і ў тых урачыстасцях удзельнічаў і галоўны дзеяч «уз'яднання» І.Сямашка. 1 чэрвеня ён быў у Полацку. 11 чэрвеня служыў у Мінску. Потым былі Жыровіцы. Гэтым мерапрыемствам імкнуліся надаць як найбольш пыхі. Сіноду было далёка неабыякавым уражанне, якое яны зробяць на народ. Вільню, самы «небяспечны пункт» – рэзідэнцыя каталіцкага біскупа, цэнтр уніяцтва – Іосіф асмеліўся наведаць толькі ў канцы жніўня. 3 і 8 верасня тут адбыліся ўрачыстасці: спачатку ва «ўз'яданным» Свята-Троіцкім, потым у Свята-Духаўскім манастыры. Яны «затмили великолепием» усе калісьці быўшыя тут духоўныя цырымоніі рымскай і уніяцкай цэркваў і моцна паўздзейнічалі на людскі розум. Прысутнічала шмат шляхты – яна і развезла паўсюль звесткі. Гэтыя богаслужэнні, як пісаў І.Чыстовіч, усіх пераканалі, што ўз'яднанне – справа здзейсненая. Яны ж ўвянчалі 8-гадовыя намаганні па дасягненню мэты, «предначертанной» імператарам. Сінод уступаў на гэтых землях у свае правы… 1 кастрычніка з'явіўся імператарскі ўказ аб усеагульным абнародаванні пастановы сената ад 23 чэрвеня 1839 г. аб ўз'яднанні уніятаў [8, с. 18, 23; 15, с. 57].

Гісторыя абнародавання саборнага рашэння нам вядома найперш з падачы саміх «уз'яднаўцаў», а таксама тых даследчыкаў, якіх мабілізавалі на ўсхваленне гэтай акцыі царызму. Гэтая гісторыя – яшчэ адна старонка нашай мінуўшчыны, што пакуль не стала прадметам спецыяльнага навуковага вывучэння.

А ў манастырах Украіны і Расіі, між тым, таміліся тыя з уніяцкіх духоўных, хто ўхіліўся ад перамены веры. На 23 чэрвеня 1839 г. у Беларускай епархіі налічвалася 48 святароў і 42 манахі, «упорствующих воссоединению» [24, арк. 1, 6, 7 адв.]. Царкоўная катастрофа 1839 г. для многіх абярнулася катастрофай асабістай: перарваная кар'ера, зламаны лёс. Сотні перакана.ных ў праваце сваёй веры беларускіх святароў, чый аўтарытэт жывіў апазіцыйныя настроі народа, сурова заплацілі за свой уніяцка-папоўскі патрыятызм, спазнаўшы цкаванне, ганенні, судовы



пераслед, «пакуты» ў манастырах і турэмнае зняволенне, бадзянне па свеце, высылку.

Ліквідацыя уніяцкай царквы стала нібы дэтанатарам выбуху, які, аднак, не патрос дзяржаву, – улады яго папярэдзілі. Калі душылі шляхецкія паўстанні, то з уніяцкім духавенствам і сялянствам расправіцца было лягчэй. Былі нейтралізаваны ўсе актыўныя сілы, што сталі на абарону уніі.

Уніяцкая царква аказалася не ў стане супрацьстаяць катастрофе 1839 г. Адным росчыркам імператарскага пяра 1,5 мільёна вернікаў і каля 1470 прыходаў былі ўключаны ў склад Рускай праваслаўнай царквы. Іх жаданне далучыцца да пануючай веры зусім не лічылася абавязковай умовай пераварочвання. Беларусь у сваёй гісторыі яшчэ не ведала такой маштабнай аднačасовай і радыкальнай перакройкі яе канфесійнай карты. Гэта было не толькі знішчэннем аднаго з культавых інстытутаў, але вялікім цывілізацыйным паваротам. На беларускім досведзе духоўна-рэлігійнай інтэграцыі Усходу і Захаду была пастаўлена кропка. «Исполинское предприятие, столь же важное в политическом, сколько и в религиозном смысле, которое займёт блестящую страницу в летописях империи,» – так назваў гэту справу кіраўнік Сінода Пратасаў [25, арк. 1].

### *Спіс крыніц і літаратуры*


1. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, г. Санкт-Пецярбург (далей – РДГА). – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 18.
2. Марозава, С. Місія камергера Скрыпіцына / С.Марозава // Історія релігій в Україні: Науковий щорічник. – 2005 рік. – Кн. 1. – Львів, 2005. – С. 365 – 371.
3. Radwan, M. Carat wobec kościoła greckokatolickiego w zaborze rosyjskim. 1796 – 1839 / M. Radwan. – Roma–Lublin, 2001.
4. РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23446.
5. Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, г. Масква (далей – ДАРФ). – Ф. 109, IV экспедыцыя. 1838 год. – Воп. 178. – Спр. 212.
6. Сушков, Н.В. Воспоминания о митрополите Литовском и Виленском Иосифе и об уничтожении унии в России / Н.В.Сушков. – М., 1869.
7. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, г. Вільнюс (далей – ДГАЛ). – Ф. 634. – Воп. 1. – Спр. 47.
8. Пятидесятилетие (1883 – 1889 г.) возсоединения с православною церковию западно-русских униатов: Соборные деяния и торжественные служения в 1839 году. – СПб., 1889.
9. РДГА. – Ф. 797. – Воп. 7. – Спр. 23442.
10. ДГАЛ. – Ф. 421. – Воп. 1. – Спр. 552.
11. ДГАЛ. – Ф. 378. 1839 год, палітычны аддзел. – Спр. 797.
12. РДГА. – Ф. 797. – Воп. 87. – Спр. 22.
13. ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 2. - Спр. 2100.
14. ДГАЛ. – Ф. 605. – Воп. 1. - Спр. 3782.
15. Чистович И. Пятидесятилетие (1839 – 1889 г.) возсоединения с православною церковию западно-русских униатов. – СПб., 1889.
16. ДАРФ. – Ф. 109, IV экспедыцыя. 1839 год. – Воп. 179. – Спр. 58.
17. Киприанович, Г.Я. Последнее воссоединение с православной церковью униатов Белорусской епархии (1833 – 1839) / Г.Я. Киприанович. – СПб., 1910.

18. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, г. Мінск (далей – НГАБ). – Ф. 1297. – Воп.1. – Спр. 11116.
19. ДАРФ. – Ф. 109, IV экспедыцыя. 1839 год. – Воп. 179. – Спр. 96.
20. РДГА. – Ф. 797. – Воп.9. – Спр. 25802.
21. РДГА. – Ф. 797. – Воп.7. – Спр. 23307.
22. НГАБ. – Ф. 1297. – Воп.1. – Спр. 11261.
23. Три докладные записки бывшего архиепископа минского Антония Зубко графу М.Н.Муравьеву (1864 г.). – Вильно, 1901.
24. РДГА. – Ф. 797. – Воп.9. – Спр. 25696.
25. Нацыянальная бібліятэка Расіі. Аддзел рукапісаў. – Ф. 690. – Спр. 5.

**Марозава Святлана Валянцінаўна** – доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Сфера навуковых інтарэсаў: канфесійная гісторыя Беларусі канца XVI – першай паловы XIX ст., гісторыя уніяцкай царквы.

УДК 278. 15 (092 Я.Булгак)

**І.І. Трацяк** (Гродна)

# МІТРАПАЛІТ ЯЗАФАТ БУЛГАК: ПАЗІЦЫЯ Ў РЭФАРМАВАННІ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ

*Статья посвящена личности последнего униатского митрополита в Российской империи Иосафата Булгака и его позиции в реформировании-ликвидации Греко-Католической Церкви.*

Палітычныя інтарэсы Расійскай імперыі і Рэчы Паспалітай напрыканцы XVIII – пачатку XIX ст. абвастрылі канфесійную сітуацыю на землях былога Вялікага княства Літоўскага. Найбольш напружанай і зацятай стала барацьба вакол Грэка-Каталіцкай Царквы (ГКЦ). У гэтай барацьбе прымалі ўдзел як царкоўныя іерархі уніяцкай, рымска-каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, так і свецкія прадстаўнікі расійскіх міністэрстваў, дэпартаментаў, структураў. Пры тым істотнай памылкай самога грэка-каталіцкага духавенства было яго ўнутранае супрацьстаянне і адсутнасць адзінства, барацьба белага і чорнага духавенства. Базыльянскі ордэн пры падтрымцы рыма-католікаў навязваў лацінізацыю ўсходняга абраду з пераходам у паступовую паланізацыю ўніятаў. Закрыццё базыльянскіх манастыроў, ініцыяванае расійскім урадам, садзейнічала пераходу базыльянаў у лацінства. У 1830-я гг. шэрагі іх былі нешматлікімі і паўплываць на канфесійную сітуацыю базыльянскі ордэн быў ужо не здольны. Сярод некаторых прыхільнікаў і абаронцаў усходняга абраду ў асяродку уніяцкага духавенства акрэслілася характэрная арыентацыя на дзяржаўную



падтрымку расійскага царызму ў справе супраціву лацінізацыі уніяцтва і захаванні праваслаўнага абраду. Такая падтрымка ў хуткім часе набыла маштабы дзяржаўнай палітыкі ў справе далучэння уніятаў да Праваслаўнай Царквы. З аднаго боку, расійскімі ўладамі ствараюцца спрыяльныя і прымусовыя ўмовы для іх пераходу ў «благочестивую» веру і выношваюцца планы-праекты аб канчатковай ліквідацыі ГКЦ. Напачатку такія працэсы праходзілі з падачы уніяцкага мітрапаліта Іраклія Лісоўскага, а пасля – Язэпа Сямашкі. Іерархі ГКЦ робяць адпаведныя захады ў вяртанні і захаванні сваёй паствы, але захады гэтыя, у параўнанні з дзяржаўнай імперскай палітыкай, істотнага значэння не маюць і не прыносяць патрэбнага плёну.

Другая акалічнасць, якую трэба мець на ўвазе, калі гутарка ідзе пра лёсавырашальную ролю ў справе існавання цэлай канфесіі і пазіцыі канкрэтнай асобы, ў тым, наколькі двудушнай была кадравая палітыка царызму ў адносінах да канкрэтных царкоўных іерархаў. Па-першае, усе існуючыя канфесіі трапілі пад моцны дзяржаўны кантроль і былі падпарадкаваныя адпаведнаму дэпартаменту Свяшчэннага сіноду. Па-другое, на вышэйшыя царкоўныя пасады ў імперыі маглі трапіць толькі асобы, правераныя адпаведнымі структурамі і, у першую чаргу, асобы, якія дэманстравалі лаяльнасць да расійскай вонкавай і ўнутранай палітыкі, да адпаведных, ініцыяваных царскім урадам, захадаў, мерапрыемстваў, рэформаў. Так, да прыкладу, у польскай гістарыяграфіі дзейнасць Магілёўсага архіепіскапа Рымска-Каталіцкай Царквы ў Расіі С.Богуш-Сестранцэвіча ацэнена, як палітыка згодніцтва з уладай, што супярэчыць сутнасці каталіцтва, якое не прызнае над сабой вяршэнства свецкай улады – «дух Сестранцэвіча» [1, s. 32]. Адпаведны «дух» працінаў і шэрагі уніяцкага вышэйшага духавенства: І.Лісоўскага, Я.Сямашку, В.Лужынскага, А.Зубко.

Цяжка сказаць, наколькі можна аднесці да такіх дзеячаў уніяцкага мітрапаліта Язафата Булгака. Цяжка таму, што адносна яго асобы ў беларускай гістарыяграфіі, роўна як і ў расійскай і савецкай, сказана, з невялікімі адхіленнямі, не больш радка: «23 лютага памёр уніяцкі мітрапаліт Язафат Булгак, праціўнік уз'яднання з Праваслаўнай Царквой» [2].

А між тым, нагадаем, што Я.Булгак больш за 40 гадоў знаходзіўся ў цэнтры канфесійнага калавароту, быў галоўнай фігурай уніяцкага жыцця і асобай, ад якой шмат у чым залежаў лёс Уніі. Так, у 1790 – 1795 гг. ён быў прызначаны на пасаду епіскапа, каад'ютара Пінскай епархіі, у 1798 – 1828 гг. – епіскап брэсцкі, ад 1817 г. – мітрапаліт Грэка-Каталіцкай Царквы Віленскай мітраполіі (1817 – 1828 гг.) і архіепіскап Полацкі (1833 – 1838 гг.). Варта яшчэ дадаць, што сярод іерархаў праваслаўнага, каталіцкага і уніяцкага духавенства Я.Булгак быў асобай

найбольш адукаванай: абараніў у Рыме дзве доктарскія дысертацыі (па дагматычнай тэалогіі і па кананічнаму праву), валодаў разважлівым, засяроджаным, спакойным і рашучым характарам і, што найбольш уражвае, – вылучаўся глыбокай набожнасцю [3, с. 375]. Несумненна, аўтарытэт яго быў вельмі вялікім не толькі сярод духавенства і вернікаў розных канфесій (уніятаў, католікаў, праваслаўных, пратэстантаў), але і ў асяродку расійскай чыноўніцкай і прыдворнай наменклатуры, якая, у сваю чаргу, імкнулася скарыстаць (і часта скарыстоўвала) гэты аўтарытэт у сваіх мэтах. Доўгі час слова мітрапаліта было вырашальным, а пасля набыло глыбока сімвалічны сэнс – жыццё Грэка-Каталіцкай Царквы ў Расіі атаясамлівалася з вобразам яе першага іерарха.

Гэтыя факты пераканаўча гавораць аб неардынарнасці асобы уніяцкага мітрапаліта, але, на вялікі жаль, асаблівай цікавасці, як з боку расійскіх, так і беларускіх навукоўцаў гэта постаць не выклікала.

Тым не менш, звернем увагу на некаторыя моманты жыцця і дзейнасці мітрапаліта; пастараемся зразумець матывацыю, паводзіны, учынкі, а ў цэлым – пазіцыю мітрапаліта ў той складанай і неадназначнай сітуацыі. Так, узначаліўшы адміністрацыю Пінскай дыяцэзіі, Я.Булгак звярнуўся да варшаўскага нунцыя з лістом (1795 г.), у якім прывёў факты выкарыстання праваслаўнымі духоўнікамі войска і паліцыі пры навяртанні уніятаў на праваслаўную веру [4, s. 31–32]. У 1797 – 1798 гг. ён правёў візітацыю уніяцкіх прыходаў Брэсцкай дыяцэзіі з мэтай вяртання да уніі тых вернікаў, якія ад яе адышлі. Я.Булгак выступаў супраць ліквідацыі базальянскіх манастыроў і з гэтай нагоды быў ініцыятарам звароту да папы рымскага і заручыўся яго падтрымкай. Увогулле, быў шчырым прыхільнікам папы і хрысціянскай уніі, але быў супраць палітыкі рымска-каталіцкага духавенства па лацінізацыі уніяцтва.

Вось тут і ўзнікае першая супярэчнасць: базыльяне, якімі апекаваўся Язафат Булгак і да якіх належаў сам паводле манаскага сану, былі найбольш актыўнымі праваднікамі лацінізацыі уніі. Але апякунства мітрапаліта было слабай уцехай у захаванні базыльянскіх манастыроў – манастыры закрываліся, з фармальным узгадненнем і некаторымі ўдакладненнямі Рымска-Каталіцкай Духоўнай калегіі (старшыня архібіскуп С.Богуш-Сестранцэвіч), а ад 1828 г. – Уніяцкай калегіі (старшыня мітрапаліт Я.Булгак). Нагадаем, што абедзве калегіі былі створаны з ініцыятывы расійскіх уладаў з адпаведнай пратэкцыяй іх сяброў, але голас Я.Булгака ў працы гэтых калегій быў вельмі важкім, тым не менш, за тры месяцы 1828 г. было закрыта каля 60 базыльянскіх манастыроў.



1820 – 1830-я гг. – час актыўнай падрыхтоўкі да аб’яднання уніятаў з Расійскай Праваслаўнай Царквой (РПЦ). Падрыхтоўка гэта праводзілася ў цесным супрацоўніцтве прадстаўніцтва ГКЦ, РПЦ і свецкіх чыноўнікаў. Тут можна паставіць пытанне такім чынам, а ці мог і на колькі мог супрацьстаяць такім тэндэнцыям мітрапаліт Я.Булгак?

Урадавая рэформа кіравання Грэка-Каталіцкай Царквой (1828 г.) з падпарадкаваннем сіноду, вымусіла Я.Булгака прыняць новыя ўмовы гульні, умовы, якія дыктаваліся урадам. 8 жніўня 1829 г. адбылося пасвячэнне Язэпа Сямашкі ў вікарнага епіскапа з прызначэннем яго старшынёй Беларускай грэка-каталіцкай кансісторыі і правам прысутнасці ва Уніяцкай калегіі. Хіратонію праводзілі мітрапаліт Булгак, уніяцкі епіскап Мартусевіч і рымска-каталіцкі біскуп Гедройць. Цікавы той факт, што «кіпучая і руплівая дзейнасць пратаіерэя Сямашкі, пераўзыходзячая ўсе чалавечыя магчымасці і ацэненая імператарам Мікалаем І» па далучэнні уніятаў да праваслаўя, была ў гэты час добра вядомай усім. Пры тым, што ўсе тры іерархі: Булгак, Мартусевіч і Гедройць не былі прыхільнікамі такой дзейнасці. У 1831 г. Я.Булгак падпісаў ліст, складзены Я.Сямашкам, з асуджэннем паўстання 1830 – 1831 гг. У 1834 г. мітрапаліт пасвяціў на пасады грэка-каталіцкіх епіскапаў Васіля Лужынскага, Антона Зубко, Язэпа Жарскага. Хіратонія праходзіла ў суправаджэнні мітрапаліта Булгака, епіскапа Я.Сямашкі, рымска-каталіцкага біскупа Паўлоўскага [5, с. 212 – 213]. Зразумела, што гэтыя асобы мітрапаліт пасвячаў з падачы Я.Семашкі і з адабрэннем свецкай улады. Больш таго, мітрапаліт Я.Булгак 1830-я гг. быў старшынёй Грэка-Каталіцкай калегіі, але справамі калегіі кіраваў Я.Сямашка, быў мітрапалітам уніяцкай епархіі, але фактычна яна знаходзілася ў руках В.Лужынскага, быў праціўнікам уз’яднання з праваслаўнымі, але ў той жа час быў членам сакрэтнага камітэту па ліквідацыі уніяцкай царквы [6, с.16].

Дарэчы наконт камітэту. Сакрэтны камітэт быў створаны паводле імператарскага загаду ў 1835 г. У яго ўвайшлі праваслаўныя мітрапаліты Ноўгарадскай, Маскоўскай і Тверскай епархій, обер-пракурор сінода Нячаеў, граф Талстой, князь Галіцын, міністр унутраных спраў Блудаў і мітрапаліт Я.Булгак [7, с. 465]. У адносінах да камітэту, скажам адно: удзел духавенства ў такім камітэце быў істотным парушэннем Кананічнага права, як Праваслаўнай, так і Грэка-Каталіцкай Цэрквы.

Тут зноўку ўзнікае шэраг пытанняў і, у першую чаргу, як у такую кампанію трапіў і што ў такой кампаніі рабіў галоўны іерарх усіх грэка-католікаў у Расіі?...

М.В.Доўнар-Запольскі, характарызуючы дадзеную сітуацыю, адзначае: «Усе базыльянскія кляштары былі падпарадкаваны мясцоваму епархіяльнаму начальству. Састарэлы Іясафат Булгак павінен быў

згадзіцца на ўсе новыя меры, за што ім захаваліся ўсе яго даходы» [8, 295–296].

Няўжо ўся прычына такой супярэчлівай пазіцыі Я.Булгака была ў яго старасці і ў яго даходах? Але калі б так было на самай справе, тады мітрапаліту было б ўсё роўна: будзе існаваць Уніяцтва ці яго зліквідуюць.

Можна паставіць пытанне і такім чынам: неадназначная і супярэчлівая сітуацыя, у якой апынулася уніяты пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, істотна ўплывала на фармаванне іх светапогляду і ментальнасці ў цэлым. Агітацыйна-прапагандысцкая праца па «дабравольным» далучэнні да праваслаўя суправаджалася гвалтоўнымі і рэпрэсіўнымі метадамі. 593 уніяцкія святары, не зважаючы на пагрозы, адмовіліся даць подпісы і мяняць веру – ўсіх іх ізалявалі ад грамадства высылкай у манастырскія турмы. 160 з іх былі высланы ў глыб Расіі і ў Сібір [9, с. 11].

Не думаецца, што мітрапаліт спалохаўся рэпрэсій, але такія ўмовы звычайна фармуюць супярэчлівыя, кампрамісныя і нават прыстасавальніцкія рысы светапогляду і характару, каб прадухіліць яшчэ горшую сітуацыю. Цяжка сказаць, наколькі такія рысы адпавядалі супярэчлівасці характару самога мітрапаліта. Але такія пытанні могуць узнікнуць, асабліва пры недастатковай дасведчанасці альбо пры адсутнасці жадання бачыць і шукаць таму прычыны. Так, у расійскай гістарыяграфіі склалася меркаванне, што Язафат Булгак паводле паходжання быў палякам і лацiннікам, які любіў праваслаўныя абрады, але не жадаў, каб непазбежнае аб’яднанне адбылося пры яго жыцці [10, с. 256]. Абсурднасць такога меркавання не вытрымлівае крытыкі: пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, пасля палітыкі абмежавання сферы ўплываў польскай мовы і культуры і, у прыватнасці, дзейнасці каталікаў-лацінікаў, пасля гвалтоўнага навароту уніятаў у праваслаўе (ва ўсім гэтым актыўны ўдзел прымала Расійская Праваслаўная Царква) – і пасля ўсяго гэтага, паводле Г.Кіпрыяновіча, выходзіць, што палякі-лацінікі любяць праваслаўныя абрады. З аднаго боку, большага інтэлектуальнага глупства, чым гэта, цяжка прыдумаць. З другога, не такое гэта можа быць і глупства, асабліва калі ўлічыць, што паводле палітыкі расійскага царызму на землях былой Рэчы Паспалітай нікога іншага, апрача палякаў (нават і тых, хто гаварыў на беларускай мове, але быў прыхільнікам папы рымскага), царскія ідэолагі і чыноўнікі не прызнавалі і прызнаваць не хацелі.

Між тым… «У пачатку 1838 г. адбылася падзея, якая мела вырашальны ўплыў на лёс уніі. У лютым памёр уніяцкі мітрапаліт Язафат Булгак, які хоць і не выступаў адкрыта супраць пастановаў Грэка-уніяцкай калегіі па збліжэнні уніі з праваслаўем, але дзеля сувязей з асяродкам, з якога выйшаў сам, не хацеў, каб такое ўз’яднанне адбылося пры ім і таму адносіўся да яго непрыхільна» [5, с. 216 – 217].

Зразумела, што не асяродак, з якога выйшаў мітрапаліт (маем на ўвазе базыльянаў), быў асноўнай прычынай супрацьстаяння ў справе аб’яднання цэркваў, тым больш, што і ад асяродка таго ўжо амаль што нічога не засталося. Праўда, пад тым асяродкам можна зразумець і сотні тысяч простых вернікаў-уніятаў, якія не адносілі сябе ні да палякаў, ні да расіян і якія верылі свайму мітрапаліту. Але наколькі гэты асяродак бачыў і адчуваў сам мітрапаліт, пакуль што гаварыць цяжка.

На гэты момант ва уніяцкай царкоўнай іерархіі мітрапаліт Булгак быў адзіным праціўнікам, «адзінай перашкодай», паводле Я.Сямашкі, на шляху да ўз’яднання Цэркваў. Праўда, нездоўга да гэтага ў падтрымку мітрапаліта Я.Булгака нечакана выказаўся епіскап Літоўскі (Брэсцкі) Язафат Жарскі, але і той неўзабаве памёр у вельмі маладым узросце.

Увогуле смерць як аднаго, так і другога, і прыкладна ў адзін і той жа час не магла не насцярожыць. Водгукі тых падзеяў неяк прасачыліся ў літаратуру. Так, Ян Булгак, вядомы фатограф у міжваеннай Польшчы, у сваёй кнізе «Край дзіцячых гадоў» пры аповядзе пра знакамітых людзей свайго роду, спасылаючыся на брашуру Мар’яна Дубецкага «Тэрэза з Вяржбіцкіх Булгак – пасмяротны партрэт», піша: «… толькі яго (Я.Булгака) правата і незгінаемая пазіцыя ўстрымалі цара Мікалая і расійскі ўрад ад спроб яшчэ раней знішчыць аб’яднанне цэркваў. Мітрапаліт памёр у 1838 г. пры вельмі трагічных абставінах. Выклікаў ці прыспешыў яго смерць цар Мікалай, які доўга ўгаворваў яго прыняць схізму, і калі апошні нязломна працівіўся і адхіляў усякі ціск, цар на каленях маліў яго адмовіцца ад супраціўлення дзеля шчасця Расіі, а ў канцы, абураны непадатлівасцю біскупа, устаў і ўдарыў яго, патураючы сваёй дзікай усходняй натуры. Біскуп упаў, а праз некалькі дзён завяршыў жыццё» [11, с. 20].

Сёння цяжка гаварыць, як было на самай справе. Не з’яўляецца выключэннем і яго натуральная смерць – мітрапаліту было амаль што 80 гадоў (20.04.1758 – 9.03.1838). Але адно становіцца зразумелым: расійскі царызм не проста хацеў зліквідаваць непатрэбную яму канфесію, ён імкнуўся прадэманстраваць усяму свету дабраахвотны характар вяртання уніяцкага духавенства і вернікаў да праваслаўя, «вернуть с любовью, отторгнутых насилием», і тым самым прынізіць у вачах усіх вернікаў-хрысціян ролю Ватыкана, як апірышча Рымска-Каталіцкай Царквы і Уніі, абмежаваць дзейнасць каталікаў і польскія

ўплывы ў межах Расіі і прыўзняць на ступеньку вышэй як свой дзяржаўны аўтарытэт, так і ролю расійскага праваслаўя. У гэтым, магчыма, Мікалай I і бачыў будучыню імперыі – «шчасце Расіі», і дзеля гэтага можна было б пайсці на ўсё: і на калені стаць, і ўдарыць.

Такім чынам, мітрапаліта Язафата Булгака трэба лічыць адным з першых прадстаўнікоў той катэгорыі беларускіх деячаў, якіх пазней сталі характарызаваць як беларусінаў, выхаваных на польскай культуры. Але гэта не гаворыць аб тым, што ён быў палякам паводле свайго паходжання. Нарадзіўся на Слонімшчыне ў шляхецкай сям'і, родавыя карэнні якой вялі да татарскага паходжання. І паводле сваёй ментальнасці ён быў значна бліжэй да беларусаў, пра што гаворыць яго пасрэдніцкая роля, нават місія, здольнасці пазбягаць крайнасцей, трымацца на ўзроўнях разумнага кампрамісу і непахіснасці – крытэрыі, якія і сёння запатрабаваны ў беларускім грамадстве.

Увогуле асоба мітрапаліта Язафата Булгака заслугоўвае значна большай увагі. Ці не прадбачыў ён у ліквідацыі ГКЦ, асабліва ў тых метадах і падыходах, якія супярэчылі ўсякім хрысціянскім нормам і канонам, катастрофу хрысціянскай маралі ў Расіі? Ці не прадчуваў ён трагедыю не толькі уніятаў, але і трагедыю беларускага народу? І ці не варта было б паставіць пытанне наконт таго, што пазіцыя мітрапаліта Язафата Булгака ў справе супрацыву ліквідацыі Грэка-Каталіцкай Царквы – гэта на той час – пазіцыя ўласна беларуская, нацыянальная (са сваімі характэрнымі хістаннямі, сумневамі, кампрамісамі і згодніцтвам дзеля ідэі), праўда, пазіцыя яшчэ не настолькі ўсвядомленая, але затое ўстойлівая ў выбары ўсходніх і заходніх рэлігійных, палітычных і культурных арыентацый.

*Спіс крыніц і літаратуры*


1. Rutkowcki, F., ks. Arcybiskup Jan Cieplak (1857 – 1926): szkic biograficzny / ks. F.Rutkowcki. – Warszawa, 1934.
2. Киприанович, Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белорусии и Литве / Г.Я.Киприанович. – Минск: Изд. Белорусского Экзархата, 2006. – С. 256.; Ластоўскі, В.Ю. Кароткая гісторыя Беларусі / В.Ю.Ластоўскі. – Мінск: Універсітэцкае, 1993. – С.96; Доўнар-Запольскі, М.В.Гісторыя Беларусі / М.В. Доўнар-Запольскі. – Мінск: БелЭн, 1994. – С. 296; Мартос, А. Белорусь в исторической, государственной и церковной жизни / А.Мартос. – Минск, 1990. – С. 222;. Гісторыя Беларусі. У 6 т. Т 4 Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.) / М.Біч, В.Яноўская, С.Рудовіч і інш./ Рэдкал.:М.Касцюк (гал.рэдактар) і інш. – Мінск, Экаперспектыва, 2007. – С. 93.
3. Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыкл. даведнік. – Мінск: БелЭн, 1995.
4. Radwan, M. Carat wobec Kościoła Grekokatolickiego w zaborze Rosyjskim 1796 – 1839 / M.Radwan. – Roma-Lublin: Polski Instytut Kultury Chrześcijańskiej, 2001.





5. Зноско, К. Исторический очерк Церковной Унии / К.Зноско. – Москва: Отдел по благотворительности Московского Патриархата, «Маргис», 1993. – 233 с.
6. Філатава, А.М. Хрысціянскія канфесіі пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі (1772 – 1860) / А.М.Філатава // Канфесіі на Беларусі (к. XVIII – XX ст.) / В.В.Грыгор'ева, У.М.Завальнюк, У.І.Навіцкі, А.М.Філатава; навук. рэд. У.І.Навіцкі – Мінск: Экаперспектыва, 1998.
7. Уния в документах: сб. / сост. В.А.Теплова, З.И.Зуева. – Минск: Лучи Софии, 1997. – 520 с.
8. Доўнар-Запольскі, М.В. Гісторыя Беларусі / М.В. Доўнар-Запольскі. – Мінск: БелЭн, 1994.
9. Гарошка, Л. Пад знакам «рускае і польскае» веры / Л.Гарошка // Божым шляхам. – 1954. – № 62.
10. Киприанович, Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белорусии и Литве / Г.Я.Киприанович. – Минск: Изд. Белорусского Экзархата, 2006.
11. Булгак, Ян. Край дзіцячых гадоў / Ян Булгак; уклад. і аўтар успуп. арт., пер. з польск. мовы Т.Г.Вяршыцкая. – Мінск: Беларусь, 2004. – 415 с..; іл.


**Трацяк Іван Іванавіч** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт (Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я. Купалы).

УДК 2-9(476) (И. Железовский)

**А. Бензярук** (Жабінка)

# ЕПІСКАП БРЭСЦКІ ІГНАЦІЙ ЖАЛЯЗОЎСКІ

*Статья посвящена жизни и деятельности Игнатия Железовского. Приводятся малоизвестные факты биографии брестского епископа.*

Духоўная радня Жалязоўскіх здаўна правіла службу ў Сяхновіцкай царкве, закладзенай некалі ў гонар Святога Міколы Цудатворцы. У 1761 годзе мясцовы святар Фёдар Жалязоўскі перадаў у брэсцкі гарадскі суд ліст, складзены ў Вялікіх Сяхновічах (сучасны Жабінкаўскі раён Брэсцкай вобласці) ваяводскім пісарам Паўлам Касцюшкам-Сяхновіцкім. Уладар маёнтку вырашыў «абнавіць і палепшыць заснаваную ў старажытнасці царкву», каб у ёй «тварыліся святыя таінствы і па старажытным абрадзе прыносіліся Богу ахвяры».

Менавіта ў гэтай царкве быў ахрышчаны будучы брэсцкі епіскап – адзін з чатырох сыноў сяхновіцкага святара Лявонція Жалязоўскага, чыя дамавіна дасюль захоўваецца паблізу храма. Сыну, народжанаму 10 (22) студзеня 1800 года, бацька пры хрышчэнні першапачаткова даў імя Якаў. Гэтае храбрае, яркае і моцнае імя ўтрымлівала пажаданне народжанаму быць добрым, простым і набожным чалавекам. Як вядома, усе гэтыя рысы былі ўласцівы пазней брэсцкаму ўладыку.

З першых дзён яго лёс быў прадвызначаны: бацька бачыў у сыне толькі святара. Таму, атрымаўшы пачатковыя веды, Якаў Жалязоўскі быў залічаны ў Галоўную духоўную семінарыю, якая дзейнічала пры універсітэце ў Вільні. Пасля паспяховага завяршэння навучання ён вярнуўся на радзіму ў якасці настаўніка Кобрынскага духоўнага вучылішча, дзе працаваў да 1834 года, калі звярнуў на сябе ўвагу архіепіскапа (у будучым – мітрапаліта Іосіфа Сямашкі). Яго сціпласць і акуратнасць выклікалі сімпатыю архіепіскапа, які рыхтаваў скасаванне ўніі на колішніх землях Вялікага Княства Літоўскага і шукаў патрэбных яму верных ды сумленных паплечнікаў.

У 1834 годзе Якаў прыняў манаскі пострыг, з гэтага часу ён прымае імя Ігнацыя, становіцца надзейным і самаадданым прыхільнікам І. Сямашкі.

12 лютага 1839 года, у так званую Нядзелю Праваслаўя, у старажытны Полацк з’ехалася мноства царкоўных іерархаў, што абмяркоўвалі праект з’яднання уніяцтва з праваслаўнай царквой. У выніку быў выпрацаваны «Саборны акт аб уз’яднанні». Сярод іншых свой подпіс пад гэтым дакументам пакінуў і айцец Ігнацій Жалязоўскі.

У тым самым памятным годзе амаль саракагадовы іераманах быў накіраваны ў Гродна настаяцелем старажытнага Барысаглебскага (Каложскага) храма. Пабудаваны яшчэ ў XII стагоддзі, ён і сёння застаецца гонарам і прыгажосцю зямлі беларускай, створаны таленавітымі рукамі мясцовых дойлідаў.

Перад прыездам новага настаяцеля старажытная Каложа жыла прадчуваннем немінучай гібелі. Сцены храма падмываў Нёман, пагражаючы зусім знішчыць цудоўны помнік старадаўняй архітэктуры. Спачатку рака паглынула надбярэжныя сады, Каложскую гару і, нарэшце, дабралася да манастырскай царквы. Утварыліся і пабеглі па сцяне першыя значныя трэшчыны. Узімку 1841 года айцец Ігнацій Жалязоўскі, які стаў сведкаю набліжэння бяды, паведаміў епархіяльнаму начальству пра свае трывогі. Ён настойліва прапаноўваў спешна адсяліць манахаў з небяспечнага храма ў горад. Кіраўніцтва запярэчыла, і царква была толькі «запячатана»: у ёй прыпынілі богаслужбы. Справа зрушылася толькі пасля асабістага ўмяшальніцтва імператара Мікалая І, калі нарэшце былі знойдзены сродкі на аднаўленне. Самыя манахі па загаду настаяцеля пачалі саджаць на беразе дрэвы, каб хоць неяк умацаваць яго і адвецi пагрозу ад свайго маленькага храма. Аднак у адну з вясновых начэй 1845 года чарговы моцны разліў Нёмана выклікаў абвал, які закрануў сцяну з поўдня. Аднак у тым, што толькі частка царквы была вынішчана паводкай, можна бачыць заслугу Жалязоўскага, які бараніў Каложу ўсімі сваімі сіламі – і справамі, і малітваю.



20 красавіка 1848 года айцец Ігнацій быў хіратанісаны ў Віленскім кафедральным саборы мітрапалітам Іосіфам Сямашкам на епіскапа брэсцкага, адначасова ён атрымаў прызначэнне на пасаду другога вікарнага епіскапа Літоўскай епархіі. (Дарэчы, на кафедры Жалязоўскі змяніў свайго земляка, ураджэнца горада Высока-Літоўск на Камянеччыне епіскапа Міхаіла, пераведзенага ў Мінск)

У новым высокім званні Ігнацій Жалязоўскі пачаў дзейнічаць надзвычай энергічна. Менш чым за дзесяцігоддзе ён асабіста агледзеў усе цэрквы, уключаныя ў межы епархіі, пры гэтым уласнаручна асвяціў 16 храмаў, большасць з якіх была ператворана з каталіцкіх ці уніяцкіх храмаў.

З асаблівай ахвотай, з цёплым адчуваннем радасці епіскап вяртаўся на радзіму. Калі летам 1852 года ўладыка агляд аў 65 храмаў Кобрынскага павета, ён не мог абмінуць Вялікія Сяхновічы. Можна толькі здагадвацца, якія думкі, успаміны наведвалі Ігнацыя пры набліжэнні да зямлі продкаў, што падаравала яму жыццё.

Нямала сіл брэсцкі епіскап ахвяраваў на тое, каб навучыць мясцовых святароў правільнаму выкананню сваіх абавязкаў. Ён паведамляў, што ў межах Гродзенскай губерні налічвалася 450 храмаў, якія патрабавалі аднаўлення ды рамонту.

Пад наглядам уладыкі ў Гродне быў куплены дом графа Валіцкага, дзе размясціліся архіерэйская рэзідэнцыя і духоўнае вучылішча (у 1950-я гады тут месцілася кафедра хірургіі Гродзенскага дзяржаўнага медінстытута, затым дом быў часткова вернуты адроджанай Гродзенскай епархіі).

У красавіку 1853 года пад час чарговага разліва Нёмана адбыўся новы абвал Барысаглебскага храма. Аднак за год пад наглядам епіскапа Ігнацыя старая царква была адрамантавана.

Уладыка мэтанакіравана адстойваў ідэю канчатковага ўсталявання праваслаўя, меў дастаткова аўтарытэту, каб адстойваць яе перад вельмі значнымі асобамі. Калі восенню 1865 года, адразу пасля падаўлення на беларускіх і польскіх землях паўстання, гродзенскі губернатар К.П. Каўфман аб’язджаў губерню, ён заўважыў у цэрквах мноства уніяцкіх і каталіцкіх крыжоў, статуй святых і загадаў адправіць іх у Літоўскую духоўную кансісторыю. На тое епіскап брэсцкі запатрабаваў (і атрымаў падтрымку з боку мітрапаліта І. Сямашкі), каб некананічныя рэчы прыбіраліся з храмаў і адразу знішчаліся.

Прыкладна да гэтага часу адносіцца апісанне ўладыкі, пакінутае яго сакратаром Аляксандрам Катлінскім: «Наружнасць прэасвяшчэннага Ігнацыя рабіла яго выгляд надзвычай прадстаўнічым. Пры стройнай фігуры росту ён быў сярэдняга. Правільныя рысы твару, высокае адкрытае чало, лагодная выразнасць вачэй рабілі яго вельмі

сімпатычным. Бадзёрасць і свежаць сіл не пакідалі яго да самай хваробы, сівізна ў валасах і шырокай барадзе цудоўна спалучаліся з румянцам чыстага твару… Асаблівасць і быццам нейкую тыповасць давала яму хада. Яна была ў яго заўсёды паспешлівая, жывая і нават вёрткая».

Такім епіскап Ігнацій быў напярэдадні цяжкіх фізічных досведаў. Вясной 1866 года напярэдадні паніхіды па памерламу вялікаму князю Мікалаю Мікалаевічу Раманаву з уладыкаю здарыўся абшырны інсульт, у выніку якога перастаў функцыянаваць правы бок, адняліся нага і рука. Лекары выратавалі жыццё епіскапа, але хваробу адолець не змаглі. Новым цяжкім ударам для Ігнацiя стала ў лістападзе 1868 года смерць мітрапаліта Іосіфа Сямашкі, якога ён пачытаў за сябра і настаўніка.

Адчуваючы сябе ўсё горш, брэсцкі епіскап некалькі разоў звяртаўся з просьбай аб звальненні, і нарэшце 21 чэрвеня 1870 года імператар Аляксандр II задаволіў гэту просьбу, назначыўшы гадавую пенсію ў 2000 рублёў.

Былы епіскап правёў апошнія гады свайго жыцця ў аднаўленай яго намаганнямі Каложскай царкве. Яшчэ перад смерцю Ігнацій Жалязоўскі пажадаў выканаць даўняе абяцанне і пакланіцца праваслаўным святыням у Кіеве, дзе ў верасні 1870 года ён адслужыў апошнюю ў жыцці службу. Адбылося гэта ў пячоры Святога Антонія.

Пасля вяртання ў Гродна былы ўладыка жыў у невялічкай келлі Барысаглебскага манастыра, настаяцелем якога ён з'яўляўся больш за трыццаць гадоў. І толькі тады, як адчуў набліжэнне смерці, загадаў над могільнікавай Свята-Марфінскай царквою ўладкаваць сабе каменную грабніцу на будучы спачын.

1 (13) красавіка 1872 года яго не стала. На пахаванне, якое згодна традыцыі адбылося на трэці дзень пасля смерці, прыехалі архіепіскап мінскі Міхаіл, ад якога ў 1848 годзе ўладыка Ігнацій прыняў брэсцкую кафедру, і Яўгеній, якому яе перадаў у 1870 годзе, зыходзячы на пакой. Было 10 гадзін раніцы, калі цела епіскапа Ігнацыя ўрачыста паклалі ў дамавіну ў тым самым месцы, якое ён сам сабе калісь прызначыў. Жалязоўскі стаў адзіным праваслаўным архіерэем, што знайшоў свой зямны спакой на ўзбярэжжы цудоўнага Нёмана, у горадзе, вядомым сваёй старажытнай гісторыяй.

Амаль праз тры гады (13 студзеня 1875 года) спецыяльным указам Аляксандра II у Віленскім духоўным вучылішчы была ўстаноўлена імянная стыпендыя брэсцкага епіскапа Ігнацыя. Яна назначалася для дзяцей-сірот, здольных у навуках і добрых у сваіх паводзінах. Фундатарамі стыпендыі сталі протаіерэй Антоній Катовіч, святары Іаан Лявіцкі, Васіль Макавецкі, іншыя бліжэйшыя родзічы нябожчыка.



У 1889 годзе, калі ў Расійскай імперыі шырока святкаваліся 50-я ўгодкі ўз'яднання уніяцкай царквы з праваслаўем, ва ўсіх храмах служылася літургія ў памяць падзеі. Сярод імёнаў стваральнікаў гэтага факту неаднаразова гучала імя, пеліся царкоўныя гімны ў светлую памяць уладыкі Ігнація Лявонц'евіча Жалязоўскага, былога епіскапа брэсцкага.

*Спіс крыніц і літаратуры*

1. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г.Гродна. – Ф. 8. – Воп. 1. – Спр. 1409; Воп. 2. – Спр. 455, 1228, 1409, 1684; Ф. 97. – Воп. 1. – Спр. 40, 271, 587.
2. Бензярук, Р. і А. Сорак дарог / Р. і А. Бензярук. – Брэст: Альтэрнатыва, 2007. – С. 122 – 125.
3. Литовские епархиальные ведомости. – 1872. – № 8. – С. 279 – 282.
4. Орловский, Е. Судьбы православия в связи с историею латинства и унии в Гродненской губернии в XIX столетии (1794 – 1900) / Е. Орловский. – Гродна, 1903. – С. 83 – 85, 133 – 136, 142 – 160, 215 – 217, 238 – 252, 259 – 261, 282 – 284, 297, 298.
5. Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Жабінкаўскага раёна / Рэд.-укл. Р.Я. Смірнова. – Мінск: Ураджай, 1999. – С. 131 – 133, 492, 502.
6. Черепица, В. Не потерять связующую нить / В. Черепица. – Гродно, 2003. – С.96 – 97.
7. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Мінск, 1996. – Т. 3. – С. 364.

**Анатоль Расціслававіч Бензярук** – беларускі краязнавец, гісторык, сябра Міжраённага грамадскага аб'яднання Т. Касцюшкі ў Брэсце, даследчык гісторычнага мінулага Жабінкаўшчыны, радаводных сувязей шляхецкіх радоў, біёграф Т. Касцюшкі ды іншых слынных землякоў.

УДК 271.4(476):908(476)

**Л.Л. Лаўрэш** (Ліда)

## ЛІКВІДАЦЫЯ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ НА ЛІДЧЫНЕ

*На примере Лидского уезда статья освещает процессы реформирования униатской церкви в 1833 – 1840 гг. (переоборудование храмов, изменение их интерьера, замена богослужебных книг), которые вели к уничтожению церковной унии, а также реакцию на эти изменения самих униатов. Приведены примеры разбирательства фактов уклонения униатов от господствующей веры.*

Урадавы наступ на унію пачаўся ў хуткім часе пасля далучэння Беларусі да Расіі. Але шэраг абставінаў, у тым ліку супраціўленне уніятаў знішчэнню іх веравызнання, забяспечыў іх царкве яшчэ амаль

шэсць дзесяцігоддзяў існавання. Дапамога уніяцкага духавенства паўстанцам 1831 г. вызначыла няўсцешны лёс царквы. Яе ліквідацыя пачалася з пераабсталявання храмаў.

У 1834 г. усталяванне праваслаўных іканастасаў прыйшло ва уніяцкія цэрквы Лідчыны: Голдаўскую, Ракавіцкую, Астрынскую. Арлянскую, Сабакінскую, Ганчарскую і Лябёдскую. Іх прыходы аказаліся настолькі беднымі, што сяляне былі няздольныя за ўласны кошт запрасіць сталяроў і мастакоў дзеля належнай змены інтэр'еру храма. Радзівонішскую царкву вырашылі наогул знішчыць – была ў вельмі дрэнным стане. Праўда, спачатку размова ішла аб захаванні храма. Лідскаму благачыннаму С. Брэнну 24 студзеня дакладзена: «…сообщено лидскому уездному предводителю дворянства…, чтобы о починке этой церкви не оставил старание, и … Бренну ежемесячно рапортовал» [1]. 29 студзеня 1840 г. лідскі прадвадзіцель інфармаваў С.Брэнна, «что устройство Радзивонишской церкви поручено г. уездному судье Журавскому» [2] Але адрамантаваць царкву так і не змаглі.

Святар і вернікі з вёскі Дакудава аказалі супраціў зменам у інтэр'еры свайго храма, таму, паводле афіцыйнага паведамлення, «употребляется деятельное настаивание» аб усталяванні тут іканастаса. 30 снежня 1835 г. гродзенскі губернатар Копцеў загадаў убраць з уніяцкіх цэркваў падведамнай яму тэрыторыі ўсе рэчы, неўласцівыя праваслаўю: арганы, лаўкі, званочкі. На выкананне загаду далі 5 месяцаў. 25 сакавіка 1836 года лідскі земскі спраўнік палкоўнік фон Берг інфармаваў губернатара, што такая работа ў Лідскім павеце ўжо распачата, і абяцаў прасачыць за дакладнасцю выканання загаду. Арганы – яны меліся ў Баброўскай, Голдаўскай, Сабакінскай і Маламажэйкаўскай (Мураванкаўскай) цэрквах – падлягалі продажу, а калі не знойдзецца пакупнікоў, – разборцы. Арганісты пераводзіліся на іншыя духоўныя пасады [3]. 14 лютага губернскі вайсковы начальнік фон Берг нагадваў лідскаму благачыннаму С. Брэнну аб «неприступлении к устройству иконостасов Остринской, Собакинской и Глембокской церквей, … а … церкви в Демброве и Дикушках ещё не построены…» [4].

На працягу 1834–1835 гг. перабсталёўвалася згодна з патрабаваннямі Голдаўская царква: быў усталяваны іканастас, разабраны арган, вынесены лаўкі, выдалены званочкі. Не абышлося без абурэння тутэйшых жыхароў. Лідскі земскі спраўнік Вітэнгоф 2 снежня 1834 г. дакладваў гродзенскаму губернатару М. Мураўёву: «У Голдаўскай царкве так мала бывае людзей з чэрні таго прыхода. Ёсць нагода зазначыць, што ў Баброўскай царкве, якая ў бліжэйшай адлегласці знаходзіцца, яшчэ няма інакастасу, і туды зараз павярнуліся



прыхаджане Голдаўскага прыходу». Мураўёў з гэтай нагоды распарадзіўся «старацца ў дакладнасці выканаць ускладзенае на Вас прадпісанне: абсталяваць інакастасы і іншыя духоўныя прынады па грэка–ўсходняму абраду. Дакладваць мне толькі пра поспехі справы [5]. Лідскі спраўнік адным з першых у губерні зрабіў справаздачу, што арганы знішчаны, лаўкі вынесены, іншыя неўласцівыя ўсходняму абраду рэчы ліквідаваныя [6].

Старыя уніяцкія кнігі збіраліся па ўсіх прыходах і паліліся. Мітрапаліт Іосіф Сямашка пісаў у сваіх «Запісках», што толькі за 3 гады было сабрана і спалена па яго загаду больш за 2000 старадрукаў з друкарань Вялікага княства Літоўскага. Замест мясцовых выданняў з царкоўнаславянскімі тэкстамі беларускай рэдакцыі ў храмы прысылалі выданні маскоўскай сінадальнай друкарні з тэкстамі ў рускай рэдакцыі [7]. 24 студзеня 1840 г. лідскага благачыннага С. Брэнна абавязалі аб неабходнасці «снабжения всех церквей проскомодийными листами согласно обрядов русской церкви» [8]. 30 чэрвеня 1840 г. у заходнія губерні паведамілі, што «Святейшый синод поможет …отпустить для воссоединения церквей 1442 экземпляров малого требника …» [9].

Святароў прымушалі падпісвацца пад паперай з адмовай ад уніі. Аднак 593 святары з Беларусі, не зважаючы на пагрозы, наадрэз адмовіліся даць свой подпіс і згадзіцца са скасаваннем уніі. Многіх з іх, у асноўным бацькоў шматдзетных сем'яў, чый сацыяльны статус не вельмі адрозніваўся ад сялянскага, заключылі ў манастырскія турмы, часткова ў манастыры Беларусі (Бытень, Жыровіцы), часткова Украіны, некаторых выслалі ў глыб Расіі. 1243 святары далі патрабуемую ад іх падпіску [10].

18 студзеня 1840 г. у Літоўскай кансісторыі слухалі ігумена Быценскага манастыра Лявонція Аколава аб заключаным у тым манастыры «на искуплении» Іосіфе Тымінскім, пакараным за ўпартасць у сваёй адмове мяняць веру. Тымінскага перавялі на пасаду дыякана ў Астрынскаю царкву Лідскага павета, а мясцоваму благачыннаму С. Брэнну даручылі «употребить меры по исправлению Иосифа Тыминского» [11]. 22 чэрвеня той рапартаваў кансісторыі, што паміж святаром астрынскай царквы Гінтаўтам і дыяканам Тымінскім складзена пагадненне: Гінтаўт абавязаўся яму «давать одежду и пропитание, а также обыкновенный дьячковый от прихода доход, которого может иметь до 12 руб. серебром, на что дьячок Тыминский согласился « [12]. У ліставанні С. Брэнна ёсць інфармацыя з Літоўскай кансісторыі ад ковенскага благачыннага Фурасевіча «о побеге … в Австрийскую Галицию священника Тупайской церкви Иоанна Балинского» [13]. Такая тэндэнцыя – ўцёкаў уніяцкіх святароў, якія не жадалі кінуць сваю веру,

у Галіцыю, дзе аўтрыйскі ўрад не чапаў унію, назіралася ў Беларусі на мяжы 1830 – 1840- х гг.

Шмат вернікаў, каб ухіліцца да пераводу ў праваслаўе, прымалі рымска–каталіцкую веру. 14 лістапада 1839 г. С. Брэнн звярнуўся з запытам да гродзенскага губернатара, што рабіць з такімі вернікамі. Адказ быў наступны: да асобага распараджэння літоўскага епіскапа Іосіфа земскім судам і гарадской паліцыі не распачынаць следства па справах аб ухіленні ад пануючай веры, але дзейнічаць разам з праваслаўным духавенствам «благоразумными мерами посредством приличного внушения» [14]. Рыма–каталіцкаму духавенству «…строжайше предписывалось … бывшее греко-униатское духовенство и народ Литовский не называть греко-униатским, но православным…» [15].

24 студзеня 1840 г. губернскае праўленне даручыла ліскаму гараднічаму, каб ён «для возвращения учителя лидского городского училища Нестора Осовского из латинства в природное православие, поступил сообразно циркулярному предписанию, ... следствие прекратил, … а действовал приличным внушением» [16]. У сакавіку 1840 г. Літоўская кансісторыя слухала справаздачу гродзенскага губернскага праўлення аб настаўніку Н.Асоўскім, які ў пісьмова засведчыў, што «исповедует природный православный обряд и в Римское исповедание не переходил» [17].

20 кастрычніка 1839 г. кансісторыя заслухоўвала паведамленне гродзенскага губернскага праўлення аб пастанове Лідскага земскага суда за нумарам 3708, на падставе якога прыхаджанін Баброўскай царквы селянін з вёскі Ходзюкі Адам Мілька, «перешедший … в латинский обряд, в православное исповедание возвращён» [18]. 10 красавіка 1840 г. кансисторыя канстатавала, што «крестьянин имения Косовщина Адамовичевский Иван … в православное исповедание возвращён»٠19]. 28 чэрвеня 1840 г. І. Сямашка «предложил Консистории … истребовать дополнительные сведения от благочинных ... именные списки, по годам и по приходам, о … людях бывшего греко-униатского исповедания, как совращены были в прежние времена в Римский обряд, … согласно предложения данного Его высокопреосвященством от 8 ноября 1836 г. за № 951 возвратить к природному греко-восточному исповеданию, с наименованием каждого лица, места рождения, времени совращения, а также возвращения к своей вере» [20].

Стваралі клопатаў мясцовым духоўным і свецкім уладам таксама жонкі уніяцкіх святароў. Ужо вядомы нам С.Брэнн «более двух лет старался благоразумными методами склонить жену настоятеля Гончарской церкви Терезу из Колендов Костецкую с дочерью Юлией к возвращению в природное православное исповедание, но … Костецкая



столь упряма, что никак римского обряда оставить не может». 30 красавіка 1840 г. гэтай справай займалася Літоўская кансісторыя. Гаварылі пра тое, што на падставе «отношения Слуцкого благочинного Наркевича от 3 декабря 1837 г. … упомянутая Костецкая должна исповедать православную веру, ибо бабка ея – жена православного (хутчэй за ўсё уніяцкага – *Л.Л.*) священника Ярошевича – состояла в том же обряде, и мать тоже», але гэта Касцецкая не слухае нават ўгаворы свайго мужа, святара, аб перамене веры. Разглядалася ў кансісторыі і такая справа: «Жена лидского священника Волчковича с дочерью и Докудовской церкви священника Сцепуры жена с четырьмя дочерьми по ныне состоят в Римском исповедании». Прадпісана даставіць «метрические выписки о рождении и крещении жен священников: лидской церкви Волчковича, докудовской Сцепуры, Гончарской Костецкой … для дальнейшего по сему рассмотрения». Вырашылі, «как жены священнические, для хорошего образования и, следовательно, для будущего благополучия своих детей должны исповедать веру своих матерей, тем паче, что они вероисповеданию родителей своих подлежат, то просит г. Виленского Епархиального Епископа Климовича (рыма-каталіцкага – Л.Л.) учинить распоряжение, дабы прописаным женам православных священников и их дочерем под никаким видом духовные требы Римско–Католическим священникам не преподовать» [21].

Аб справах у мястэчку Свіслач з-пад Гродна С. Брэнну паведамілі наступнае: «Консистория слушала предложения Его преосвященства г. Литовского и Виленского Архиепископа и кавалера Иосифа Семашко от 5 июня за № 830 о … том, что Его Высокопреосвященство отнёсся, куда следует, насчёт письмоводителя Свислочской гимназии Феликса Ячиновского … и изволил предложить Консистории …. уволенных из свислочской гимназии сыновей Ромуальда и Станислава Ячиновских востребовать хотя бы через полицию в Жировичи и утвердить в православной вере. … Как о поступлении в свислочскую гимназию и совращении в латинство … Ячиновских должно быть известно священнику Одринской церкви, при которой они записаны, то потребовать от … священника и Благочинного объяснений»[22]. Аднак нягледзячы на строгія меры, «генерал 9-го округа (гродзенскага – Л.Л.) внутренней стражи при инспектировании вверенного ему округа, удостоверился, … что бывшие греко–католики не знают о присоединении их к православию и называют себя по прежнему униатами …»[23].

Перапіска С. Брэнна напоўнена інфармацыяй аб шлюбах паміж каталікамі і праваслаўнымі, якія, шлюбы, стваралі ўладам шмат праблем. Рыма–каталіцкае духавенства папярэджвалі, што «браки русских, совершенные одними римско-католическими священниками,

не считаются действительными, пока необвенчаны русскими священниками» [24].

25 лістапада 1839 г. Літоўская кансісторыя слухала даклад С. Брэнна аб тым, што «священник Собакинской церкви Бедрицкий рапортом от 23 ноября донёс ему, благочинному, што две женщины … католички … Тереза Михальковичова, девица … , и … Анна Лукашевичева, вдова …, приняли православие и обвенчались Бедрицким, первая с Семёном Сидляцевичем … , вторая с Иваном Омелевичем». Кансісторыя загадала Брэнну «взять от этих женщин расписки, что они будут исповедать православную веру и детей своих обоего пола в ней же воспитывать» [25]. 15 студзеня 1840 г. нагадалі «при браке между православными и иноверцами всякий раз испрашивать архирейского разрешения» [26].

30 студзеня 1840 г. кансісторыя слухала даклад С. Брэнна аб тым, што прыхаджанін Жалудокскага касцёла Якаў Смецюх жадае ажаніцца з Францішкаю Дарашэўнай, прыхаджанкай Дзікушскай праваслаўнай царквы. Якаў абавязаўся, што «не будет склонять своей супруги к принятию Римской веры (дал расписку) и детей своих обоего пола будет воспитывать в догматах православного исповедания» [27]. Аналагічна паступіў, як вынікае з дакумента ад 16 снежня 1840 г., салдат Брэсцкага пяхотнага палка, прыхаджанін Няцечскага касцёла адносна яго шлюбу з прыхаджанкай Голдаўскай царквы Аленай Грынявіцкай.

У другой палове 1830-х гг. ішла перадача уніяцкіх храмаў Лідчыны ў праваслаўнае ведамства, а пасля Полацкага сабора 1839 г. уніяцкая царква Беларусі і наогул перастала існаваць.

### *Спіс крыніц і літаратуры*


1. Лідскі гісторыка-мастацкі музей (далей – ЛГММ). – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 24 студзеня 1840 г.
2. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 8 лютага 1840 г.
3. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, г. Гродна. – Ф. 1. – Воп. 19. – Спр. 1004. – Л. 3; Спр. 1005.
4. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 14 лютага 1840 г.
5. Лідскі летапісец. – 1997. –№ 3. – С. 17.
6. Палуцкая, С.В. З гісторыі ўніяцтва на Лідчыне / С. В. Палуцкая // Наш радавод. – Ліда, 1993. – С. 66 – 73.
7. Гарошка, Л. Пад знакам рускае і польскае веры / а. Л.Гарошка // Спадчына. – 1999. – № 5 – 6. – С. 184.
8. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 24 студзеня 1840 г.
9. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 30 чэрвеня 1840 г.
10. Гарошка, Л. Пад знакам рускае і польскае веры / а. Л.Гарошка // Спадчына. – 2000. – № 1. – С. 169.
11. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 26 студзеня 1840 г.





12. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 10 ліпеня 1840 г.
13. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 21 лістапада 1840 г.
14. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 24 студзеня 1840 г.
15. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 31 студзеня 1840 г.
16. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 24 студзеня 1840 г.
17. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 8 сакавіка 1840 г.
18. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 17 сакавіка 1840 г.
19. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 10 красавіка 1840 г.
20. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 1 ліпеня 1840 г.
21. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 26 студзеня 1840 г.
22. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 18 ліпеня 1840 г.
23. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 17 кастрычніка 1840 г.
24. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 31 студзеня 1840 г.
25. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 8 лютага 1840 г.
26. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 15 студеня 1840 г.
27. ЛГММ. – Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэнну за 1840 г. Загад ад 16 лютага 1840 г.


**Лаўрэш Леанід Лявонцевіч** – інжынер, краязнаўца (Ліда).

УДК 283/289(476)

**В. Парфененка** (Гродна)

## СПРАВА ПРАТУЛІНСКІХ МУЧАНІКАЎ

*В статье затрагивается проблема политического решения перевода греко-католиков Беларуси в православие в 1878 году, в частности, в Протулине на Падляшье. Исследование основано на устных свидетельствах, записанных после трагедии. Историография этого события по причине участия в ней простых людей довольно скудна. Поэтому использован метод сравнительного анализа сохранившихся ранних публикаций с наиболее новыми.*

Гісторыя заходніх рэгіёнаў этнаграфічнай Беларусі паволі адкрывае даследчыкам як з Захаду, так і з Усходу свае таямніцы. На шляху іх

раскрыцця даследчыкаў сустракаюць цяжкасці ў выглядзе ўстаялых стэрэатыпаў, цяжкадаступнасці значнай часткі крыніцавай базы і інш.

Падзеі знішчэння царскай уладай у 1874 г. грэка-каталіцкай Царквы ў Падляшшы здаўна выклікае навуковую і літаратурную цікавасць. Апошняя ў Расійскай імперыі уніяцкая Холмская епархія адміністрацыйна належала да Каралеўства Польскага і была тэрытарыяльна вельмі разлеглай. Трагедыя, якая здарылася ў падляшскім Пратуліне, не была местам бойкі інтэлектуалаў за самабытнасць Царквы. Гэта была абарона простымі сялянамі таго, што ў адкрытую пачалі іерархі ламаць і нішчыць у Царкве – адметны абрад.

Адміністратар Холмскай епархіі Маркел Попель (высвячаны ў 1850 г.) быў выпускніком Ведэнскага універсітэта, аўтарам некалькіх кніжак, падручніка па Літургіцы, а таксама – перакананым масквафілам і прыхільнікам «уз'яднання з грэка-расійскай царквой». Пасаду адміністратара Попель атрымаў ад царскіх уладаў, аднак Папа рымскі гэта прызначэнне не прызнаў. Ужо 6 красавіка 1871 г. Попель выдаў духавенству Холмскай епархіі цыркуляр пра «ачышчэнне абраду», у якім загадваў праводзіць набажэнствы паводле «чыстага ўсходняга абраду».

Канешне, такія абрадавыя практыкі патрабуюць паважных навуковых доследаў мясцовай літургічнай спадчыны, бо ўсходняя літургія гістарычна не мае уніфікацыі, як, напрыклад, лацінскі абрад. З таго цыркуляра відаць яўная палітыка прасоўвання да тагачасных стандартаў расійскага сінадальнага абраду, а не да якога іншага абраду: беларускага ці візантыйскага.

У чэрвені 1872 г. быў створаны ў Санкт-Пецярбурзе камітэт па пытаннях Холмскай эпархіі, у склад якога ўвайшлі царскі намеснік у Каралеўстве Польскім граф Фёдар Берг, міністр асветы і обер-пракурор Св. Сінода граф Дзмітрый Талстой, начальнік жандармерыі Пётр Шувалаў, люблінскі губернатар Міхал Буцькоўскі. Сярод іх – а. Маркел Попель. Камітэт выдаў адмысловую інструкцыю ў справе «ачышчэння абраду». На падставе гэтага а.Попель разаслаў распараджэнне, у якім абавязваў усіх парахаў з 1 студзеня (паводле старога стылю) перайсці на «чыста ўсходні абрад» набажэнстваў.

У народзе палічылі, што пераход на такі «чысты» абрад у набажэнствах з'яўляецца дарогаю да праваслаўя. У шматлікіх мясцовасцях Холмскай епархіі грэка-католікі чынілі энергічны супраціў увядзенню «чыстага абраду», за што былі рэпрэсаваны. Найбольш яркія выпадкі непакоры «упорствующих униатов» адбыліся ў дзвюх падляшскіх весках Сядлецкай губерні, а менавіта 17 студзеня 1874 г. у вёсцы Дрэлёва (Радзінскі павет) і 26 студзеня 1874 г. у вёсцы Пратулін (Канстанцінаўскі павет).



На дзень трагедыі Пратулін быў вёскай, але жыхары працягвалі называць яго мястэчкам (у XVIII ст. Пратулін меў гарадское права). Уласнікам мясцовага фальварку, ці «ключа добр», былі Патоцкія. У вёсцы стаялі рыма-каталіцкая царква Св. Апосталаў Пятра і Паўла ды грэка-каталіцкая Свята-Троіцкая царква, да якой у 1860 г. належала 1223 прыхаджан, прычым у самім Пратуліне жыло ледзь пяць асобаў, а рэшта пражывала ў навакольных вёсках: Багукалах, Зачопках, Колчыне, Варобліне, Дзерлі, Лугах, Пакінянцы.

Парахам у Пратуліне быў Язэп Курмановіч. За адмову скарыцца выданаму цыркуляру пра «ачышчэнне абраду» ён быў заключаны ў сядлецкую вязніцу.

13 студзеня (паводле старога стылю) новы адміністратар Пратулінскай парафіі а. Урбан адслужыў першую Службу Божую паводле новага кансісторскага правіла.

Парафіяне ўспрынялі гэта фактам скасавання Уніі, хаця да канца 1874 г. прадстаўнікі царскай адміністрацыі – выканаўцы «абрадавай чысткі» – пастаянна пераконвалі «упорствующих», што, маўляў, ніхто не пакушаецца на «веру уніятаў» ды на іх лучнасць з Рымскім Архірэем. Грэка-католікі не верылі і намагаліся ўсякімі спосабамі не дапусціць да храмаў тых святароў, пра якіх стала вядома, што яны выконваюць распараджэнне Холмскай кансісторыі. У Пратуліне ўжо 7 студзеня – ў дзень Раства Хрыстовага – жанчыны схавалі ключ ад царквы. Але па загаду губернатара быў зраблены новы ключ. 23 студзеня больш як 500 вернікаў уніятаў сабралася каля царквы, каб не дапусціць у яе а.Урбана. Пасля выпадку ў Дрэлёве, дзе 17 студзеня загінула 5 вызнаўцаў (аднаго забілі на месцы, а чацвёра памерлі ад ранаў), вернікі пратулінскай парафіі цудоўна ўсведамлялі, што ім пагражае крывавая расправа, што царскія войскі гатовыя ўжыць зброю для «папярэджання бунту». Але нават гэта не спыніла іх стаць на абарону таго, што яны лічылі ў сваім жыцці найкаштоўным – каталіцкай веры.

Начальнік Канстанцінаўскага павета Кутанін па даручэнню губернатара прыехаў у Пратулін для «навядзення прадку» 24 студзеня 1874 г. [параўн.: 4, с. 98] з ротай пяхоты і прыгразіў парафіянам, што заб'е кожнага, хто перашкодзіць прыняць у царкву папа. Пагрозы і спробы выявіць завадатара (пошукі мудрых сялянаў, каб паразмаўляць) не прынеслі выніку: людзі стаялі на сваім цвёрда. «Мы ўсе мудрыя, – адказвалі сяляне, – здолеем абараніць царкву нашу».

26 студзеня прыбыло падмацаванне – падпалкоўнік Штэйн з дзвюма ротамі салдат і сотняй казакаў. Спачатку яны спрабавалі пераканаць сялян адысці ад царквы. Калі гэта не дапамагло, салдаты пачалі наступ і спрабавалі разагнаць абаронцаў пратулінскага храма ўдарамі прыкладаў і багнетаў. Сяляне процістаўлялі ім тыніны ды камяні.

У гэтым рукапашным баі рэгулярныя войскі не здабылі відавочнай переваги: сярод іх былі параненыя, у тым ліку падпалкоўнік Штэйн, дарэчы, лютэранін па веры і немец па нацыянальнасці. Каля 12-й гадзінцы Штэйн выдаў загад страляць. Тады сяляне адкінулі сваю «зброю» і, паводле сведчанняў, і пачалі спяваць царкоўныя песні. Ад куляў на месцы загінула дзевяць чалавек, адзін цяжкапаранены памёр у той жа дзень, а трое іншых – на наступны. Гэтых 13 загінулых грэка-каталікаў пазней абвясцілі блаславёнымі мучанікамі.

Пасля гэтай трагедыі начальнік завёў свяшчэнніка ў храм праз зламаныя дзверы, сялянам не дазволіў пахаваць мучанікаў. Пахаванне здзейснілі салдаты са свяшчэннікам, а магілу зраўнялі з зямлёй ды ўтапталі. Шмат сялянаў трапіла тады ў вязніцы ці было абкладзена вялікай кантрыбуцыяй альбо вывезена ў 1880 г. у Расію.

Акрамя гэтага вядомы таксама ўспаміны пра яшчэ адзін учынак мужных пратулінскіх уніятаў на чале з Конрадам Грэшуком, які ў царкве, стоячы перад алтаром насупраць новых гаспадароў, сказаў святару, які набліжаўся да алтара: «Воўк! Чаму ты прыйшоў да нашай аўчарні! У нас ёсць ключы святыні, а ты ўлез, як злодзей і выламаў дзверы, як забойца. Мы не авечкі твае, а ты не наш пастыр! Пакінь нас і дзетак нашых у спакоі, у імя крыві мучанікаў нашых, пайдзі сабе прэч з нашай святыні, пакінь нас саміх» [4, с.101].

Пратулінскія мучанікі – хто яны? Простыя падляшскія сяляне грэка-каталіцкага вызнання. На жаль, гістарычныя крыніцы пра простых людзей XIX ст. даволі сціплыя. Так, захаваліся толькі сведчанні пра нараджэнні і хрышчэнні саміх Пратулінскіх мучанікаў. Першыя ж сведчанні пра іх мучаніцтва пачалі запісвацца толькі праз 45 год пасля трагічнай падзеі.

### *Спіс крыніц і літаратуры*


1. Dyłągowa, H. Męczenicy Podlascy. Positio historica / H. Dyłągowa. – Sedlice, 1994.
2. Lewandowski, J. Na pograniczu. Polityka władz państwowych wobiec unitów Podlasia i Chełmszyzny 1772 – 1875 / J. Lewandowski. – Lublin, 1996.
3. Сивіцький, П. Блаженні Підляські мученики з Пратулина / П. Сивіцький. – Львів, 1999.
4. Pruszkowski, J. Martyrologium czyli męczeństwo unii św. na Podlasiu / J. Pruszkowski. – Woodbridge, N.J., 1983.



**Парфененка Віктар** – магістр тэалогіі, выкладчык гісторыі Установы адукацыі «Вячэрняя (завочная) школа №1 г. Гродна».


УДК 008(476)




**А.А. Суша** (Мінск)


# КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЫ Ў БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX ст.: ІНТЭГРАЦЫЯ Ў СІСТЭМУ КАШТОЎНАСЦЕЙ І СФЕРУ ЎЖЫТКУ НОВЫХ УЛАДАЛЬНІКАЎ


*Греко-католическая церковь оставила богатое культурное наследие на белорусских землях, но только часть его сохранилась до нашего времени. Немало ценностей было уничтожено пожарами, наводнениями и другими стихиями, погибло в войнах. Большая часть культурного наследия греко-католической церкви была уничтожена сознательно в мирное время или вывезена за пределы нашей страны. То, что осталось, оказалось неприемлемым для его новых собственников.*


Што ж можна лічыць асноўнай прычынай страты такой вялікай часткі культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы? Пажары ва ўсе часы былі адной з важнейшых прычын знішчэння царкоўнай маёмасці: гарэлі цэрквы і манастыры разам са шматлікімі іконамі, скульптурай, царкоўным посудам, кнігамі і г.д. Аднак, безумоўна, пажары і іншыя стыхіі не могуць лічыцца галоўнай прычынай знікнення асноўнай часткі культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы. Тым больш, што на стан захавання нематэрыяльнай спадчыны яны ўплывалі ў нязначнай ступені. Тое ж тычыцца і шматлікіх разбуральных войнаў, якія непасрэдна закранaлі беларускія землі. Вайна неразборліва знішчала культурную спадчыну розных канфесій і помнікі свецкай культуры, аднак знішчыць тую ці іншую традыцыю яна не была здольнай. Вываз культурных каштоўнасцей за межы Беларусі (продаж, рабаўніцтва ў час войнаў, прымусовая канфіскацыя і г.д.) у XIX – XX стст. хоць і меў масавы характар, але і ён не можа лічыцца асноўнай прычынай страт. Па-першае, вываз культурных каштоўнасцей закрануў спадчыну ўсіх канфесій, але не нанёс непапраўнага ўрону ні адной з іх. Па-другое, ён не мог закрануць ў значнай ступені нематэрыяльную і нерухомую (найперш, архітэктурную) спадчыну.

Часта таксама даводзіцца сустракаць меркаванне пра свядомае вынішчэнне культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы дзяржавай і іншымі канфесіямі (найперш, праваслаўнай царквой). Некаторыя аўтары нават кажуць пра «сапраўдную вайну супраць спадчыны грэка-каталіцкай царквы» [3, с. 100]. На наш погляд, у XIX – XX стст. мела месца не вайна супраць гэтай спадчыны, а спроба іншых канфесій, прыватных асоб і дзяржавы інтэграваць гэту спадчыну ва ўласную сістэму каштоўнасцей, прыстасаваць яе да ўласных патрэб. Безумоўна,

далёка не ўсё магло быць прынятым, таму на гэтым шляху інтэграцыі і адаптацыі не магло абысціся без страт.

Такім чынам, асноўнай прычынай знішчэння культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі стала знікненне самой царквы. Знікненне носьбіта традыцыі не магло не выклікаць яе частковую ці поўную страту. У такім разуменні тыя структуры, якія выявілі імкненне інтэграваць культурную спадчыну грэка-каталіцкай царквы ва ўласную сістэму каштоўнасцей і сферу ўжытку не павінны ўспрымацца як знішчальнікі даўняй традыцыі. Наадварот, дзякуючы іх намаганням каштоўнасці, якія ўзніклі ў грэка-каталіцкім асяроддзі, здолелі захавацца да нашага часу. Значна горшы лёс чакаў тую частку культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы, якая засталася незапатрабаванай, – рана ці позна яна зусім знікла.

Найбольш пацярпела пасля ліквідацыі уніі нематэрыяльная (духоўная) спадчына грэка-каталіцкай царквы. Калі матэрыяльныя аб’екты часта працягвалі сваё існаванне незалежна ад існавання асяроддзя, у якім яны ўзніклі, то нематэрыяльная спадчына (музычная творчасць, абраднасць, інтэлектуальнае і манаскае жыццё і інш.) не можа існаваць доўга пасля знікнення свайго носьбіта. Напрыклад, нехарактэрным для праваслаўнай царкоўнай практыкі было існаванне манаскіх ордэнаў. У выніку яшчэ да 1839 г. пачалася рэарганізацыя ордэна базыльян, перадача праваслаўнай царкве базыльянскіх манастыроў (з адпаведнымі зменамі ў манаскім жыцці) і нават іх закрыццё. Абраднасць, якая вызначалася штодзённай практыкай грэка-каталіцкай царквы і адрознівалася ад практыкі набажэнства праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, не магла развівацца без існавання самой царквы.

Безумоўна, на працягу развіцця ўсходняга хрысціянства ў Беларусі (у форме праваслаўнай і грэка-каталіцкай цэркваў) назапасілася нямала рыс, якія адрознівалі яго ад расійскага праваслаўя. Аднак ва ўмовах, калі гэтыя цэрквы перасталі існаваць у якасці самастойных адзінак, нельга было спадзявацца на захаванне іх спецыфікі. Праваслаўная царква Расійскай імперыі не магла прыняць запазычаныя з заходнехрысціянскай практыкі святы (напрыклад, свята Божага Цела), таму іх святкаванне працягвалася толькі прадстаўнікамі рыма-каталіцкай царквы (у т.л. сярод былых грэка-католікаў, што далучыліся да яе). У сваю чаргу, нельга было спадзявацца і на захаванне абраднасці грэка-католікамі, якія перайшлі ў каталіцтва.

Разам з абраднасцю ў нябыт адыходзілі і іншыя практыкі, якія на працягу больш чым двух стагоддзяў выпрацоўвала грэка-каталіцкая царква. Напрыклад, значнаму рэфармаванню падлягала музычнае мастацтва грэка-каталіцкай царквы. Іншы характар, уласцівы



праваслаўнаму і каталіцкаму богаслужэнню, вымагаў адпаведных змен у музычным суправаджэнні набажэнства. Традыцыі грэка-каталіцкай царквы ўжо не маглі быць выкарыстаны ў поўнай меры. Хаця яшчэ доўгі час пасля ліквідацыі уніі ў народзе жылі элементы яе музычнай культуры.

Адным з найвышэйшых дасягненняў царквы была шматузроўневая разгалінаваная адукацыйная сістэма. Безумоўна, яна таксама не магла быць выкарыстана ў поўнай меры ў новых умовах. Так, амаль адразу была пастаўлена па-за законам практыка навучання ў заходніх універсітэтах і калегіях [5]. Нехарактэрным для Расійскай імперыі было таксама існаванне свецкіх адукацыйных устаноў пры манастырах. У выніку пачалася іх рэарганізацыя і ліквідацыя. Для замацавання разрыву з даўняй традыцыяй і рэарганізацыі адукацыйнай сістэмы па новых узорах праводзіўся таксама і перанос былых грэка-каталіцкіх навучальных устаноў на новае месца. Так, найбуйнейшыя школы пры Жыровіцкім і Супрасльскім манастырах былі перанесены адпаведна ў Вільню і Гродна [1, с. 9; 4, с. 302]. Адна за адною былі закрыты або рэарганізаваны многія навучальныя ўстановы грэка-каталіцкай царквы. Дарэчы, падобная сітуацыя склалася і з праваслаўнай царквой у Беларусі пасля далучэння яе да Расіі: нешматлікія навучальныя ўстановы, якія існавалі пры праваслаўных манастырах (як напрыклад, магілёўскія школы), былі закрыты.

Змянялася таксама і моўная практыка ў царкоўным жыцці Беларусі. У грэка-каталіцкім асяроддзі мела месца выкарыстанне беларускай мовы ў прапаведніцкай дзейнасці. На першых парах пасля ліквідацыі уніі яе выкарыстанне часткова захоўвалася. Аднак у практыцы праваслаўнай царквы Расійскай імперыі (незалежна ад рэгіёну краіны) было распаўсюджана максімальнае выкарыстанне рускай мовы. Таму падчас шматлікіх рэвізій беларускіх епархій у XIX ст. пастаянна ажыццяўляўся кантроль за добрым веданнем святарамі рускай мовы, а цэрквы апрача богаслужэбнай літаратуры маскоўскага друку забяспечваліся кнігамі ўзорных казанняў на рускай мове. Выкарыстанне беларускай мовы паступова змяншалася да поўнага яе выкаранення з царкоўнай сферы. Тое ж можна сказаць і пра каталіцкую царкву, якая на тэрыторыі Беларусі апрача сакральнай лацінскай мовы пры правядзенні катэхізацыі і ў казаннях выкарыстоўвала пераважна польскую мову. У выніку былыя прыхаджане грэка-каталіцкай царквы, якія былі вымушаны схіліцца ці да праваслаўнай ці да рыма-каталіцкай царквы, збліжаліся то з рускамоўным, то з польскамоўным асяроддзем.

Матэрыяльная культурная спадчына грэка-каталіцкай царквы захавалася значна лепш, бо яе захаванне ў меншай ступені залежала ад існавання стваральніка і носьбіта. Матэрыяльная спадчына не знікала

ўслед за знікненнем таго асяроддзя, у якім яна ўзнікла і бытавала. Хаця змяненне спецыфікі бытавання, меншая або поўная незапатрабаванасць гэтай спадчыны ў новых умовах вяла да значнага змяншэння яе колькасці.

Сказанае можна праілюстраваць на прыкладзе кніжнай спадчыны. У сувязі са змяненнем абрадавай практыкі, пераарыентацыяй на дагматычныя пазіцыі праваслаўнай або рымска-каталіцкай цэркваў амаль знікла запатрабаванасць у богаслужэбнай літаратуры грэка-каталіцкай царквы. Таму амаль адразу сталі прымацца меры па ліквідацыі выданняў, прызначаных для богаслужэння ў грэка-каталіцкіх храмах. Не прызначаная для вядзення набажэнства грэка-каталіцкая літаратура, за рэдкімі выключэннямі (напрыклад, ідэйна неадпаведныя выданні), пераходзіла ў кнігазборы праваслаўных, каталіцкіх і прыватных бібліятэк.

Гэтаксама амаль не прымалася спецыяльных мер па знішчэнні грэка-каталіцкіх архітэктурных помнікаў пасля ліквідацыі уніі. Многія храмы былі значна перабудаваны (часам, непазнавальна), што таксама сведчыць пра спробы адаптацыі новымі ўладальнікамі культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы да ўласных патрэб. Тым не менш, змены праводзіліся не ў адпаведнасці з мясцовай традыцыяй, часам узнікала неабходнасць ліквідаваць архітэктурныя элементы, не ўласцівыя праваслаўнай традыцыі, – амбоны, бакавыя алтары, элементы інтэр'еру (лаўкі, званочкі) і інш.

З выкарыстання ў праваслаўных цэрквах выводзіліся абразы, якія не адпавядалі ўсходняй традыцыі іканапісання, у храмах пачалося аднаўленне ці рэканструкцыя іканастасаў, у якіх месца старажытных абразоў занялі новыя іконы работы расійскіх жывапісцаў. Абсалютна не адпавядала практыцы расійскай праваслаўнай царквы выкарыстанне аб'ёмных скульптурных выяў ва ўнутраным аздабленні храмаў. Таму са скульптурай сапраўды вялася самая жорсткая барацьба. Больш пашанцавала тым скульптурным творам, якія трапілі ў каталіцкія касцёлы, дзе працягвалі шанавацца і выкарыстоўвацца па сваім асноўным прызначэнні.

Няздольнасць у поўнай меры інтэгравацца ў сістэму каштоўнасцей і сферу ўжытку новых уладальнікаў заставалася асноўнай прычынай страт культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы і ў XX ст. ў Савецкай Беларусі. У сувязі з палітыкай барацьбы з рэлігіяй загінула нямала культурных багаццяў нашай краіны. Зноў з-за неадпаведнасці новым умовам, «незапатрабаванасці» царкоўныя пабудовы і іх матэрыяльныя каштоўнасці знішчаліся ці канфіскаваліся. Вялікія масы народу па сваёй волі ці супраць яе адышлі ад царкоўнага жыцця. У



атэістычнай дзяржаве не было месца для царкоўных каштоўнасцей і помнікаў сакральнага мастацтва.

Такія ўмовы не маглі не спрыяць знікненню даўніх традыцый, знішчэнню ці змене функцыянальнага прызначэння істотнай часткі культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы. Вынікам таго стала знішчэнне і пераабсталяванне царкоўных пабудоў пад іншыя патрэбы (клубы, музеі, архівы, жылыя ці службовыя памяшканні і г.д.), канфіскацыя царкоўных каштоўнасцей (золата, срэбра, каштоўныя камяні, абразы, кнігі і інш.) для барацьбы з голадам і павышэння дабрабыту асобных устаноў, рэгіёнаў і дзяржавы ў цэлым.

Такім чынам, значная колькасць культурных багаццяў, якія засталіся пасля знікнення грэка-каталіцкай царквы, была знішчана на працягу наступнага паўтара стагоддзя. Мы не схільны вінаваціць у гэтым знішчэнні праваслаўную і каталіцкую цэрквы, як і дзяржаўныя структуры. Наадварот, можна казаць, што пераход часткі культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы да новых уладальнікаў станоўча паўплываў на яе захаванне, бо застаўшыся ў іх руках культурная спадчына працягвала быць запатрабаванай, гэта значыць працягвала сваё існаванне. Напрыклад, у выніку праведзенага намі аналізу кнігазбораў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі было высветлена, што пераважная большасць кніжных помнікаў грэка-каталіцкай царквы захоўвалася да 1920-х гг. у праваслаўных цэрквах, манастырах і навучальных установах, а пазней трапіла ў дзяржаўныя зборы. Тое ж тычыцца іншых помнікаў. Тыя ж каштоўнасці, што не былі запатрабаваны, прыходзілі ў заняпад, знішчаліся, прападалі з народнай памяці. Напрыклад, пасля ліквідацыі базыльянскага манастыра пры Сафійскім саборы ў Полацку яго будынак быў закінуты, з яго знялі медзяны дах, які быў адпраўлены ў Пецярбург на будаўніцтва Ісакіеўскага сабора. Ад недагляду пабудова згарэла у выніку пажару. Магутны будынак датрываў да 1913 г., калі яго прадалі расійскаму падрадчыку, які разабраў сцены і сплавіў цэглу па Дзвіне ў Рыгу [2, с. 53–54]. Пабудовы, якія трапілі да новых уладальнікаў, напаткаў значна лепшы лёс: яны працягвалі выкарыстоўвацца па прызначэнню і, у пераважнай большасці, перажылі XIX і XX стагоддзі. Больш таго, перавод пэўнай часткі культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы ў XX ст. у бібліятэчныя, музейныя, архіўныя і іншыя зборы дазволіў забяспечыць іх лепшае захаванне, вывучэнне, а часам і папулярызацыю.

Такім чынам, мы не пагаджаемся са сцвярджэннем аб мэтанакіраванай вайне тых ці іншых сіл супраць культурнай спадчыны грэка-каталіцкай царквы. На нашу думку, асноўнай прычынай страты значнай часткі гэтай спадчыны з'яўляецца яе незапатрабаванасць у новых умовах, якія склаліся пасля знікнення царквы.

*Спіс крыніц і літаратуры*

1. Далматов, Н. Краткое описание Супрасльского Благовещенского монастыря Гродненской губернии, Белостокского уезда / сост. архим. Николай. – Вильна: Тип. А. Г. Сыркина, 1885. – 12 с.
2. Ластоўскі, В. Выбраныя творы / В. Ластоўскі. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997. – 512 с.
3. Марозава, С.В. Лёс культурнай спадчыны уніяцкай царквы ў Беларусі / С. В. Марозава // Спадчына. – 1996. – № 6. – С. 100 – 118.
4. Паевский, Л. С. Жировицкий и Брест-Литовский архивы (к вопросу о значении провинциальных архивов для западно-русского края) / свящ. о. Л. Паевского // Труды девятого археологического съезда в Вильне: 1893. В 2 т. / под ред. графини Уваровой и С. С. Слуцкого. – М. , 1895 – 1897. – Т. 1. – 1895. – С. 299 – 308.
5. Рождественский, С.В. Исторический обзор деятельности Министерства Народного Просвещения, 1802 – 1902 / сост. С. В. Рождественский; изд. М-ва нар. просв. – СПб.: Гос. тип., 1902. – 787 с., 17 л.

**Суша Аляксандр Аляксандравіч** – кандыдат гістарычных навук, вядучы бібліёграф, сакратар Вучонага савета Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

УДК 2-9(476):303.446.4(476)

**Я. Усошын** (Мінск)

## ГІСТАРЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ ПРА УНІЮ Ў «ЛИТОВСКИХ ЕПАРХИАЛЬНЫХ ВЕДОМОСТЯХ» У ПЯЦІДЗЕСЯТЫЯ ЎГОДКІ ЯЕ СКАСАВАННЯ

*Автор на примере анализа статей, посвященных упразднению церковной унии в России, в «Литовских епархиальных ведомостях» прослеживает трансформацию идей и способов реконструкции истории унии в XIX в.*

У 1889 г. адзначалася 50-годдзе ліквідацыі ў 1839 г. на саборы ў Полацку Берасцейскай Царкоўнай Уніі. З гэтай нагоды ў «Литовских епархиальных ведомостях» – органе Літоўскай праваслаўнай епархіі – былі надрукаваны шматлікія артыкулы і іншыя матэрыялы, прысвечаныя падзеі 1839 г. і яе гадавіне. Гэтыя артыкулы належаць да розных жанраў. Сярод іх ёсць панегірычныя вершы, казанні, прысвечаныя актыўным удзельнікам скасавання Уніі і самой падзеі.

Асаблівую ўвагу звяртаюць на сябе атрыкулы трох даследчыкаў Уніі, змешчаныя ў выданні: Міхаіла Каяловіча, Платона Жуковіча і Паўла Баброўскага. Яны прадстаўляюць розныя падыходы да феномену Уніі. Агульным для іх усіх з'яўлецца непрыхільнае стаўленне да так званай «польскай» плыні ва Уніі. Маючца на ўвазе прадстаўнікі



базыльянскага ордэна, з якімі звязваліся літургічны заняпад (у тым ліку і занядбанне славянскай богаслужбовай мовы), паланізацыя і заняпад «неманаскіх» структураў у царкве.

Адначасова трэба адзначыць шэраг разыходжанняў, якія далі пачатак працяглай палеміцы паміж М. Каяловічам і П. Баброўскім. Першым разыходжаннем была ацэнка ролі Брэсцкага капітула ў барацьбе супраць «польскай» партыі ва Уніяцкай царкве. П. Баброўскі ў сваім артыкуле «Противодействие базилианского духовенства стремлению белого духовенства к реформам русской греко-униатской церкви» паспрабаваў прадставіць Брэсцкі капітул пачынальнікам складанага грамадска-царкоўнага руху, які скончыўся скасаваннем Уніі і ўваходжаннем Уніяцкай царквы ў структуры Праваслаўнай царквы. Другім прынцыповым разыходжаннем быў погляд на ролю Іосіфа Сямашкі ў далучэнні ўніятаў да Праваслаўнай царквы. П.Баброўскі прадстаўляў І. Сямашку ўсяго толькі прадаўжальнікам справы, якую распачаў Брэсцкі капітул.

П. Баброўскі не згаджаўся з І. Сямашкам, які ў сваіх успамінах намякаў, што сваёй запіскай ён уратаваў уніятаў ад пераходу ў лацінства пасля рашэння пра абмежаванне дзейнасці базыльян. Даследчык указваў, што аналіз становішча уніяцкай царквы быў, верагодна, падрыхтаваны на аснове папярэдняй працы Брэсцкага уніяцкага капітула яшчэ да запіскі І.Сямашкі [1, с. 30]. Аднак, паводле М. Каяловіча, толькі І. Сямашка быў тым дзеячам, які захацеў далучыць уніятаў да праваслаўя [2, с. 190]. Іншыя дзеячы уніятаў імкнуліся толькі стварыць незалежную ад лацінскага касцёла царкоўную структуру, якая б захавала царкоўна-славянскую мову і стаяла на глебе «рускага напрамку», на паддаючыся ў «польскі бок» [2, с. 191]. М. Каяловіч упарта паўтараў пра тое, што Брэсцкі капітул не імкнуўся да з'яднання. Даследчык прызнаваў заслугі для «рускага» элементу і ўсходняй літургічнай царкоўнасці І. Лісоўскага і І. Красоўскага, але лічыў, што яны не зразумелі неабходнасці з'яднаць уніятаў з праваслаўем. М. Каяловіч нават прызнаваў заслугі і дзеячаў Брэсцкага капітула, але лічыў, што яго лінія была крокам назад у логіцы развіцця руска-ўсходняга руху ў глыбіні Уніяцкай царквы.

Зразумець пазіцыі абодвух навукоўцаў магчыма, калі паглядзець на іх грамадскія погляды. М. Каяловіч быў прыхільнікам ідэі рускага народа, да якога ён залічваў украінцаў і беларусаў. Асновай для народнага жыцця для яго было праваслаўе. П. Баброўскі не ставіў пад сумнеў слушнасць рашэння пра пераход уніятаў да праваслаўя, але імкнуўся пагладзець на гісторыю Уніі знутры. Для яго пунктам адліку, з якога ён глядзеў на гісторыю Уніі, была сама Унія, а для М. Каяловіча – рускі народ. Таму ад П. Баброўскага можна было пачуць, што лацінізацыя з'яўлялася пагрозай для існавання самой Уніі [3, с. 43].

П. Жуковіч, вучань М. Каяловіча, дэманструе яшчэ больш ускладнены падыход да праблемы Уніі. Ён імкнуўся паглядзець на гісторыю Уніі, як на гістарычны працэс, вартасны сам у сабе. Параўнаем пазіцыю П. Жуковіча з іншымі даследчыкамі. М. Каяловіч дае добрую ацэнку гісторыі Уніі толькі таму, што ёсць ў ёй «рускае», ці «праваслаўнае». П. Бабр оўскі спрабуе зламаць гэтую бінарную логіку праз імплантацыю ў сваю гістарычную рэканструкцыю неадназначную дзейнасць Брэсцкага капітула, якую, канешне, нельга расцэньваць як дзейнасць, накіраваную на зліццё ўніятаў з праваслаўнай царквой. П. Жуковіч не палемізуе з дзейнасцю Брэсцкага капітула, як гэта робіць М. Каяловіч; не імкнецца прадставіць І. Сямашку прадаўжальнікам справы капітула, як П. Бабр оўскі, але імкнецца разглядзець факты ў іх гістарычнай дынаміцы. У сваім артыкуле «Антоній Юрьевіч Сосновскій, соборный протоіерей» П. Жуковіч называе гэтага уніяцкага святара «героем рускай уніі ў барацьбе з (лацінізатарскім – Я.У.) насіллем» [4, с. 163]. Паводле П. Жуковіча, гэта яго дзейнасць аб'ектыўна аблегчыла ліквідатарам Уніі іх місію [4, с. 162].

Такім чынам, на прыкладзе артыкулаў трох вядомых даследчыкаў, якія былі апублікаваны ў «Литовских епархиальных ведомостях» за 1898 год, можна прасачыць трансфармацыю ідэяў і спосабаў рэканструкцыі гісторыі Уніі. М. Каяловіч выступае ў сваіх артыкулах як прадстаўнік нацыянальна-рускай плыні даследчыкаў, якім быў уласцівы своеасаблівы пурызм, г. зн. нежаданне прызнаваць нейкага пачэснага месца ў гісторыі тым уніяцкім дзеячам, якія адступалі ад логікі «рускага развіцця». П. Бабр оўскі спрабуе паглядзець на гісторыю знутры Уніяцкай царквы, застаючыся пры гэтым прыхільнікам усяго «рускага» і самога аб'яднання з праваслаўем. П. Жуковіч ідзе яшчэ далей у спробе аб'ектывізацыі гісторыі Уніі. Ён спрабуе рэканстуяваць Унію як нешта такое, што мае самастойную каштоўнасць для гісторыі краю.

*Спіс крыніц і літаратуры*

1. Бобровский, П. О. Противодействие базилианского духовенства стремлению белого духовенства к реформам русской греко-униатской церкви / П. О. Бобровский // Литовские епархиальные ведомости. – 1889. – № 4–5. – С. 30.
2. Коялович, М. О. Пятидесятилетие воссоединения западнорусских униатов 1839 г. и историческое значение этого события / М. О. Коялович // Литовские епархиальные ведомости. – 1889. – № 23. – С. 190.
3. Бобровский, П. О. Противодействие базилианского духовенства стремлению белого духовенства к реформам русской греко-униатской церкви / П. О. Бобровский // Литовские епархиальные ведомости. – 1889. – № 6. – С. 43.
4. Жукович, П. Антоний Юрьевич Сосновский, соборный протоиерей / П. Жукович // Литовские епархиальные ведомости. – 1889. – № 20. – С. 162.

**Усошын Яўген** – гісторык, віцэ-дэкан грэка-каталіцкіх парафій г. Мінска і Мінскай вобласці.



УДК 281. 9 (091) (476)

**З.С. Курьян** (Мозырь)

# ИЗ ИСТОРИИ УНИАТСКОЙ ЦЕРКВИ НА МОЗЫРЩИНЕ (XVIII – XIX вв.).

*В статье рассмотрен процесс ликвидации униатской церкви в одном из уголков Минской губернии – на Мозырщине.*

Включение белорусских земель в состав Российской империи привело к изменению конфессиональной политики в крае. Декларированная новыми властями «веротерпимость» на практике проявилась в ликвидации униатской и ограничении влияния католической церкви. После второго раздела Речи Посполитой на основе униатской Пинско-Туровской епархии возникла православная Минская епархия.

Информация источников о состоянии униатской церкви на Мозырщине в данный период довольно скупа. Отрывочные сведения представлены в ведомостях православных священников, которые сообщали своему руководству об отобранных у них униатами церквах. Так, туровский священник П.Загоровский доносил, что в 1763 г. были отобраны униатами церкви в Данилеговичах, Вересницах, Рычеве, Букче, Глинном. В 1786 г. в униатство были обращены православные Колненская, Люденевичская, Жидковичская и др. церкви [1, с. 9–11]. В XVIII в. в повете были построены новые униатские храмы в селе Велемичи, в Скригаловской слободе, в Ольгомеле, Острожанке, Вересницах, Лучицах, Макаричах, в местечке Давид-Городок. Многие из них под влиянием западной традиции приняли форму католических костелов [2, с. 22–24]. К 1793 г. в Мозырском повете оставались 52 православные церкви [3, с. 64].

Но были на Мозырщине места куда, по словам исследователей XIX в., уния проникнуть не смогла. В начале XIX в., писал один из них, в Турове было семь церквей, «которые сохранили православие во времена гонений и унии» [4, с. 98]. Религиозный консерватизм городов и местечек Полесья способствовал сохранению православия, «от того уния не смела заглянуть в такие селения полесские, как Давыд-Городок, Туров, Петриков и другие местечки». По мнению И. Эремича, белорусское Полесье менее любого другого уголка Западной России поддалось влиянию католической и униатской пропаганды, «и все коренные верования православные уцелели здесь в том самом виде, в каком они внушены были первыми просветителями русских славян». В

подтверждение этого И. Эремич писал: «Полесье до сих пор осталось непоколебимо верно православию, хотя униатству, по сравнению с католичеством, проще было обмануть религиозную бдительность народа. Униатская пропаганда велась осторожно, едва заметно и приобрела весьма мало, в сравнении с другими местностями, прозелитов. Различными путями оно проникло в двадцать каких-нибудь приходов полесских, и то самых бедных, малолюдных, изолированных, затерянных в малоизвестных трущобах, удаленных от больших дорог, судоходных рек и от бдительности православных братств и пастырей» [5, с. 203]. Данная точка зрения отражала официальную идеологию царской власти.

В 1794 г. в Минской губернии была обнародована грамота, призывавшая униатов переходить в православие. В 1795 – 1796 гг. в губернии первое место по числу присоединившихся к православию заняли Давыд-Городокский и Мозырский округа [6, с. 13]. Однако униатские священники не всегда хотели возвращаться или переходить в православие вместе со своими прихожанами – согласились только 24 священника из присоединившихся в 1795 г. 53-х церквей. Остальные 29 остались в унии. Неприсоединившихся выдворяли из церковных домов, но, как правило, они находили приют у местных помещиков. На помещичьих землях они сооружали каплицы и в них совершали богослужение, предлагали совершение церковных треб своим бывшим прихожанам.

Каждый переход/перевод в другую веру приводил к жалобам и разбирательствам. Случалось, помещики насильно «совращали» своих крестьян из православия и заставляли их возвращаться в унию [7, с. 4–5]. В 1793 г. мозырский священник И.Маковский обратился в консисторию с жалобой на земского писаря Ленкевича, который совратил крестьян двух сел в унию – «приказал на православном кладбище соорудить церковь, освятить ее униатским обрядом и физической угрозой и владельческой властью принудил быть при отправлении службы» [8, с. 1].

Официально католическому и униатскому духовенству не разрешалось совращать в свою веру православных. Однако политика воссоединения униатов, проводимая духовными и светскими властями, не всегда имела желаемые результаты. Так, жители села Даниловичи присоединились к православию, но затем под угрозой со стороны помещика вернулись в униатство. Архиепископ минский и волынский Иов объяснил причину этого следующим образом: «В двух приходах – среди всецельного униатского и римско-католического населения – воссоединившиеся перестали ходить в православные церкви в результате фанатической ненависти, издевательств и преследований от



своих соседей» [9, с. 115]. В ответе архиепископу Иову минский губернатор не считал вернувшихся в унию крестьян совращенными и предлагал оставить их в спокойном исповедании их веры. Сокращение числа униатских церквей влекло за собой проблемы для оставшихся в униатстве прихожан в получения треб по своему обряду.

Указами 1819 и 1828 гг. запрещалось строить новые церкви для иноверцев без разрешения губернского правления, а в случае чрезмерного увеличения прихода, строительство позволялось, но в строгом соответствии с количеством дворов. В 1825 г. без разрешения правления униаты построили церковь в имении Симоничи. Только спустя 12 лет им разрешили освятить церковь по своему обряду [9, с. 134].

В 1795 г. были ликвидированы Туровская и Пинская униатские епархии, при этом Туровская епархия была преобразована в Брестскую. С 1810 г. униаты Мозырского уезда административно подчинялись Брестской епархии. Все униатские церкви и их настоятели находились под надзором местных благочинных. В каждом благочинии было по несколько церквей. Несмотря на поддержку властью политики воссоединения, униатская церковь в уезде продолжала существовать еще долго, о чем свидетельствуют протоколы визитов Брестской епархии [9, с. 109]. Властям нередко приходилось улаживать конфликты, возникавшие из-за необходимости соблюдать указ о высылке униатских священников из приходов, присоединившихся к православию.

В середине 30-х гг. XIX в., по сведениям И. Эремича, на Полесье верными унии оставались только 7 приходов. Униатство на Полесье, по мнению многих исследователей XIX в., имело свои особенности и в большей степени было связано с православием, чем с католичеством. «Униаты исправно посещали храмовые праздники православных, отправлялись на богомолье в Киев и Жировицы, сельские униатские священники на храмовых праздниках и в других случаях нередко принимали участие в богослужениях православных, и зачастую роднились с православным духовенством» По мнению И. Эремича, белорусское Полесье менее всякого уголка Западной России поддалось влиянию пропаганды, «и все коренные верования православные уцелели здесь в том самом виде, в каком они внушены были первыми просветителями русских славян» [5, с. 203].

В конце 1830-х гг. переход в православие особенно стимулировался и контролировался властями. В 1834 г. управляющий Туровским казенным имением уведомил о желании крестьян с. Переров и д. Хлупина перейти в православие. В списке было 54 фамилии, напротив

которых крестьяне в знак подтверждения своей воли поставили по три крестика.

Сохранилась опись имущества Перeровской униатской церкви: «Церковь деревянная вместительная, во всем прочная, построена планом греко-латинской церкви. Алтарь и царские ворота покрыты в большей части железом. Сосуды – 2 чаши серебряные вызолоченные внутри, гробницы – 3 (2 серебряные внутри), диски серебряные вызолоченные – 2, кадильницы – 2, крест позолоченный – 1, побеленный – 1, корон – 9, одежды – 7 риз, есть колокольня деревянная прочная, колоколов – 3» [10, с. 42–47]. Однако основная масса униатских церквей была старой и ветхой.

После воссоединения в 1839 г. униатов униатские традиции еще долго сосуществовали на Мозырщине с православными. Характеризуя религиозную ситуацию в крае, П. Шпилевский писал: «Мозырское православие умело твердо вынести продолжительную борьбу с католицизмом, распространявшим унию, энергичнее других соседних округов, отстояло свои древние права, так что Мозырь менее других западнорусских городов пострадал от нововведений униатской пропаганды. В Мозырском крае чистота православного учения во время унии сохранилась во всей своей неприкосновенности не только между простым народом, но даже между городскими обывателями» [11, с. 22].

Характеризуя состояние православия в Минской губернии в середине XIX в., И. Зеленский отмечал: Все помещики и чиновники, а также половина шляхты– католики, тогда как прихожане православных церквей состоят почти исключительно из крестьян. Притом, более половины православных состоит из бывших униатов. Однако, несмотря на количественный рост православных приходов и окончательное воссоединение, состояние притчев оставляло желать лучшего, а отношение самих «новых» православных к вере часто было равнодушным. Примерами тому были факты: многие «новые» православные называли свою церковь «схизматицкою», чиновники и шляхта продолжали молиться по польским молитвенникам, некоторые священники и их жены не умели говорить по-русски; значительная часть воссоединенных храмов находилась в состоянии нищеты и разрушения. Более того, внутреннее убранство униатских церквей осталось прежним, несмотря на то, что они стали православными, и даже обряды зачастую оставались католическими [1, с. 570].

Анализируя конфессиональную ситуацию в Минской губернии в середине XIX в., И.Зеленский писал: «Исследуйте душу бывшего униата – и вы, зачастую, найдете в ней такие черты, которые прямо указывают на полный индифферентизм, на какое-то равнодушие в деле веры. Спросите, например, у бывшего униата, какой он веры: «а казенной, панночку» ответят вам некоторые, разумея под этим названием, конечно, веру православную» [12, с. 444].



Вплоть до конца XIX в. в церковной обрядности и богослужении продолжали существовать униатские традиции. Причем, по мнению И. Эремича, причиной подобных явлений было не столько влияние практики, оставшихся верными униатству священников, сколько употребление богослужебных книг эпохи унии. Несмотря на запрет, ими продолжали пользоваться православные священники, т.к. новые книги были очень дороги и недоступны для большинства бедных полесских церквей. Живучесть униатских традиций заставляла православных священников подстраиваться, а порой и использовать их в богослужении. «Выбрось он (православный священник) из известной обрядности что-либо к чему так присмотрелись передовые его прихожане, что так сильно действует на их чувства и воображение, считается ими частью обряда или таинства, – и его сочтут непровославным» [5, с. 2].

Так, священники вынуждены были по униатской традиции упоминать имена хозяев села во время литургии, троекратно обходить церковь после службы, обливать водой крестившихся, связывать руки брачующихся платком, разрешать класть в гроб водку, трубку и другие предметы, любимые при жизни. «Прикажи священник положить покойника без шапки, на стол, а не на лавку – и он потеряет доверие, и в селе назовут его жестоким, беспокойным нарушителем старины и своевольным нововводителем чуждых народу обычаев».

Таким образом, воссоединение униатов с православными на Мозырщине проходило в русле государственной политики. Несмотря на, казалось, их быстрый переход в уезде это не привело к полному исчезновению униатства. Оно еще долго прочно сохраняло корни в обрядовой стороне православия на Мозырщине.

*Список источников и литературы*

1. Национальный исторический архив Беларуси (далее – НИАБ). – Ф. 136. – Оп. 1. – Д. 64.
2. Памятники Православия и русской народности в Западной России в XVII – XVIII вв. / сост. прот. Ф.Титов. – Киев, 1905.

3. Курьян, З. С. Из истории православной церкви в Мозырском уезде в конце XVIII – середине XIX в. / З. С. Курьян // Религия и общество: актуальные прблемы современного религиоведения: сб. науч. трудов / под общ. ред. В. В. Старостенко. – Могилев: МГУ им. А. А. Кулешова, 2006.
4. Памятная книжка Минской губернии на 1878 год. – Ч. 1. – Мн., 1878.
5. Эремич, И. Очерки Белорусского Полесья / И. Эремич // Вестник Западной России. – Кн. X. Т. IV. – Вильно, 1867.
6. Сяховіч, В. А. Далучэнне уніятаў Мінскай губерні да праваслаўя ў 1794 – 1795 г. / В.А.Сяховіч // Веснік БДУ. – 2000. – № 3.
7. НИАБ. – Ф. 384. – Оп. 1. – Д. 25.
8. НИАБ. – Ф. 136. – Оп. 1. – Д. 418.
9. Хроника Уборцкого Полесья. – Минск, 2001.
10. НИАБ. – Ф. 136. – Оп. 1. – Д. 10384.
11. Шпилевский, П. М. Мозырщина / П. М. Шпилевский // Вестник Западной России. – Кн. X. Т. IV. – Вильно, 1867.
12. Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России: Минская губерния / И.Зеленский. – Т. II. – СПб., 1864.

**Курьян Зинаида Семёновна** – старший преподаватель, Мозырский государственный педагогический университет им. И.П. Шамякина.

УДК 271.4(476):930.25(476)

**І.Г. Шыдлоўская** (Гродна)

# ЛЁС АРХІВА УНІЯЦКІХ МІТРАПАЛІТАЎ

*В статье показаны путешествие во времени и пространстве, а также история описания документального комплекса, который сформировался в процессе деятельности униатской церкви.*

На працягу існавання уніяцкай царквы пры мітрапалітах існавала свая канцылярыя, у якой назапашваліся дакументы рознага характару. З цягам часу гэтыя матэрыялы склалі вялікі комплекс, сёння вядомы пад назвай «Архіў уніяцкіх мітрапалітаў». Гэта каштоўны архіў па гісторыі не толькі царкоўнай уніі, але і па гісторыі самага вялікага ў часавых межах перыяду нашай гісторыі – перыяду Вялікага княства Літоўскага.

Велізарная частка архіва уніятаў захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу, у фондзе № 823, і мае назву «Канцылярыя мітрапаліта грэка-уніяцкіх цэркваў у Расіі». У фондзе сабрана 5850 адзінак захоўвання, якія ахопліваюць прамежак часу ад 1470 па 1871 г. Надзвычай багатая і разнастайная інфармацыя пра унію на Беларусі змяшчаецца таксама ў архівах і рукапісных аддзелах бібліятэк Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны [6].



Уніяцкае духавенства назапасіла і зберагло шмат дакументаў пра суіснаванне хрысціянскіх канфесій, змену іх суадносін у канфесійнай структуры грамадства, міжканфесійныя канфлікты. Акрамя шырокага кола ўласна царкоўных дакументаў (указы духоўных праўленняў, богаслужэбныя кнігі, вопісы царкоўнай маёмасці, метрычныя кнігі, інвентары [9] і г. д. ), якія дапамагаюць уявіць царкоўнае жыццё уніятаў, у названым фондзе прысутнічаюць дакументы, што адлюстроўваюць палітычныя падзеі гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Яны падаюць шматлікія матэрыялы пра войны XVII – XVIII ст. Значную частку фонду складаюць фінансавыя і маёмасныя справы, прывілеі, дарчыя акты, тэстаменты, матэрыялы судовых працэсаў. Выклікаюць цікавасць дакументы па гісторыі асветы Беларусі, звесткі з генеалогіі беларускай шляхты, аб побыце і сямейных адносінах, сфрагістычныя матэрыялы. Архіў уніяцкіх мітрапалітаў змяшчае таксама звесткі па гісторыі беларускага мастацтва [6, с. 121].

Да адмены Брэсцкай царкоўнай уніі архіў уніяцкіх мітрапалітаў называўся «Мітрапалітанскім» або «Мітрапалітальным архівам». Колькі ён фарміраваўся, столькі ішла праца па яго ўпарадкаванню і апісанню. Першы вопіс архіва зрабіў у 1699 г., паводле загаду мітрапаліта Л. Заленскага, яго капелан, базыльянскі манах Язэп Сапаровіч, які з 1709 г. быў старшым Лаўрышаўскага манастыра. У гэты час архіў знаходзіўся ў мітрапалічым маёнтку Рута (Наваградскае ваяводства). Вопіс Сапаровіч сістэматызаваў па прадметах, геаграфічных паказальніках і асабістых імёнах у алфавітным парадку. На дакуменце ўказвалася яго назва, кароткі змест (не заўсёды) і дата. Свой вопіс Сапаровіч назваў: «Archivum Metropolitanum или Каталог» [2, с. 2].

На працягу ўсяго існавання архіва уніяцкіх мітрапалітаў ён неаднаразова падвяргаўся псаванню. Акрамя гэтага, уніяцкія мітрапаліты не мелі пастаяннай рэзідэнцыі, што таксама негатыўна сказвалася на стане архіва. Разам з мітрапалітам па яго рэзідэнцыях і розных маёнтках падарожнічаў і яго архіў або ў поўным складзе, або разбіты на асобныя часткі. Мітрапалічы архіў пабываў у Навагрудку, Варшаве, Гродку, Струні, Львове, Радамышлі, Луцку, Сеняве, Быцені і інш. [1, с. 6].

У другой палове XVIII ст. зноў паўтараецца праца па разбору і апісанню архіва. Яе здзейсніў да 1763 г. архівіст і капелан полацкага архіепіскапа базыльянін Аўгусцін Война. Да складзенага ім вопісу Война дадаў «Реестр остатка найденных бумаг» [2, с. 2]. Акрамя гэтага, у XVIII і пачатку XIX ст. быў складзены шэраг кароткіх тэматычных вопісаў асобных груп дакументаў архіва уніятаў.

У 1808 г. па рашэнню Слонімскага ніжняга земскага суда архіў быў перададзены ў ведамства брэсцкага епіскапа Ясафата Булгака і

захоўваўся ў Быцені (тады – Слонімскі павет) [10, с. 105]. Напярэдадні вайны напалеонаўскай Францыі з Расіяй, у красавіку 1810 г., архіў быў перавезены ў Вільню, дзе спакойна перачакаў ванныя нягоды. Пры пераездзе мітрапаліта Булгака ў Полацк у кастрычніку 1828 г. туды перавезлі і архіў. У лютым наступнага года пасля праверкі архіў перапраўілі ў Санкт-Пецярбург на пастаяннае месца прабывання апошніх уніяцкіх мітрапалітаў. Архіў размясціўся ў памяшканні Грэка-уніяцкай духоўнай калегіі на Васільеўскім востраве. Пасля скону ў 1838 г. мітрапаліта Булгака камплектаванне архіва спынілася.

Пазней тую частку архіва, што заставалася ў Вільні, таксама прывезлі ў Пецярбург. Увесь архіўны збор быў перададзены ў Беларуска-Літоўскую калегію, якая ў той час кіравала справамі былых уніятаў. У 1840 г. у Радамышлі, на Украіне, дзе ў апошнія гады Рэчы Паспалітай знаходзілася мітрапалічая рэзідэнцыя, была знойдзена яшчэ адна частка архіва. Паводле прапановы літоўскага епіскапа Іосіфа Сямашкі і з дазволу Сінода, справы прывезлі ў Пецярбург у Беларуска-Літоўскую калегію [1, с. 7].

Хоць Брэсцкая царкоўная унія была ліквідавана ў 1839 г., пачатак сапраўднай вайне супраць спадчыны уніяцкай царквы быў пакладзены ў 1833–1834 гг., а вось заканадаўчая база пад яе знішчэнне была падведзена яшчэ раней [5, с. 100]. У гэты час зачыняліся уніяцкія цэрквы, навучальныя установы, культавыя пабудовы перадаваліся ў праваслаўнае ведамства, выкараняліся уніяцкія набажэнскія спевы, адмяняліся святы, якіх не было ў праваслаўнай царкве, нават падлягаў выкараненню звычай даваць пры хрышчэнні імёны святых, шанаваных уніяцкай царквой; выганялася з царквы беларуская мова. Сёння богаслужэбныя кнігі беларускіх уніятаў, рукапісныя і друкаваныя, – вялікая рэдкасць. Культурная спадчына уніяцкай царквы у гэтыя нялёгкія для яе часы ў значнай ступені была страчана ў выніку мэтанакіраванага знішчэння.

Але вернемся да лёсу архіва уніяцкіх мітрапалітаў. 14 жніўня 1843 г., пасля закрыцця Беларуска-Літоўскай калегіі, мітрапалічы архіў на працягу некалькіх гадоў перадаваўся ў архіў Сінода. Разборам архіва ў 1840-я г. займаліся чыноўнікі гэтай калегіі: Ігнат Пільхоўскі, Іван Канюшэўскі, Леў Панькоўскі, Ф. І. Серна-Салаўевіч. Агляд дакументаў архіва ў 1844 г. зрабіў рэдактар Археаграфічнай камісіі протаіерэй Іван Грыгаровіч. Ён выявіў невядомы раней значны збор дакументаў XV – XVII ст. гістарычнага і юрыдычнага зместу. Канчатковая перадача архіва была здзейснена толькі ў 1847 г. [2, с. 2].

Матэрыялы з архіва уніяцкіх мітрапалітаў былі ўпершыню надрукаваны ў гісторыка-дакументальных зборніках: «Акты, относящиеся к истории Западной России», «Акты, относящиеся к



истории Южной и Западной Росии», а таксама ў часопісе «Вестник Юго-Западной и Западной России» [4, с. 29].

Па ініцыятыве І. І. Грыгаровіча 6 снежня 1865 г. была створана Камісія па апісанню і прывядзенню ў належны стан спраў, якія захоўваліся ў архіве Сінода. Перагляд і апісанне архіўных спраў прызначаныя для гэтага супрацоўнікі рабілі (з перапынкамі) амаль поўстагоддзя. Менавіта ў гэта час мітрапалічы архіў атрымаў назву, пад якой і вядомы сёння, –«Архіў заходнерускіх уніяцкіх мітрапалітаў».

Спачатку апісанне архіва Камісія даручыла прафесару Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі М. В. Каяловічу, які з-за цяжкай хваробы не змог закончыць справу. Далейшая праца па разбору архіва была даручана яго вучню, кандыдату багасloўя Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі С. Г. Рункевічу. Пасяджэнне Камісіі 2 снежня 1893 г., разгледзіўшы прадстаўленую Рункевічам частку апісання архіва, накіравала работу ў друк.

Так у 1897 г. выйшаў першы том пад назвай «Описание архива западнорусских униатских митрополитов» [7]. Гэты том змяшчаў апісанне 1065 дакументаў, якія былі складзены ў прамежак часу з 1470 па 1700 г. Апісанне дакументаў было здзейснена ў храналагічным парадку. Спачатку стаіць дата дакумета, затым назва, мова, на якой напісаны дакумент, колькасць аркушаў, змест, а таксама палеаграфічныя і бібліяграфічныя звесткі. Калі дакумент быў раней апублікаваны, гэта адзначалася.

Праз 10 гадоў выйшаў другі том «Описания архива западнорусских униатских митрополитов» [8], у ім змяшчалася апісанне дакументаў з 1701 па 1839 г. Прынцып пабудовы другога тома быў падобны да першага. Акрамя трох паказальнікаў, якія былі ў першым томе (асабовы, месца і прадметны), яшчэ прысутнічаў храналагічны.

Апісанне тома рэдагаваў С. Рункевіч, які ў прадмове да яго адзначыў, што пад кіраўніцтвам выкладчыка Санкт-Пецярбургскай акадэміі П. М. Жуковіча распачата праца над трэцім томам. Але яна завершана не была. У 1905 г. трэці том пачаў друкавацца, аднак падзеі 1917 г. перарвалі яго выданне. Лёс яго нам невядомы, слядоў працы Жуковіча ў савецкі час знойдзена не было.

Праца па разбору мітрапалічага архіва ўзнавілася толькі ў 1952 – 1953 г., а затым – у 1959 – 1960 г. У выніку гэтай работы 315 дакументаў былі падкладзены да тых адзінак захоўвання, якія ўжо ўвайшлі ў першы і другі вопісы фонда. Пры гэтым ніякіх спецыяльных адзнак не было зроблена. З тых матэрыялаў, якія архівісты не змаглі падкласці да ўжо сфарміраваных раней спраў, быў складзены трэці, машынапісны вопіс, складзены да снежня 1962 г. У гэты вопіс былі ўключаны дакументы з 1407 па 1871 г.; ён складаўся з 1587 адзінак захоўвання [2, с. 4].

